© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

# Змест

Abstracts and Key Words ........ 9

Анатацыі і ключавыя словы ........ 15

Аннотации и ключевые слова ........ 21

## Інстытуты незалежнасці

**Ніколь Галіна**
Украіна: рэвізія нацыі. Прэзідэнты Украіны ды іх разуменне палітыкі ідэнтычнасці .27

**Андрэй Казакевіч**
Беларускі парламент эпохі незалежнасці: эвалюцыя дэпутацкага корпусу, 1990 – 2010 гады ........ 44

**Ирмина Матоните, Виктор Мартинович**
Россия, Турция и США как внешние угрозы единству Европейского союза: анализ представлений национальных элит ........ 71

## Ідэя незалежнасці

**Алег Дзярновіч**
Грамадская думка ў Беларусі 1960-х–1970-х гадоў: гісторыя, нацыя і незалежнасць.....85

**Сяргей Богдан**
Незалежнасць і знешняя палітыка: візія беларускіх нацыянал-дэмакратаў, канец 1980-х – 1995 гг. (прыклад Зянона Пазьняка)........ 102

## Гісторыя ідэяў

**Ирина Михеева**
«Консервативные исследования» в политическом и интеллектуальном поле современной России........ 124

## Выбары і партыйныя сістэмы

**Аляксандр Шамякін**
Станаўленне інклюзіўнай партыйнай сістэмы ў Расійскай Федэрацыі (1999 – 2008)..... 138

**Міхаіл Нядзвецкі**
Узровень вэб-актыўнасці кандыдатаў на мясцовых выбарах 2010 года (Мінск)....... 161

## Рэцэнзіі (politics and political science)

**Аляксей Ластоўскі**
Крызіс веды пра Беларусь. Bekus, Nelly (2010). *Struggle Over Identity. The Official and the Alternative «Belarusianness». Budapest: Central European University* ..... 188

**Віктар Кавалеў**
Решетников, С.В. (2009). *Политическая наука в БГУ: теоретико-методологические и прикладные аспекты. Минск: БГУ* ..... 198

**Таццяна Чыжова**
Пра некаторых дэпутатаў незалежнасці…*Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк (2010). Дэпутаты незалежнасьці. Варшава, Нью-Ёрк, Вільня: «Беларускія Ведамасьці»* .. 205

**Уладзіслаў Іваноў**
Беларусь, спружыны адной дыктатуры. *Lallemand, J.-C., Symaniec, V. (2007). Biélorussie, mécanique d'une dictature* ..... 213

## Рэцэнзіі (international relations)

**Сяргей Богдан**
У тумане знешняй палітыкі Беларусі. *Улахович, В.Е. (2010). Формирование основ внешней политики Республики Беларусь (1991–2005)* ..... 220

**Дзяніс Мельянцоў**
Украінска-беларускія адносіны: несістэмны падыход. *Вдовенко, С.М. (2010). Україна-Білорусь: взаємовідносини на перехрестях перемін* ..... 231

## Рэцэнзіі (sociology, urban studies)

**Сергей Любимов**
Urban studies и проблема инноваций. *Постсоветские столицы: Минск, Вильнюс, Баку (2009). Под общей редакцией Й.Терборна* ..... 237

**Наталля Васілевіч**
Моладзь: даследаванне веры. *Юдин, В.В. (2009). Особенности религиозности молодежи восточных регионов Беларуси* ..... 246

**Сергей Любимов**
Пространственное воображение и правила игры. *Игра в города: по материалам экспедиций в малые города Беларуси (2009). Сост., науч. ред. Т. Водолажская* ..... 254

Інфармацыя пра аўтараў ..... 261

Authors ..... 263

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

# Contents


## Independence Institutes

**Nicole Gallina**
Ukraine: Nation-Building Revisited. The Ukrainian Presidents and their Understanding of Identity Politics ....27

**Andrei Kazakevich**
Belarusian Parliament of Independence Period: MP's Body Evolution, 1990-2010....44

**Irmina Matonytė, Victor Martinovich**
Russia, Turkey and US as External Threats to the Cohesion of the EU: A Study on National Elites' Perceptions ....71

## Independence Idea

**Aleh Dziarnovich**
Social Thought in 1960th – 1970th Belarus: History, Nation and Independence....85

**Siarhei Bohdan**
Foreign Policy Component in the National Democratic Project of Belarusian Politics in 1980s – 1995: Zianon Pazniak's Version.... 103

## History of Ideas

**Iryna Mikheyeva**
«Russian Conservative Revolution» as an Ideological Project in Contemporary Russian Politics.... 124

## Elections and Party System

**Aliaxandr Shamiakin**
Institutionalization of Inclusive Party System in Russia, 1999-2008.... 138

**Mikhail Niadzvietski**
The Level of Web-activism of the Candidates during the Local Elections 2010 (Minsk City) .... 161

## Reviews (Politics and Political Science)

**Aliaksei Lastouski**
Crisis of Belarusian Studies. *Bekus, Nelly (2010). Struggle Over Identity. The Official and the Alternative «Belarusianness». Budapest: Central European University* ........................ 188

**Viktar Kavaliou**
Theory and Methodology of a Department. *Решетников, С.В. (2009). Политическая наука в БГУ: теоретико-методологические и прикладные аспекты. Минск: БГУ* .. 198

**Tatsiana Chyzhova**
On Some MPs of Independence... *Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк (2010). Дэпутаты незалежнасьці. Варшава, Нью-Ёрк, Вільня: «Беларускія Ведамасьці»* ........................ 205

**Uladzislau Ivanou**
Belarus, the Mechanism of a Dictatorship. *Lallemand, J.-C., Symaniec, V. (2007). Biélorussie, mécanique d'une dictature* ........................ 213

## Review (International Relations)

**Siarhei Bohdan**
In the Fog of the Belarusian Foreign Policy. *Улахович, В.Е. (2010). Формирование основ внешней политики Республики Беларусь (1991–2005)* ........................ 220

**Dzianis Melyantsou**
The Ukrainian-Belarusian Relations: Non-Systemic Approach. *Вдовенко, С.М. (2010). Україна-Білорусь: взаємовідносини на перехрестях перемін* ........................ 231

## Review (Sociology and Urban Studies)

**Siarhei Liubimau**
Urban studies и проблема инноваций. *Постсоветские столицы: Минск, Вильнюс, Баку (2009). Под общей редакцией Й.Терборна* ........................ 237

**Natallia Vasilevich**
Youth: a Study of Faith. *Юдин, В.В. (2009). Особенности религиозности молодежи восточных регионов Беларуси* ........................ 246

**Siarhei Liubimau**
Spatial Imagination and Rules of the Game. *Игра в города: по материалам экспедиций в малые города Беларуси (2009). Сост., науч. ред. Т. Водолажская* ........................ 254

## Authors (in Belarusian) ........................ 261

## Authors (in English) ........................ 263

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА

Незалежнасць: ідэя і інстытуты №15(2)/2010

# Анатацыі і ключавыя словы

## Інстытуты незалежнасці

### *Ніколь Галіна.* Украіна: рэвізія нацыі. Прэзідэнты Украіны ды іх разуменне палітыкі ідэнтычнасці

Артыкул паказвае, што разбудова дзяржавы і нацыі ва Украіне пасля дваццаці год незалежнасці далёкая ад завяршэння. Сцвярджаецца, што ўкраінскія прэзідэнты шмат чаго не здолелі зрабіць для інстытуцыялізацыі Украіны як нацыянальнай дзяржавы. Артыкул засяроджваецца на бясконцым працэсе змагання за канстытуцыйную мадэль, а таксама на разглядзе трох аспектаў палітыкі ідэнтычнасці: мова, грамадзянства і гістарыяграфія (асабліва Галадамор). Тэкст паказвае, што палітыка не была накіраваная на дасягненне нечага, а на перадухіленне інстытуцыялізацыі свайго разумення нацыі і дзяржавы "расейцамі" ці "ўкраінцамі"

***Ключавыя словы:*** Украіна, пабудова дзяржавы, фармаванне нацыі, моўная палітыка, гістарыяграфія, грамадзянства

### *Андрэй Казакевіч.* Беларускі парламент эпохі незалежнасці: эвалюцыя дэпутацкага корпусу, 1990–2010 гады

У артыкуле разглядаецца эвалюцыя беларускага парламенту з 1990 па 2010 год на аснове аналізу складу дэпутацкага корпусу. У прыватнасці разглядаецца сацыяльна-дэмаграфічны склад дэпутатаў, дзейнасць фракцый і палітычных партый, а таксама кар'ера пасля атрымання дэпутацкага мандату. Аналізуецца, якім чынам эвалюцыянаваў дэпутацкі корпус, што кіравала гэтым працэсам і як гэта было звязана са зменамі статусу і функцый парламенту. На падставе даследавання робіцца выснова пра змены дэмаграфічнага складу дэпутатаў, практычна поўнае знікненне арганізаванай групавой актыўнасці і зніжэнне ролі парламента як механізма вертыкальнай мабільнасці.

***Ключавыя словы:*** парламент, парламентарызм, беларуская палітыка, палітычныя інстытуты, дэпутаты

*Ірміна Матанітэ, Віктар Марціновіч.* **Расія, Турцыя, ЗША як знешнія пагрозы адзінству ЕС: аналіз поглядаў нацыянальных эліт**

У артыкуле прааналізаваныя погляды нацыянальных эліт на тры патэнцыйныя вонкавыя пагрозы адзінству ЕС: уступ Турцыі ў ЕС; шчыльныя адносіны паміж некаторымі краінамі ЕС і ЗША, умяшанне Расіі ў справы Еўропы. Апытанні палітычнай і эканамічнай эліты Бельгіі, Нямеччыны, Літвы і Польшчы паказалі, што еўрапейскія каштоўнасці канструююцца ў залежнасці ад працягласці сяброўства краіны ў ЕС. Таксама важнай з'яўляецца палітычная ідэнтычнасць эліты, розныя погляды на ролю ЕС, бачанне будучыні гэтага саюза і па-рознаму ўспрынятая нацыянальная ідэнтычнасць.

***Ключавыя словы:*** эліты, ідэнтычнасць, знешнія пагрозы, сацыяльны канструктывізм, палітычныя ідэалогіі

## Ідэя незалежнасці

*Алег Дзярновіч.* **Грамадская думка ў Беларусі 1960-х–1970-х гадоў: гісторыя, нацыя і незалежнасць**

У сваім артыкуле аўтар звяртае ўвагу на тое, што толькі з пазіцый палітычнай гісторыі немагчыма зразумець эвалюцыю беларускага грамадства на працягу другой паловы XX ст. Як высвятляецца, у эпоху савецкай стабільнасці, у 1960—1970-х гадах, у Беларусі пульсавала грамадская думка. Сярэдзіна 1960-х гадоў адзначана нечуванай раней (і пазней) публічнай гістарыяграфічнай дыскусіяй па праблемах гісторыі культуры і культурагенезу познесярэдневечнай і раннемадэрнай Беларусі. У 1970-х гадах падобныя дыскусіі сталі немагчымыя. Таму палемічная грамадская думка стала перацякаць на старонкі самвыдату. А ў самвыдатаўскіх "Гутарках" Міколы Ермаловіча ў 1975—1976 гадах быў сфармуляваны канцэпт незалежнасці Беларусі.

***Ключавыя словы:*** грамадская думка, палітычныя ідэі, самвыдат, канцэпт незалежнасці, дысідэнцкі рух

*Сяргей Богдан.* **Незалежнасць і знешняя палітыка: візія беларускіх нацыянал-дэмакратаў, канец 1980-х – 1995 гг. (прыклад Зянона Пазьняка)**

У артыкуле разгледжаны вонкавапалітычныя аспекты нацыянал-дэмакратычнага праекту на прыкладзе ідэяў самага яркага прадстаўніка гэтай плыні беларускай палітыкі, кіраўніка БНФ Зянона Пазьняка напрыканцы 1980-х і ў першай палове 1990-х гадоў, г.зн. падчас яго актыўнай палітычнай дзейнасці ў краіне. Зроблена спроба прадставіць структуру гэтай часткі праекта, а таксама вылучыць асноўныя знешнепалітычныя напрамкі і прыярытэты яго. Асаблівая ўвага нададзеная маладаследаваным пытанням – праекту Балта-Чарнаморскага рэгіянальнага блоку і патэнцыйным тэрытарыяльным прэтэнзіям Беларусі.

***Ключавыя словы:*** беларуская палітыка, Зянон Пазьняк, нацыянал-дэмакратычны рух, вонкавая палітыка, Балтыйска-Чарнаморскі саюз.

## Гісторыя ідэяў

### *Ірына Міхеева.* "Кансерватыўныя даследаванні" ў палітычным і ідэалагічным полі сучаснай Расіі

Артыкул раскрывае спецыфіку феномена Цэнтра кансерватыўных даследаванняў сацыялагічнага факультэта МДУ імя Ламаносава, які дзейнічае з 2008 года і ставіць між іншым задачу "садзейнічаць падрыхтоўцы навуковай і кіроўнай эліты кансерватыўных поглядаў". Абгрунтоўваецца той факт, што дадзены феномен рэпрэзентуе тэндэнцыю ўзмацнення і легалізацыі светапоглядных і ідэалагічных тэндэнцыяў кансерватыўнай, праварадыкальнай, нацыянальна-шавіністычнай танальнасці ў сучаснай Расіі. Робяцца высновы аб інстытуцыяналізацыі раней латэнтных, маргінальных, нефармальных інтэлектуальна-ідэалагічных прастораў (арганізацый, аб'яднанняў, выдавецтваў і г. д.), якія ў сваім новым статусе пачынаюць прэтэндаваць на выпрацоўку дзяржаўных стратэгічных палітычных праграм.

***Ключавыя словы:*** геапалітыка, ідэалогія, кансерватызм, нацыяналізм, вайна, расійская знешняя палітыка

## Выбары і партыйныя сістэмы

### *Аляксандр Шамякін.* Станаўленне інклюзіўнай партыйнай сістэмы ў Расійскай Федэрацыі (1999–2008)

У артыкуле разглядаецца працэс станаўлення сістэмы інклюзіўнага манапартызму ў сучаснай Расіі. Раскрываецца сутнасць інстытуцыйных пераўтварэнняў, якія прывялі да манаполіі партыі ўлады "Единая Россия", у прыватнасці, раскрываецца значэнне і супярэчлівасць афіцыйнага абгрунтавання рэформы выбарчай сістэмы 2005 г. і сістэмных наступстваў яе ўкаранення ў адпаведнасці з сацыялагічнымі законамі Дзювержэ. Абгрунтоўваецца памылковасць класіфікацыі расейскай партыйнай сістэмы як партыйнай сістэмы з дамінантнай партыяй, улічваючы характар змяненняў як фармальных, так і нефармальных інстытутаў.

***Ключавыя словы:*** партыйная сістэма, выбарчая сістэма, сацыялагічныя законы Дзювержэ, "Единая Россия", інклюзіўная (аўтарытарная) партыйная сістэма

### *Міхаіл Нядзвецкі.* Узровень вэб-актыўнасці кандыдатаў на мясцовых выбарах 2010 года (Мінск)

У артыкуле аналізуецца стан вэб-актыўнасці падчас мясцовых выбараў 2010 г. у Мінску сярод зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты. У прыватнасці, вывучаецца ўзровень рэпрэзентацыі кандыдатаў праз сацыяльныя сеткі, блогавыя сістэмы і персанальныя сайты. Таксама даследуюцца адрозненні ва ўзроставай структуры; у формах інтэрнэт-актыўнасці; у размеркаванні па арганізацыйнай прыналежнасці. У Дадатку прыводзяцца зводныя дадзеныя па кантэнт-аналізе акаўнтаў у сацыяльных сетках кандыдатаў у дэпутаты.

***Ключавыя словы:*** мясцовыя выбары – 2010, Мінск, вэб-актыўнасць, вэб-кампаніі, Інтэрнэт, сацыяльныя сеткі

## Рэцэнзіі (палітыка і паліталогія)

***Аляксей Ластоўскі.*** **Крызіс веды пра Беларусь.** *Bekus, Nelly (2010). Struggle Over Identity. The Official and the Alternative «Belarusianness»*

У рэцэнзіі разглядаецца манаграфія сацыёлага Нэлі Бекус, прысвечаная аналізу сацыяльна-палітычных і культурных зменаў у незалежнай Беларусі на тле працэсаў будаўніцтва дзяржаўнасці і развіцця нацыянальнай ідэнтычнасці.

***Ключавыя словы:*** посткамуністычныя трансфармацыі, дэмакратызацыя, нацыяналізм, нацыянальная ідэнтычнасць, палітыка ідэнтычнасці

***Віктар Кавалёў.*** **Тэорыя і метадалогія асобнай кафедры.** *Решетников, С.В. (2009). Политическая наука в БГУ: теоретико-методологические и прикладные аспекты.*

У рэцэнзіі разглядаецца кніга Сяргея Рашэтнікава пра развіццё паліталогіі ў БДУ. Аналізуецца развіццё паліталагічнай супольнасці Беларусі, напрамкі і ўзровень даследчае дзейнасці, акадэмічныя статусы і ўзаемаадносіны. Пазначаюцца асобныя праблемы развіцця палітычнай навукі ў Беларусі.

***Ключавыя словы:*** палітычная навука, палітычная навука ў Беларусі, акадэмічная супольнасць, даследчая дзейнасць

***Тацяна Чыжова.*** **Пра некаторых дэпутатаў незалежнасці…** *Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк (2010). Дэпутаты незалежнасьці*

Рэцэнзія на кнігу Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка, прысвечаную дэпутатам фракцыі БНФ ў Вярхоўным Савеце XIII склікання (1990-1995). Крытычна разглядаецца інтэрпрэтацыя аўтарамі падзеяў пачатку 1990-х і іх ролі ў абвяшчэнні незалежнасці Беларусі.

***Ключавыя словы:*** парламент, беларускі парламент, БНФ, незалежнасць, успаміны

***Уладзіслаў Іваноў.*** **Беларусь, спружыны адной дыктатуры.** *Lallemand, J.-C., Symaniec, V. (2007). Biélorussie, mécanique d'une dictature*

У сваёй кнізе Ж.-Ш. Ляльман і В. Шыманец апісваюць Беларусь як класічную дыктатуру, якая дэкларуе захаванне сацыялістычнага і савецкага парадку, адданасць савецкай ідэі пабудовы эгалітарнага грамадства, але ў якую даўно пранiклі жорсткія механізмы капіталізму. Гэтыя механізмы разбураюць не толькі эканоміку, але і нацыянальную ды моўную спецыфіку Беларусі. Аўтары паслядоўна апісваюць спружыны сучаснай дыктатуры ў межах Беларусі, надаючы важнае месца геапалітычнаму чынніку, а таксама ўнутраным працэсам, звязаным з адсутнасцю грамадзянскай супольнасці. Кніга ўключае ў сябе як выключна аналітычныя тэксты, так і публіцыстычныя, што робіць яе даступнай для усіх чытацкіх колаў.

***Ключавыя словы:*** беларуская палітыка, дыктатура, Лукашэнка, аўтарытарызм, дэмакратыя

## Рэцэнзіі (міжнародныя адносіны)

***Сяргей Богдан.* У тумане знешняй палітыкі Беларусі.** *Улахович, В.Е. (2010). Формирование основ внешней политики Республики Беларусь (1991–2005)*

У рэцэнзіі робіцца агляд кнігі Ў. Улаховіча, прысвечанай знешняй палітыкі Беларусі з пачатку 1990-х да сярэдзіны 2000-х гг. Разглядаецца аўтарская інтэрпрэтацыя асноўных этапаў афармлення знешняй палітыкі незалежнай Беларусі, яе канцэпцыі і стратэгіі. Таксама аналізуецца ацэнка аўтарам поспехаў і праблемаў знешняй палітыкі Беларусі.

***Ключавыя словы:*** знешняя палітыка, знешняя палітыка Беларусі, канцэпцыя знешняй палітыкі, палітычная навука

***Дзяніс Мельянцоў.* Украінска-беларускія адносіны: несістэмны падыход.** *Вдовенко, С.М. (2010). Україна-Білорусь: взаємовідносини на перехрестях перемін*

Рэцэнзія аналізуе першую спробу правесці комплекснае даследаванне стасункаў паміж Украінай і Беларуссю, якая была рэалізаваная украінскім навукоўцам С. Удавенкам. Робіцца крытычны разгляд тэксту і пазначаецца яго значэнне для разумення асаблівасцяў развіцця знешняй палітыкі Беларусі і Украіны.

***Ключавыя словы:*** Украіна і Беларусь, знешняя палітыка, двухбаковыя дачыненні, рэгіянальнае супрацоўніцтва, міжнародныя адносіны

## Рэцэнзіі (сацыялогія, гарадскія даследаванні)

***Сяргей Любімаў.* Urban studies і праблема інавацый.** *Постсоветские столицы: Минск, Вильнюс, Баку (2009). Под общей редакцией Й.Терборна*

У рэцэнзіі разглядаецца кніга "Постсоветские столицы…", прысвечаная параўнальнаму даследаванню трох постсавецкіх сталіц – Мінска, Вільні, Баку. Аналізуюцца мэты і задачы аўтараў, а таксама іх паспяховасць у правядзенні паслядоўнага разгляду сацыяльнага і палітычнага феномена сталіцы ў постсавецкіх умовах.

***Ключавыя словы:*** гарадскія даследаванні, постсавецкія сталіцы, Мінск, Вільня, Баку

***Наталля Васілевіч.* Моладзь: даследаванне веры.** *Юдин, В.В. (2009). Особенности религиозности молодежи восточных регионов Беларус*

У рэцэнзіі разглядаецца кніга сацыёлага В. Юдзіна, прысвечаная асаблівасцям рэлігійных паводзінаў моладзі ў Беларусі. Падаецца кароткі агляд праблемы, а таксама крытычна аналізуецца падыход аўтара да яе вырашэння.

***Ключавыя словы:*** *рэлігія, царква, моладзь, канфесіі, сацыялогія рэлігіі*

***Сяргей Любімаў.*** **Прасторавае ўяўленне і правілы гульні.** *Игра в города: по материалам экспедиций в малые города Беларуси (2009). Сост., науч. ред. Т. Водолажская*

Рэцэнзія разглядае кнігу "Игра в города...", прысвечаную малым гарадам Беларусі. Разглядаюцца задачы і метады даследавання малых гарадоў, праведзенага Агенцыяй Гуманітарных Тэхналогій праз адмысловыя экспедыцыя. Аналізуюцца перавагі, недахопы, а таксама перспектывы абранай даследчай стратэгіі.

***Ключавыя словы:*** гарадскія даследаванні, малыя гарады, малыя гарады Беларусі, метадалогія, лакальныя супольнасці

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

# POLITICAL SPHERE

**Independence, Ideas and Institutions №15(2)/2010**

## Abstracts and Key Words

## Independence Institutes

### *Nicole Gallina.* Ukraine: Nation-Building Revisited. The Ukrainian Presidents and their Understanding of Identity Politics

This paper argues that state- and nation-building in Ukraine are far from completion twenty years after the declaration of independence. It holds that the four Ukrainian presidents haven't done much for institutionalizing the Ukrainian nation-state. The paper focuses on the never ending struggles on the constitution as a model for state-building. For the area of nation-building three aspects of identity policies are: language, citizenship and historiography (emphasizing the Holodomor). The paper shows that policies haven't been designed to achieve, but mostly to prevent either the "Russian" or the "Ukrainian" side to institutionalize their view of nation and state.

***Keywords:*** Ukraine, Nation-building, State-building, Language, Historiography, Citizenship

### *Andrei Kazakevich.* Belarusian Parliament of Independence Period: MP's Body Evolution, 1990-2010

The article investigates the development of Belarusian parliament since 1990 until 2010 by analyzing the MP's body. In particular social and demographic composition, factions and political parties' activities, and future political carriers of parliament members are investigated. The main trends of parliamentary elites' evolution, factors that drive the pressures and their dependence on parliament political role are identified. The research reveals considerable changes in demographic composition of the parliament, critical fall of activity and decline of political mobility role.

***Keywords:*** Parliament, Parliamentary, Belarusian Politics, Political Institutions, MPs

### *Irmina Matonytė, Victor Martinovich.* Russia, Turkey and US as External Threats to the Cohesion of the EU: A Study of National Elites' Perceptions

In this study elites' perception of three potential external threats to the cohesion of the EU has been investigated: enlargement of the EU to include Turkey, close relationships

between some EU countries and the United States, and interference of Russia in European affairs. Analysis of the Belgian, German, Polish and Lithuanian elite survey data shows that on the most abstract level there is no common European identity constructed across the selected European states. It appeared that distinct European identities emerge along the new-old EU member-states divide. At the same time, individual level factors such as elite left-right self-identification, different visions of the role and future of the EU as well as type of the preferred national identity (achieved vs. ascribed) significantly shape perceptions of external threats and therefore constitute the grounds on which distinct European identities are formed.

***Keywords:*** Elites, Identities, External Threats, Social Constructivism, Political Ideologies

## Independence Idea

### *Aleh Dziarnovich.* **Social Thought in 1960th – 1970th Belarus: History, Nation and Independence**

The article draws attention to the fact that it is impossible to understand the evolution of the Belarusian society during the second half of the 20th century merely from the standpoint of political history. As it turns out, in the stability times of the Soviet regime, in 1960s – 1970s, a vibrant public discourse existed in Belarus. In the mid-1960s, there was a previously (and later) unprecedented public historiographical debate on history of culture and on genesis of the Belarusian culture in late medieval and early modern times. In 1970s, these discussions will no longer be possible. Therefore, the polemical public opinion has to flee to the 'samizdat'. In 1975-1976, in samizdat publication "Hutarki" ("Conversations") Mikola Jermałovič formulated the concept of the independence of Belarus.

***Keywords:*** Social Thought, Political Ideas, 'Samizdat', Independence Concept

### *Siarhei Bohdan.* **Foreign Policy Component in the National Democratic Project of Belarusian Politics in 1980s – 1995: Zianon Pazniak's Version**

The article investigates foreign politics issues in the National Democratic project through ideas of the most prominent representative from this faction of Belarusian politics – Belarusian People's Front's leader Zianon Pazniak – in late 1980s and early 1990s, i.e. in the time of his most intensive political activities in the country. It attempts at outlining the structure of this part of the project, as well as identify main international contents and priorities of the project. The special focus is made on scarcely studied issues – the project of Baltic-Black Sea regional block and potential territorial claims by Belarus.

***Keywords:*** Belarusian Politics, Zianon Pazniak, National Democratic Movement, Foreign Policy, Baltic-Black Sea Union

## History of Ideas

### *Iryna Mikheyeva.* «Russian Conservative Revolution» as an Ideological Project in Contemporary Russian Politics

The article reveals the specificity of the phenomenon of the Centre for Conservative Research attached to the Faculty of Sociology, Lomonosov Moscow State University. Since 2008, the Centre has been working to accomplish one of its goals that is "to promote the development of conservative-oriented scientific and administrative elite". It is argued that that conservative, radical right-wing and chauvinistic worldview and ideological trends are strengthened and achieve a partial legalization in modern Russia. The paper shows that the processes of institutionalization of intellectual-ideological spaces (organizations, associations, publishing houses, etc.) previously considered as latent, marginal and informal, allows them to lay a claim to the development of state strategic political programs.

***Keywords:*** Geopolitics, Ideology, Conservatism, Nationalism, War, Russian Foreign Policy

## Elections and Party System

### *Aliaksandr Shamiakin.* Institutionalization of Inclusive Party System in Russia, 1999-2008

This article considers the process of establishing an inclusive monoparty system in contemporary Russia. The essence of institutional reforms, which led to the monopoly of the party of ruling establishment "United Russia", in particular, reveals the importance of electoral reform in 2005 and inconsistency of the official justification of the reform and systemic consequences of its use in accordance with Duverger's sociological laws. It substantiates the misclassification of the Russian party system, as a system with the dominant party, given the nature of the changes, both formal and informal institutions.

***Keywords:*** Party System, Electoral System, Duverger's Sociological Laws, "United Russia", Inclusive (Authoritarian) Party System

### *Mikhail Niadzvietski.* The Level of Web-activism of the Candidates during the Local Elections 2010 (Minsk City)

The article analyzes the web activity of registered candidates in Minsk during local elections in 2010. In particular, it focuses on the level of representation of candidates via social networking. Also it investigates the age structure differences; differences in Internet activity and distribution of organizational affiliation. In addition, the summary of content analysis of social networks accounts of candidates is included.

***Keywords:*** Local Elections, Local Elections in 2010, Minsk, Web Activity, Web Campaigns, Internet, Social Networks

## Reviews (Politics and Political Science)

***Aliaksei Lastouski.* Crisis of Belarusian Studies.** *Bekus, Nelly (2010). Struggle Over Identity. The Official and the Alternative «Belarusianness».*

The article reviews the monograph by the Polish-Belarusian sociologist Nelly Bekus on social-political and cultural changes in independent Belarus in the context of nation-state building and national identity formation.

***Keywords:*** Post-Communist Transformation, Democratization, Nationalism, National Identity, Politics of Identity

***Viktar Kavaliou.* Theory and Methodology of a Department.** *Решетников, С.В. (2009). Политическая наука в БГУ: теоретико-методологические и прикладные аспекты.*

The article reviews the book on development of political science at the Belarus State University *(Political Science in Belarus State University – Theoretical, Methodological and Applied Perspectives)*. It analyzes development of Belarusian political science community, the directions and level of research activity, academic statuses and relations. The review points out widespread problems of political science in Belarus

***Keywords:*** Political Science, Political Science in Belarus, Academic Community, Research Activities

***Tatsiana Chyzhova.* On Some MPs of Independence...** *Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк (2010). Дэпутаты незалежнасьці.*

This review analyzes Zianon Pazniak and Siargei Navumchyk's book (MPs of Independence), on the MPs of the Belarusian Popular Front parliamentary group in the Supreme Council of Belarus (1990-1995). It critically considers the author's interpretation of early 1990s and their role in proclaiming Belarusian independence.

***Keywords:*** Parliament, Parliament of Belarus, Belarusian Popular Front, Independence, Memories

***Uladzislau Ivanou.* Belarus, the Mechanism of a Dictatorship.** *Lallemand, J.-C., Symaniec, V. (2007). Biélorussie, mécanique d'une dictature*

In the book by J.-C. Lallemand and V. Symaniec Belarus is described as a classical dictatorship, which allegedly preserves the socialist and Soviet order, loyalty to the Soviet idea of building an egalitarian society, but which has long ago been penetrated by tough mechanisms of capitalism. These mechanisms are destroying not only the economy but also national and linguistic specificity of Belarus. The authors describe the foundations of modern dictatorship within Belarus consistently giving an important role to geopolitical component and domestic processes caused by the absence of civil society. The book combines both analytical and publicist texts and it makes it accessible to all readers.

***Keywords:*** Belarusian Politics, Dictatorship, Lukashenko, Authoritarianism, Democracy

## Review (International Relations)

***Siarhei Bohdan.*** **In the Fog of the Belarusian Foreign Policy.** *Улахович, В.Е. (2010). Формирование основ внешней политики Республики Беларусь (1991–2005)*

The article reviews the book by U. Ulakhovich *(Forming of Belarusian Foreign Policy Foundations, 1991-2005)* on Belarusian foreign policy from early 1990s until mid-2000s. The review considers the author's interpretation of the main stages in the establishment of the independent foreign policy of Belarus and its conception and strategies. It also analyzes authors' evaluation of the successes and problems faced by Belarusian foreign policy.

***Keywords:*** Foreign policy, Belarusian Foreign Policy, Foreign Policy Concept, Political Science

***Dzianis Melyantsou.*** **The Ukrainian-Belarusian Relations: Non-Systemic Approach.** *Вдовенко, С.М. (2010). Україна-Білорусь: взаємовідносини на перехрестях перемін*

The review analyzes the first attempt to undertake a comprehensive study of relations between Ukraine and Belarus, which was done by the Ukrainian scholar S. Vdovenko *(Ukraine-Belarus relationships: At the Crossroads of Changes)*. It analyzes the text and notes its role for understanding the development of the foreign policy of Belarus and Ukraine.

***Keywords:*** Ukraine and Belarus, Foreign Policy, Bilateral Relations, Regional Cooperation, International Relations

## Review (Sociology and Urban Studies)

***Siarhei Liubimau.*** **Urban Studies and the Problem of Innovation.** *Постсоветские столицы: Минск, Вильнюс, Баку (2009). Под общей редакцией Й.Терборна*

The article reviews the book *Post-Soviet capitals – Minsk, Vilnius, Baku*, focused on comparative research of three former Soviet capitals. It analyzes the authors' goals and tasks, and their success in conducting a consistent analysis of social and political phenomenon of the capital in the post-Soviet conditions.

***Keywords:*** Urban Studies, Post-Soviet Capitals, Minsk, Vilnius, Baku

***Natallia Vasilevich.*** **Youth: a Study of Faith.** *Юдин, В.В. (2009). Особенности религиозности молодежи восточных регионов Беларуси*

The article reviews the book by sociologist V. Yudin's on peculiarities of the religious behavior of young people in Belarus *(Characteristics of Youth Religious Behavior in Eastern Regions of Belarus)*. It overview the issue briefly and analyzes the author's approach to its solution.

***Keywords:*** Religion, Church, Youth, Congregation, Sociology of Religion

***Siarhei Liubimau.* Spatial Imagination and the Rules of a Game.** *Игра в города: по материалам экспедиций в малые города Беларуси (2009). Сост., науч. ред. Т. Водолажская*

The article reviews the book Game of the city: materials of expeditions in small towns of Belarus. It considers the tasks and methods of the research conducted by the Agency of Humanitarian Technologies and raises the conceptual problems of urban studies in Belarus.

***Keywords:*** Urban Studies, Towns, Towns of Belarus, Methodology, Local Communities

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

# ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА

**Независимость: идея и институты** **№15(2)/2010**

## Аннотации и ключевые слова

## Институты независимости

### *Николь Галина.* Украины: ревизия нации. Президенты Украины и их понимание политики идентичности

Статья показывает, что строительство государства и нации в Украине двадцать лет спустя после обретения независимости далеко от завершения. Утверждается, что украинские президенты многое не сумели сделать для институциализации Украины как национального государства. В статье подробно разобран бесконечный процесс сражения за конституционную модель, а также рассматриваются три аспекта политики идентичности: язык, гражданство и историография (в особенности Голодомор). Текст показывает, что соответствующая политика не была направлена на достижение чего-либо, а на предотвращение институциализации своего понимания нации и государства «россиянами» или «украинцами».

***Ключевые слова:*** Украина, строительство государства, формирование нации, языковая политика, историография, гражданство

### *Андрей Казакевич.* Белорусский парламент эпохи независимости: эволюция депутатского корпуса, 1990 – 2010 года

В статье рассматривается эволюция белорусского парламента с 1990 по 2010 год на основе анализа состава депутатского корпуса. В частности рассматривается социально-демографический состав депутатов, деятельность фракций и политических партий, а также карьера после получения депутатского мандата. Анализируется, каким образом эволюционировал депутатский корпус, что управляло этим процессом, и как это было связано со сменами статуса и функций парламента. На основании исследования делается вывод об изменениях демографического состава депутатов, практически полном исчезновении организованной групповой активности и снижении роли парламента как механизма вертикальной мобильности.

***Ключевые слова:*** парламент, парламентаризм, белорусская политика, политические институты, депутаты

***Ирмина Матоните, Виктор Мартинович.*** **Россия, Турция и США как внешние угрозы единству ЕС: анализ взглядов национальных элит**

В статье проанализированы взгляды национальных элит на три потенциальные внешние угрозы единству ЕС: вступление Турции в ЕС; тесные отношения между некоторыми странами ЕС и США, вмешательство России в европейские дела. Опросы политической и экономической элиты Бельгии, Германии, Литвы и Польши показали, что европейские ценности конструируются в зависимости от продолжительности членства страны в ЕС. Также важной является политическая идентичность элиты, разные взгляды на роль ЕС, видение будущего этого союза и по-разному воспринимаемая национальная идентичность.

***Ключевые слова:*** элиты, идентичность, внешние угрозы, социальный конструктивизм, политические идеологии

## Идея независимости

***Олег Дернович.*** **Общественная мысль в Беларуси 1960-х–1970-х годах: история, нация и независимость**

В своей статье автор обращает внимание на то, что только с позиций политической истории невозможно понять эволюцию белорусского общества в течение второй половины XX в. Как выясняется, в эпоху советской стабильности, в 1960-1970-х годах, в Беларуси пульсировало общественное мнение. Середина 1960-х годов отмечена неслыханной ранее (и позднее) публичной историографической дискуссией по проблемам истории культуры и культурогенезу позднесредневековой и раннемодерной Беларуси. В 1970-х годах подобные дискуссии стали невозможны. Поэтому полемическое общественное мнение стало перетекать на страницы самиздата. А в самиздатовских «Разговорах» Миколы Ермоловича в 1975-1976 годах был сформулирован концепт независимости Беларуси.

***Ключевые слова:*** общественно-политическая мысль, политические идеи, самиздат, концепт независимости, диссидентское движение

***Сергей Богдан.*** **Независимость и внешняя политика: версия белорусских национал-демократов, конец 1980-х – 1995 гг. (пример Зенона Пазьняка)**

В статье рассмотрены внешнеполитические аспекты национал-демократического проекта на примере идей самого яркого представителя этого течения белорусской политики, руководителя БНФ Зенона Пазьняка в конце 1980-х и в первой половине 1990-х годов, то есть во время его активной политической деятельности в стране. Сделана попытка представить структуру этой части проекта, а также выделить его основные внешнеполитические направления и приоритеты проекта. Особое внимание уделено малоисследованным вопросам – проекту Балто-Черноморского регионального блока и потенциальным территориальным претензиям Беларуси.

***Ключевые слова:*** белорусская политика, Зенон Пазьняк, национал-демократическое движение, внешняя политика, Балто-Черноморский союз

## История идей

***Ирина Михеева.* «Консервативные исследования» в политическом и идеологическом поле современной России**

Статья раскрывает специфику феномена Центра консервативных исследований социологического факультета МГУ им. Ломоносова, действующего с 2008 года и ставящего среди прочих задачу «содействовать подготовке научной и управленческой элиты консервативных взглядов». Обосновывается тот факт, что данный феномен является проявлением тенденции к усилению и легализации мировоззренческих и идеологических тенденций консервативной, праворадикальной, национально-шовинистической тональности в современной России. Делаются выводы об институционализации ранее латентных, маргинальных, неформальных интеллектуально-идеологических пространств (организаций, объединений, издательств и т.п.), которые в своем новом статусе начинают претендовать на выработку государственных стратегических политических программ.

***Ключевые слова:*** геополитика, идеология, консерватизм, национализм, война, российская внешняя политика

## Выборы и партийные системы

***Александр Шемякин.* Становление инклюзивной партийной системы в Российской Федерации (1999-2008)**

В статье рассматривается процесс становления системы инклюзивного монопартизма в современной России. Раскрывается суть институциональных преобразований, которые привели к монополии партии власти «Единая Россия», в частности, раскрывается значимость и противоречивость официального обоснования реформы избирательной системы 2005 г. и системных последствий её использования в соответствии с социологическими законами Дюверже. Обосновывается ошибочность классификации российской партийной системы, как партийной системы с доминантной партией, учитывая характер изменений как формальных, так и неформальных институтов.

***Ключевые слова:*** партийная система, избирательная система, социологические законы Дюверже, «Единая Россия», инклюзивная (авторитарная) партийная система

***Михаил Недвецкий.* Уровень веб-активности кандидатов на местных выборах 2010 года (Минск)**

В статье анализируется состояние веб-активности во время местных выборов 2010 г. в Минске среди зарегистрированных кандидатов в депутаты. В частности, изучается уровень репрезентации кандидатов через социальные сети, блоговые системы и персональ-

ные сайты. Также исследуются отличия в возрастной структуре; в формах интернет-активности; в распределении по организационной принадлежности. В Приложении приводятся сводные данные по контент-анализу аккаунтов в социальных сетях кандидатов в депутаты.

*Ключевые слова:* местные выборы – 2010 г., Минск, веб-активность, веб-кампании, Интернет

## Рецензии (политика и политология)

*Алексей Ластовский.* **Кризис знания про Беларусь.** *Bekus, Nelly (2010). Struggle Over Identity. The Official and the Alternative «Belarusianness»*

В рецензии рассматривается монография социолога Нелли Бекус, посвященная анализу социально-политических и культурных изменений в независимой Беларуси на фоне процессов строительства государственности и развития национальной идентичности.

*Ключевые слова:* посткоммунистические преобразования, демократизация, национализм, национальная идентичность, политика идентичности

*Виктор Ковалёв.* **Теория и методология отдельной кафедры.** *Решетников, С.В. (2009). Политическая наука в БГУ: теоретико-методологические и прикладные аспекты*

В рецензии рассматривается книга С. Решетникова о развитии политологии в БГУ. Анализируется развитие политологического сообщества Беларуси, направления и уровень исследовательской деятельности, академические статусы и взаимоотношения. Обозначаются отдельные проблемы развития политической науки в Беларуси.

*Ключевые слова:* политическая наука, политическая наука в Беларуси, академическое сообщество, исследовательская деятельность

*Татьяна Чижова.* **О некоторых депутатах независимости…** *Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк (2010). Дэпутаты незалежнасьці.*

Рецензия на книгу Зенона Пазьняка и Сергея Наумчика, посвященную депутатам фракции БНФ в Верховном Совете XIII созыва (1990-1995). Критически рассматривается интерпретация авторами событий начала 1990-х гг. и их роли в провозглашении независимости Беларуси

*Ключевые слова:* парламент, белорусский парламент, БНФ, независимость, воспоминания

*Владислав Иванов.* **Беларусь, пружины одной диктатуры.** *Lallemand, J.-C., Symaniec, V. (2007). Biélorussie, mécanique d'une dictature*

В своей книге Ж.-Ш. Лельман и В. Шимонец описывают Беларусь как классическую диктатуру, которая декларирует сохранение социалистического и советского порядка, преданность советской идее построения эгалитарного общества, но в которую давно проникли жёсткие механизмы капитализма. Эти механизмы разрушают не только экономику, но и национальную и языковую специфику Беларуси. Авторы последовательно

описывают пружины современной диктатуры в пределах Беларуси, уделяя значительное внимание геополитической составляющей, а также внутренним процессам, связанным с отсутствием гражданского общества. Книга включает в себя как исключительно аналитические, так и публицистические тексты, что делает её доступной для широкого круга читателей.

***Ключевые слова:*** белорусская политика, диктатура, Лукашенко, авторитаризм, демократия

## Рецензии (международные отношения)

***Сергей Богдан.*** **В тумане внешней политики Беларуси.** *Улахович, В.Е. (2010). Формирование основ внешней политики Республики Беларусь (1991–2005)*

В рецензии рассматривается книга В. Улаховича, посвященная внешней политике Беларуси с начала 1990-х до середины 2000-х гг. Рассматривается авторская интерпретация основных этапов оформления внешней политики независимой Беларуси, её концепции и стратегии. Также анализируется оценка автором успехов и проблем внешней политики Беларуси.

***Ключевые слова:*** внешняя политика, внешняя политика Беларуси, концепция внешней политики, политическая наука

***Денис Мельянцов.*** **Украинско-белорусские отношения: несистемный подход.** *Вдовенко, С.М. (2010). Україна-Білорусь: взаємовідносини на перехрестях перемін*

Рецензия анализирует первую попытку провести комплексное исследование отношений Украины и Беларуси, которая была реализована украинским учёным С. Вдовенко. Критически рассматривается опубликованная им работа и отмечается ее значение для понимания особенностей развития внешней политики Беларуси и Украины.

***Ключевые слова:*** Украина и Беларусь, внешняя политика, двусторонние отношения, региональное сотрудничество, международные отношения

## Рецензии (социология и городские исследования)

***Сергей Любимов.*** **Urban studies и проблема инноваций.** *Постсоветские столицы: Минск, Вильнюс, Баку (2009). Под общей редакцией Й.Терборна*

В рецензии рассматривается книга *«Постсоветские столицы...»*, посвящённая сравнительному исследованию трёх постсоветских столиц – Минска, Вильнюса, Баку. Анализируются цели и задачи авторов, а также успешность их попытки последовательного рассмотрения социального и политического феномена столицы в постсоветских условиях.

***Ключевые слова:*** городские исследования, постсоветские столицы, Минск, Вильнюс, Баку

***Наталия Василевич.*** **Молодёжь: исследование веры.** *Юдин, В.В. (2009). Особенности религиозности молодежи восточных регионов Беларуси*

В рецензии рассматривается книга социолога В. Юдина, посвящённая особенностям религиозных поведений молодёжи в Беларуси. Коротко рассматривается сама проблема, а также критически анализируется подход автора к её решению.

***Ключевые слова:*** религия, церковь, молодёжь, вероисповедание, социология религии

***Сергей Любимов.*** **Пространственное воображение и правила игры.** *Игра в города: по материалам экспедиций в малые города Беларуси (2009). Сост., науч. ред. Т. Водолажская*

Рецензия рассматривает книгу *«Игра в города...»*, посвящённую малым городам Беларуси. Рассматриваются задачи и методы исследования малых городов, которое было проведено Агентством Гуманитарных Технологий путём специальной экспедиции.

***Ключевые слова:*** городские исследования, малые города, малые города Беларуси, методология, локальные сообщества

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Ніколь Галіна

# Украіна: рэвізія нацыі. Прэзідэнты Украіны ды іх разуменне палітыкі ідэнтычнасці

*«Большасць тых, хто наверсе, не разумее, як кіраваць Украінай.»*
Леанід Кучма[1]

## Уводзіны

Ці ведае новы прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч, як кіраваць дзяржавай? Ягоныя захады пакуль нагадваюць палітыку рэтра: рэстаўрацыя Канстытуцыі 1996 г., саветызацыя ўкраінскай гістарыяграфіі ды правядзенне неасавецкай палітыкі ў цэлым. Ці прынясе гэта жаданае развіццё дзяржаве і нацыі? І якое развіццё ўвогуле можна назваць жаданым?

Пасля распаду Савецкага Саюзу ў аснову дзяржаўнай палітыкі ва Украіне лягло ўмацаванне *незалежністі*. Прыярытэтам лічылася пабудова нацыянальнай і культурнай ідэнтычнасці (nation-building) (Wolczik and Zviglyanich, 1999). Такі падыход, тым не менш, пакінуў па-за ўвагаю захады для пабудовы дзяржавы (state-building): кансалідацыю дзяржаўных інстытутаў, сацыяльна-эканамічных структураў і ўсталяванне стабільнай дэмакратыі. Стварэннем дзяржавы і нацыі было вельмі цяжка кіраваць адначасова, таму асноўны ўхіл рабіўся на нацыю. З гэтаю стратэгіяй Украіна здолела дасягнуць мінімуму ўнутранае і знешняе стабільнасці, але не зрабілася дзеяздольнаю і эфектыўнаю дзяржаваю.

Украіна імкнецца да ўмацавання дзяржаўных і дэмакратычных інстытутаў. З часу атрымання незалежнасці высілкі ў дзяржаўным будаўніцтве былі больш ці менш заўважныя, але вынікі не падаюцца пераканаўчымі. Асноўны закон краіны застаецца прадметам спрэчак, у прыватнасці, не так даўно адбылася рэстаўрацыя Канстытуцыі 1996 г., якая дае прэзідэнту значныя паўнамоцтвы (Wolczuk, 2001). Пры гэтым незалежныя інстытуты ды інстытуты кантролю – парламент, судовая ўлада і медыі – не дасягнулі ні дэмакратычнага стану, ні кансалідацыі.

[1] Цытуецца паводле Kuzio, 2004.

Дагэтуль няма кансенсусу палітычных элітаў у пытанні канстытуцыйных асноваў дзяржавы. Дэбаты наконт праектаў украінскай канстытуцыі могуць служыць мадэллю дачынення элітаў і ўладных адносінаў у краіне. Гандаль за канстытуцыйныя паўнамоцтвы меў вялікае значэнне і ўспрымаўся як больш важны, чым дасягненне кансенсусу наконт асноваў дзяржаўнасці. Палітычны працэс характарызаваўся даволі канфліктнымі адносінамі паміж найвышэйшымі службовымі асобамі, асабліва гэта датычыла балансу ўлады паміж прэзідэнтам, прэм’ер-міністрам і спікерам парламенту. Больш за тое, у гэтае змаганне заўсёды ўцягвалася праблема ідэнтычнасці. Элементы нацыятварэння – такія як гістарыяграфія і мова – заўсёды выкарыстоўваліся ў сітуацыі нявызначанасці, асабліва на пачатку 1990-х і падчас Аранжавай рэвалюцыі 2004 г. Палітыка спрыяння ўкраінскай мове мусіла аб’яднаць краіну ў супрацьстаянні ўнутраным і вонкавым сілам. Тым не менш, новы прэзідэнт Віктар Януковіч (як і позні Кучма) прадэманстраваў, што пытанні ідэнтычнасці можна выкарыстоўваць для таго, каб ускладніць афармленне цэласнай нацыі.

У 1991 г., на хвалі вялікага энтузіязму, большасць жыхароў Украіны выказалася за незалежнасць і мела чаканні, што хутка ўтворыцца аб’яднаная нацыя з моцнаю нацыянальнаю ідэнтычнасцю. Праблема была ў тым, што розныя групы кіроўнае эліты мелі свае чаканні. Пабудова нацыі аказалася надзвычай складанаю справаю, звязанаю з эмоцыямі ды сацыялізацыяй. Нацыянальныя эліты не мелі згоды ў важных пытаннях: мова, грамадзянства, гістарыяграфія і рэлігія. Лідары асноўных нацыянальных партыяў разышліся ў поглядах і, не вагаючыся, пачалі выкарыстоўваць адрозненні ў палітычных мэтах. Гэта відавочна, калі параўнаць погляды Віктара Януковіча (лідара Партыі рэгіёнаў), Юліі Цімашэнкі (лідара БЮТ) і Віктара Ючшанкі (лідара маргіналізаванай цяпер партыі «Наша Украіна»).

У артыкуле даводзіцца, што дзяржаўнае будаўніцтва і нацыятварэнне ва Украіне пасля дваццаці гадоў незалежнасці ўсё яшчэ далёкія ад завяршэння. Даследаванне спалучае аналіз праблемаў дзяржаўнага будаўніцтва з разглядам захадаў для стварэння нацыі. З аднаго боку, барацьба за канстытуцыйныя паўнамоцтвы вызначала хаду палітычнага працэсу, а трывалае афармленне дзяржаўных інстытутаў не завяршылася да гэтага часу. З другога боку, пытанні ідэнтычнасці ўстойліва захоўвалі сваю важнасць, дадаючы эмоцыяў палітычнаму змаганню. Магчыма, няўдача ў інстытуцыялізацыі ўстойлівых дзяржаўных структураў ёсць прычынаю з’яўлення праблемы нацыятварэння на парадку дня ў 2010 г.

Аўтар задаецца пытаннем – што чатыры ўкраінскія прэзідэнты зрабілі для інстытуцыялізацыі Украіны як дзяржавы і нацыі? Па-першае, мы разгледзім саму канцэпцыю ўкраінскай дзяржавы. Па-другое, пакажам выклікі дзяржаўнаму будаўніцтву ва ўмовах бясконцага перапісвання кан-

стытуцыі. Нарэшце, артыкул апісвае перыяды нацыянальнага развіцця, што моцна вызначаліся асобамі прэзідэнтаў: Леаніда Кучмы, Віктара Юшчанкі і Віктара Януковіча. Артыкул засяроджваецца на трох аспектах палітыкі ідэнтычнасці, якія падаюцца вырашальнымі: мова, грамадзянства і гістарыяграфія.

## I. Украінская нацыя

Праблема нацыянальнага будаўніцтва (nation-building) дамінавала ў замежных і ўкраінскіх даследаваннях першага дзесяцігоддзя незалежнасці. Тарас Кузё, асноўны англамоўны аўтар па праблеме, меў аптымістычнае бачанне і назіраў узнікненне кансенсусу эліты Украіны ў пытаннях дзяржаўнага будаўніцтва і тэрытарыяльнай еднасці (Kuzio, 1998).[2] Дзяржаўнае будаўніцтва датычыла легітымацыі ды кансалідацыі палітычнай улады ў дачыненні *іншага*. Гэта значыць, міжнародных і ўкраінскіх суб'ектаў – палітычных партыяў і этнічных групаў (Tilly, 1975). Працэс афармлення нацыі быў шчыльна звязаны менавіта з такім разуменнем развіцця дзяржавы, і таму складаўся з палітыкі ідэнтычнасці з асаблівым націскам на прапаганду мовы і гісторыі.

Тэарэтычныя развагі пра нацыятварэнне застаюцца дастаткова агульнымі ды засяроджваюцца на фармальных дзяржаўных структурах (Kuzio, 1999). Пры гэтым стрыжнем ёсць наяўнасць агульнай нацыянальнай ідэнтычнасці, што, паводле Энтані Сміта, значыць згоду наконт асноваў нацыянальнай палітычнай супольнасці, якія ўключаюць нефармальныя і фармальныя інстытуты (Smith, 1991). Такое разуменне падкрэслівае важнасць нефармальнага кансенсусу ў некаторых культурных кодах: выкарыстанне мовы, уключэнне этнічных групаў, нацыянальныя пачуцці ды гістарыяграфія (Schöpflin, 2000). Гістарыяграфія – гэта надзвычай важнае пытанне. Ва Украіне няма недахопу важных гістарычных падзеяў, міфічных (дзяржаўных) канструкцыяў і палітызаваных нацыянальных герояў (Wilson, 1997: 182–197). Асабліва значэнне маюць падзеі ды традыцыі, здольныя аб'яднаць этнічныя і лінгвістычныя групы, напрыклад, Галадамор.

Акрамя гэтага, нацыянальнае будаўніцтва ва Украіне было ў значнай ступені пытаннем спалучэння руска- і ўкраінскамоўнай этнічнай і лінгвістычнай групаў, якія маюць match рознае разуменне гісторыі ды нацыянальнае культуры. У такой сітуацыі асноўным выклікам выступае выяўленне агульнага ды ігнараванне адрозненняў. Крытыкі адзначалі, што «іншы» не можа ўдзельнічаць у такім праекце, бо існуе неабходнасць прыняць культурную, сацыяльную і гістарычную повязь большасці. Для Украіны «іншым» была «расійская» частка краіны, якая не прапанавала празрыстага бачання будучыні. Пасля набыцця

[2] Кузё таксама адзначыў той факт, што «этнічныя» расійцы і ўкраінцы маюць хутчэй тэрытарыяльную, чым уласна этнічную ідэнтычнасць.

незалежнасці адбылася ўкраінізацыя школаў, што пакінула ўбаку наратывы, заснаваныя на савецкім і расійскім. Нацыятварэнне распачалося з украінскага грамадзянства, украінскай мовы ў якасці дзяржаўнай, «заходніх» дзяржаўных традыцыяў і ўкраінскага гістарычнага міфу.

Відавочна, што такія абстрактныя канцэпты нацыі ды гісторыі не былі прымальныя для большасці насельніцтва Украіны, і яшчэ менш – для «расійцаў» (Guboglo, 1996: 98). Палітычны ўдзел грамадзянаў быў невысокі, а «расійцы» дэманстравалі яшчэ большую апатыю. Кэтрын Ўэнэр нават бачыла расійскую меншасць у якасці асноўнай перашкоды намаганням нацыяналізаваць Украіну (Wanner, 1998).[3] Акрамя гэтага, русіфікаваныя ўкраінцы, якія складаюць каля траціны этнічных украінцаў, не мелі асаблівага жадання рэнацыяналізавацца. Супрацьвагай ім была вялікая група свядомых украінцаў, пераважна з заходніх і цэнтральных рэгіёнаў, нацыянальная ідэнтычнасць якіх супадала з лінгвістычнаю і культурнаю. Гэта адлюстроўвае кантраст з русіфікаванымі ўкраінцамі, пераважна пасіўнымі ў пытаннях нацыі ды ідэнтычнасці, але якія з палітычнага пункту гледжання ёсць грамадзянамі Украіны. Шмат хто з іх, у тым ліку і палітычныя эліты, не падтрымаў культурных зменаў, якія адбыліся пасля стварэння ўкраінскай дзяржавы.

У кантэксце «ўкраінскасці» нацыі шмат спрэчак выклікаў канцэпт *дзвюх Украінаў*. Гэтая і падобныя канцэпцыі сцвярджаюць, што нацыя падзеленая на заходнюю «ўкраінскую» і ўсходнюю «расійскую» часткі. Мы не будзем тут цалкам пераказваць дэбатаў, але трэба найперш пазначыць, што большасць насельніцтва краіны не мае яснае прывязкі да «ўкраінскага» ці «расійскага», бо шмат хто размаўляе на абедзвюх мовах і паходзіць са змяшаных сем’яў. Напрыклад, колькасць асобаў, якія лічаць сябе этнічнымі ўкраінцамі, значна перавышае колькасць тых, хто называе ўкраінскую мову роднаю, а шмат хто з апошніх выкарыстоўвае ўкраінскую толькі ў сям’і (Ukrainian Census, 2001). Супярэчлівасць палітыкі на найвышэйшым палітычным узроўні – у адпаведнасці з розным досведам сацыялізацыі прэзідэнтаў – толькі падкрэслівае датклівасць гэтай праблемы.

На палітычнай сцэне нацыянальную палітыку пакінулі найперш нацыянал-дэмакратам. Яны падкрэслівалі «ўкраінскі» характар новай дзяржавы. Украінскія кіроўныя эліты, а менавіта прэзідэнты-цэнтрысты Леанід Краўчук і Леанід Кучма, трымаліся менавіта такой палітыкі. Першы прэзідэнт імкнуўся падтрымаць бачнасць кансенсусу наконт «эмацыйных» асноваў украінскай нацыі. Леанід Кучма намагаўся балансаваць у пытаннях нацыі ды ідэнтычнасці

3 Апошні перапіс 2001 г. паказаў наяўнасць ва Украіне 8 млн расійцаў з 48 млн насельніцтва.

паміж «русіфікаванымі» ды «ўкраінскімі» грамадзянамі і быў дастаткова паспяховы ў падтрымцы еднасці краіны і забеспячэнні ідэнтычнасці для ўкраінскаарыентаваных грамадзянаў. Але такая згода паміж нацыянальнымі дэмакратамі і цэнтрыстамі не была ўстойлівая.

На палітычным узроўні Кучма галоўным чынам падтрымліваў эліты, якіх мала хвалявалі такія «абстрактныя» пытанні: у прыватнасці Днепрапятроўскую і Данецкую групоўкі. Кансенсус элітаў у тэмах, звязаных з «нацыяй», зрабіўся прадметам сутыкненняў на найвышэйшым палітычным узроўні толькі бліжэй да завяршэння паўнамоцтваў Кучмы. Адною з прычынаў росту супрацьстаяння была адмова прэзідэнта падтрымліваць эканамічна адсталыя заходнія вобласці Украіны напрыканцы 1990-х. Іншая прычына – падзенне палітычнага прадстаўніцтва «ўкраінскіх» інтарэсаў, кульмінацыяй якога сталася адстаўка (паспяховага) прэм'ер-міністра Віктара Юшчанкі. Праз дзесяць гадоў пасля атрымання незалежнасці была перагорнутая новая старонка гісторыі, і прэзідэнты Украіны больш не выступалі за кансенсус эліты.

Упершыню такі палітычны выбар зрабіўся бачным перад і падчас Аранжавай рэвалюцыі, у якой узяла ўдзел толькі палова насельніцтва краіны (Kuzio, 2005a). Пасля рэвалюцыі прэзідэнты Віктар Юшчанка і Віктар Януковіч выявілі раскол элітаў вакол палітыкі ідэнтычнасці. Актуальным застаецца пытанне – ці ёсць палітыка нацыянальнай ідэнтычнасці (мова, адукацыя і гістарыяграфія), якую заахвочвае Віктар Януковіч, вынікам недальнабачнасці невялікае элітнае групы (ці яго самога)? Ці гэта вынік незадаволенасці больш шырокіх сацыяльных пластоў? Тым не менш, зразумела адно – праз дваццаць гадоў незалежнасці адсутнічае кансенсус у асноўных слупах нацыі ды палітыкі ідэнтычнасці: грамадзянстве, мове, гістарыяграфіі.

Натуральна, для дзяржавы, якая нацыяналізуецца, яшчэ застаецца аспект нацыяналізму. Можна сказаць, што ва Украіне некаторыя гарады і рэгіёны на захадзе імкнуцца быць больш «украінскімі», а гарады і рэгіёны на ўсходзе – больш «расійскімі». Гэта застаецца асаблівасцю Украіны: тытульная нацыя ўкраінцаў не мела поспеху ў афармленні агульнанацыянальнага ўкраінскага нацыяналізму.[4] Пытанне нацыяналізму, магчыма, дасягне свайго апагею ў будучыні, але тое не будзе прадметам нашай увагі. Гэты аналіз канцэнтруецца на ўзаемасувязі ўлады прэзідэнта і палітыкі ідэнтычнасці. Спачатку ўвага надаецца змаганню за нацыянальную канстытуцыю, якая не дазволіла інстытуцыялізаваць дзяржаўную ўладу і аформіць дэмакратычную палітычную сістэму. Пасля гэтага разглядаецца моўная палітыка, палітыка грамадзянства і гістарыяграфіі.

[4] Пра нацыяналізм ва Украіне гл. Kuzio, 2002.

## II. Развіццё інстытуту прэзідэнта пасля 1991 года

Ва Украіне ўсталявалася палітычная сістэма, якая дала прэзідэнту значную ўладу ў найбольш важных сферах. Сістэма атрымала назву паўпрэзідэнцкай, бо кіраўнік дзяржавы не атрымаў паўнамоцтваў распускаць парламент. Але прэзідэнт меў права прызначаць сілавых міністраў, выдаваць нарматыўныя акты (указы) і прымаць стратэгічныя рашэнні. У кароткі перыяд паміж Аранжавай рэвалюцыяй і абраннем Віктара Януковіча была спроба змяніць гэтую мадэль, але ўсталяванне новай (парламенцка-прэзідэнцкай) сістэмы збольшага правалілася ў выніку супрацьстаяння прэзідэнта і прэм'ер-міністра ў парламенце. У 2010 г. адбылася рэстаўрацыя «старой» паўпрэзідэнцкай мадэлі на аснове Канстытуцыі 1996 г.

Тое, што адбылося, можна лічыць узорам праблемы, з якою сутыкнуліся постсавецкія дзяржавы, – праблемаю пабудовы новай дзяржаўнай структуры, заснаванай на згодзе і кансенсусе палітыкаў. Да сённяшняга дня Канстытуцыя 1996 г. – гэта фактычна адзіны паспяховы выпадак, але і тады толькі падчас аднаго вырашальнага галасавання большасць цудоўным чынам прагаласавала за адпаведны праект (Wolczuk, 2001: 120). За гэтым рашэннем прэзідэнта і парламенту стаяла знясільваючае змаганне між рознымі палітычнымі групамі цягам года, але ўжо праз некалькі месяцаў прэзідэнт пачаў аспрэчваць створаную мадэль, бо не быў задаволены паўнамоцтвамі.

Пасля афіцыйнага зацвярджэння Канстытуцыі 1996 г. дыскусія пра паўнамоцтвы не была закрытая, і дакумент не стаў бясспярэчнай асновай украінскай дзяржавы. Асноўны закон ставіўся пад пытанне, аспрэчваўся, інтэрпрэтаваўся ў адпаведнасці з бягучымі патрэбамі эліты і перапісваўся. Гэтае змаганне паказвае, што пытанне пабудовы дзяржавы ва Украіне ў значнай ступені засяроджваецца на размеркаванні ды інтэрпрэтацыі паўнамоцтваў. Недастатковая інстытуцыялізацыя канстытуцыі паўплывала на ўсе важныя дзяржаўныя сферы, такія як фінансы, эканоміка і рэгіянальная ўлада. У гэтым сэнсе значную частку палітычнай энергіі паглынулі крокі для развіцця дзяржаўных інстытутаў (ці, больш дакладна, дыскусіі наконт канстытуцыйных праектаў і дапаўненняў).

Якую ролю адыгралі ў гэтым прэзідэнты? Змены ў старую савецкую Канстытуцыю 1978 г. былі сталым прадметам абмеркавання падчас прэзідэнцтва Леаніда Краўчука. Паралельна распачалася дыскусія вакол фармулявання новай, «сучаснай» канстытуцыі. Працяглае афармленне праекту і пазнейшае яго перапісванне завяршыліся прыняццем Канстытуцыі 1996 г. (Constitution, 1996). Пасля ўступлення асноўнага закону ў сілу ўкраінскі прэзідэнт Леанід Кучма абвясціў, што рэарганізацыя дзяржаўных інстытутаў закончылася (хаця ён і не быў цалкам задаволены выніка-

мі) і пачаў засяроджвацца на пытаннях нацыянальнай ідэнтычнасці.[5] У прыватнасці, ён «замірыўся» з нацыянальна-дэмакратычнай апазіцыяй і атрымаў шанец паступова пашырыць уплыў праз фармальныя і нефармальныя сродкі, у тым ліку шырока выкарыстоўваючы свае паўнамоцтвы ў выданні нарматыўных актаў.

У выніку адразу пасля «інстытуцыялізацыі» Канстытуцыі 1996 г. пачалося яе новае абмеркаванне – і, што яшчэ горш, нефармальная інтэрпрэтацыя прабелаў і лакунаў. Падчас гэтага працэсу прэзідэнт Леанід Кучма эвалюцыянаваў у квазіаўтарытарнага кіраўніка, які прэтэндаваў на абсалютную ўладу ў прыняцці палітычных рашэнняў (Levitsky and Way, 2002). Аўтарытарная сістэма Кучмы была аспрэчаная падчас пратэстаў і перавыбараў 2004–2005 гг. Рэдэмакратызацыя краіны была на парадку дня «аранжавых» лідараў, якіх увасабляў прэзідэнт Віктар Юшчанка. Стварэнне дзяржаўных інстытутаў працягнулася пад штандарам дэмакратыі, але не было значна больш паспяховым.

Горш за тое, ва ўмовах новай парламенцка-прэзідэнцкай палітычнай мадэлі і пад дэмакратычным парасонам пачуццё інстытуцыйнага хаосу і неэфектыўнасці ўзмацнілася. І прэзідэнт, і прэм’ер-міністр апантана імкнуліся максімальна павялічыць свае ўладныя паўнамоцтвы. Ні прэзідэнт, ні кіраўнік ураду не гатовыя былі прыняць абмежаванне ўлады (Gallina, 2009: 183). Як вынік канстытуцыйнае нестабільнасці, адкрытага супрацьстаяння элітаў, палітычнай непаслядоўнасці і палітыкі непрыняцця рашэнняў (policy of non-decision), «няўдачнік» 2004 г. перамог на прэзідэнцкіх выбарах на пачатку 2010 г. Януковіч не згадзіўся кіраваць ва ўмовах дрэнна аформленай парламенцка-прэзідэнцкай сістэмы і дамогся аднаўлення Канстытуцыі 1996 г.

Пазначаныя вышэй факты толькі каротка падсумоўваюць намаганні інстытуцыялізаваць цэнтральныя органы ўлады, і спробы гэтыя былі пераважна няўдалыя.[6] Супрацьстаянне даўжынёю амаль дваццаць гадоў паміж найбольш важнымі палітычнымі сіламі (перш за ўсё ў пытанні канстытуцыі, але не толькі) мела свае наступствы. Дзяржаўныя структуры не былі інстытуцыялізаваныя, але замест гэтага ўладныя эліты здолелі акумуляваць уладу і матэрыяльныя рэсурсы. Пры аналізе стратэгіяў і тактыкаў усіх чатырох прэзідэнтаў

[5] Гэта было апраўданым ва ўмовах аўтанамізацыі Крыму, а таксама пад уплывам пэўнай эйфарыі пасля ратыфікацыі Канстытуцыі 1996 г. На пачатку 1990-х Крым пагражаў аддзяліцца ад Украіны. Важным пытаннем была мова: калі б украінская была адзінаю дзяржаўнаю моваю, гэта магло б стаць прычынаю значнага канфлікту Крыму з цэнтральнымі ўладамі, бо расійскамоўныя і расійцы складалі 80 % насельніцтва паўвыспы. Пытанне развязалі кампрамісам: Крым атрымаў статус аўтаноміі, але прыняў некаторыя элементы агульнанацыянальнай палітыкі, такія як рэгулярнае гучанне нацыянальнага гімну ў школах і вывешванне ўкраінскага сцягу.

[6] Для агульнай ацэнкі сітуацыі ва Украіне гл. сайт: Nations in Transit.

робіцца відавочна, што павелічэнне ўлады і яе захаванне заўсёды стаялі на першым месцы, і дзеля гэтага палітыкі ахвяравалі акрэсленнем інстытуцыйных асноваў дзяржавы і ўсталяваннем стабільнай дзяржаўнай структуры (Бондаренко, 2007).

Кансалідацыя палітычнай сістэмы робіцца немагчымаю без клопату найвышэйшых службовых асобаў. Гаворка вядзецца пра лідараў уплывовых палітычных арганізацыяў (раней гэта Камуністычная партыя, потым Аб'яднаная сацыял-дэмакратычная партыя, «Наша Україна» і Партыя рэгіёнаў), прэзідэнтаў, спікераў парламенту, прэм'ер-міністраў і асобных міністраў (напрыклад, дзейны міністр адукацыі Дзмітрый Табачнік). Кіроўная эліта імкнулася акумуляваць асабістую ўладу, што значыла ўзмацненне нефармальных групаў, якія маглі прынамсі мінімальна гарантаваць рэалізацыю палітычных рашэнняў і працу інстытутаў. «Нармальнае», то бок фармальнае прыняцце рашэнняў, было магчымае толькі зрэдку. Для сфераў палітыкі, дзе адбывалася размеркаванне грошай ці ўлады, гэта прыводзіла да размяшчэння і ўтрымання на ўплывовых пазіцыях блізкіх хаўруснікаў, а таксама да засяроджвання на нефармальных механізмах. У выніку дасягалася не еднасць эліты, а яе распад, перманентны клімат канфлікту і адсутнасць супрацы. Якія ж наступствы такая сітуацыя, відавочна негатыўная для развіцця дзяржаўных інстытутаў, мела для іншага важнага пытання – стварэння нацыі ды палітыкі ідэнтычнасці?

Аўтары, якія апісвалі развіццё нацыі, такія як Тарас Кузё, меркавалі, што нацыянальнае будаўніцтва мусіць завяршыцца. Але сталая ўнутраная напружанасць элітаў заставалася пагрозаю, асабліва пасля 2004 г., калі супрацьстаянне развівалася паводле этнічнага і лінгвістычнага прынцыпаў. Адрозненне паміж Віктарам Юшчанкам («заходнікам», украінафілам, нягледзячы на паходжанне з усходняй часткі краіны) і Віктарам Януковічам («усходнікам», русафілам) – найбольш паказальнае.

Што яшчэ больш істотна, падчас кіравання першых двух прэзідэнтаў, Краўчука і Кучмы, на вышэйшым палітычным узроўні не назіраўся канфлікт элітаў у нацыянальным пытанні. Нават ўлічваючы, што абодва прышлі з «расійскага» кантэксту, яны падтрымлівалі намаганні па «ўкраінізацыі», напрыклад, у гістарыяграфіі, моўнай палітыцы і палітыцы грамадзянства. Варта адзначыць, што Леанід Кучма зрабіўся экспертам па ўраўнаважванні розных інтарэсаў і дамогся паспеху ў стварэнні парасону для адрозных групаў. Можна казаць пра адзінства эліты на найвышэйшым палітычным узроўні для фармавання і стабілізацыі нацыі. Пасля 2004 г. вельмі актуальным зрабілася пытанне, ці могуць «аранжавыя» лідары падтрымліваць гэтую еднасць эліты ў «эмацыйным» свеце палітыкі ідэнтычнасці: мовы, гістарыяграфіі ды г. д.?

Цікава ў звязку з гэтым прааналізаваць выступы прэзідэнтаў Украіны на Дзень незалежнасці, якія часта засяроджваюцца на тэме ідэнтычнасці. Тарас Кузё зрабіў адпаведны аналіз,

адзначыўшы, што выступы, зробленыя Леанідам Краўчуком, Леанідам Кучмам і Віктарам Юшчанкам, адрозніваюцца нязначна і падкрэсліваюць важнасць незалежнасці, пры гэтым яна ацэньваецца як кульмінацыя тысячагадовай традыцыі ўкраінскай дзяржаўнасці. Кучма выступаў такім чынам з палітычных меркаванняў, Юшчанка – з-за ўласных перакананняў. Але чацвёрты прэзідэнт змяніў гэтую традыцыю: Януковіч не мае адпаведных («украінафільскіх») перакананняў, і яго не падштурхоўвае палітычная мэтазгоднасць. На гадавіну абвяшчэння дэкларацыі аб суверэнітэце 16 ліпеня 1990 г. ён не згадаў Кіеўскай Русі, эпохі казакоў, Украінскай паўстанцкай арміі (УПА) і ўкраінскіх дысідэнтаў савецкага часу. Замест гэтага Януковіч вызначыў Украінскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку як аснову дзяржаўнасці, што можна разглядаць як разрыў са стратэгіяй старажытнай традыцыі ўкраінскай незалежнасці.[7]

## III. Палітыка ідэнтычнасці ва Украіне: гістарыяграфія, грамадзянства і мова

Пазначаныя вышэй выступы на Дзень незалежнасці – гэта малая падказка для рэтраспектыўнага (палітычнага) разумення ўкраінскай ідэнтычнасці. Ці мела свядомасць прэзідэнтаў вырашальнае значэнне для афармлення палітыкі ідэнтычнасці? У гэтым рэчышчы трэба знайсці больш сведчанняў, для таго каб пацвердзіць рознасць падыходаў да нацыі ды, адпаведна, дзяржаўнага будаўніцтва і вызначэння палітыкі на найвышэйшым палітычным узроўні.

Нацыянальныя дэмакраты (Украінскі народны рух, напрыклад) не змаглі прыйсці да ўлады ў новай дзяржаве. Але яны, тым не менш, зрабілі ўнёсак у яе стварэнне. Гэтыя людзі былі «перакананымі» ўкраінцамі і мелі сімвалы, традыцыі ды наратывы, прыдатныя для будаўніцтва новай украінскай дзяржаўнасці. Старыя камуністычныя эліты, якія прышлі да ўлады ў 1990-х, збольшага прынялі гэты набор як неабходны палітычны сродак – у прыватнасці, так зрабілі два першыя прэзідэнты. Украінскія кіроўныя эліты прытрымліваліся ўкраінафільскага падыходу, які заняў дамінантныя пазіцыі. Кузё разглядае гэта як частку кансенсусу элітаў у разуменні гісторыі, што паскарае стварэнне нацыі (Kuzio, 2006: 408). Існавала неабходнасць ва ўкраінафільскіх месцах памяці, сімвалах і нацыянальных героях.

Але кіроўная эліта, якая збольшага паходзіла са старой наменклатуры, ніколі цалкам не падзяляла ўкраінскай палітыкі ідэнтычнасці, асабліва адлюстраванай у законах аб мове і грамадзянстве. Украіна прыняла

[7] Кузё ідзе нават далей: «*Была прапанаваная мадэль нацыянальнай ідэнтычнасці, падобная да беларускай, дзе Аляксандр Лукашэнка, як і Януковіч, разглядае савецкую эпоху як найбольш важную ў нацыятварэнні. Не мусіць здзіўляць, такім чынам, той факт, што Данецк часта разглядаецца як "украінская Беларусь"*» (Kuzio, 2010).

першы закон аб грамадзянстве 8 кастрычніка 1991 г. Грамадзянства ў ім вызначалася тэрытарыяльна, а падвойнае (ці множнае) грамадзянства не прызнавалася. Асноўныя змены былі зробленыя ў 1997 г., каб дазволіць прадстаўнікам дэпартаваных народаў зрабіцца ўкраінскімі грама дзянамі. У 1998 г. перастаў дзейнічаць савецкі пашпарт. Эліты прынялі пазіцыю, што падвойнае грамадзянства можа прывесці да праблемаў з Расіяй і тэрытарыяльнаю цэласнасцю Украіны (Shevel, 2009). Праблема расійцаў (ды іншых мяншыняў) ва Украіне застаецца актуальнаю, і палітыкі маніпулююць гэтым перад нацыянальнымі выбарчымі кампаніямі. Палітычны разлік на рускамоўных (усход, поўдзень) часта прыводзіць да абяцанняў увесці падвойнае грамадзянства: напрыклад, Леанід Кучма казаў пра гэта ў 1994-м, а Віктар Януковіч – на сустрэчах з расійскімі медыямі і падчас выбарчай кампаніі.[8]

Кіроўная эліта лічыла ўкраінскую мову краевугольным камянём нацыянальнага будаўніцтва ды імкнулася да пашырэння яе выкарыстання. З 1991 г. украінская зрабілася афіцыйнаю мовай краіны. Пры гэтым на ўсходзе, асабліва ў Данецку, пераважнаю моваю зносінаў засталася руская, нягледзячы на тое, што яна не была ні афіцыйнаю, ні дзяржаўнаю.[9]

Тым не менш, украінская мова адчула падтрымку. Пра гэта сведчыць той факт, што праблема рускай мовы ігнаравалася доўга, хаця Леанід Кучма нарадзіўся ў расійскамоўным рэгіёне. Ратыфікацыя Еўрапейскай хартыі рэгіянальных моваў і моваў меншасцяў у траўні 2003 г. аднавіла дэбаты наконт моўнай палітыкі. Праз некалькі месяцаў, аднак, нацыянальныя тэлеканалы і радыё пачалі весці трансляцыю толькі па-ўкраінску (RFE/RL, 2004).

«Аранжавы» прэзідэнт, Віктар Юшчанка, працягнуў стратэгію прамоцыі ўкраінскай мовы ды імкнуўся падтрымаць яе статус як адзінай дзяржаўнай (Der Spiegel, 2009). У выніку «аранжавы» ўрад санкцыянаваў павышэнне ролі ўкраінскай мовы ў медыях і камерцыі. Адпаведную кампанію разгарнула Міністэрства культуры ў 2006 г., а з 2008-га кінафільмы дэманструюцца толькі на мове арыгіналу ці дублююцца паўкраінску. У расійскамоўных гарадах пачала ўзнікаць дзіўная сітуацыя, калі моўны фасад рабіўся ўкраінскім, але рэальная камунікацыя ажыццяўлялася на рускай мове (Babich, 2010).

Моцная падтрымка ўкраінскай мовы, асабліва падчас «аранжавага» перыяду, не знайшла водгуку і справакавала супрацьдзеянне ў рускамоўных рэгіёнах. Напрыклад, у траўні

8 У якасці прыкладу гл. Pavliva, 2004.

9 У адпаведнасці з перапісам 2001 г. (наступны плануецца ў 2012-м), 67,5 % насельніцтва Украіны лічаць украінскую сваёй роднаю моваю, 29,6 % назвалі роднаю рускую. У адпаведнасці з даследаваннямі грамадскай думкі Інстытуту сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны, украінскую мову выкарыстоўваюць у штодзённай камунікацыі 42 % сем'яў, рускую – 36 %, абедзве мовы – 21 % (Ukrainian Census, 2001).

2006 г. Данецкі абласны савет, у якім дамінавала Партыя рэгіёнаў, пайшоў за прыкладам Луганскага, Харкаўскага і Севастопальскага Саветаў (дзе таксама пераважалі прадстаўнікі гэтых партыяў) і зацвердзіў рэгіянальны статус рускай мовы (Varfolomeyev, 2006).

Дэбаты пра статус афіцыйнай мовы ўспыхнулі перад прэзідэнцкімі выбарамі ў кастрычніку 2004 г. і падчас парламенцкай кампаніі 2006-га. У выніку моўнае пытанне было выкарыстанае супраць ураду: на «захадзе» – супраць дамінавання рускай мовы ў медыях, на «ўсходзе» – супраць украінізацыі публічнага жыцця, адукацыі і дзяржаўных медыяў.

Так, Савет Данецку вырашыў у 2010 г. падтрымаць і пашырыць вывучэнне рускай мовы і літаратуры ў некаторых школах, што справакавала вялікую дыскусію, бо толькі пятая частка навучэнцаў Данецку наведвае ўкраінскамоўныя класы. Больш за тое, у верасні 2010 г. у парламент быў унесены праект Закону аб мовах, які прадугледжвае ўзмацненне пазіцыяў рускай мовы (Kolesnichenko, 2010). Увогуле, моўная палітыка была нестабільная і не вельмі практычная. Яна мала паўплывала на сітуацыю, пры якой украінская мова ёсць адзінаю дзяржаўнаю, але прыкладна палова «ўкраінцаў» у паўсядзённай камунікацыі аддаюць перавагу рускай мове (Bowring, 2009: 57). Прыведзены вышэй прыклад Данецку – гэта толькі адзін са шматлікіх, што пацвярджае канфліктны патэнцыял пытання.

Гістарыяграфія – гэта, магчыма, адна з самых вострых тэмаў, бо гістарычныя падзеі (перыяды) інтэрпрэтуюцца па-рознаму. Два прэзідэнты-цэнтрысты, якія кіравалі Украінаю да 2004 г., падтрымлівалі ды пашыралі ўвядзенне ўкраінафільскай гістарыяграфіі, хаця абодва былі бліжэйшыя да так званай усходнеславянскай школы. Пры пазітыўнай інтэрпрэтацыі гэта можна разглядаць як падтрымку ў імя пабудовы нацыі (Kasianov and Ther, 2009), пры негатыўнай – ацэньваць як двухсэнсоўнасць і нават апартунізм (Riabchuk, 2008). Афіцыйна прэзідэнты ідэнтыфікавалі сябе з дзяржаваю, міфамі, традыцыямі і сімваламі «старой» Украіны,[10] але практычная палітыка часта гаварыла на іншай мове. Асаблівасцю гэтай эпохі была двухвектарная стратэгія, якая ўраўнаважвала інтарэсы праз саступкі для абодвух бакоў. Вось як пра гэта выказаўся Мікола Рабчук: «*...Адсутнасць дакладнай прыналежнасці дэманстравала, што няма перадвызначанасці, усё магло стаць прадметам перагляду, і менавіта кіроўная эліта мусіла вырашыць, працягнуць незавершаны праект ці замяніць яго супрацьлеглым*» (Riabchuk, 2008).

Галадамор зрабіўся ўзорным прыкладам (Grynevych, 2008). З аднаго боку, голад быў уключаны ў школьныя падручнікі, і на памяць пра яго ўзвялі шэраг манументаў. З другога, «старая» эліта актыўна не ўдзельнічала ў адзначэнні 60-гадовай гадавіны Галадамору ў 1993 г. Праз дзесяць гадоў парламент абвясціў голад

10 Напрыклад, з традыцыяй Кіеўскай Русі (Kuzio, 2005b).

злачынствам супраць чалавечнасці, прэзідэнт Леанід Кучма падпісаў указ пра Дзень памяці ахвяраў (22 лістапада) і выступіў з прамоваю, у якой падкрэсліў важнасць падзеі. Тым не менш, часам гэтыя захады ўспрымаліся як апартуністычныя, бо былі зробленыя ва ўмовах скандалу (так званы Кучмагейт) і набліжэння выбараў. У рэгіёнах улады па-ранейшаму адмаўляліся браць актыўны ўдзел у адпаведных імпрэзах. Двухвектарная палітыка зрабілася відавочнаю, калі дзяржаўнае тэлебачанне не правяло трансляцыі адмысловай праграмы 22 лістапада. Апартуністычная практыка была падкрэсленая пастановаю парламенту, што абвяшчала голад злачынствам супраць украінскага народу. Гэтую пастанову падтрымалі 226 дэпутатаў з 450-ці – мінімальны пазітыўны вынік. Большасць урадавых фракцыяў, якія падтрымлівалі Кучму, устрымалася, пры гэтым грамадскасць добра ведала, што прэзідэнт мог актывізаваць дадатковыя галасы.

Віктар Юшчанка ў 2006 г. заснаваў Інстытут нацыянальнай памяці, каб падтрымаць даследаванні голаду. У тым самым годзе Служба бяспекі Украіны рассакрэціла больш як 5000 адпаведных дакументаў. Абранне Віктара Юшчанкі прэзідэнтам у студзені 2005-га ўзмацніла пазіцыі ўкраінафільскай школы разумення гісторыі, і палітык ажыццявіў шэраг захадаў, каб падкрэсліць сваю падтрымку ўкраінскай справы (Kuzio, 2006: 408; Riabchuk, 2008). Фактычна, гістарыяграфія і моўная палітыка былі прыярытэтамі ў прэзідэнцкім парадку дня. Ён актыўна падтрымліваў развіццё ўкраінскай мовы ў рэгіёнах, дзе дамінуе расійская культура, што супярэчыла намаганням апазіцыі зрабіць рускую мову другою дзяржаўнаю. Крытыкі называлі Юшчанку ўкраінскім нацыяналістам і абвінавачвалі ў антырасійскіх пачуццях.

Пакуль Віктар Януковіч і Партыя рэгіёнаў былі ў апазіцыі, яны ў значнай ступені ішлі за прыкладам Кучмы – дваістая пазіцыя ў нацыянальным пытанні ды пытанні ідэнтычнасці на ўкраінскім і міжнародным узроўні, але за межамі гэтага фасаду яны паводзілі сябе зусім паіншаму, каб прыцягнуць савецка- і расійска-арыентаванае насельніцтва. Апартуністычная пазіцыя змянілася пасля абрання Віктара Януковіча на пост прэзідэнта. Ён быў гатовы кінуць выклік дасягненням у сферы фармавання ўкраінскай нацыі. Найбольш вядомую заяву новы прэзідэнт зрабіў перад Парламенцкай Асамблеяй Рады Еўропы, калі ён адмовіўся разглядаць Галадамор у якасці праявы генацыду ўкраінскай нацыі. Януковіч таксама змяніў дырэктара Інстытуту нацыянальнай памяці, паставіўшы на гэтую пасаду сябра Камуністычнае партыі, які нават адмаўляе, што голад быў выкліканы наўмысна (Lozynskyj, 2010; RFE/RL, 2010).

Такі паварот можна назваць неасавецкім – заснаваным на ігнараванні важнасці нацыянальнае ідэнтычнасці. Ён закрануў усе нацыянальныя і культурныя аспекты дзяржавы, але найбольш істотна – інтэрпрэтацыю гісторыі ды выкарыстанне архіваў.

Напрыклад, гісторык, які ўзначальваў Львоўскі нацыянальны музей памяці ахвяраў акупацыйных рэжымаў, быў затрыманы ў сталіцы супрацоўнікамі дзяржаўнай бяспекі паводле абвінавачвання ў публікацыі сакрэтных матэрыялаў (Feduschak, 2010). Больш за тое, новы погляд на гісторыю распаўсюджваецца на шырэйшую аўдыторыю. З дапамогаю міністра адукацыі Дзмітрыя Табачніка ў навучальны працэс Украіны ў 2010 г. былі ўведзеныя новыя падручнікі гісторыі, якія не абмяркоўваліся са спецыялістамі. Новыя кнігі не кажуць пра папулярнасць украінскіх нацыяналістаў і не пазначаюць штучнай прыроды Галадамору. У іх адсутнічаюць згадкі пра перыяд, калі Украіна змагалася супраць Расіі, гэтаксама як і пра Аранжавую рэвалюцыю (Каплюк, 2010).

Новы прэзідэнт пачаў змяняць гістарыяграфію і моўную палітыку. Гэта актывізавала дыскусіі пра намер зрабіць расійскую мову другою дзяржаўнаю і, магчыма, ўвесці падвойнае грамадзянства. Такі падыход здольны кінуць сур'ёзны выклік сучаснаму тэрытарыяльнаму і этнічнаму разуменню дзяржавы. Ва Украіне прымяняецца вузкая канцэпцыя дзяржаўнай прыналежнасці, заснаваная на жорсткім тэрытарыяльным прынцыпе, які не прадугледжвае падвойнага грамадзянства. Такая палітыка, магчыма, выкліканая страхам перад вялікаю расійскаю меншасцю, якая можна стаць больш прыцягальнаю для Расіі пры наяўнасці легалізаваных расійскіх пашпартоў. Гэтая канцэпцыя ўкраінскага грамадзянства заўсёды ставілася пад пытанне шэраговымі ўкраінцамі (Popova, 2009). Тым не менш, такія «эмацыйныя» абмеркаванні, магчыма, ініцыяваныя толькі, каб палітызаваць нацыянальнае пытанне і адцягнуць увагу ад палітычных і сацыяльна-эканамічных праблемаў краіны.

## Падсумаванне

Ва ўкраінскім комплексе ідэнтычнасці гістарыяграфія была адным з найбольш важных элементаў. Вышэй, у якасці прыкладу, разглядаўся Галадамор, але таксама паказальным ёсць рознае ўспрыняцце Аранжавай рэвалюцыі ці УПА з боку Віктара Ючшанкі ды Віктара Януковіча. Пытанне грамадзянства і мовы вельмі актыўна абмяркоўвалася: у апошняе дзесяцігоддзе незалежнасці значна больш, чым у першае. Але на цяперашні момант афіцыйная палітыка практычна не змянілася: «адна краіна, адна мова, адзін пашпарт». У гістарыяграфіі Галадамор быў вырашальным момантам. Фактычна, гэта было самае спрэчнае пытанне ўкраінскай гісторыі, моцна прывязанае да камунізму, сталінізму і старой камуністычна-сацыялістычнай эліты, якая дагэтуль захоўвае ўладу ва Украіне. Гэтая эліта насцярожана ўспрымае крытычную рэфлексію наконт ідэалагічных асноваў сістэмы, што пагражала стварэнню нацыі, бо старыя каштоўнасці ды традыцыі кідалі выклік пабудове агульнанацыянальнага наратыву. Старая эліта ўяўляе сабой пагрозу для дзяржаўнага будаўніцтва, а вяртанне Канстытуцыі 1996 г. можа пры-

весці да аднаўлення аўтарытарнага стылю прыняцця рашэнняў.

Такім чынам, як прэзідэнты кіруюць краінаю? Цікавы і ў пэўнай ступені несуцяшальны вынік – першыя два прэзідэнты, якіх мы не можам назваць дэмакратамі, дасягнулі значна большага поспеху ў падтрымцы балансу ўкраінскіх і расійскіх элементаў, чым іх наступнікі. Яны спалучылі пабудову дзяржавы і стварэнне нацыі. Дэмакратычных вынікаў такая палітыка не мела, але ідэнтычнасць спалучалася з праблемаю дзяржавы. Як падаецца, быў дасягнуты кансенсус элітаў у збалансаванні праблемы самасвядомасці, гэта значыць спрыянні ўкраінскім інтэрпрэтацыям. Але напрыканцы 1990-х зрабілася відавочна, што гэты кансенсус быў апартуністычны і мог быць толькі часовым.

Пасля Аранжавай рэвалюцыі ідэнтычнасць была адлучаная ад дзяржавы. Гэта азначала, што расійска-арыентаваная частка краіны была пэўным чынам вымушаная рабіць выбар на карысць «украінскасці», пратэставаць ці хавацца ў сваіх рэгіёнах. Людзі, якім блізкія абедзве культуры, засталіся пасіўнымі. Цяпер ціск ідзе на ўкраінскую частку насельніцтва. Апошнія гады ўзмацнілі адчужэнне «ўкраінцаў» і «расійцаў».

Гэты аналіз паказвае, што праблемы нацыянальнага будаўніцтва створаныя элітамі ды маюць карані ў асобах прэзідэнтаў. Прыватны інтарэс і групавая варожасць – між нацыянал-дэмакратамі, цэнтрыстамі ды камуністамі – былі занадта моцныя, каб пераадолець іх за дваццаць гадоў. Сутыкненні адбываліся найперш у пытаннях ўлады, але праблемы ідэнтычнасці былі таксама вельмі значныя, асабліва «падыходы» да Галадамору. Супрацьстаянне элітаў, накіраванае раней «толькі» на дзяржаўнае будаўніцтва (у прыватнасці канстытуцыю), пачынае цяпер закранаць праблему ідэнтычнасці. У пытанні палітычнай сістэмы і канстытуцыі ніколі не існавала кансенсусу эліты, але падчас кіравання Кучмы і Краўчука была згода наконт украінскай ідэнтычнасці (хаця, магчыма, і апартуністычная). Але з 2004 г. пачалася палярызацыя нацыянальнай праблематыкі, і гэта відавочна паставіла пад сумнеў былы «ўкраінскі кансенсус» у пытанні нацыі.

Пры Януковічу сутыкненне элітаў зноў закранула пытанне нацыі, а нацыятварэнне вярнулася на парадак дня. Палітыка новага прэзідэнта паставіла пад пытанне ўкраінафільскае разуменне, якога прытрымліваліся першыя тры прэзідэнты. Але праблема ідзе глыбей. Фактам ёсць тое, што расійская традыцыя і наратывы (і ўсходняя «расійская» свядомасць) суіснуюць з традыцыямі і наратывамі, якія можна характарызаваць як больш «заходнія», «украінскія» ці звязаныя з «украінскім нацыяналізмам». Шмат было напісана пра тое, ці існуе ва Украіне падзел на Захад і Усход, але відавочна, што абедзве мовы ёсць актуальнымі і маюць моцную рэгіянальную аснову.

Дзейны прэзідэнт можа паставіць пад пытанне дасягненні дваццацігадовага працэсу афармлення нацыі, і варта памятаць, што ён паставіў

гэты працэс пад сумнеў адразу пасля Аранжавай рэвалюцыі. Але чаму ён можа паводзіцца такім дзіўным чынам? Гэта балючае пытанне: атрымоўваецца, нават тры прэзідэнты не здолелі аб'яднаць нацыю і забяспечыць агульную нацыянальную ідэнтычнасць. Першыя два праводзілі ўкраінскаарыентаваную палітыку з палітычных, трэці – з «эгаістычных» меркаванняў. І ўсе яны не дасягнулі поспеху ў сваіх нацыятворчых намаганнях. Якія наступствы будзе мець новая палітыка? Ці будуць праігнараваныя намаганні перабудаваць нацыю? Ці здольныя яны раскалоць нацыю?

Насамрэч сітуацыя ва Украіне нагадвае прыклад Бельгіі, дзе ідзе вельмі падобнае супрацьстаянне ў эканамічных і моўна-культурных пытаннях. У Бельгіі магчымы раскол дзяржавы, ва Украіне гэта зараз не так актуальна. У 2004 г. украінцы выбралі кірунак развіцця краіны: іхныя пратэсты паказалі, што яны не будуць цярпець аўтарытарнага прэзідэнта і крывадушнай палітыкі. Януковіч, які спрабаваў маніпуляваць вынікамі, у той момант не змог перамагчы ў выніку масавых пратэстаў. Ён ведаў, што людзі не будуць цярпець празмернасці ў дзяржаўных і нацыянальных пытаннях. Зімовыя пратэсты 2010 г. з нагоды новага падатковага кодэксу сталіся папярэджаннем: тое, што адбылося ў сферы дзяржаўнага будаўніцтва, можа паўтарыцца ў звязку з праблемаю нацыі.

*Пераклад з ангельскай мовы з аўтарскага арыгіналу*

**Літаратура**


1. Babich, D. (2010). «No Russian in the Land of Potemkin», *Russia Now*, 4.08.2010, URL (consulted 30.11.2010) http://rbth.ru/articles/2010/08/04/no_russian_land_potemkin.html.
2. Bowring, B (2009). «Language policy in Ukraine: international standards and obligations», in Juliane Besters-Dilger (ed.), *Language Policy and Language Situation in Ukraine: Analysis and Recommendations*. Frankfurt am Main: Peter Lang Publishing: 57–100.
3. «Communist Ukrainian Institute Head Denies Famine was Deliberate» (2010), RFE/RL 29.07.2010, URL (consulted 5.11.2010). http://www.rferl.org/content/CommunistUkrainian_Institute_Head_Denies_Famine_Was_Deliberate/2112870.html.
4. Constitution (1996). URL http://www.rada.gov.ua/const/conengl.htm.
5. Feduschak, N.A. (2010). «Harassment of Historian Raises Censorship Fears», *KyivPost*, 16.09.2010.
6. Gallina, N. (2008). «The Impact of Political Elite Conduct on State Reform: The Case of Ukraine», *CEU Political Science Journal*, № 3 (2): 183–200.
7. Grynevych, L. (2008). «The Present State of Ukrainian Historiography on the Holodomor and Prospects for its Development», *The Harriman Review*, № 16 (2).
8. Guboglo, M.N (1996). «The Disintegration and Synthesis of Identity in Post-Soviet Space and Time (The Case of Ukraine)», *The Harriman Review*, № 9.
9. Kasianov, G., Ther, G. (2009). *Laboratory of Transnatinonal History: Ukraine and Recent*

*Ukrainian Historiography*. Budapest: Central European University Press.
10. Kolesnichenko, V. (2010) «Governing Coalition Submitted Draft Law on Languages to Verkhovna Rada», URL (consulted 5.11.2010) http://r-u.org.ua/en/news/52-news.html.
11. Kuzio, T. (1998). *Ukraine: State and Nation-building*. London: Routledge.
12. Kuzio, T. (1999). «Nation-Building in Ukraine: A Growing Elite Consensus», *Wodrow Wilson Center Events*, 09.11.1999, URL (consulted 30.10.2010) http://www.wilsoncenter.org/index.cfm?event_id=3835 &fuseaction=events.event_summary.
13. Kuzio, T. (2002). «Nationalism in Ukraine: Towards a New Theoretical and Comparative Framework», *Journal of Political Ideologies,* № 7 (2): 133–161.
14. Kuzio, T. (2004). «Ukraine Celebrates its Last Independence Day under Kuchma», *Eurasia Daily Monitor*, 29.08.2004, URL (consulted 10.08.2010) http://www.jamestown.org/programs/edm/single/? tx_ttnews%5Btt_news%5D=26775&tx_ttnews%5BbackPid%5D=175&no_cache=1.
15. Kuzio, T. (2005a). «New Data Crates Demographic Profile of Ukrainian Revolutionaries, Voters», *Eurasia Daily Monitor*, 10.08.2005, URL (consulted 4.11.2010) http://www.jamestown.org/single/?no_cache =1&tx_ttnews%5Btt_news%5D=30768.
16. Kuzio, T. (2005b). «Nation-State-building and the Re-Writing of History in Ukraine: The Legacy of Kyiv Rus», *Nationalities Papers*, № 33 (1): 30–58.
17. Kuzio, T. (2006). «National Identity and History Writing in Ukraine», *Nationalities Papers*, № 34 (3): 407–427.
18. Kuzio, T. (2010). «The President's Independence Day Speech Reveals what Ukraine is Being Built», *KyivPost*, 06.09.2010.
19. «Kyiv Imposes Controversial Ban on Russian-Language Broadcasts» (2004), RFE/RL 16.04.2004. URL (consulted 5.11. 2010) http://www.rferl.org/content/article/1052346.html.
20. Levitsky, S., Way, L.A. (2002). «Elections without Democracy. The Rise of Competitive Authoritarianism», *Journal of Democracy*, № 13 (2): 51–65.
21. Lozynskyj, A.S. (2010). «Yanukovych's Personal War against the Holodomor», *KyivPost*, 2.11.2010.
22. *Nations in Transit*. URL http://www.freedomhouse.org/template.cfm?page=17.
23. Pavliva, H. (2004). «Ukrainian Supreme Court Agrees to Probe Vote Rusult», *Bloomberg*, 25.11.2004, URL (consulted 30.10.2010) http://www.bloomberg.com/apps/news?pid=newsarchive&sid=amDoEiWf.hhg&refer=europe.
24. Popova, Y. (2009). «Dual Identities», *KyivPost*, 09.07.2009.
25. Riabchuk, M. (2008). «Holodomor: The Politics of Memory and Political Infighting in Contemporary Ukraine», *Harriman Review*, № 16 (2).
26. Schöpflin, G. (2000). *Nations, Identity, Power. The New Politics of Europe*. London: Hurst&Company.
27. Shevel, O. (2009). «The Policy of Citizenship Policy in New States», *Comparative Politics*, № 41 (3): 273–291.
28. Smith, A.D. (1991). *National Identity*. London: Penguin.
29. «The Problems Began After the Orange Revolution (Interview with Viktor Yushchenko)» (2009), *Der Spiegel*, 9.07.2009, URL (consulted 3.11.2010) http://www.spiegel.de/international/world/0,1518,647401,00.html.
30. Tilly, C. (1975). «Western-State Making and Theories of Political Transformation», in Charles Tilly (ed.), *The Formation of National States in Western Europe*. Princeton: Princeton University Press: 601–638.
31. Ukrainian Census (2001). URL (consulted 04.11.2010) http://2001.ukrcensus.gov.ua/results/nationality_population/graphic#m4.
32. Varfolomeyev, O. (2006). «Inconsistent Language Policy Creates Problems in Ukraine»,

*Eurasian Daily Monitor*, 24.05.2006, URL (consulted 10.11.2010) http://www.jamestown.org/single/?no_cache=1&tx_ ttnews%5Btt_news%5D=31707.
33. Wanner, C. (1998). *Burden of Dreams. History and Identity in Post-Soviet Ukraine*. University Park. Penns.: Pennsylvania State University Press.
34. Wilson, A. (1997). «Myths of National History in Belarus and Ukraine», in Geoffrey Hosking and George Schöpflin (eds.), *Myths and Nationhood*. London: Routledge: 182–197.
35. Wolchik, S.L., Zviglyanich, V. (1999). *Ukraine: The Search for a National Identity*. Lanham: Rowman and Littlefield.
36. Wolczuk, K. (2001). *The Moulding of Ukraine: The Constitutional Process of State Formation*. Budapest: Central European University Press.
37. Бондаренко, К. (2007). *Леонід Кучма: портрет на фоні епохи*. Харків: Folio.
38. Каплюк, К. (2010). «Переписана історія України. Версія епохи Дмитра Табачника», *Українська правда*, 26.08.2010, URL (доступ 10.11.2010) http://www.pravda.com.ua/articles/ 12010/08/26/5332444/.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Андрэй Казакевіч

# Беларускі парламент эпохі незалежнасці: эвалюцыя дэпутацкага корпусу, 1990–2010 гады[1]

Гісторыя адносінаў паміж рэальнаю палітыкай і фармальнымі інстытутамі ёсць істотнаю тэмаю палітычных даследаванняў, асабліва пасля разрыву палітычнай навукі з нарматыўным падыходам, што сфармавала праблематыку і метады палітычнай навукі ў сучасным выглядзе (Easton, 1997: 13–14). Вывучэнне гэтых адносінаў дазваляе адсочваць міграцыю цэнтраў улады, а гэты працэс не заўсёды просты для назірання і фіксацыі.

Часам эвалюцыя першага і другога можа адбывацца ўзгоднена, у іншых выпадках дастаткова аўтаномна, калі фармальна інстытуты застаюцца стабільнымі, але іх рэальнае значэнне істотна мяняецца. Прыкладам тут можа быць савецкая сістэма, дзе развіццё структуры і нарматыўная арганізацыя прадстаўнічых органаў (саветаў) зыходзіла з ідэалагічных імператываў і была вельмі мала звязаная з рэальнаю палітычнаю практыкаю і цэнтрамі ўлады. Добры прыклад адваротнае логікі – апошнія гады савецкай сістэмы, калі распад звыклых цэнтраў улады (Камуністычнае партыі) прымусіў напаўняць фармальныя функцыі прадстаўнічых органаў рэальнымі паўнамоцтвамі ці ствараць цалкам новыя органы на аснове нарматыўных актаў і, такім чынам, перабудоўваць ландшафт рэальнай палітыкі. Поўнага супадзення між фармальнаю і рэальнаю структурамі, натуральна, не бывае, але звычайна супадзенне ў дэмакратычных сістэмах большае, чым у аўтарытарных.

Беларускі парламент перыяду незалежнасці – добры прыклад радыкальнай «міграцыі ўлады» ў палітычных інстытутах.[2] Эпоха пар-

[1] Частку звестак (галоўным чынам па ПП III-IV), якія выкарыстоўваліся пра напісанні артыкулу, склалі вынікі даследавання «Беларуская эліта. Структура і тэндэнцыі», праведзенага Інстытутам палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» і Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў. Больш падрабязна гл.: http://palityka.org/wp-content/uploads/2010/04/elites.pdf. Асабліва хачу падзякаваць Андрэю Асадчаму за дапамогу ў апрацоўцы дадатковых матэрыялаў.

ламенцкай дэмакратыі 1990–1994 гг. завяршылася палітычным крызісам 1994–1996 гг. і афармленнем аўтарытарнага ладу. Новая палітычная сістэма ў 1997–2000 гг. перажыла перыяд стабілізацыі ды набыла ўласцівасці кансалідаванага аўтарытарызму пасля 2000–2001 гг. У такіх умовах беларускі парламент перажыў эвалюцыю ад цэнтральнага інстытуту ўлады да дапаможнага і збольшага перыферыйнага органу з недакладнаю палітычнаю роляю.

Радыкальнасць і насычанасць зменаў палітычнай ролі парламенту цяжка параўнаць з гісторыяй нейкага іншага органу Рэспублікі Беларусь. Акрамя пазначанага вышэй, варта падкрэсліць, што парламент – адна з нешматлікіх структураў, для якой пераемнасць з савецкім мінулым разарваная на афіцыйным узроўні. Як вядома, практычна ўсе дзяржаўныя органы (акрамя, натуральна, утвораных ex nihilo у перыяд незалежнасці) выводзяць сваю генеалогію з савецкіх інстытуцыяў: урад, міністэрствы, мясцовыя саветы, агульныя і гаспадарчыя суды, пракуратура, прафсаюзы і г. д. Парламент выступае выключэннем. Нацыянальны сход не ёсць праваператмнікам традыцыі Вярхоўных Саветаў БССР і Рэспублікі Беларусь, якая перарвалася ў 1996 г.[3]

Падзенне палітычнага значэння парламенту не выклікае сумневу, хаця паслядоўна адмаўляецца большасцю прадстаўнікоў афіцыйнай акадэмічнай сферы і тым больш дзяржаўнымі чыноўнікамі ды аналітыкамі (гл., напрыклад, Криштапович и Козляков, 2010). Палітычную вагу парламенту можна лічыць дастаткова надзейным індыкатарам узроўню развіцця дэмакратыі, і Беларусь тут выступае добрым прыкладам. У прыватнасці, разлік індэксу паўнамоцтваў парламенту (Parliamentary Powers Index), які робіцца пераважна на падставе аналізу фармальных паўнамоцтваў заканадаўчага органу, паказвае выразную карэляцыю паміж сілаю парламенту і ўзроўнем свабоды паводле версіі «Freedom House» (Fish, 2006: 10). Па выніках пазначанага даследавання, індэкс улады парламенту ў Беларусі аказаўся самым нізкім сярод усіх посткамуністычных краінаў, пры гэтым дастаткова блізкія паказнікі маюць Узбекістан і Казахстан.

2 У гэтым артыкуле пад парламентам мы разумеем найвышэйшы прадстаўнічы орган, які абіраецца насельніцтвам. Такім чынам, Савет Рэспублікі, правілы фармавання, склад і палітычны статус якога цалкам адрозныя ад Палаты прадстаўнікоў, застаецца па-за нашай увагаю.

3 Праўда, пры гэтым гісторыя «парламентарызму» на афіцыйным сайце Палаты прадстаўнікоў усё адно выводзіцца з савецкага часу. Пра існаванне выбарных органаў да 1919 г. (прыняцце канстытуцыі Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь) проста не згадваецца (История…). Але, напрыклад, прэзентацыйнае выданне Палаты прадстаўнікоў прапаноўвае зусім іншую гісторыю: «Крыніцы беларускага парламентарызму ў Полацкім вечы, сеймах Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, Дзяржаўнай думе Расіі. У савецкі час народнае прадстаўніцтва ажыццяўлялася праз правядзенне ўсебеларускіх з’ездаў Саветаў, скліканне Вярхоўнага Савету Беларускай ССР» (Палата представителей, 2006: 11).

Зніжэнне палітычнай вагі фіксуецца на ўзроўні аналізу нарматыўных актаў, а таксама бягучай аналітыкі. Але гэта не здымае праблемы ацэнкі рэальнага значэння парламенту ў палітычнай сістэме, што не заўсёды адлюстроўваецца ў нарматыўных актах. Мэта артыкулу – прасачыць палітычныя функцыі ды значэнне беларускага парламенту праз аналіз складу дэпутацкага корпусу і яго эвалюцыю цягам апошніх двух дзесяцігоддзяў.

## I. Метады і крыніцы

Пры даследаванні нефармальнага боку палітычных інстытутаў заўсёды існуе небяспека звесці развагі да спекуляцыі на аснове дамінантных меркаванняў, уласнага досведу, папулярных канцэпцыяў і асобных эпізодаў. Адзін са шляхоў пазбягання гэтага – колькасны аналіз, які дазволіў бы перавесці абмеркаванне ў рэчышча, бліжэйшае да палітычных практыкаў. Мы зыходзім з таго, што разгляд складу парламенцкага корпусу паводле пэўных параметраў можа ў значнай ступені вырашыць гэтую задачу.

На жаль, большасць папярэдніх даследаванняў не дае падрабязнага аналізу дэпутацкага корпусу, асабліва ў гістарычнай перспектыве, і часта ўтрымлівае фрагментаваныя звесткі (Натчык, 2005a; Натчык, 2005b; Зелімханаў, 2005), не дастатковыя для падрабязнага аналізу складу дэпутацкага корпусу.

За аснову аналізу быў узяты поўны склад дэпутацкага корпусу Вярхоўнага Савету XII (1990–1995) і XIII (1995–1996) скліканняў, а таксама Палаты прадстаўнікоў I (1996–2000), II (2000–2004), III (2004–2008) і IV (2008 – дагэтуль) скліканняў. Біяграфічныя звесткі дэпутатаў ВС XII склікання браліся з публікацыяў у абласной прэсе, што адлюстроўвалі хаду выбарчай кампаніі 1990 г., а таксама са спецыяльнага зборніку (Народныя дэпутаты, 1992). Звесткі пра дэпутатаў ВС XIII склікання браліся з нацыянальнай і рэгіянальнай прэсы за 1995 г. На жаль, да свайго роспуску ВС XIII склікання не паспеў выдаць біяграфічнага даведніку. Звесткі пра дэпутатаў ПП I склікання браліся са зборніку (Парламент, 1997), пра ПП II–IV скліканняў – з афіцыйнага сайту Палаты прадстаўнікоў (www.house.gov.by). У якасці дадатковых крыніцаў выкарыстоўваліся наступныя выданні (Кто есть кто.., 1999a; Кто есть кто.., 1999b; Кто есть кто.., 2001; Парламент, 2003; Палата представителей, 2006), а таксама агульныя звесткі пра дэпутацкі корпус у выданнях Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў (Выборы депутатов, 2005).

Для больш глыбокага гістарычнага параўнання выкарыстоўваюцца звесткі пра склад Вярхоўнага Савету БССР X (1980–1985) і XI (1985–1990) скліканняў. У гэтым выпадку самастойныя падлікі не праводзіліся, а для аналізу выкарыстоўвалася толькі афіцыйная статыстычная інфармацыя (Дэпутаты, 1981: 5; Дэпутаты, 1985: 3–4). Інфармацыя пра палітычны лёс дэпутатаў пасля завяршэння паўнамоцтваў атрыманая з дапамогаю стандартнай электроннай базы

нарматыўных актаў Нацыянальнага цэнтру прававой інфармацыі (НЦПІ). У працэсе даследавання правяралася, ці фіксуюцца прозвішчы дэпутатаў у нарматыўных актах пасля абрання ў парламент і да верасня 2010 г. У якасці асноўнай крыніцы звестак пра колькасны склад дэпутацкіх групаў ПП II выкарыстаны (Красуцкий, 2006: 165), фракцыяў ВС XII і XIII (Тележников и др., 1998: 61, 67–68), пры гэтым інфармацыя ўдакладнялася.

Для даследавання эвалюцыі складу дэпутацкага корпусу былі выбраныя наступныя параметры: 1) сацыяльна-дэмаграфічныя характарыстыкі: узрост, пол, адукацыя; 2) прыналежнасць да калектыўных структураў: палітычныя партыі, дэпутацкія групы; 3) палітычны лёс дэпутата пасля абрання і пасля завяршэння паўнамоцтваў.

Аналіз сацыяльна-дэмаграфічных параметраў накіраваны, галоўным чынам, на выяўленне ролі прадстаўнічага органу ў сацыялізацыі ды вертыкальнай мабільнасці, а таксама на ацэнку ўключэння розных дэмаграфічных групаў. Вывучэнне партыйнай і фракцыйнай прыналежнасці мусіць выявіць палітычную арганізаванасць дэпутатаў ды іхную ўцягнутасць у калектыўныя дзеянні. Прасочванне палітычнага лёсу дазваляе паказаць, у якой ступені парламент выступае прыступкаю да новых высокіх палітычных і дзяржаўных пасадаў.

## II. Кароткая інфармацыя пра эвалюцыю парламенту

З 1990 г. у Беларусі адбылося пяць выбараў і адна працэдура прызначэння ў найвышэйшы прадстаўнічы орган. Такім чынам, мы маем шэсць складаў парламенту, кожны з якіх можна аналізаваць як асобную цікавую групу. Акрамя гэтага развіццё беларускага парламентарызму мела пэўную пераемнасць з савецкімі прадстаўнічымі інстытутамі, асабліва гэта датычыць ВС XII склікання.

***Позні савецкі перыяд (1980–1990).*** Фармальна Саветы былі асноўнаю крыніцай улады ў СССР і БССР.[1] Савецкая дзяржава адмаўляла тэорыю падзелу ўлады: палітычная ўлада лічылася непадзельнаю і мусіла належаць Саветам. Аднак гэты прынцып ніколі цалкам не выконваўся, тым больш у позні савецкі перыяд, калі палітычнае дамінаванне Камуністычнай партыі было інстытуцыялізаванаю і беспярэчнаю практыкаю. Але фармальны статус саветаў не змяніўся, і ва ўмовах палітычнага крызісу 1990–1991 гг. адбылося «вяртанне» функцыяў, а фармальная сістэма пачала адпавядаць рэальнай.

Натуральна, выбары ў савецкай сістэме былі выключна фармальнаю працэдураю, якая не прадугледжвала рэальнага волевыяўлення гра-

[4] Напрыклад, арт. 2 Канстытуцыі Беларускай ССР 1978 г. пазначаў: *«Уся ўлада ў Беларускай ССР належыць народу. Народ ажыццяўляе дзяржаўную ўладу праз Саветы народных дэпутатаў, якія складаюць палітычную аснову Беларускай ССР. Усе іншыя дзяржаўныя органы з'яўляюцца падкантрольнымі і падсправаздачнымі Саветам народных дэпутатаў»* (Канстытуцыя, 1978).

мадзянаў. Але нельга сказаць, што парламент не меў значэння з пункту гледжання прадстаўніцтва. Прынамсі, у яго склад паслядоўна ўваходзіла кіраўніцтва КПБ ды іншых дзяржаўных органаў. З цягам часу савецкая палітычная практыка выпрацавала дакладныя квоты прадстаўніцтва розных сацыяльных групаў у Вярхоўным Савеце. Квоты ад агульнай колькасці 485 дэпутатаў фармаваліся ў адпаведнасці з прынцыпам «сацыяльнай і нацыянальнай роўнасці кадравай палітыкі». Таму Вярхоўны Савет быў своеасаблівай мадэллю грамадства БССР з асаблівым ухілам на прадстаўніцтва працоўных.

***Вярхоўны Савет XII склікання (1990–1995).*** Вярхоўны Савет XII склікання быў абраны ў выніку адносна дэмакратычных альтэрнатыўных выбараў 1990 г., пры гэтым 310 дэпутатаў з яго складу абірала насельніцтва, а 50 праходзілі паводле фіксаваных квотаў ад грамадскіх арганізацыяў. Выбары адбываліся пры актыўным удзеле грамадзянаў, але ў выніку складанасці працэдуры ў многіх акругах праходзілі неаднаразовыя давыбары. У парламенце ўтварыліся дэпутацкія групы, якія ахоплівалі большасць парламентарыяў, але палітычная структура заставалася аморфнаю, а дакладная палітычная прыналежнасць значнай часткі – няпэўнаю. Пасля распаду камуністычнай сістэмы ў 1991 г. Вярхоўны Савет зрабіўся цэнтрам палітычнага жыцця і асноўным органам улады, а таксама істотнаю крыніцаю папаўнення палітычнай эліты кадрамі, не звязанымі з камуністычнаю наменклатураю. У 1994 г. ВС прыняў Канстытуцыю, у адпаведнасці з якой уводзілася пасада прэзідэнта.

***Вярхоўны Савет XIII склікання (1995–1996).*** Выбары ў Вярхоўны Савет XIII склікання лічацца самаю дэмакратычнаю парламенцкаю кампаніяй у сучаснай гісторыі Беларусі, хоць яны праходзілі ва ўмовах супрацьстаяння прэзідэнта і парламенту, а таксама неактыўнага ўдзелу выбарцаў. З гэтай прычыны паўнамоцны склад парламенту быў абраны толькі ў выніку давыбараў у самым канцы 1995 г. Усяго было абрана 199 з 260 дэпутатаў (76,5 %). Большасць акругаў, дзе дэпутаты не былі абраныя, месціліся ў буйных гарадах, таму ў парламенце дамінавалі прадстаўнікі камуністаў і аграрыяў. Пры гэтым прадстаўнікі прэзідэнта ў новым парламенце не змаглі атрымаць дамінантных пазіцыяў, і супрацьстаянне заканадаўчай і выканаўчай улады працягнулася да канца 1996 г., калі ВС XIII склікання быў распушчаны.

***Палата прадстаўнікоў I склікання (1996–2000).*** Першы склад Палаты прадстаўнікоў быў прызначаны прэзідэнтам праз адвольны адбор 110 чалавек са складу ВС XIII, пры гэтым паўнамоцтвы рэшты дэпутатаў быліануляваныя. Нягледзячы на тое, што значную частку дэпутацкага корпусу складалі прадстаўнікі партыяў, ПП I не праяўляла асаблівай палітычнай актыўнасці. Палата з самага пачатку мела праблемы з легітымнасцю і паўнатою палітычных функцыяў, а яе дзейнасць была першым этапам убудоўвання парламенту ў аўтарытарную сістэму.

***Палата прадстаўнікоў II склікання (2000–2004).*** Палата прадстаўнікоў II склікання была першаю абранаю ва ўмовах аўтарытарнай сістэмы. Выбары праходзілі ў сітуацыі байкоту з боку апазіцыі і дастаткова нізкага ўдзелу выбарцаў. Гэтыя выбары сярод іншага былі цікавыя праявамі ў асобных акругах канкурэнцыі за дэпутацкі мандат між прадстаўнікамі дзяржаўных структураў, але ў далейшым такая практыка спынілася. Таксама ў парламент дапусцілі шэраг дэпутатаў, якія пазіцыянаваліся як палітычная апазіцыя. У самім парламенце ўтварыліся дэпутацкія групы, у тым ліку і паводле палітычнага прынцыпу. Больш за тое, адна са створаных дэпутацкіх групаў – «Рэспубліка» – выступіла з апазіцыйных пазіцыяў. Усё гэта сведчыць пра пераходны характар ПП II, у якой яшчэ назіраліся спробы актыўнай палітычнай дзейнасці ды нават апазіцыйнасці.

***Палата прадстаўнікоў III і IV скліканняў (2004–2008, 2008 – да гэтага часу).*** Апошнія два склады Палаты прадстаўнікоў абіраліся ва ўмовах кансалідаванага аўтарытарнага рэжыму. Выбары праходзілі пры адносна высокім удзеле выбарцаў, але пры гэтым выніку выбараў паслядоўна мадэляваліся. Усе дэпутаты прадстаўлялі ўладу, перад выбарамі іх кандыдатуры ўзгадняліся ў выканаўчых структурах. У парламенце адсутнічаюць прадстаўнікі апазіцыі, таксама не вядзецца публічная і калектыўная палітычная дзейнасць.

## III. Дэпутацкі корпус: эвалюцыя сацыяльна-дэмаграфічнага складу

Як адзначалася вышэй, мэта артыкулу – прасачыць палітычныя функцыі ды значэнне беларускага парламенту праз аналіз складу дэпутацкага корпусу і яго эвалюцыю цягам апошніх двух дзесяцігоддзяў. У якасці першага блоку аналізу выбраны разгляд сацыяльна-дэмаграфічных параметраў дзеля выяўлення ролі прадстаўнічага органу ў сацыялізацыі ды вертыкальнай мабільнасці, а таксама дзеля ацэнкі ўключэння розных дэмаграфічных групаў. Аналіз засноўваецца на наступных параметрах: узрост, адукацыя і жаночае прадстаўніцтва.

***Узроставая структура.*** Для правядзення параўнальнага аналізу розных складаў парламенту мы вылучылі наступныя ўзроставыя групы: 1) асобы, маладзейшыя за 31 год; 2) 31–40 гадоў; 3) 41–50 гадоў; 4) 51–60 гадоў і 5) асобы, старэйшыя за 60 гадоў. Узрост вызначаўся на момант выбараў, гэта значыць на момант атрымання дэпутацкага мандату.[5] Істотныя адрозненні ў прадстаўніцтве розных групаў могуць сведчыць пра змену правілаў рэпрэзентацыі сацыяльных колаў. Напрыклад, прысутнасць значнай колькасці «моладзі» можа сведчыць пра функцыю палітычнай сацыялізацыі, «сярэдні ўзрост» – пра палітычную значнасць парламенту, вялікае прадстаўніцтва

[5] У звязку з тым, што вядомая дата нараджэння далёка не ўсіх дэпутатаў, узрост пры заняцці дэпутацкае пасады разлічваўся паводле формулы: год выбараў – год нараджэння = узрост.

«сталых» людзей гаворыць пра ролю парламенту ў завяршэнні кар’еры ці ў якасці ганаровай пенсіі.

*Моладзь да 31 года* мала прадстаўленая ў беларускім парламенце. Як падаецца, гэтая група ёсць найменш палітычна значнаю і ўключае недасведчаных дэпутатаў. Пры гэтым у савецкі перыяд мадэляванне складу парламенту рэзервавала за моладдзю дастаткова шырокае прадстаўніцтва, якое ў 1980-х складала каля 20%. Дакладней, 18,4 % у ВС X і 18,8 % у ВС XI, такім чынам, савецкая мадэль разглядала моладзь як важны сацыяльны элемент (гл. табл. 1). Сітуацыя палітычнай канкурэнцыі на выбарах 1990 г. прывяла да знікнення «маладзёвай» квоты і значнага скарачэння прадстаўніцтва: толькі 3,5 % дэпутацкага корпусу склалі людзі, маладзейшыя за 31 год. Адносна дэмакратычныя выбары 1995 г. прыводзяць да яшчэ большага зніжэння – 2 %.

Усталяванне аўтарытарнага рэжыму прывяло да поўнага знікнення з парламенту «моладзі» як групы. У Палаце прадстаўнікоў I склікання (1996–2000) дэпутаты, маладзейшыя за 31 год, не былі прадстаўленыя зусім, па выніках выбараў 2000, 2004 і 2008 гг. з паказальнаю паслядоўнасцю абіраўся толькі адзін такі дэпутат, што можа сведчыць пра наяўнасць нефармальнай квоты прадстаўніцтва.[6] Такім чынам, гэтая ўзроставая група, добра рэпрэзентаваная ў савецкія часы, значна скарацілася па выніках адно-

**Табліца 1. Эвалюцыя ўзроставай структуры дэпутацкага корпусу, 1980–2008 гг.** [7]

| | **ВС X** 1980–1985 | **ВС XI** 1985–1990 | **ВС XII** 1990–1995 | **ВС XIII** 1995–1996 | **ПП I** 1996–2000 | **ПП II** 2000–2004 | **ПП III** 2004–2008 | **ПП IV** 2008 – дагэтуль |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Да 31 | 18,4 | 18,76 | 3,54 | 2,0 | 0 | 0,91 | 0,91 | 0,91 |
| 31–40 | Няма статыстыкі | Няма статыстыкі | 22,42 | 20,6 | 15,5 | 19,1 | 3,64 | 4,55 |
| 41–50 | Няма статыстыкі | Няма статыстыкі | 43,36 | 52,3 | 52,7 | 47,3 | 40,91 | 25,5 |
| 51–60 | Няма статыстыкі | Няма статыстыкі | 21,83 | 21,6 | 26,4 | 27,3 | 49,09 | 61,8 |
| Больш за 60 | Няма статыстыкі | Няма статыстыкі | 8,85 | 3,5 | 5,45 | 5,45 | 5,45 | 6,36 |

6 Паводле гэтай «квоты» заўсёды праходзілі маладыя функцыянеры БПСМ/БРСМ. У 2000 г. – кіраўнік БПСМ Усевалад Янчэўскі (2000–2004). У 2004-м – Іна Барыева (2004–2008), начальніца аддзелу па справах моладзі Мінскага абласнога выканаўчага камітэту, раней чалец камітэту БПСМ у Мядзельскім раёне. У 2008 г. – Інэса Кляшчук, функцыянер Слуцкага раённага камітэту БРСМ. На момант абрання дэпутаты мелі 24, 29 і 30 гадоў адпаведна. З іх «палітыкам» можна назваць толькі Янчэўскага. Для апошняга, як падаецца, дэпутацтва не зрабілася кар’ернаю прыступкаю. Сышоўшы падчас тэрміну ў парламенце з пасады кіраўніка БПСМ/БРСМ, Янчэўскі зазнаў паразу на выбарах у 2004-м, што можна лічыць выразнаю прыкметаю апалы. Ягоная кар’ера ў Адміністрацыі прэзідэнта працягнулася пасля пэўнай паўзы.

7 Тут і далей у табліцах шэрым колерам вылучаныя калонкі з інфармацыяй пра савецкі перыяд.

сна дэмакратычных выбараў і цалкам знікла з усталяваннем аўтарытарнага рэжыму.

*Узроставая група ад 31 да 40 гадоў* гіпатэтычна ўключае дэпутатаў, якія толькі пачынаюць (палітычную) кар'еру, не маюць вялікага досведу і дасягненняў, але актыўна да іх імкнуцца. Вялікае прадстаўніцтва гэтае групы можа сведчыць пра тое, што пэўны орган служыць трамплінам для кар'еры і мусіць адкрываць адпаведныя каналы вертыкальнае мабільнасці. Па выніках адносна дэмакратычных выбараў 1990 г. дэпутаты гэтай узроставай групы склалі дастаткова значную частку – 22,4 %, яны гралі істотную ролю ў публічнай палітыцы, у тым ліку і ў камандзе будучага прэзідэнта. Шмат хто з іх да гэтага часу займае значныя пасады. Выбары 1995 г. паказалі прыкладна такі ж вынік – 20,6 %, і зноў адпаведныя дэпутаты былі вельмі актыўныя.

Па выніках прызначэння 1996 г. прадстаўніцтва групы крыху скарацілася – да 15,5 %, хаця засталося значным. Усталяванне аўтарытарнага рэжыму напачатку нават прывяло да росту прадстаўніцтва дэпутатаў ва ўзросце ад 31 да 40 гадоў – да 19,1 % па выніках выбараў 2000 г. Але пасля адбыўся рэзкі ды істотны спад – 3,6 % і 4,6% на выбарах 2004 і 2008 гг. адпаведна. Такім чынам, пры адносна дэмакратычных выбарах гэтая ўзроставая група складала 20–25 % ад складу парламенту, што можа адлюстроўваць ролю прадстаўнічага органу ў палітычнай мабільнасці. Але стабілізацыя аўтарытарнага рэжыму прывяла да значнага скарачэння прадстаўніцтва – да 3–5 %, што магчыма, сведчыць пра заняпад функцыі парламенту як каналу вертыкальнай мабільнасці.

*Узроставая група ад 41 да 50 гадоў* можа быць найбольш важнай і звязвацца з пікам кар'еры ці набліжэннем да яго. Такім чынам, дэпутацкі мандат можа выступаць як істотны этап самарэалізацыі ці прыступка для далейшага павышэння. У найноўшай гісторыі прадстаўніцтва гэтае групы ў дэпутацкім корпусе было самае значнае. У Вярхоўным савеце XII склікання дэпутаты ва ўзросце 41–50 гадоў складалі амаль палову дэпутатаў – 43,4 %, практычна ўдвая апярэджваючы астатнія групы. У Вярхоўным Савеце XIII склікання – ужо больш за палову: пазначаную ўзроставую групу на момант абрання рэпрэзентавалі 52,3 % дэпутатаў.

На пачатку афармлення аўтарытарнага рэжыму пазіцыі гэтай групы нават нязначна ўзмацніліся. У ПП I склікання яна складала абсалютную большасць (52,7 %) і практычна большасць пасля выбараў 2000 г. – 47,3 %. Але кансалідацыя аўтарытарнай сістэмы прывяла да змяншэння прадстаўніцтва групы па выніках выбараў 2004 г. (40,9 %) і крытычнага скарачэння ў выніку выбараў 2008 г. –25,5 %. Такім чынам, эвалюцыя аўтарытарнай сістэмы прывяла да страты гэтай узроставаю групаю сваіх пазіцыяў пасля 2000 г.

*Узрост ад 51 да 60 гадоў* у беларускай палітыцы з аднаго боку можа быць пікам кар'еры, з другога – яе завяршэннем і часам выхаду на пенсію. Прадстаўніцтва гэтай групы вельмі істотна эвалюцыянавала цягам апошніх дваццаці гадоў. Па выніках выба-

раў 1990 г. дэпутаты ва ўзросце ад 51 да 60 гадоў склалі 21,8 % дэпутацкага корпусу, практычна столькі ж, колькі група ў веку ад 31 да 40. Па выбарах 1995 г. гэты паказнік склаў 21,6 %. Пачатак фармавання аўтарытарнай сістэмы прывёў да невялікага росту: ПП I склікання – 26,4 %, ПП II склікання – 27,3 %. Але значэнне гэтае групы ўзрасло амаль удвая па выніках выбараў 2004 г. (49,1 %), і нарэшце, яна атрымала абсалютную перавагу па выніках выбараў 2008 г. – 61,8 %, выцесніўшы на задні план усе іншыя групы. Такім чынам, кансалідацыя аўтарытарнае сістэмы прывяла да значнай змены значэння ў парламенце групы ў веку 51–60 гадоў. Калі параўнаць вынікі выбараў 1990 і 2008 гг., то адбылося павелічэнне амаль у тры разы, і гэта не звязана са старэннем адных і тых самых дэпутатаў.

*Узроставая група дэпутатаў, старэйшых за 60 гадоў*, традыцыйна мала прадстаўленая ў беларускім парламенце. Дасягненне пенсійнага ўзросту часта значыць завяршэнне палітычнай кар’еры. Паказальна, што ўзровень прадстаўніцтва гэтай групы ёсць устойлівым і самым стабільным сярод астатніх. Па выніках выбараў 1990 г. дэпутаты, старэйшыя за 60 гадоў, склалі 8 % ад агульнай колькасці. У 1995 г. гэты паказнік падае да 3,5 %. Афармленне аўтарытарнай сістэмы стабілізуе прадстаўніцтва гэтай узроставай групы: ПП I склікання – 5,45%, ПП II склікання – 5,45 %, ПП III склікання – 5,45%. У 2008 г. яе колькасць павялічылася на аднаго дэпутата, у выніку – 6,4 %. Практычна аднолькавае прадстаўніцтва гэтай групы таксама можа сведчыць пра існаванне нефармальнай квоты. Трэба адзначыць, што дэпутатамі звычайна робяцца людзі, якія толькі перакрочылі 60-гадовы ўзрост, а асобы, старэйшыя за 70 гадоў, прысутнічалі толькі ў ВС XII склікання, але і там яны складалі ўсяго 0,88 %.

Адразу варта зазначыць, што змена ўзроставай структуры дэпутацкага корпусу ёсць вынікам трансфармацыі прынцыпаў фармавання парламенту, а не старэння адных і тых самых дэпутатаў. Напрыклад, узроставая структура ПП II склікання і

**Малюнак 1. Параўнанне ўзроставай структуры ПП II склікання і ПП IV склікання (узрост/колькасць дэпутатаў)**



ПП IV склікання радыкальна адрозніваецца (гл. мал. 1), але па выніках выбараў 2008 г. у парламент трапілі толькі тры дэпутаты, рэпрэзентаваныя ў ПП II склікання, то бок абраныя ў 2000 г. Пры гэтым у ПП IV склікання няма дэпутатаў ВС XII і ВС XIII скліканняў, а таксама ПП I склікання.

*Вышэйшая адукацыя*. Аналіз наяўнасці/адсутнасці вышэйшай адукацыі, як падаецца, робіцца ўжо гістарычнаю праблематыкаю. Але яшчэ ў 1980-я сітуацыя не выглядала так адназначна. Фармаванне Вярхоўнага Савету БССР адбывалася паводле мадэлі «беларускага савецкага народу» і прадугледжвала ўключэнне не толькі «эліты», але і «звычайных людзей», што было важным аргументам на карысць «сапраўднасці» савецкае дэмакратыі. Гэтае правіла дзейнічала і для адукацыйнага ўзроўню. У Вярхоўным Савеце БССР X склікання (1980) вышэйшую адукацыю мела толькі палова дэпутатаў – 54,6 %, пры гэтым трынаццаць чалавек (2,7 %) не мелі нават сярэдняй адукацыі, а значыць адпаведнага сацыяльнага досведу і кваліфікацыі. Практычна такі самы паказнік меў наступны Вярхоўны Савет (1985) – 53,4 %, што праўда, людзей без сярэдняй адукацыі там ужо не было.

Выбары ў Вярхоўны Савет 1990 г. унеслі радыкальныя змены ў гэтую мадэль, парываючы з традыцыяй папярэдняй эпохі. Змены правілаў палітычнай гульні на аснове канкурэнцыі прывялі да таго, што колькасць дэпутатаў з вышэйшай адукацыяй павялічылася да 94,1 %. Наступныя выбары замацавалі гэтую тэндэнцыю. Па выніках прызначэння ў Палату прадстаўнікоў I склікання (1996) толькі два дэпутаты не мелі вышэйшае адукацыі: Уладзімір Александровіч (1995–2004) і Раман Ананьеў (1995–2004).[8] Абодва прайшлі ў ПП II склікання, але Александровіч да гэтага часу ўжо паспеў атрымаць дыплом, і Ананьеў, такім чынам, апынуўся апошнім дэпутатам без вышэйшае адукацыі. Па выніках выбараў 2004 і 2008 гг. усе дэпутаты мелі дыпломы вышэйшых навучальных установаў. Такім чынам, агульнаю тэндэнцыяй ёсць павышэнне фармальнага адукацыйнага ўзроўню дэпутатаў парламенту, асабліва ў параўнанні з савецкім перыядам. Пры гэтым па выніках адносна дэмакратычных выбараў 1990 і 1995 гг. у парламент усё-такі трапіла пэўная колькасць людзей без дыпломаў аб вышэйшай адукацыі – 5–6%. У працэсе стварэння аўтарытарнай сістэмы колькасць дэпутатаў без вышэйшае адукацыі звялася да нуля.

Калі аналізаваць спецыялізацыю першай вышэйшай навучальнай установы, якую скончыў дэпутат (гл. табл. 2), то асноўныя пазіцыі гэтых ВНУ займаюць установы тэхнічнай адукацыі ды адукацыі ў галіне сельскае гаспадаркі. Выпускнікі сельскагаспадарчых ВНУ па выніках выбараў 1990 г. склалі 26,8 % дэпутацкага корпусу, прыкладна такія ж лічбы характэрныя для выбараў 1995 г. Добрыя пазіцыі можна патлума-

[8] Тут і далей у дужках пасля прозвішча пазначаюцца гады займання асобаю месца ў парламенце.

чыць нізкаю выбарчаю актыўнасцю ў гарадах, хаця далёка не ўсе дэпутаты з адпаведнай адукацыяй працавалі ў сельскай гаспадарцы. Станаўленне аўтарытарнае сістэмы прывяло да зніжэння прадстаўніцтва людзей з сельскагаспадарчай адукацыяй, што часткова можна патлумачыць агульным падзеннем уплыву аграрнага лобі з другой паловы 1990-х. Па выніках прызначэння 1996 г. выпускнікі сельскагаспадарчых ВНУ склалі 32,7%, пасля выбараў 2000 г.–12,7%, але кансалідацыя аўтарытарнага рэжыму спрыяла росту да 14,6 % у 2004-м і да 20,9% у 2008-м, што ў прынцыпе параўнальна з пачаткам 1990-х.

Людзі з тэхнічнай адукацыяй утвараюць другую важную групу, пры гэтым вельмі ўстойлівую. Па выніках выбараў 1990 г. дэпутаты з першай тэхнічнай адукацыяй складалі 23,9 %. У выніку прызначэння ў 1996 г. прадстаўніцтва падае да 17,3 %, але пасля гэтага хутка адбываецца вяртанне да ранейшага ўзроўню – прыкладна чвэрці складу парламенту (гл. табл. 2).

Калі казаць пра астатнія групы, то ўстойлівую вагу маюць дэпутаты з педагагічнай адукацыяй – 8–13 %, хістанні тут падаюцца неістотнымі. Таксама трэба назваць медыкаў з 7–13 %, іхная доля з 1990 г. паступова і стабільна расла.

Цікаваю ёсць прысутнасць у найвышэйшым прадстаўнічым органе эканамістаў і юрыстаў. «Чыстыя» эканамісты – гэта невялікая група, хаця яе доля паступова расла. Юрысты былі добра прадстаўленыя ў ПП І і ПП ІІ, але пасля адбылося зніжэнне іхнае прысутнасці.

Можна адзначыць цікавую траекторыю прадстаўніцтва людзей з ваеннай і спецыяльнай адукацыяй (МУС, КДБ). Па выніках выбараў 1990 г. іх было 9 %, у 1996-м іхная колькасць упала. Пры гэтым такія асобы былі вельмі добра прадстаўле-

**Табліца 2. Сфера першай вышэйшай адукацыі дэпутатаў, 1990–2010 гг.**

| | ВС XII 1990–1995 | ПП I 1996–2000 | ПП II 2000–2004 | ПП III 2004–2008 | ПП IV 2008 – дагэтуль |
|---|---|---|---|---|---|
| Сельская гаспадарка | 26,84 | 32,73 | 12,73 | 14,55 | 20,91 |
| Педагогіка | 10,62 | 8,18 | 10,00 | 12,73 | 13,64 |
| Медыцына | 7,67 | 8,18 | 9,09 | 9,09 | 12,73 |
| Тэхнічная адукацыя | 23,89 | 17,27 | 24,55 | 25,45 | 25,45 |
| Эканоміка | 4,42 | 7,27 | 6,36 | 4,55 | 6,36 |
| Права | 2,36 | 10,00 | 11,82 | 4,55 | 3,64 |
| Ваенная і спецыяльная адукацыя (КДБ, МУС) | 8,85 | 5,45 | 10,91 | 12,73 | 3,64 |
| Прыродазнаўчыя навукі | 0,59 | 0,91 | 3,64 | 3,64 | 3,64 |
| Культура і мастацтва | 2,06 | 0,91 | 0,00 | 0,00 | 2,73 |
| Гуманітарныя навукі | 4,13 | 2,73 | 4,55 | 8,18 | 4,55 |
| Партыйнае і дзяржаўнае кіраванне | 3,83 | 2,73 | 1,82 | 2,73 | 0,91 |
| Іншае | 0,59 | 1,82 | 4,55 | 0,91 | 0,91 |

* Па ВС XIII звесткі няпоўныя, таму ў табліцы не падаюцца.

** Для асобаў без вышэйшай адукацыі пазначаная сфера сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

ныя ў 2000 і 2004 гг., але згубілі сваё прадстаўніцтва па выніках выбараў 2008 г. – доля скарацілася да 3,6 %. Магчыма, гэта звязана са зніжэннем уплыву сілавых структураў, пра якія шмат гаварылі беларускія аналітыкі.

У кантэксце аналізу вышэйшай адукацыі цікавы можа быць разгляд рэгіёнаў, дзе яна была атрыманая (гл. табл. 3). Трэба сказаць, што з 1990 г. не назіраецца значных зменаў гэтага параметру, можна толькі адзначыць пэўны рост колькасці дэпутатаў, што атрымалі адукацыю ў Гомельскай вобласці. Калі характарызаваць сітуацыю ўвогуле, то першае месца стабільна займае Мінск: амаль 40 % дэпутатаў вучылася ў сталіцы. 20–25 % складаюць дэпутаты, што атрымалі адукацыю за межамі Беларусі, астатнія рэгіёны прадстаўленыя слаба, асабліва гэта датычыць Берасцейскай вобласці.

*Жаночае прадстаўніцтва.* Пол пры аналізе складу парламенту ёсць адным з найбольш простых для падлікаў параметрам, але дастаткова складаным для інтэрпрэтацыі. Існуюць усе падставы меркаваць, што ў беларускай палітычнай сістэме жаночае прадстаўніцтва адлюстроўвае не ступень інтэграцыі ў рэальную палітыку ці рост палітычнай актыўнасці, а хутчэй практыку мадэлявання вынікаў (пра падобныя працэсы ў мясцовых саветах гл. Казакевіч, 2007: 49–50). Тым не менш, адчувальныя адрозненні ў жаночым прадстаўніцтве, калі наш аналіз дазволіць іх выявіць, могуць даць істотную інфармацыю пра эвалюцыю беларускага парламенту.

Савецкая палітыка была мужчынскаю сфераю, а заняцце вышэйшых пасадаў жанчынамі было рэдкасцю. Збольшага жанчынам адводзілася месца ў асобных сферах, дзе іхная актыўнасць ці нават дамінаванне было легітымнае: адукацыя, культура, выхаванне і г.д. Узровень і структура жаночага прадстаўніцтва ў палітычнай эліце савецкай Беларусі практычна не адрознівалася ад агульнасаюзных паказнікаў (больш падрабязна гл. Урбан, 2010: 122–126).

**Табліца 3. Рэгіён першай вышэйшай адукацыі дэпутатаў, 1990–2010 гг.**

| | ВС XII 1990–1995 | ПП I 1996–2000 | ПП II 2000–2004 | ПП III 2004–2008 | ПП IV 2008 – дагэтуль |
|---|---|---|---|---|---|
| Брэсцская вобласць | 2,36 | 1,82 | 0,91 | 0,91 | 1,82 |
| Віцебская вобласць | 8,26 | 5,45 | 10,00 | 10,00 | 9,09 |
| Гомельская вобласць | 2,95 | 3,64 | 5,45 | 6,36 | 10,91 |
| Гродненская вобласць | 9,14 | 8,18 | 8,18 | 6,36 | 7,27 |
| Магілёўская вобласць | 14,46 | 18,18 | 10,9 | 13,64 | 15,46 |
| Мінская вобласць | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |
| Мінск | 35,4 | 37,27 | 40 | 39,09 | 38,8 |
| За межамі Беларусі | 24,19 | 24,55 | 24,55 | 23,64 | 17,27 |
| Няма дакладнай інфармацыі | 3,24 | 0,91 | 0,00 | 0,00 | 0,00 |

* Па ВС XIII звесткі не поўныя, таму ў табліцы не падаюцца.

** Для асобаў без вышэйшай адукацыі пазначаны рэгіён сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

Што датычыць прадстаўнічых органаў, то доля жанчын была дастаткова высокая і ўстойлівая. У Вярхоўны Савет БССР X склікання (па выніках выбараў 1980 г.) увайшлі 180 жанчын (37,1 %), і дакладна такая ж лічба паўтарылася па выніках выбараў 1985 г. Супадзенне лічбаў дэманструе, што фармаванне складу ажыццяўлялася ў адпаведнасці з прынцыпам квотаў для розных сацыяльных і дэмаграфічных групаў і ў адпаведнасці з пэўным уяўленнем пра структуру грамадства. Гэта непазбежна датычыла таксама прадстаўніцтва жанчын, якое было абавязковае і суправаджалася спасылкамі на агульныя прынцыпы камуністычнай ідэалогіі ды гендэрную роўнасць у сацыялістычным грамадстве.

**Табліца 4. Жаночае прадстаўніцтва ў дэпутацкім корпусе, 1980–2010 гг.**

| | ВС X 1980–1985 | ВС XI 1985–1990 | ВС XII 1990–1995 | ВС XIII 1995–1996 | ПП I 1996–2000 | ПП II 2000–2004 | ПП III 2004–2008 | ПП IV 2008 – дагэтуль |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мужчыны | 62,9 | 62,9 | 96,17 | 95,48 | 96,36 | 87,27 | 70,9 | 68,18 |
| Жанчыны | 37,1 | 37,1 | 3,83 | 4,52 | 3,64 | 12,73 | 29,1 | 31,82 |

Квоты існавалі працяглы час, але іх уплыў на рэальную палітыку, відавочна, не быў значны, што рэльефна праявілася ў сітуацыі крызісу камуністычнай сістэмы. Адносна свабодныя выбары 1990 г., якія запатрабавалі мабілізацыі ўсіх удзельнікаў палітычнага працэсу, прывялі да падзення долі жанчын у парламенце да 3,83 %. Такім чынам, палітычны крызіс, распад савецкай сістэмы і неабходнасць палітычнай мабілізацыі з боку камуністычнае эліты і апазіцыі прывялі да скарачэння прадстаўніцтва жанчын у 10 разоў. Паказальна, што сітуацыя цалкам паўтарылася па выніках выбараў 1995 г.: жанчыны склалі 4,52% дэпутацкага корпусу. Такім чынам, адносна дэмакратычныя выбары першай паловы 1990-х гг. прывялі да значнага скарачэння жаночага прадстаўніцтва, якое дасягнула свайго мінімуму.

Але з усталяваннем аўтарытарнага рэжыму і аднаўленнем у парламенце сістэмы нефармальных квотаў сітуацыя паступова мянялася. Калі ў ПП I склікання ўваходзілі толькі чатыры жанчыны (3,6 % ад агульнае колькасці дэпутатаў), то першыя выбары ва ўмовах афармлення аўтарытарнае сістэмы прадэманстравалі змяненне сітуацыі. У 2000 г. у парламент прайшлі чатырнаццаць жанчын (12,7 %), што пацвярджае пераходны статус ПП II у працэсе кансалідацыі новага рэжыму. У 2004 г. гэты паказнік значна павялічыўся і дасягнуў 29,1 %, блізкі вынік паўтарыўся ў 2008 г. – 31,8% (гл. табл. 4).

Такім чынам, у 1980–2008 гг. палавая структура парламенту ў Беларусі перажыла значную эвалюцыю, але пры гэтым пачатак і завяршэнне перыяду вельмі падобныя. Распад савецкай сістэмы квотаў, пры якой доля жанчын складала 37 %, прывёў да зніжэння ўдзелу жанчын да 3–5 % па выніках адносна свабодных выбараў 1990 і 1995 гг. Стабілізацыя

палітычнай сістэмы на аўтарытарнай аснове прывяла да павышэння гэтай долі ў 2000 г., і ўрэшце па выніках 2004 і 2008 гг. быў дасягнуты савецкі ўзровень. Гэты вынік не быў нечаканым, бо агучваўся публічна. Лічбы толькі паказваюць, што з 2004 г. сапраўды мела месца стварэнне сістэмы квотаў для жанчын. Вызначыўся трохі ніжэйшы ўзровень, чым у савецкія часы (на 4–5 %), але ўсё ж цалкам параўнальны. У пэўнай ступені можна назіраць карэляцыю: прадстаўніцтва жанчын расце са зніжэннем дэмакратычнасці выбарчага працэсу і паралельна падзенню рэальнага палітычнага ўплыву парламенту. Такім чынам, аўтарытарная сістэма Беларусі ў гэтай сферы абсалютна дакладна капіюе савецкую палітычную практыку.

Разгляд сацыяльна-дэмаграфічных параметраў дазваляе вызначыць некаторыя тэндэнцыі. У прыватнасці, можна назіраць адрозненні складу парламенту па выніках адносна дэмакратычных выбараў ад «савецкай мадэлі» і аўтарытарнай мадэлі, якая склалася пасля 1996 г.

Савецкая мадэль грунтавалася на сістэме нефармальных квотаў, якая мусіла адлюстроўваць структуру «беларускага народу». У сітуацыі, калі прадстаўнічы орган не выконваў істотных функцыяў, прадстаўніцтва мела менавіта сімвалічны характар. Адпаведна склад парламенту БССР быў вельмі разнастайны і неаднародны. У ім прысутнічалі людзі з вышэйшай адукацыяй, сярэдняй адукацыяй, без адукацыі. Значнае прадстаўніцтва мелі асобныя ўзроставыя групы, у прыватнасці, моладзь да 31 года, а таксама прыкладна трэціну народных дэпутатаў складалі жанчыны.

Практыка адносна дэмакратычных выбараў цалкам змяніла сістэму. Склад парламенту зрабіўся больш аднастайным, старая сістэма квотаў знікла, і на першае месца выйшлі найбольш палітычна актыўныя і падрыхтаваныя да канкурэнцыі сацыяльныя групы. Практычна ўсе дэпутаты мелі вышэйшую адукацыю (94,1 %), крытычна ўпала прадстаўніцтва жанчын (да 3,8 %), узроставая структура таксама трансфармавалася на карысць асобаў у веку ад 40 да 60 гадоў – коштам скарачэння «моладзі». Пры гэтым варта адзначыць, што заставаліся каналы мабільнасці для іншых групаў. Палітыкі без вышэйшай адукацыі склалі нязначную меншасць дэпутатаў, але захавалі магчымасць трапіць у парламент. Колькасць асобаў, маладзейшых за 31 год, скарацілася, але яны па-ранейшаму былі прадстаўленыя, тое ж можна сказаць і ў дачыненні жанчын. Такім чынам, абраныя ва ўмовах адносна дэмакратычных выбараў парламенты захоўвалі каналы палітычнай мабільнасці для дастаткова шырокіх сацыяльных і дэмаграфічных групаў.

Усталяванне аўтарытарнай сістэмы пасля 1996 г. трансфармавала сістэму прадстаўніцтва. Па-першае, вырасла жаночае прадстаўніцтва – амаль да савецкага ўзроўню. Як падаецца, гэта сведчыць не столькі пра павышэнне ролі і ўплыву жанчын на рэальную палітыку, колькі пра ўсталяванне сістэмы нефармальнай квоты, аналагічнай савецкай. Але сучасная аўтарытарная сістэма значна адрозніваецца ад савецкай. У

прыватнасці, яна цалкам выключыла асобаў без вышэйшае адукацыі, доля якіх у савецкі час была каля 50%, а па выніках адносна дэмакратычных выбараў знізілася прыкладна да 6%. Тое самае адбылося з моладдзю да 31 года, якая цалкам знікла з парламенту (больш за 18 % у савецкай мадэлі і каля 3,5 % у дэмакратычнай). Больш за тое, ва ўмовах аўтарытарнай сістэмы значна павысіўся ўзрост парламентарыяў, найперш праз павелічэнне прадстаўніцтва дэпутатаў перадпенсійнага ўзросту, якія дамінуюць у дзейным парламенце. Гэта дазваляе зрабіць асноўныя высновы: у аўтарытарнай сістэме значна ўпала роля Палаты прадстаўнікоў як органу вертыкальнае мабільнасці для палітычна актыўных прадстаўнікоў розных сацыяльных і дэмаграфічных групаў, акрамя жанчын. Больш за тое, можна канстатаваць падзенне ролі парламенту як органу мабільнасці ўвогуле і ператварэнне яго ў пэўны тып узнагароды і ганаровай пенсіі. Пазначаная сістэма пачала складвацца ў ПП ІІ склікання, але выбары 2000 г. можна лічыць пераходнымі, бо канчаткова асноўныя ўласцівасці новай мадэлі афарміліся пасля выбараў 2004 г.

Калі падрабязна аналізаваць сферу і рэгіён першай вышэйшай адукацыі, то можна заўважыць наступныя тэндэнцыі. Па-першае, значэнне рэгіёнаў першай адукацыі ёсць дастаткова стабільным, хаця можна фіксаваць пэўны рост прадстаўніцтва людзей, якія атрымалі адукацыю на ўсходзе Беларусі: Гомельская вобласць – з 3% да 11 %, Магілёўская вобласць – з 2 % да 6–7 %. У выніку розніца між рэгіёнамі падаецца нязначнаю, калі не кранаць Брэсцкай вобласці, прадстаўніцтва выпускнікоў з якой стабільна вельмі нізкае. Каля паловы дэпутатаў атрымалі адукацыю ў Мінску, 17–24 % – за межамі Беларусі. Калі казаць пра сферу вышэйшай адукацыі, структура тут адносна стабільная, хаця варта адзначыць падзенне ў першай палове 2000-х колькасці выпускнікоў сельскагаспадарчых навучальных установаў і змены ў рэпрэзентацыі асобных сфераў. Зрэшты, фармуляванне надзейных высноваў з атрыманых звестак патрабуе далейшага вывучэння.

## IV. Прыналежнасць да партыяў і парламенцкіх групаў

Другім блокам нашага аналізу ёсць калектыўная дзейнасць дэпутатаў у форме партыяў і парламенцкіх групаў, што можа прадэманстраваць узровень самаарганізацыі дэпутацкага корпусу, здольнасць да супольнага дзеяння і адстойвання групавых інтарэсаў.

Уздым партыйных структураў у Беларусі прыпаў на 1991–1996 гг., сучасная беларуская палітыка афіцыйнага ўзроўню адводзіць партыям перыферыйную ролю. Калі значэнне партыйных структураў у апазіцыйнай дзейнасці відавочнае, асабліва ў другой палове 1990-х і першай палове 2000-х, то афіцыйнае поле практычна не пакінула партыям функцыянальнага месца, незалежна ад іх палітычнай арыентацыі. Нават тыя арганізацыі, што пасля-

доўна дэманстравалі сваю лаяльнасць уладзе пасля 1996 г., перажываюць глыбокі крызіс, а ідэі стварэння «партыі ўлады» не знайшлі практычнай рэалізацыі. Такія правілы арганізацыі палітыкі ў поўнай меры знайшлі сваё адлюстраванне ў эвалюцыі партыйнага прадстаўніцтва з 1990 г. да сённяшняга дня.

Савецкая мадэль надавала Камуністычнай партыі цэнтральнае месца ў дзяржаўнай сістэме, але гэта не азначала фармавання Вярхоўнага Савету выключна з камуністаў. У позні савецкі перыяд прадстаўніцтва КПСС было дастаткова стабільнае і складала прыкладна 2/3 ад агульнага складу. У ВС X склікання сябры і кандыдаты ў сябры партыі мелі 326 месцаў (67,6 %), у Савеце XI склікання прадстаўніцтва было такое самае.

Паказальным выглядае тое, што ў выніку адносна свабодных выбараў 1990 г. прадстаўніцтва камуністаў не толькі не зменшылася, але значна вырасла. Гэта, праўда, не азначала аўтаматычнай лаяльнасці дэпутатаў да савецкага ладу. Сярод сябраў КПСС былі розныя дэпутаты, у тым ліку прыхільнікі рэформаў, частка з іх неўзабаве нават далучылася да выразна апазіцыйнага і антыкамуністычнага Беларускага народнага фронту. Відавочна, большая частка актыўных і здольных да палітычнай дзейнасці людзей, незалежна ад поглядаў, была так ці інакш уключаная ў структуры КПСС, а пазапартыйныя асяродкі былі дастаткова слабыя і не канцэнтравалі істотнага кадравага і арганізацыйнага патэнцыялу (Дзярновіч, 2004: 6–15). Гэта выразна праявілася ў сітуацыі адноснай палітычнай канкурэнцыі 1990 г.

Па выніках выбараў 1990 г. сябры і кандыдаты ў сябры КПСС склалі 90,5 % ад агульнай колькасці дэпутатаў – гэта самы высокі паказнік фармальнага партыйнага прадстаўніцтва ў парламенце за ўсю пасляваенную гісторыю Беларусі.

На падставе наяўных крыніцаў і даследаванняў дастаткова складана дэталёва акрэсліць рэальны партыйны і палітычны склад ВС XII – падрабязна апісаная толькі дзейнасць фракцыі ды партыі БНФ. Аналітычныя артыкулы самвыду пасля першага этапу выбараў фіксавалі такі расклад: 60 дэпутатаў дэмакратычнага блоку, 120 наменклатурных камуністаў, 50 невядомых, 80 – паўторныя выбары (Івашкевіч, 1990). Вынікі ўсяго веснавога цыклу (абраныя каля 80 % дэпутатаў) выглядалі такім чынам: дэмакратычны блок – 62 дэпутаты, камуністычная наменклатура – 133 (Шпак, 1990). Але не акрэслівалася дакладнага прадстаўніцтва.[9] «Плыні» і «клубы», якія паўсталі ў ВС XII, былі дастаткова аморфнымі фармаваннямі са зменлівым складам, шмат дэпутатаў

[9] Недакладнасць ёсць нават матэматычнаю, напрыклад, у артыкуле Алеся Шпака (1990) поўны склад парламенту выглядае такім чынам: дэмакратычны блок – 62 дэпутаты, камуністычная наменклатура – 133, нявызначаныя – 48, дырэктарскі корпус («управленцы») – 74, сілавыя структуры – 28, дэпутаты не абраныя ў 43 акругах. Такім чынам, ВС XII мусіў бы складацца з 388, а не 360 дэпутатаў.

уваходзіла ў некалькі групаў, не ўсе групы мелі выразны палітычны профіль. Яшчэ складаней вызначыць фармальную партыйнасць дэпутатаў з улікам усіх партыяў, якія ствараліся паміж 1991 і 1995 гг.

У ВС XII скліканння ўтварыліся прынамсі восем дэпутацкіх групаў (Тележников и др., 1998: 61). Больш падрабязны склад можна пазначыць такім чынам: дэпутацкая група Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» (Апазіцыя Беларускага народнага фронту) у розны перыяд налічвала ад 20 да 37 чалавек; дэпутацкая група аграрыяў – каля 75 асобаў; «Дэпутацкі дэмакратычны клуб» – 80–100 чалавек; «Дэмакратычныя рэформы» – каля 30 дэпутатаў; «За дэмакратыю і сацыяльны прагрэс» – каля 70 асобаў; праўрадавая група «Беларусь» – ад 100 да 150 прадстаўнікоў; група камуністаў – 25 чалавек; «Згода» – каля 20 дэпутатаў. Самая вялікая і ўплывовая дэпутацкая група «Беларусь», якая падтрымлівала ўрад Кебіча, не мела партыйнай асновы. Паводле ўскосных звестак, прыблізная колькасць дэпутатаў, у той ці іншай ступені ангажаваных у дзейнасць фракцыяў з выразным палітычным профілем, складала больш за 2/3 ад агульнага складу, але лічба патрабуе ўдакладнення. Пры гэтым ужо пачынаючы з першага складу парламенту незалежнай Беларусі назіралася значная дыспрапорцыя паміж палітычнай ангажаванасцю і партыйнасцю, а таксама пазбяганне значнаю часткаю дэпутатаў дакладнага палітычнага і арганізацыйнага выбару (гл. табл. 5).

Сітуацыя трохі змянілася па выніках выбараў у парламент 1995 г. – першых і апошніх, праведзеных у перыяд уздыму пар-

**Табліца 5. Дэпутацкія групы (фракцыі, аб’яднанні) у беларускім парламенце, 1990–2010 гг.**

| | ВС XI 1985–1990 | ВС XII 1990–1995 | ВС XIII 1995–1996 | ПП I 1996–2000 | ПП II 2000–2004 | ПП III 2004–2008 | ПП IV 2008 – дагэтуль |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дэпутацкія групы (фракцыі), колькасць | - | 8 | 5 | 0 | 8 | 0 | 0 |
| *З іх:* | | | | | | | |
| Партыйныя группы (фракцыі) | - | 2 | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Іншыя палітычныя групы | - | 4–6 | 1 | 0 | 3–5 | 0 | 0 |
| Непалітычныя дэпутацкія групы | - | 0–2 | 0 | 0 | 3–5 | 0 | 0 |
| Наяўнасць арганізаванай апазіцыі выканаўчай уладзе | - | + | + | - | + | - | - |
| Доля дэпутатаў, ангажаваных у палітычныя групы, % | - | ~70% | 93% | 0 | ~30% | 0 | 0 |
| Доля дэпутатаў, ангажаваных у дэпутацкія групы, % | - | ~70-80% | 93% | 0 | ~90% | 0 | 0 |

тыйных структураў. Гэтыя выбары паказалі значны рост фармальнага партыйнага прадстаўніцтва, але пры гэтым непартыйны сегмент застаўся істотным. З абраных да канца 1995 г. дэпутатаў палітычныя партыі прадстаўлялі 53,8 %, якія ўваходзілі ў шаснаццаць партыйных арганізацыяў. У параўнанні з суседнімі краінамі 54 % для партыяў можна лічыць адносна нізкім паказнікам, але гэта максімум у гісторыі Беларусі перыяду незалежнасці. Толькі чатыры арганізацыі змаглі правесці больш за два дэпутаты і зрабіліся асноваю для фармавання парламенцкіх групаў: фракцыя аграрыяў (34 партыйныя дэпутаты, 47 сябраў фракцыі); камуністаў (44 і 44 адпаведна); «Саюз працы» (12 і 18 адпаведна); «Грамадзянскае дзеянне» (5 і 17 адпаведна). [10] Каля 60 дэпутатаў склалі прапрэзідэнцкую непартыйную фракцыю «Згода» (Тележников и др., 1998: 67–68).Такім чынам, у палітычныя фракцыі былі ангажаваныя да 93,5 % дэпутацкага корпусу.

Канстытуцыйны крызіс і роспуск Вярхоўнага Савету напрыканцы 1996 г. былі паваротным пунктам у гэтых працэсах. Станаўленне аўтарытарнага рэжыму адбывалася на выразна беспартыйнай (no-party) аснове. Дэмакратычныя і нацыянальныя арганізацыі выцясняліся за межы афіцыйнай палітыкі, камуністы перажывалі маштабны раскол, тое самае адбывалася з сацыял-дэмакратамі, а дзейнасць Аграрнай партыі была паралізаваная на некалькі гадоў.

Фармальна ў Палату прадстаўнікоў I склікання было прызначана дастаткова шмат партыйных актывістаў, але партыйныя структуры, якія падтрымалі Аляксандра Лукашэнку, практычна ніяк не праявілі сябе ў новай палітычнай сітуацыі. Логіка беспартыйнай аўтарытарнай сістэмы не спрыяла развіццю недзяржаўнай сферы і дастаткова хутка прывяла да заняпаду партыйных арганізацыяў, якія падтрымалі Лукашэнку. Арганізацыйны і кадравы крызіс распачаўся адразу пасля 1996 г. і быў надзвычай глыбокі, ад партыйнай дзейнасці адышла значная колькасць актывістаў і прыхільнікаў.[11] Падтрымка прэзідэнта магла прынесці пэўныя асабістыя выгоды, але не выгоды для структураў і супольнасцяў.

Праз даступныя крыніцы немагчыма дакладна прасачыць працэс распаду партыйных структураў у Палаце прадстаўнікоў, але яго маштабы праглядаюцца паводле ўскосных звестак. Напрыклад, у ПП II склікання трапілі тры дэпутаты, якія ў ВС XIII склікання абраліся як сябры Партыі народнай згоды, але толькі адзін з іх захаваў партыйную прыналежнасць (Іван Пашкевіч, 1995–2004), астатнія два былі ўжо

[10] «Саюз працы» быў створаны на аснове Партыі народнай згоды і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, «Грамадзянскае дзеянне» – на аснове Аб’яднанай грамадзянскай партыі (узнікла ў 1995 г. у выніку аб’яднання Грамадзянскай партыі ды Аб’яднанай дэмакратычнай партыі).

[11] Глыбокі сістэмны крызіс апазіцыйных арганізацыяў надыйшоў крыху пазней, галоўным чынам пасля выбараў 2000 і 2001 гг.

беспартыйнымі (Васіль Хрол і Мікалай Дубовік, абодва дэпутаты 1995–2008). Працэс распаду ў той ці іншай ступені закрануў і значную частку не пераабраных у 2000 г. дэпутатаў.

Тэндэнцыя абмежаванага прадстаўніцтва партыяў у парламенце замацавалася як спецыфічная рыса беларускай аўтарытарнай сістэмы. У 2000 г. у Палату прадстаўнікоў трапілі толькі пятнаццаць партыйных кандыдатаў, у 2004 г. – дванаццаць, а ў 2008-м – сем (гл. табл. 6).

Варта адзначыць, што ў Палаце прадстаўнікоў бачная пэўная партыйная актыўнасць. Гэта не толькі прасоўванне сваіх кандыдатаў на выбарах, але і рэкрутаванне новых сябраў пасля іх. Перш за ўсё гэта датычыць Камуністычнай партыі Беларусі. Па выніках выбараў у 2000 г. партыя мела шэсць дэпутатаў, але да 2004 г. да яе далучыліся прынамсі трое дэпутатаў-жанчын, абраных на беспартыйнай аснове: Марыя Худая (1995–2004), Таццяна Голубева (2000 – дагэтуль), Наталля Аўдзеева (2000–2008). Пазней, у 2005 г., Таццяна Голубева ўзначаліла КПБ. Наступная кадэнцыя Палаты прадстаўнікоў (2004–2008) была яшчэ больш плённая. Да КПБ далучыліся прынамсі чатыры дэпутаты: Уладзімір Майсюк, Раіса Ціханская, Ігар Карпенка і Раман Корап, якія трапілі ў Палату прадстаўнікоў як беспартыйныя. Для Аграрнай партыі фіксуецца толькі адзін такі выпадак – гэта далучэнне Аляксандра Зінчанкі (1995–2008), які абіраўся ў ПП II склікання як беспартыйны, але на выбары 2004 г. ужо ішоў як сябра Аграрнай партыі.

Што датычыць дэпутацкіх групаў (фракцыяў, аб'яднанняў), то гэтая форма калектыўнай актыўнасці ў парламенце таксама прыйшла ў заняпад. У ПП I склікання фракцыі не ўтвараліся. Крыху больш дынамічная сітуацыя склалася ў ПП II, дзе ўзніклі ажно восем дэпутацкіх групаў, але іх арганізацыя была дастаткова спецыфічная. Па-першае, з'явіліся выразна непалітычныя партыйныя групы, хрэстаматыйным прыкладам якіх можна лічыць «Сяброў Бал-

**Табліца 6. Партыйнае прадстаўніцтва ў беларускім парламенце, 1990–2010 гг.**

| | **ВС XII** 1990–1995 | **ВС XIII** 1995–1996 | **ПП I** 1996–2000 | **ПП II** 2000–2004 | **ПП III** 2004–2008 | **ПП IV** 2008 – дагэтуль |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць партыяў | ? | 16 | 9** | 6 | 3 | 2 |
| Доля партыйных дэпутатаў, % | ? | 53,8 | 42,7 | 13,6 | 10,9 | 6,4 |
| *з іх:* | | | | | | |
| Камуністычная партыя Беларусі*, % | ? | 22 | 21,8 | 5,5 | 7,3 | 5,5 |
| Аграрная партыя, % | ? | 17 | 10,9 | 3,6 | 2,7 | 0,9 |
| Іншыя, % | ? | 14,8 | 10 | 4,5 | 0,9 | 0 |

* У 1993–1996 гг. Партыя камуністаў Беларуская.

** Калі не ўлічваць магчымага выхаду з партыяў цягам 1996 г.

гарыі». Да гэтай катэгорыі можна таксама аднесці «Спрыянне эканамічнаму развіццю», «Еўропа – наш агульны дом». Палітычную праграму агучылі толькі групы «Рэспубліка», «За саюз Украіны, Беларусі і Расіі» і «Народны дэпутат»; астатнія дзве – «Адзінства» і «Адзіная Беларусь» – цяжка класіфікаваць адназначна. Па-другое, большасць дэпутатаў уваходзіла адразу ў некалькі групаў, што яшчэ больш размывала палітычны профіль гэтых аб’яднанняў, якія функцыянавалі як клубы. Пасля 2004 года гісторыя калектыўных структураў у беларускіх парламенце перарывалася: у ПП III і ПП IV склікання дэпутацкія групы ці аб’яднанні не ўтвараліся.

Такім чынам, з 1990 г. адбылася значная эвалюцыя арганізацыі палітычнай дзейнасці дэпутатаў беларускага парламенту. Ва ўмовах дэмакратыі меў месца адчувальны ўздым партыйных структураў. Калі дзейнасць ВС XII склікання ніколі і не мела партыйнай асновы, то ў ВС XIII склікання партыі вызначалі развіццё палітычнай сітуацыі. Пасля ўсталявання аўтарытарнага рэжыму хутка аформілася беспартыйная (no-party) сістэма. Колькасць партыяў, прадстаўленых у парламенце, упала з шаснаццаці ў 1995 г. да двух па выніках выбараў 2008 г., а партыйнае прадстаўніцтва – з 53,8 % да 6,4 %. Пры гэтым заняпад закрануў не толькі апазіцыйныя партыі, не прадстаўленыя ў парламенце з 1996 г., але і лаяльныя сістэме арганізацыі.

Падобным чынам адбывалася развіццё супольнай дзейнасці дэпутатаў у форме парламенцкіх групаў (фракцыяў). Партыйныя фракцыі былі прадстаўленыя толькі ў ВС XII і ВС XIII скліканняў, пасля чаго такая форма арганізацыі дэпутатаў знікла. Іншыя палітычныя фракцыі таксама гралі істотную ролю ў ВС XII склікання, і гэта роля толькі ўзмацнілася ў ВС XIII склікання, пасля чаго акрэсленыя палітычныя групы зніклі з палітычнай сцэны, хаця ў ПП II склікання групавая актыўнасць дэпутатаў і зазнала пэўны рэнесанс. Аналагічна змянялася прадстаўніцтва апазіцыі (гл. мал. 2). Меў сваю эвалюцыю і інстытут непалітычных дэпутацкіх групаў: яны былі прадстаўленыя ў ВС XII склікання, зніклі ў ВС XIII склікання і зазналі сапраўдны росквіт у ПП II склікання. Але нават гэтая бяспечная форма арганізаванай дзейнасці дэпутатаў хутка згубіла сэнс і зўнікла ў ПП III і ПП IV скліканняў.

Такім чынам, развіццё абсалютна ўсіх формаў арганізаванае дзейнасці дэпутатаў – ад партыяў да палітычных і нават непалітычных парламенцкіх групаў – сведчыць пра зніжэнне самаарганізацыі дэпутацкага корпусу, праяваў супольнай і арганізаванай дзейнасці. Пра адсутнасць функцыянальнае патрэбы у групавой дзейнасці сведчыць і малая колькасць законапраектаў, якія ініцыяваў дэпутацкі корпус. З 1997 да 2008 г. доля законаў, ініцыяваных дэпутатамі, складала 0-3,5 % ад агульнай колькасці, рэшта была падрыхтавана прэзідэнтам і ўрадам. Толькі ў 2002 і 2003 гг. гэты паказчык быў вышэйшым 9–11 % (Бажанов и др., 2010: 173).

**Малюнак 2. Доля апазіцыі выканаўчай уладзе ў беларускім парламенце, 1990 – 2010 гг.**




## V. Кар'ера пасля абрання ў парламент

Апошні параметр нашага аналізу – разгляд кар'еры пасля абрання ў якасці дэпутата. Тут мы ўлічваем як прызначэнне на значныя дзяржаўныя пасады падчас выканання дэпутацкіх паўнамоцтваў, так і пасля іх завяршэння. Разгляд дазваляе вызначыць, у якой ступені парламент функцыянуе як прыступка для заняцця іншых высокіх палітычных (дзяржаўных) пасадаў. Існуюць падставы меркаваць, што чым вышэйшыя пасады дэпутаты займаюць пасля (падчас) выканання сваіх парламенцкіх паўнамоцтваў, тым больш палітычна значным і ўплывовым ёсць прадстаўнічы орган. Развіццё парламенту ў Беларусі, як падаецца, не выбіваецца з гэтага правіла. За апошнія дваццаць гадоў парламент значна змяніўся, і яго значэнне ў ланцугах палітычнай мабільнасці і механізмах уваходжання ў эліты зменшылася істотным чынам.

Як было пазначана на пачатку артыкулу, інфармацыя пра далейшую кар'еру дэпутатаў збіралася на аснове электроннай базы нарматыўных актаў НЦПІ, праз якую можна фіксаваць прызначэнні асобаў на дзяржаўныя пасады, а таксама прысутнасць іх у розных камісіях, спісах атрымання ўзнагародаў, сярод асобаў, якія падпісваюць той ці іншы дакумент і г. д.

***Вярхоўны Савет XII склікання.*** На агульную думку, ва ўмовах распаду камуністычнай сістэмы ВС XII быў важным механізмам рэкрутацыі ў палітычную эліту Беларусі. Парламент зрабіўся фактычна адзіным значным каналам, які дазваляў асобам, не звязаным раней з партыйнымі і бюракратычнымі структурамі, абыйсці наменклатурную сістэму і трапіць на вышэйшыя дзяржаўныя пасады.

У савецкай сістэме існавалі два асноўныя каналы мабільнасці: бюракратычная і партыйная кар'ера, якія былі дастаткова шчыльна звязаныя.

7. *Guardian* (2003). «Our Last Occupation», 19.04.2003
8. Hooghe, L., Marks, G. (2008). «A Postfunctionalist Theory of European Integration: From Permissive Consensus to Constraining Dissensus», *British Journal of Political Studies*, 39: 1–23.
9. Jupille, J., Caporaso, J.A., Checkel, J. T. (2003). «Integrating Institutions: Rationalism, Constructivism, and the Study of European Union», *Comparative Political Studies*, 1/2 (36): 7–40.
10. Khidir, H. (1998). «Inside Saddam's nuclear program», *The Bulletin of the Atomic Scientists*, September/October.
11. Manners, I. (2002). «Normative Power Europe: A Contradiction in Terms?», *Journal of Common Market Studies*, 40(2): 235–258.
12. McGee, M. (1990). «We have Surprize». *Der Spiegel*. 10.10.1990
13. Risse, T. (2001). «A European Identity? Europeanization and the Evolution of Nation-State Identities», in M.G. Cowles, J. Caporaso, T. Risse (eds). *Transforming Europe: Europeanization and Domestic Change*. Ithaca: Cornell University Press, 198–216.
14. Rousseau, D.L., Garcia-Retameo, R. (2007). «Identity, Power, and Threat Perception. A Cross-National Experimental Survey», *Journal of Conflict Resolution*, 4 (51): 744–771.
15. Šešelgytė, M. (2007). *Europos Sąjungos bendro gynybos identiteto problema*. Vilnius: Baltos lankos.
16. Sherif, M. (1966). *Group conflict and co-operation: Their social psychology*. London: Routledge &Kegan Paul.
17. *The New York Times* (1993). «Iraq's Purchases in the A-bomb Supermarket», 18.07.1993
18. Wodak, R. (2004). «National and Transnational Identities: European and Other Identities Constructed in Interviews with EU Officials», in Richard K. Herrmann, Thomas Risse-Kappen, and Marilynn B. Brewer (eds) *Transnational Identities: Becoming European in the EU*, Oxford: Rowman & Littlefield, 97–128.
19. Воробьев, В. (2008). «Грузия применила акваоружие. Столице Южной Осетии перекрыли воду». *Российская газета*, 07.08.2008
20. Жижек, С. (2003). «Война в Ираке. В чем заключается подлинная опасность», *Логос*, 1: 34–37.
21. Кукол, Е. (2008). «Грузия пошла в отказ. И прервала переговоры о вступлении России в ВТО». *Российская газета*, 30.04.2008
22. *Первый канал России* (2008). «Грузия стягивает войска к границам Абхазии и Осетии», 17.04.2008.
23. Поморцев, А. (2007). «Тбилиси жаждет войны». *РБК daily*, 29.07.2007

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Алег Дзярновіч

# Грамадская думка ў Беларусі 1960-х–1970-х гадоў: гісторыя, нацыя і незалежнасць

Ствараючы храналогію гісторыі пасляваеннай Беларусі мы, безумоўна, будзем улічваць агульную перыядызацыю гісторыі СССР. Натуральна, што вылучэнне перыядаў сталінскага тэрору, хрушчоўскай адлігі ды брэжнеўскага застою справядлівыя і для акрэслення гісторыі БССР. Аднак гэтыя вызначэнні гранд-наратыву не здольныя ахарактарызаваць спецыфіку беларускай гісторыі. Існуе яшчэ гісторыя грамадскай думкі, якой была ўласцівая разнастайнасць, нягледзячы на ўяўную манатоннасць інтэлектуальнага жыцця. Для аналізу ж настрояў грамадскай думкі мы выкарыстаем толькі апублікаваныя тэксты – зважаючы на вартасць друкаванага слова ў савецкую эпоху.

## I. Акадэмічная дыскусія сярэдзіны 1960-х: фармаванне пастулатаў

Сярэдзіна 1960-х гг. была адзначаная не чуванаю раней для Савецкай Беларусі публічнаю гістарыяграфічнаю дыскусіяй. Да таго ж падчас тых падзеяў актуалізаваліся таксама некаторыя сімвалічныя для цяперашняга часу імёны.

Наўпраставым імпульсам для дыскусіі быў выхад з друку працы Аляксандра Коршунава аб праваслаўным пісьменніку-палемісце і царкоўным дзеячы першай паловы XVII ст. Апанасе Філіповічы (Коршунов, 1965). Але само ўзнікненне палемікі звязанае з імем аўтара рэцэнзіі на гэтую кнігу беларускага літаратуразнаўцы Міколы Прашковіча.

Сам Прашковіч быў даволі каларытнаю фігураю (падрабязней гл.: Чамярыцкі, 2004: 149–152). Як спецыяліст па старажытнабеларускай літаратуры ён працаў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР і ў 1965 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю па раннім перыядзе творчасці Сімяона Полацкага. Такім чынам, ён бы мог рэалізоўвацца ў прафесійнай сферы. Але, як адзначаюць усе, хто яго ведаў, Прашковіч меў тэмперамент, які цяжка было замкнуць у акадэмічным асяроддзі. Так, рэцэнзія на акадэмічную працу Коршунава атрымалася ў Прашковіча (1965: 174–177) палемічна завостранаю, яна падва-

жыла афіцыйныя погляды і атрымала шырокі грамадскі рэзананс у Беларусі.

Увогуле Мікола Прашковіч даволі высока ацаніў даследаванне Коршунава, але трохі з'едліва скрытыкаваў некаторыя гістарычныя стэрэатыпы, якія насаджаліся афіцыйнаю прапагандаю. Так, спаслаўшыся на сцверджанне Коршунава пра тое, што «*маючы на ўвазе інтарэсы сацыяльных нізоў ён* [Апанас Філіповіч – А. Д.] *выправіўся ў Маскву шукаць абароны ад каталіцкай агрэсіі і сваавольства*», рэцэнзент ацаніў гэты тэзіс як «па меншай меры несур'ёзны». І далей Прашковіч адзначыў больш рэзка: «*Ды і ўсім ходам сваіх разважанняў даследчык сцвярджае, што праваслаўны манах за шпіёнскія звесткі хацеў купіць у праваслаўнага цара матэрыяльную дапамогу для Купяціцкага манастыра*» пад Пінскам, дзе Філіповіч нейкі час жыў. І для «*праваслаўнага манаха, безумоўна, унія была смяртэльным злом: ён хацеў, каб праваслаўны цар памог знішчыць ненавісную яму унію. Што ж да сацыяльнага вызвалення, дык пра гэта не можа быць і гаворкі*» (Прашковіч, 1965: 175).

Саму ж ідэю царкоўнай уніі Прашковіч адлюстраваў досыць пазітыўна: «*Рэлігійная барацьба, узаемныя інтрыгі, шантаж, подкупы, абвінавачванні аслаблялі і без таго слабое Вялікае княства Літоўскае, якое вымушана было ў 1569 годзе ўвайсці ў склад Рэчы Паспалітай. Найбольш прадбачлівыя людзі, разумеючы ўсю небяспеку і шкоду ўнутраных супярэчнасцей, знайшлі адзінае выйсце з гэтага цяжкага становішча: на царкоўным саборы шляхам узаемных уступак дабіцца аб'яднання праваслаўных з уніятамі і ўтварыць для Беларусі і Украіны патрыяршаства з цэнтрам у Кіеве. Сапраўды, гэта была для таго часу вельмі прагрэсіўная думка. Утварэнне такога патрыяршаства, па-першае, спыніла б унутраныя рэлігійныя непаладкі ў краіне, а па-другое – вырвала б уніятаў з-пад уплыву езуітаў. Але, як справядліва адзначае А. Коршунаў, гэтая ідэя аказалася утопіяй*». Увогуле, Прашковіч адзначыў, што ў «А. Коршунава погляд на унію ўстарэлы, аднабаковы», а «мэты ўвядзення уніі ён прымае за яе канчатковы вынік» (Прашковіч, 1965: 176).



**Малюнак 1. Аляксандр Коршунаў, аўтар кнігі пра Апанаса Філіповіча**

Тэрміналагічныя пытанні, такія актуальныя і сёння, таксама прыцягнулі ўвагу Міколы Прашковіча. Тут важна зразумець, што дыскусіі вакол семантычнага поля тэрмінаў «Літва» і «літоўскі» – зусім не вынаходніцтва Міколы Ермаловіча і не практыка адно 1980-х–1990-х гг. Прыклад рэцэнзіі на Коршунава паказвае, што ў акадэмічным асяроддзі гэтыя пытанні ўздымаліся яшчэ ў 1960-я гг. І ў працяг – характэрны тэрміналагічны абзац з Прашковіча: «*Атаясамленне значэння тэрміну "рускі" часоў Кіеўскай Русі з яго сённяшнім значэннем прывяло А.Коршунава таксама да непаразумення. Так, ён сцвярджае, што Кіеўская кафедральная царква св. Сафіі з'яўляецца "гонарам рускага народу". Безумоўна, А. Коршунаў меў на ўвазе ўсіх усходніх славян часоў Кіеўскай Русі. Тады, відаць, яму варта было пра гэта сказаць выразна*».

Трэба добра ўяўляць сабе спецыфіку савецкага, у тым ліку і навуковага друку тых гадоў. Думка, якая агучвалася ў перыядычных выданнях, уяўлялася не проста голасам аўтара, але і пазіцыяй выдання, якое мае афіцыйную санкцыю на публікацыю. Рэцэнзія Міколы Прашковіча выйшла з друку ў самым канцы 1965г. А ўжо ў лютым 1966 г. у галоўнай афіцыйнай газеце БССР, «Советской Белоруссии», з'явіўся крытычны водгук на гэтую рэцэнзію аўтарства маладомых аспірантаў Уладзіміра Люкевіча і Якава Трашчанка (Люкевич и Трещенок, 1966). Так, гэта менавіта той Трашчанок, якога ўжо ў іншую эпоху будуць ацэньваць як аднаго з найвыразнейшых прадстаўнікоў «дырэктыўнай гістарыяграфіі» (Смалянчук, 2006: 56–64; Смалянчук, 2007: 351–361; Наша Ніва, 2003).



**Малюнак 2. Мікола Прашковіч, рэцэнзія якога на кнігу А.Коршунава справакавала акадэмічную дыскусію сярэдзіны 1960-х гг.**

Палемічна выказаўшы нязгоду з некаторымі тэзамі рэцэнзіі Міколы Прашковіча, найперш пра магчымыя пазітыўныя ацэнкі праекту царкоўнай уніі, гэтыя рэцэнзенты дазволілі сабе яўнае перабольшванне і гіпертрафаванне поглядаў літаратуразнаўцы. У прыватнасці, яны прыпісалі крытыку сцверджанне, што Вялікае княства Літоўскае было беларуска-украінскаю дзяржаваю. Але, што важней, гэтыя аўтары дазволілі сабе палітычныя ацэнкі дыскусійнага тэксту: «*Выдумкі пра тое, Вялікае княства літоўскае* [з малых літар у арыгінале

– А. Д.], *што ў гэтай дзяржаве беларускі народ жыў у дастатку, што унія была спецыфічнаю беларускаю рэлігіяй, не арыгінальныя і не новыя. Поўная навуковая няслушнасць і сумнеўны палітычны сэнс іх даўно выкрыты савецкімі гісторыкамі. Таму з'яўленне на старонках "Полымя" гэтых ілжывых сцверджанняў не можа не выклікаць здзіўлення»*. І далей больш рэзка: *«Мы не лічым, што рэдакцыйная калегія "Полымя" падзяляе "гістарычныя канцэпцыі" М. Прашковіча, але перакананыя, што ёй трэба нагадаць пра абавязкі ўважліва чытаць усе матэрыялы, якія друкуюцца ў часопісе. Не ўласціва грунтоўнаму літаратурна-мастацкаму і грамадска-палітычнаму часопісу даваць свае старонкі для папулярызацыі поглядаў, якія скажаюць гісторыю беларускага народу і нічога агульнага не маюць з навукаю*» (Люкевич и Трещенок, 1966).

Статус публікацыі выклікае пытанні. Гэты вельмі крытычны тэкст быў змешчаны пад рубрыкаю «Ліст у рэдакцыю». Ці маглі ў тыя часы крытычныя тэксты невядомых аспірантаў так проста трапіць на старонкі галоўнай газеты БССР? Далейшыя падзеі паказваюць, што гэтая публікацыя была толькі часткаю спланаванай акцыі. Як адзначыў гісторык літаратуры Вячаслаў Чамярыцкі, публікацыя Прашковіча выклікала рэзка адмоўную рэакцыю галоўнага афіцыёзнага гісторыка Лаўрэнція Абэцэдарскага і ягоных аднадумцаў. У 1966 г. артыкул паслужыў падставаю для спецыяльнай навуковай дыскусіі ў Акадэміі навук па пытаннях беларускай дзяржаўнасці, ацэнкі ролі царкоўна-рэлігійнай уніі ў гісторыі беларускага народу ды інш. (Чамярыцкі, 2004: 149).

Адам Мальдзіс, прыгадваючы атмасферу той дыскусіі, адзначыў, што Прашковіч першы раз трапіў пад «сур'ёзны разбор» у вялікай канферэнц-зале Прэзідыуму Акадэміі навук, пасля таго як надрукаваў у «Полымі» сваю рэцэнзію на кнігу Коршунава (Мальдзіс, 2003). Паводле Мальдзіса, у сваёй рэцэнзіі Прашковіч «*крытыкаваў артадаксальнае праваслаўе, асцярожна хваліў уніяцтва, што на той час лічылася вялікай крамолай»*. Усё гэта *«дало падставы двум пільным аспірантам з правінцыі, Люкевічу і Трашчонку, абвінаваціць у "Советской Белоруссии" Прашковіча ў беларускім нацыяналізме. Зверху паступіла каманда: разабрацца, асудзіць*». «Разбіранне» цягнулася ажно два дні, як сапраўдная міжнародная навуковая канферэнцыя. «*Зала была поўная, бо многія хадзілі на такія разборы, як на тэатральнае відовішча. Але моладзь падтрымала Прашковіча – хто словам, а хто апладысментамі. Таму кожны з бакоў лічыў сябе і пераможцам, і пераможаным*». Тут будзе цікава адзначыць, што ці не найбольш «ніякавата» пачуваўся адзін Коршунаў, бо «*ў рэцэнзіі яго кнігу ўсё ж нібы хвалілі, а тут ад яго запатрабавалі адмежавацца ад рэцэнзента...*» Але, нягледзячы на аргументаванасць той ці іншай пазіцыі, усё кіраўніцтва – ад аддзелу навукі ЦК КПБ да рэдактараў газетаў і дырэктараў акадэмічных інстытутаў – пачало ставіцца да Праш-

ковіча насцярожана. Той парушыў няпісанае правіла лаяльнасці – справакаваў публічную дыскусію (Мальдзіс, 2003).

Беларускі філосаф Уладзімір Конан у сваіх успамінах дадаў іншыя характарыстыкі той дыскусіі (Конан, 2008). Мы бачым, што не ўся навуковая грамадскасць была гатовая толькі пасіўна ўспрымаць ідэалагічныя ўказанні, а інтрыга, якая раскручвалася, мела не аднабаковую скіраванасць: «*І вось тады бальшавіцкі ідэолаг Советской Белоруссии Абэцэдарскі трапіў у пастку: згадзіўся ўдзельнічаць у акадэмічнай дыскусіі па гэтай спрэчцы. Хоць нават і мне, тады малавопытнаму малодшаму супрацоўніку, было зразумела, што Абэцэдарскі са сваімі акадэмічнымі паслядоўнікамі апынецца ў ізаляцыі*». Паводле Конана, так і атрымалася: адзін за адным выступалі літаратуразнаўцы, гісторыкі, філосафы і, аддаўшы службовую даніну афіцыйнаму атэізму ды марксісцка-ленінскай дыялектыцы, мякка пакрытыкаваўшы Прашковіча за «уніяфільства» і палемічныя перабольшанні, «*даволі грунтоўна, хоць і ветліва, раскрытыкавалі абэцэдаршчыну. Лаўрэнцій Сямёнавіч знутры ўвесь кіпеў, але спачатку трымаўся цвёрда, як той Куляшовы "юнак на дапросе", паўтараючы свае вядомыя аргументы і тэзісы*» (Конан, 2008).

Як прыгадвае Конан, недзе ў сярэдзіне дыскусіі на трыбуну выйшаў малады мажны мужчына з адкрытым і спакойным тварам, зусім не падобны да шараговага, вечна прыгорбленага навукоўца з ягонаю 83-рублёваю «палучкай». «*"Я мастак Лявон Баразна, – адрэкамендаваўся не знаёмы публіцы аратар. – Я не акадэмічны вучоны, але трохі разбіраюся ў праблеме, аб якой ідзе спрэчка". І ў межах афіцыйнай карэктнасці, але без гэтых згодніцкіх "аднак", "тым не менш", "з аднаго боку і з другога боку" паказаў усю антынавуковасць абэцэдаршчыны, пераканаўча давёў слушнасць Прашковічавых сцвярджэнняў*» (Конан, 2008).



**Малюнак 3. Лявон Баразна – мастак і актывіст захавання гісторыка-культурнай спадчыны**

Як бачым, публічныя дыскусіі ў сярэдзіне 1960-х гг. яшчэ маглі пайсці па непадкантрольным шляху, парушыўшы запланаваны сцэнар асуджэння. У выніку даволі ўпэўнены ва ўніверсітэцкай аўдыторыі Лаўрэнцій Абэцэдарскі «*ўзарваўся, здаецца, не-*

*шта крычаў, урэшце пагрозліва паківаў на ўсіх пальцам (у перакладзе на афіцыйны "большевистско-энкавэдистский язык" гэты жэст, відаць, азначаў: "Подождите, ядрёна вошь, я вам еще покажу, кто вы такие!") і пакінуў акадэмічны амфітэатр*» (Конан, 2008).

Рэдакцыя часопісу «Полымя» ў гэтай сітуацыі таксама не засталася безгалосаю. Філосаф Мікола Алексютовіч, скарыстаўшы назву тэксту «Советской Белоруссии», апублікаваў у «Полымі» свой разгорнуты артыкул «А дзе ж ісціна аб'ектыўная?» (Алексютовіч, 1966). Ужо на пачатку свайго тэксту аўтар сфармуляваў вузлавыя праблемы, з-за якіх палеміка атрымалася такою гарачаю: «*Адмоўная рэакцыя на рэцэнзію М. Прашковіча мае сваё тлумачэнне. Справа ў тым, што і ў наш час ёсць яшчэ катэгорыя людзей, не здольных зразумець, што не ўсё тое, што звязана з дзейнасцю рускіх цароў і праваслаўнай царквы, было прагрэсіўнае. Таму ўсё тое, што пранікала да нас з краін Заходняй Еўропы (і нават славянскай Польшчы), успрымаецца імі як ад нячысціка*». Далей аўтар узмацніў сваю думку: «*Адсюль – праклён у адрас усіх каталікоў і дыфірамбы ў адрас праваслаўных дзеячаў, асуджэнне манархаў і феадалаў іншаземных і паклоны рускаму цару і памешчыкам, рэверансы ў бок рускай феадальнай дзяржавы і падазронае стаўленне да Вялікага княства Літоўскага, якое па сваім этнаграфічным складзе, па сваёй тэрыторыі і культуры было пераважна беларускае*» (Алексютовіч, 1966: 179).

Цалкам заканамерна, што ў абгрунтаванні сваіх поглядаў беларускі філосаф у сярэдзіне 1960-х апеляваў да марксісцкай тэорыі. І сапраўды, калі строга заставацца ў рамках гэтай метадалогіі, то для непрыхаваных сімпатыяў да расійскага царызму, як і для абскурантызму, не застаецца месца. Беларускія інтэлектуалы савецкай эпохі актыўна выкарыстоўвалі такі варыянт дыскусіі.

Як адзначыў Алексютовіч, «*усё, аб чым гаварылася вышэй, падводзіць нас да самага галоўнага пытання, якое ўздымаюць у сваім артыкуле В. Люкевіч і Я. Трашчонак. Гэта пытанне аб дзяржаве*». Алексютовіч працытаваў маладых аспірантаў: «*Беларускі народ здабыў дзяржаўнасць толькі дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі*». Але філосаф выкарыстаў гэтую тэзу толькі, каб перавесці дыскусію ў іншы кірунак, парушаючы жорстка выбудаваныя схемы Люкевіча і Трашчанка: «*Калі б аўтары ўдакладнілі: сацыялістычную дзяржаўнасць – не было б поваду для спрэчкі. Але яны крыху раней сцвярджаюць, што "літоўскія феадалы ў XIII стагоддзі ўключылі ў склад сваёй дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага, – заходнія землі Русі, аслабленыя цяжкай барацьбой супроць манголататар і нямецкіх "псоў-рыцараў"*». Але менавіта на гэтых землях, як адзначыў Алексютовіч, з XIV ст. пачала фармавацца беларуская народнасць, і «*літоўскія, а затым і польскія магнаты захавалі за мясцовымі феадаламі ўсе іх правы і прывілеі, забяспе-*

*чыўшы тым самым сабе сацыяльную апору*» (Алексютовіч, 1966: 183).

Такім чынам, Алексютовіч паставіў рытарычнае пытанне: «*Што ж атрымліваецца: існавалі заходнерускія землі, якія вялі барацьбу з чужаземцамі, а дзяржавы не было. Хто ж насяляў гэтыя землі: дзікуны, арганізаваныя ў кланы, роды, ці людзі, якім знаёмы быў ужо дзяржаўны лад? З артыкула В. Люкевіча і Я. Трашчонка відаць, што на гэтых землях гаспадарылі ўжо феадалы, а дзяржавы… усё-такі не было. І вось літоўскія феадалы ўзялі проста так ды ўключылі гэтыя малаабжытыя землі ў склад сваёй дзяржавы. Дзе ж тут логіка?*» (Алексютовіч, 1966: 183)

Можа быць, такая аргументацыя, пасля палкіх дыскусіяў 1980-х–1990-х гг., выглядае трохі спрошчанаю, але ж гэта была фактычна першая адносна свабодная, гэта значыць, не пад настолькі жорсткім прэсінгам, гістарыяграфічная дыскусія ў пасляwhen сталінскай Савецкай Беларусі. І сам стыль эпохі патрабаваў апеляцыі да відавочных рэчаў.

Адну ж фразу з артыкулу Міколы Алексютовіча можна лічыць увогуле рэфрэнам да ўсёй той дыскусіі: «*…Нельга проста ўзяць і закрэсліць некалькі вякоў гісторыі беларускага народа толькі таму, што ў адпаведны час не было яшчэ этнаграфічнага тэрміну "Беларусь"*».

Што ж да гісторыі пагрому «Акадэмічнага асяродку», то яна досыць добра апісаная (падрабязней гл.: Чарняўскі, 1999: 55–64; Чарняўскі, 2004: 196–204; гл. таксама: Антановіч, 1991; Каўрус, 1993; Міско, 1994; Рабкевіч, 1995; Лыч і Навіцкі, 1996: 374–375; Дзярновіч, 2004: 11–13). Тыя падзеі пакінулі нам таксама архіўныя крыніцы ў адкрытых сховішчах.[1] Тут можна толькі крыху больш падрабязна спыніцца на далейшым лёсе Міколы Прашковіча, бо ягоны тэкст апынуўся ў цэнтры дыскусіі ды выклікаў такі розгалас. Вячаслаў Чамярыцкі пісаў, што Прашковіч быў даверлівым, адкрытым і залішне эмацыйным чалавекам. Яго выкарысталі органы бяспекі, «*пад пільным наглядам якіх знаходзіўся*», для дыскрэдытацыі некаторых нацыянальных патрыётаў, фабрыкацыі справы і «выкрыцця» ў 1973–1974 гг. «гнязда беларускіх нацыяналістаў» у Акадэміі навук БССР («Акадэмічны асяродак»), у выніку чаго разам з Прашковічам пацярпела цэлая група беларускіх навукоўцаў, асабліва Алесь Каўрус, Сцяпан Міско, Валянцін Рабкевіч і Міхась Чарняўскі, якіх звольнілі з працы, і яны доўгі час не маглі нідзе ўладкавацца па спецыяльнасці. Паводле абвінавачання ў беларускім нацыяналізме ў 1974 г. Прашковіча таксама звольнілі з працы ў Акадэміі Навук. Пэўны час ён быў беспрацоўны, пасля працаваў грузчыкам, карэктарам у часопісе «Родная прырода» і газеце «Вечерний Минск». У 1982 г. пакінуў працу па стане здароўя. Мікола Прашкевіч трагічна загінуў падчас

[1] У прыватнасці, выключэнне В. Рабкевіча з КПСС: НАРБ. Ф. 447, воп. 4, спр. 2: арк. 81; спр. 6: арк. 52–54; матэрыялы па супрацоўніках АН БССР: НАРБ. Ф. 4, воп. 20, спр. 518: арк. 248

пажару ў роднай вёсцы (Чамярыцкі, 2004: 150).

Адам Мальдзіс больш рэзка ацаніў некаторыя слабасці характару нашага героя: «*[Прашковіч] – зямны, сялянскі, даверлівы беларускі максіміліст. Нават вучоба ў аспірантуры ў ленінградскім Пушкінскім доме не пазбавіла Прашковіча ад сялянскай наіўнасці. Ён мог абы-каму расказваць аб сваёй перапісцы з украінскімі патрыётамі, аб сваіх зборах для іх, звольненых з работы, грошай. Мог абы-каго, абы толькі загаварыў па-беларуску, запрасіць у свой аспіранцкі пакой, а потым у аднапакаёвую кватэру на Куйбышава*» (Мальдзіс, 2003).

Прашковіч быў халасцяком, таму збірацца ў яго – у пакоі ці, пазней, у кватэры – было выгодна, а часам іншых варыянтаў і не прапаноўвалася. У маладых навукоўцаў, пераважна нядаўніх мігрантаў з вёскі, іншай магчымасці сустрэцца па-за працаю проста не было. І вось тады «*часта нехта спецыяльна пачынаў палітычныя фантазіі: маўляў, каго мы паставім якім міністрам, калі дарвемся да ўлады. Большасць з нас успрымала гэта як гульню*». Але для таго часу гэта была досыць рызыкоўная гульня: «*А Прашковіч як гаспадар сядзеў, слухаў, недзе наіўна паддакваў, не разумеючы, што гэта некаму трэба, каб пайсці ўверх. А зверху пачалі ціснуць...*» Звольнены, Прашковіч доўга заставаўся без працы, «*каб пад'есці, часам прыходзіў да Караткевічаў, да нас. Потым неяк уладкаваўся карэктарам. Загінуў трагічна: закурыў папяросу ў роднай хаце на Бярэзіншчыне, прылёг на ложак і – згарэў...*» (Мальдзіс, 2003)

## ІІ. Самвыд 1970-х: фармуляванне палітычных мэтаў

Трагічная гісторыя Міколы Прашковіча не проста ілюструе цяжкі выбар навукоўца-гуманітарыя, але паказвае таксама, якую вагу мелі ў той час друкаванае слова і смела выказаная, нягледзячы на абставіны, думка даследніка. Падчас дыскусіі сярэдзіны 1960-х гг. былі выразна агучаныя тыя тэзы беларускай гістарыяграфіі, якія і надалей будуць мішэнню прапагандысцкіх кампаніяў: асобнасць гісторыі Беларусі, яе адрозненне ад расійскіх і польскіх візіяў гісторыі; культурная, у тым ліку рэлігійная самабытнасць Беларусі; важнасць для сацыякультурнай прасторы фактару прысутнасці заходняй (лацінскай) цывілізацыі. Вось ужо больш за стагоддзе гэтыя па сутнасці нейтральныя погляды застаюцца пунктамі-раздражняльнікамі для прыхільнікаў заходнерусізму і яго сучасных прымітывізаваных версіяў (адзначым таксама, што стваральнікі заходнерусізму ў сярэдзіне XIX ст. пісалі якраз пра культурную адметнасць краю).

Але такія публічныя дыскусіі на гістарыяграфічныя тэмы, як тое адбывалася ў сярэдзіне 1960-х гг., у 1970-я, пасля пагрому ў Акадэміі навук ды іншых інтэлектуальных асяродках, ужо не маглі выйсці на старонкі легальных выданняў. Таму актыўна пачаў цыркуляваць самвыд, які і вызначаў спецыфіку грамадскай

актыўнасці таго перыяду. Пераломнымі тут былі якраз падзеі першай паловы і сярэдзіны 1970-х: пагром «Акадэмічнага асяродку» і рэакцыя грамадскасці на рэпрэсіі. У выніку ў Беларусі з'явіўся палітычны самвыд, у тым ліку і перыядычны. Адметнасць пашырэння гэтых непадцэнзурных, грамадска значных тэкстаў заключалася ў тым, што іх тыражаванне адбывалася па-за аўтарскім кантролем, у працэсе распаўсюду ў чытацкім асяроддзі. А капіяванне непадцэнзурнай літаратуры было магчымым дзякуючы ўваходжанню ў жыццё савецкага чалавека пішучай машынкі (Даниэль, 2005: 29).

Як сапраўдны інфармацыйны выбух можна ацаніць аналітычны агляд «*Положение в Белоруси. 1974 год*», падпісаны імем Генрыха Ракутовіча (за гэтым псеўданімам стаяў Зянон Пазьняк). Аналітычны агляд пачынаўся з просьбы: «*Уничтожение нашей интеллигенции органами КГБ происходит в полном молчании. Если эти страницы попадут в руки наших братьев и единомышленников из других республик СССР, располагающих более широкими возможностями связи и информации, мы надеемся на их солидарность и помощь*». Аўтар тэксту пры дапамозе моцных вобразаў апісваў сітуацыю ў Беларусі на пачатку 1970-х: «*Политика насилия и лжи проводятся в Белоруси (так у арыгінале – А. Д.), почти не ослабевая, с 1930-х годов. Во времена так называемой “хрущёвской демократии” мы не смогли полностью реабилитировать большинство своих национальных политических деятелей, писателей и поэтов. Насилие и ложь образовали в республике весьма специфическое положение. По существу мы стоим ещё по горло в крови 1930-х годов. Физические и моральные потери были тотальны и столь существенны, что наше поколение чувствует их постоянно*» (Дзярновіч, 1999: 65). Перадрукі ды фотакопіі гэтага агляду распаўсюджваліся ў Беларусі і за яе межамі.



**Малюнак 4. Мікола Ермаловіч – стваральнік новага беларускага самвыду**

У 1975 г. Мікола Ермаловіч распачаў рэгулярнае выданне сваёй падполь-

най перыёдыкі «Гутаркі». Фактычна, «Гутаркі» былі працягам рукапіснага часопісу «Падснежнік», які Ермаловіч выдаваў цягам 1963–1964 гг. (выйшлі чатыры нумары), але перапыніў працу над ім пасля адхілення ад улады Мікіты Хрушчова – калі ў грамадскім жыцці ўсталявалася атмасфера падазронасці ды выкрывальніцтва.

«Гутаркі» выдаваліся Міколам Ермаловічам пад псеўданімам Сымон Беларус цягам 1975–1976 гг. (тэхнічныя характарыстыкі выдання гл.: Лаўрык і Андросік, 1998: 25–30). На сёння вядома, што агулам выйшлі 48 нумароў.[2] Выданне мела дэвіз «Аб усім, што баліць» – гэты дэвіз чытачы часам успрымалі як паралельную назву. Апроч таго, на першым аркушы справа размяшчаўся эпіграф з Янкі Купалы: «Толькі гутарка ходзіць такая...»

І ў назве выдання, і ў структуры ды прынцыпах падачы інфармацыі Ермаловіч наўпрост апеляваў да традыцыі асобнай катэгорыі твораў беларускай літаратуры XIX ст. «Гутаркі» таго часу – гэта публіцыстычныя, а таксама агітацыйныя, найчасцей ананімныя творы, у якіх асвятляліся актуальныя сацыяльныя праблемы ці пытанні грамадскай маралі. Напісаныя ў белетрызаванай форме або ў выглядзе размовы дзвюх ці больш асобаў, гутаркі XIX ст. арыентаваліся на дыялог з чытачамі (Мархель і Чамярыцкі, 2007: 292–299). Так і ў «Гутарках» Ермаловіча давяральныя размовы пра злабадзённае чаргуюцца з вершамі ды гістарычнымі нарысамі.

У «Гутарках» вылучаюцца два тэматычныя блокі. Адзін з іх – гэта тое, што стварае клопат беларускага інтэлігента, ці, як засігналізаваў сам Ермаловіч, тое, «што баліць». У метафарычнай і адначасова гумарыстычнай «Гутарцы» № 3 пад назваю «*Навошта свінні рогі*» аўтар саркастычна вывеў вобраз свайго суразмоўцы: «*Мы жывём у век, калі быллю становіцца не толькі тое, што было ў казках, але нават і тое, чаго не было ў іх. Напрыклад, рагатыя свінні!.. Доўга я ламаў галаву над тым, чаму гэта незвычайная парода асабліва распладзілася ў нас, у Беларусі. Але вось аднойчы пачуў, як прарохкала адна такая свіння...*»

І далей Сымон Беларус з горыччу выклаў пачутае і паспрабаваў уступіць са «свіннёй» у дыскусію:

*«– Скора ніякай вашай Беларусі не будзе, як не будзе і вас, беларусаў, і вашай мовы. Такую нам далі праграму.*

---

[2] «Гутаркі» (як асобныя выданні, так і захаваны і даступны камплект) ужо неаднаразова перавыдаваліся. Першым публікацыю здзейсніў сам Мікола Ермаловіч у часопісе Беларускага таварыства сляпых «Зрок» (М. Ермаловіч сам быў інвалідам па зроку і сябрам гэтага таварыства): Ермаловіч, 1993–1994. Далейшыя выданні наяўных камплектаў: Ермаловіч, 2001b: 151–183; Ермаловіч, 2007a: 195–273; Ермаловіч, 2010: 525–550. У апошнім выданні зроблены перадрук са «Скрыжаляў “Спадчыны”» (Ермаловіч, 2007a), але апушчаная нумарацыя і дакладнае датаванне «Гутарак». Публікацыі асобных выданняў: Ермаловіч, 2001a; Ермаловіч, 2007b.

*– І што, у той праграме толькі гэта і напісана?*

*– Не ведаю, можа, што і другое там ёсць, але я толькі гэта вычытала.*

*Я нясмела запярэчыў:*

*– Знойдуцца ж людзі, якія не дазволяць вам...*

*Але свіння нават і не сумелася, толькі ашчэрылася і пагрозліва намякнула:*

*– А рогі навошта?*

*Цяпер я зразумеў, для чаго выведзены рагатыя свінні*» (Ермаловіч, 2001b: 154–155). [3]

Гэтая «Гутарка» датаваная 28 лістапада 1975 г. А крыху пазней, у «Гутарцы» «*Мова – сцяг народа*» (№ 5, 12 снежня 1975 г.) аўтар выйшаў і на больш шырокае разуменне праблемы свабоды ў СССР: *«Свабода адрачэння ад сваёй мовы – пакуль што адзіная свабода, якая прадастаўлена нам і якой мы можам карыстацца бесперашкодна. Магчыма, таму і знаходзяцца людзі, якія з-за адсутнасці другіх свабод спяшаюцца пакарыстацца хоць гэтай свабодай*» (Ермаловіч, 2001b: 156).

Але яшчэ ў канцы таго ж 1975 г. Мікола Ермаловіч адышоў ад скаргаў на актуальны стан краю, свабоды, культуры, мовы і надрукаваў у выглядзе «Гутаркі» № 7 (26 снежня 1975 г.) тэкст, які можна назваць маніфестам беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі – «Таму, хто прачнуўся». Гэты дакумент настолькі важны для фармавання грамадскай пазіцыі, што яго варта прывесці ў шырэйшым цытаванні:

«*Дарагі сябра! Ты расплюшчыў ужо свае вочы і правільна глядзіш на свет. Але табе пакуль што страшна, ты сябе адчуваеш адзінокім, слабым і нават непатрэбным. Што ж, зразумела. Заўсёды новае страшыць і выклікае няўпэўненасць. У некаторых з'яўляецца здрадлівая думка: "А навошта мне ісці па невядомай вузенькай сцяжынцы, калі можна падобна многім ісці па бітаму шырокаму гасцінцу". І няма чаго граху таіць, іншыя, зрабіўшы некалькі крокаў у невядомае, вяртаюцца назад і скіроўваюць на вытаптаны шлях*».

Злавіўшы гэтае адчуванне няпэўнасці беларускага інтэлігента, Ермаловіч паспрабаваў адшукаць аргументы для трываласці: «*Але ты не паддавайся гэтаму настрою, перамагай яго. Найперш ты павінен заўсёды памятаць, што жывеш на сваёй зямлі, што ніхто іншы, а ты – гаспадар яе. Калі ты ніколі пра гэта не будзеш забывацца, то заўсёды будзеш упэўненым у сваёй справе*».

Далей фармулюецца ўжо праграма індывідуальных паводзінаў: «*Ведай таксама, што ніхто не прынясе шчасця, дабра і парадку тваёй Радзіме, апроч цябе, і таму бяры лёс сваёй Радзімы ў свае рукі. Абудзіўся сам – абуджай іншых да свядомага нацыянальнага жыцця. Калі ты хоць аднаго чалавека далучыш да патрыятычнай работы – зробіш вялікую справу. А зрабіць ты можаш куды*

[3] Тут і далей цытуецца паводле публікацыі «Гутарак» у часопісе «Полымя», зробленай на падставе матэрыялаў асабістага архіву мастака Аляксея Марачкіна.


Г У Т А Р К А

**Малюнак 5. Першая ермаловічава “Гутарка” (лістапад 1975)**

*болей. Ніколі не выракайся роднай мовы, тым болей жывучы на Радзіме. Заўсёды вусна і пісьмова ўжывай яе, змагайся за яе. Ведай, што той, хто прапаведуе вырачэнне роднай мовы, сам ад сваёй не толькі не выракаецца, але і навязвае яе яшчэ іншым*».

Ужо працытаванага хапіла б, каб гэтая «Гутарка» ўвайшла ў гісторыю беларускай думкі. Але аўтар зрабіў яшчэ большую сенсацыю, агучыўшы палітычныя мэты, якія на той час выглядалі нерэальнымі: «*Цвёрда запомні, што выратаванне тваёй Радзімы – у яе волі і незалежнасці. Таму, змагаючыся за яе волю і незалежнасць, ты змагаешся за яе будучыню. Самае найбольшае тваё багацце – Радзіма. Калі ты яго страціш, зробішся і сам жабраком і жабрацтва перадасі ў спадчыну сваім дзецям. Таму ўсё сваё жыццё аддай Радзіме. Кожнай сваёй думкай будзь з ёю, кожнае слова – у абарону яе, кожную сваю справу – на карысць яе. Хай кожны крок твой будзе крокам тваёй Радзімы да волі!*»

Зрэшты, Мікола Ермаловіч сам разумеў татальнасць сітуацыі: «*У страшэнны час жывеш, у час беспрасветнай начы. Мы кругом абрабаваны. Усё наша ў чужых руках. Усё стала не нашым. Пазбаўленыя ўсяго, бяспраўныя нявольнікі і парабкі бяздушнай казны, мы асуджаны на жабрацкае існаванне. Мы не ведаем, калі скончыцца гэтая жудасная ноч. Ва ўсякім разе прасвету пакуль няма*».

Вось жа ягоны рэцэпт ратавання: «*Але калі сёння немагчыма яшчэ вызваліць ад ланцугоў свае рукі, то вызваліць свае душы мы можам ужо сёння. Калі сёння нельга вырваць з чужых рук нашы багацці, то няхай нашы сэрцы вызваляюцца ад страху перад пачварнай сілай улады, хай розум наш скідае з сябе ланцугі хлусні, якія аблыталі яго. Няхай жа ў Новым Годзе ўзнікаюць вольныя песні, вольныя думкі і вольныя словы. Вядома, гэта далёка не ўсё, але з такога пачынаецца сапраўдная ВОЛЯ!*» (Ермаловіч, 2001b: 156–157).

У гэтым тэксце мы бачым вельмі жорсткія ацэнкі савецкай рэчаіснасці. Але фармулюецца ўжо і праграма дзеянняў: «*Абудзіўся сам – абуджай іншых да свядомага нацыянальнага жыцця... Але калі сёння немагчыма яшчэ вызваліць ад ланцугоў свае рукі, то вызваліць свае душы мы можам ужо сёння*». Што надзвычай важна – у гэтым маніфесце практычна ўпершы-

ню ў паслясталінскай Савецкай Беларусі паўстае канцэпт незалежнасці: «*Цвёрда запомні, што выратаванне тваёй Радзімы – у яе волі і незалежнасці*». Такім чынам, гэтае ключавое слова – незалежнасць – было прамоўленае і напісанае.

У наступных нумарах «Гутарак» Мікола Ермаловіч развіў сваю тэзу пра незалежнасць. У другім выданні за 1976 г. (9 студзеня) пад назваю «Прычына нашых крыўд і бед» аўтар пазначыў існаванне гістарычна-палітычнага стэрэатыпу адносна Беларусі: «*Стала хадзячаю думка, што Беларусь ніколі не была і не можа быць самастойнай, і што яна абавязкова павінна ўваходзіць у саюзы з іншымі дзяржавамі і, само сабой разумеецца, займаць у гэтых саюзах падначаленае месца. Не будзе вялікай цяжкасцю абвергнуць гэту хлусню, але тое, што яна цвёрда ўбіта ў нашы галовы і заняла там становішча бясспрэчнай ісціны, сведчыць, наколькі нашы ворагі папрацавалі над засмечваннем нашай свядомасці, і наколькі мы былі бяспечнымі, што дапусцілі бесперашкоднае пашырэнне ў нас такога ідэйнага пустазелля*» (Ермаловіч, 2001b: 159).

У заканчэнні гэтай «Гутаркі» Мікола Ермаловіч канстатаваў: «*... Уніі і саюзы ні разу не выратоўвалі Беларусь ад ваеннай небяспекі і разбурэнняў. Але хоць войны прыносілі Беларусі найвялікшыя страты – не яны былі галоўнай прычынай заняпаду яе. Многія еўрапейскія дзяржавы не менш цярпелі ад войнаў, але нягледзячы на гэта, дасягнулі найвялікшага эканамічнага развіцця і не меншага палітычнага і культурнага росту. Гэта з'явілася вынікам таго, што яны былі незалежнымі краінамі, самі вырашалі свой лёс, самі па сваім меркаванні і патрэбнасцях будавалі ўласную гаспадарку і развівалі культуру. Але ўсяго гэтага была пазбаўлена Беларусь*». А фінальны абзац увогуле мусіў востра акрэсліць праблему: «*Калісьці Янка Купала заклікаў: “Пачнём дакапвацца самі да прычын нашых крыўд і бед”. Дык вось шматвяковая залежнасць ад суседніх дзяржаў, якія рабавалі і рабуюць матэрыяльныя і духоўныя багацці Беларусі, разбуралі і разбураюць яе нацыянальнае жыццё, душылі і душаць яе культуру, – была і з'яўляецца галоўнай прычынай нацыянальнага заняпаду Беларусі*» (Ермаловіч, 2001b: 160–161).

Застаецца яшчэ задача высветліць, наколькі шырока разыходзіліся «Гутаркі». Пра нейкія колькасныя ацэнкі цяпер казаць немагчыма. Але можна назваць асяродак, дзе «Гутаркі» тыражаваліся, цыркулявалі і адкуль пашыраліся, – гэта нонканфармісцкае нефармальнае мастацкае аб'яднанне «На Паддашку». Але, як адзначае адзін з лідараў (калі ў такіх катэгорыях магчыма казаць пра нефармальныя суполкі) «Паддашку» Яўген Кулік, іхняе кола было толькі адным з шэрагу асяродкаў пашырэння «Гутарак». Сваю частку машынапісу распаўсюджваў таксама Мікола Ермаловіч. Яўген Кулік апісаў працэс наступным чынам: «*Мікола Ермаловіч прыходзіў да нас на “Паддашак” з розных нагодаў і прыносіў свае “Гутаркі”. Першы раз гэта адбылося на*

*пачатку лістапада 1975 г... Вы ня думайце, што мы былі строга закансьпіраванай групай, якая зьбіралася на патаемныя сходкі і запускала памнажальны апарат. Усё рабілася нашмат больш элемэнтарна: давалі калегам пачытаць, і кожны ўжо па сваіх магчымасьцях памнажаў. Толькі калі справа тычылася найважнейшых матар'ялаў, мы пускалі ў ход тэхніку: сокавыціскалку, пераабсталяваную пад памнажальную машынку, якой мы нікому не паказвалі... Я мяркую, што ён ня сам іх набіраў, бо наўрад ці мог ён тое рабіць, а, напэўна, друкавала жонка...*» (Кулік, 2001).

Невядома, колькі копіяў рабіў сам Ермаловіч. Відавочна, што апроч групы «На Паддашку», «Гутаркі» пашыраліся і ў іншых асяродках, бо, як адзначае Кулік, «*...наша група магла надрукаваць няшмат, а складвалася такое ўражаньне, што "гутарак" ходзіць значна болей*».

Што да абсягу цыркуляцыі самвыдату, то Кулік адзначыў асцярожную тактыку ўдзельнікаў гэтага асяродку: «*Гутаркі неяк самі сабою разыходзіліся з маёй майстэрні. Здаралася так, што ў іх быў нейкі важны матар'ял, у такім выпадку ён друкаваўся большай колькасьцю асобнікаў. Калі б мы гэтым займаліся яшчэ больш актыўна, дык наўрад каб ацалелі цягам 20 гадоў існаваньня Паддашку. Мы абсалютна давяралі адзін аднаму, аднак былі дастаткова замкнёным колам. Гэта ўжо нашыя спадкаемцы, "маладзёны", што прыйшлі пасьля нас, казыраюць тым, што іхная дзейнасьць была накіраваная і вонкі, а ў 70-х быў зусім іншы час*» (Кулік, 2001).

Але не толькі «Гутаркі» зрабіліся сімвалам непадцэнзурнага друку Беларусі 1970-х гг. У той самы час, калі Мікола Ермаловіч падыходзіў да фінішу свайго самвыдавецкага праекту, аўтар з зусім іншаю біяграфіяй распачынаў працу над тэкстам, які зрабіўся знакавым для незалежнай думкі. Мова ідзе пра «*Письмо к русскому другу*», вядомае ў тыя часы як ананімнае.[4] Аўтарам тэксту быў Аляксей Каўка. Тут трэба хаця б крыху спыніцца на біяграфіі гэтага чалавека, каб лепш зразумець кантэкст напісання «Письма».

Аляксей Каўка быў выпускніком філалагічнага факультэту БДУ (1961 г.), але перад ім адкрываліся перспектывы службовай кар'еры ў савецкай сістэме, у прыватнасці ў камсамольскай сферы. Ён быў інструктарам, а ў 1959–1963 гг. – першым сакратаром Чэрвеньскага райкаму ЛКСМБ; з 1963 г. – сакратар Мінскага абкаму ЛКСМБ; з 1968 г. – адказны арганізатар Міжнароднага аддзелу ЦК ВЛКСМ, дзе «курыраваў» польскі камсамол. У 1971 г. скончыў Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС, тады ж стаў кандыдатам гістарычных навук.

Паступова дзве рысы біяграфіі – выразнае адчуванне нацыянальнае прыналежнасці ды шырокае для са-

[4] Сучасныя публікацыі тэксту: Каўка, 1991a: 153–174; Каўка, 1991b: 370–391; Каўка, 1998: 162–169. Цытаты ў нашым артыкуле падаюцца паводле беларускага перакладу Уладзіміра Арлова для зборніку «З гісторыяй на "Вы"» (Каўка, 1991b).

вецкага чалавека знаёмства з рэаліямі за межамі СССР – прывялі Каўку да пераасэнсавання сваёй асабістай ролі ў жыцці грамадства. Цягам лістапада 1976 – красавіка 1977 г. ён стварыў «Письмо к русскому другу». Напісаны ў форме звароту да расійскай інтэлігенцыі, гэты тэкст быў прысвечаны асэнсаванню гістарычнага шляху беларусаў, адстойванню самабытнасці беларускай культуры. Аўтар даводзіў права беларусаў на самавызначэнне. У «Письме» культурніцкая палітыка камуністычных уладаў у Беларусі дакладна вызначалася як асіміляцыйная: «*...На Беларусі мы апынуліся ў становішчы сведкаў разгорнутай асіміляцыі*» (Каўка, 1991b: 371). Роўнасць беларускай і расійскай моваў у БССР параўноўвалася з роўнасцю Чырвонага каптурка і шэрага ваўка. А тэзіс пра падобны да каланіяльнага стан Беларусі зрабіўся пасля адным з асноўных для незалежніцкае беларускае думкі. У гістарыясофскім сэнсе аўтар прытрымліваўся канцэпцыі разарванасці лёсу Беларусі між Расіяй і Польшчаю. Нягледзячы на тое, што ў «Письме» адчуваецца «мяккі» ўплыў марксізму, у ім таксама выказваюцца іронія і скепсіс адносна камуністычнай перспектывы.

У 1977 г. Каўка пачаў распаўсюджваць ананімны тэкст «Письма» ў Маскве, Беларусі і Польшчы. Джым Дынглі пераклаў «Письмо» на англійскую мову, і яго выдалі ў 1979 г. у Лондане як «дакумент беларускага самвыду» – «Letter to a Russian Friend: A “samizdat” publication from Soviet Belorussia» ([Каўка], 1979). «Письмо» атрымала шырокую вядомасць, зачытвалася беларускай і ўкраінскаю рэдакцыямі радыё «Свабода», публікавалася і цытавалася ў эміграцыйным беларускім, польскім ([Каўка], 1986), украінскім і расійскім друку ([Каўка], 1980).

Як пазней зазначыў Аляксей Каўка, задума напісаць такі тэкст і займацца яго распаўсюдам нарадзілася спантанна: «*Гэта здарылася ўвосень 1976 г. пад час адной з чарговых “застольных” размоваў з расійскім сябрам, калісьці калегам па міжнароднай дзейнасці ў ЦК ВЛКСМ (ён сам з Пецярбургу, філолаг, балканіст, вялікі інтэлектуал, з ліку “радетелей и страдателей” за Русь, носьбіт і творца рускай ідэі ў яе “единоделимой, собирательной”, праваслаўнай, вядома ж, сутнасці). Мой суразмоўца ў кантэксце размовы пра беларусаў натуральна заўважыў, не без цынізму: “Ну дык вы ж не хахлы (маўляў нашыя, крэўныя), на вас можна паклясціся. А калі так даражыце сваёй “мовою”, што ж, пакіньце сабе сваё “ў”, вымаўляйце “Уладзімір” замест “Владимир” (маўляў, крыўдаваць не будзем)”. Гэты выпадак стаў імпульсам: “Змаўчаць не выпадала – пачалася праца над “Письмом к русскому другу”*» (Дзярновіч, 1999: 44–45).

Гэты тэкст стаўся вельмі цікаваю спробаю прабіцца да свядомасці расійскай інтэлігенцыі ў пошуках паразумення ў справе нацыянальных інтарэсаў беларусаў: «*Відаць, мой не зусім прычасаны ліст здоўжыўся. Сябар павінен усё разумець з паўслова. Але, пакутуючы над гэтымі радкамі, я думаў не толькі пра сяброў. Пра зласліўцаў – таксама*» (Каўка, 1991b: 390). Адначасова з гэтым «Письмом»

з'явіўся і беларускі «самвыд» – непадцэнзурныя тэксты, выдадзеныя ўжо па-за межамі краіны. Беларускія праблемы набывалі шырэйшую знаёмасць у свеце.

## Заключная тэза

Гэты агляд дазваляе зразумець, наколькі гарачым быў градус грамадскай дыскусіі сярод беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Вядома, можна заўважыць, што агучаныя на публічных дыскусіях палажэнні ці апублікаваныя ў самвыдзе смелыя думкі даходзілі толькі да мізэрнай часткі насельніцтва БССР.

Але на гэтым этапе было важнае само выпрацоўванне канцэпцыяў ды візіяў, якія будуць шырэй цыркуляваць ужо ў эпоху перабудовы. Прынамсі, можна сцвярджаць, што шмат якія базавыя палажэнні беларускіх дыскусіяў – праблемы самаідэнтыфікацыі ды статус беларускай мовы – былі выразна акрэсленыя ўжо ў публіцыстыцы 1960-х–1970-х гг. Больш за тое, у сярэдзіне 1970-х гг. на паперы былі зафіксаваныя і патрабаванні незалежнасці для Беларусі, што на той час выглядала зусім фантастычна. Вынікае, што нейкія рэчы трэба спачатку прамовіць, а іх рэалізацыя будзе адбывацца шляхам, зусім не прадбачаным аўтарамі ды пратаганістамі гэтых канцэптаў.

**Крыніцы і літаратура**


1. Алексютовіч, М. (1966). «А дзе ж ісціна аб'ектыўная?», *Полымя*, № 5: 179–185.
2. Антановіч, С. (1991). «"Быць ідэйна свядомымі!" Заўвагі на палях стэнаграмы Красавіцкага (1974 г.) пленума ЦК КП Беларусі». *Літаратура і Мастацтва*, 10.05.1991.
3. Даниэль, А. (2005). «Истоки и смысл советского Самиздата», у В. Игрунов (ред.), *Антология самиздата. Неподцензурная литература в СССР*. 1950-е–1980-е. Т. 1, кн. 1. Москва: МИГПИ.
4. Дзярновіч, А. (1999). «Дэмакратычная апазыцыя Беларусі: 1956–1991», у А. Дзерновіч (рэд.), *Пэрсанажы і кантэкст*. Даведнік. Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі.
5. Дзярновіч, А. (2004). «Зноў пра маштаб», у А. Дзярновіч (аўтар-укладальнік), *Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985*. Даведнік. Т. 1 . Мінск: Athenaeum.
6. Ермаловіч, М. (1993–1994). «Аб усім, што баліць. Гутаркі», *Зрок*, 1993, № 2 – 1994, № 9.
7. Ермаловіч, М. (2001a). "Няміга і Менск". "Гутарка" № 3 (10). 16.І.1976 г.», *Наша Ніва*, 03–09.01.2001, № 1.
8. Ермаловіч, М. (2001b). «Аб усім, што баліць… Гутаркі», *Полымя*, № 9: 151—183.
9. Ермаловіч, М. (2007a). «Аб усім, што баліць. Гутаркі», у А. Белы, А. Валахановіч, Н. Сармант (укл. і рэд.), *Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі*. Зборнік дакументаў і матэрыялаў да 85-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча. Скрыжалі «Спадчыны», № 5. Менск: Спадчына.
10. Ермаловіч, М. (2007b). «Аб усім, што баліць». *Народная Воля*, 11.05.2007, № 75–76.
11. Ермаловіч, М. (2010). «Аб усім, што баліць. Гутаркі», у Ермаловіч, М., *Выбранае*, уклад., камент. Цвірка, К.; прадм. Грыцкевіча, А. Мінск: Кнігазбор.
12. [Каўка, А.] (1979). *Letter to a Russian Friend: A «samizdat» publication from Soviet Belorussia*. London: Association of Byelorussians in Great Britian.
13. [Каўка, А.] (1980). «Письмо русскому другу», *Современник* (Торонто), № 45–46.

14. [Каўка, А.] (1986). «List do przyjaciela Rosjanina», у *Argumenty do dialogu polsko-białoruskiego*. Warszawa: Przedświt.
15. Каўка, А. (1991a). «Письмо русскому другу», у А. Каўка (уклад.) *Скарыніч*, Вып. 1. Мінск: Мастацкая літаратура.
16. Каўка, А. (1991b). «Ліст да рускага сябра», Пераклад Арлоў, У., у *З гісторыяй на «Вы»*. Мінск: Мастацкая літаратура.
17. Каўка, А. (1998). «Письмо русскому другу (Фрагменты)», у Каўка, А., *Будам жыць! Пра тое самае*. Мінск, Масква: БГАКЦ – АНГ.
18. Каўрус, А. (1993). «"Сочтёмся славою…", альбо Крыху пра міфатворчасць». *Наша слова*, № 37, 15.09.1993
19. Конан, У. (2008). «Пра Лявона-рыцара ды Лаўрэнція-аглабельніка». *Народная Воля*, № 183–184, 02.12.2008
20. Коршунов, А. (1965). *Афанасий Филиппович. Жизнь и творчество*. Минск: Навука і тэхніка.
21. Кулік, Я. (інтэрв'ю) (2001). «На Паддашку. Пра Міколу Ермаловіча, "Гутаркі" і 1970-я». *Наша Ніва*, № 1, 03–09.01.2001.
22. Лаўрык, Ю., Андросік, Л. (1998). *Пазацэнзурны пэрыядычны друк Беларусі (1971–1990).* Каталёг. Менск: БГАКЦ – АНГ.
23. Лыч, Л., Навіцкі, У. (1996). *Гісторыя культуры Беларусі*. Мінск: Экаперспектыва.
24. Люкевич, В., Трещенок, Я. (1966). «Истине вопреки». *Советская Белоруссия*, 22.02.1966.
25. Мальдзіс, А. (2003). «Асэнсаванні». *Новы Час*, № 9 (14), чэрвень 2003.
26. Мархель, У.І., Чамярыцкі, В.А. (рэд.) (2007). *Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў*. У 2 т. Т. 2. Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе. Мінск: Беларуская навука.
27. Міско, С. (1994). «Міфы застаюцца толькі міфамі». *Менская грамада*, № 1 (6).
28. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Фонд 4, вопіс 20, справа 518.
29. НАРБ. Ф. 447, воп. 4, спр. 2.
30. НАРБ. Ф. 447, воп. 4, спр. 6.
31. *Наша Ніва* (2003), «Цынічная насьмешка з гісторыі», № 28.
32. Прашковіч, М. (1965). «Слова пра Афанасія Філіповіча», *Полымя*, № 12: 174–177.
33. Рабкевіч, В. (1995). «Група пяцёх». *Наша Ніва*, № 3.
34. Смалянчук, А. (2006). «Навошта Лукашэнку Трашчанок?» ([Рэц.:] Трещенок Я. И. История Беларуси. В двух частях. Часть 1. Могилев: МГУ, 2004. 296 с.; История Беларуси. В двух частях. Часть 2 / Под ред. Я. И. Трещенка. Могилев: МГУ, 2005. 310 с.), *ARCHE*, № 3: 56–64.
35. Смалянчук, А. (2007). «Ад Абэцадарскага да Трашчанка або эвалюцыя беларускай "дырэктыўнай гістарыяграфіі"» ([Рэц.:] История Беларуси. В 2-х частях. Ч. 2. Под ред. Я. И. Трещенка. Могилев: МГУ, 2005. – 310 с.), у *Репрессивная политика Советской власти в Беларуси*. Сб. науч. работ. Минск: «Мемориал». Вып. 3: 351—361.
36. Чамярыцкі, В. (2004). «Прашковіч Мікола», у А. Дзярновіч (аўтар-укладальнік), *Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985*. Даведнік. Т. 1 . Мінск: Athenaeum.
37. Чарняўскі, М. (1999). «Акадэмічны патрыятычны асяродак (1960-я гады)», *Шуфляда*, Т. 1: 55–64.
38. Чарняўскі, М. (2004). «Акадэмічны асяродак (1960-я–1970-я)», у А. Дзярновіч (аўтар-укладальнік), Н*онканфармізм у Беларусі: 1953–1985*. Даведнік. Т. 1 . Мінск: Athenaeum.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Сяргей Богдан

# Незалежнасць і знешняя палітыка: візія беларускіх нацыянал-дэмакратаў, канец 1980-х – 1995 гг. (прыклад Зянона Пазьняка)

Нацыянальна-дэмакратычны рух значна паўплываў на палітычную трансфармацыю Беларусі ў 1987–1995 гг. Для аналізу былі вылучаныя асноўныя тэмы і тэматычныя катэгорыі ў палітычных канцэпцыях, сфармуляваных Зянонам Пазьняком (лідарам Беларускага народнага фронту да 1999 г.). У прыватнасці разглядаюцца ягоныя выступы і артыкулы, напісаныя ў перыяд з канца 1980-х да сярэдзіны 1990-х гг., г. зн. падчас непасрэднай палітычнай дзейнасці Пазьняка ў краіне, што перарвалася эміграцыяй у 1996 г. Артыкул наконт унутрыпалітычных аспектаў ідэалогіі нацыянальна-дэмакратычнага руху быў змешчаны ў папярэднім, 14-м нумары «Палітычнай сферы» (Богдан, 2010).

## І. Уводзіны і агульныя палажэнні

Характэрная асаблівасць вонкавапалітычных поглядаў кіраўніка БНФ – іх агульная негатыўная скіраванасць. Фактычна, пазабеларуская рэальнасць разглядаецца ім пераважна як крыніца перашкодаў і пагрозаў рознага характару і вастрыні, якія нязменна падрываюць асновы беларускай нацыі. Галоўнаю крыніцаю небяспекі лічыцца Расія, але і бачанне Захаду адрозніваецца падазронасцю. Пазітыўнае і канструктыўнае ў праекце Пазьняка датычыць перадусім стасункаў з краінамі рэгіёну і пытанняў рэгіянальнай супрацы.

Увогуле, знешнепалітычныя погляды лідара БНФ датычаць абмежаванага кола актораў. З аднаго боку існуе «імперская» Расія, з іншага – Захад (Заходняя Еўропа, ЗША і НАТО), які ёсць у нейкім сэнсе арыенцірам, але таксама і аб'ектам крытыкі. Гэта – актыўныя акторы. Трэцім вектарам знешнепалітычных поглядаў Пазьняка ёсць рэгіён, краіны ў непасрэднай блізкасці ад Беларусі. Тэрыторыя, абмежаваная Балтыйскім і Чорным морамі, разглядаецца як важны кірунак развіцця вонкавых сувязяў. Ён таксама дае надзею су-

працьстаяць экзістэнцыйнай і практычна вечнай небяспецы з боку Расеі. Патэнцыйна гэты рэгіён разглядаецца як істотны полюс сілы, у якім можа прысутнічаць і беларускі складнік. Увесь астатні свет згадваецца ў тэкстах Пазьняка вельмі эпізадычна, пераважна ў якасці аб'ектаў уздзеяння з боку згаданых полюсаў сілы.

Пазначаная структура вонкавай палітыкі акрэслівае не толькі арыентацыю на рэальную палітыку, але і на каштоўнасны фактар, што асабліва характэрна для рэгіянальнага вектару. Фактычна не ўлічваюцца ні раскладка эканамічных рэсурсаў і патэнцыялаў у свеце, ні тэндэнцыі сусветнага развіцця і абмежаванасць эканамічнага патэнцыялу. Такая знешнепалітычная візія цалкам адпавядае ўнутрыпалітычным поглядам, заснаваным таксама на антыпалітычным (anti-politics) і антыінстытуцыйным этасе.[1]

Адсюль вынікае і агульная ўстаноўка ў галіне вонкавай палітыкі. Трэба «*мацаваць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, умацоўваць нацыянальную фінансава-крэдытную сістэму, рэфармаваць эканоміку, павышаць яе вытворчыя самарэгулюючыя і партнёрскія магчымасьці і знаходзіць раўнавагу, балянс паміж Усходам і Захадам. Нашае вяртаньне ў Эўропу ляжыць праз нэўтралітэт (прынамсі ў пачатку), няўдзел ні ў якіх вайсковых саюзах і блёках. Нашыя палітычныя і эканамічныя партнёры найперш – на Захадзе, а ўжо потым на Ўсходзе [...] Аднак патрэбна актыўная палітыка*» (Пазьняк, 1993е).

Пазьняк наогул адмоўна ставіцца да палітычных альянсаў, асабліва з Расіяй і Польшчаю: «*...Мы павінны памятаць, што такое Расея, што ёсьць яе гісторыя, яе дыпляматыя, яе мэнтальнасьць, яе нежаданьне выконваць любыя пагадненьні. У дачыненьні да Расеі мы павінны праводзіць узаемаўзгодненую палітыку, па-добрасуседзку жыць зь ёю, гандляваць, наладжваць іншыя сувязі, але ніколі, ні пры якіх абставінах мы не павінны ўступаць з Расеяй ні ў якія палітычныя пагадненьні, ні ў якія палітычныя саюзы*» (Пазьняк, 1992а).

Кажучы пра агульныя ўстаноўкі, нельга не закрануць пытання пра ўплыў ідэалогіі Пазьняка на рэальную вонкавую палітыку краіны. Пытанне гэтае надзвычай складанае, улічваючы знаходжанне З.Пазьняка і БНФ у тая, хоць у разгледжаны перыяд апазіцыя мела некаторыя магчымасці ўплыву на актуальную палітыку, як сведчыць, напрыклад, у сваіх мемуарах Пятро Садоўскі (Садоўскі, 2008). У той самы час Віталь Сіліцкі адзначае, што сама прысутнасць БНФ у парламенце, г. зн. «*прысутнасьць нацыянальнай плыні ў агульнай формуле плюралізму "па змаўчаньні" спрычыніла пашырэньне*

[1] Праблематычнасць і дэструктыўная сутнасць такога этычнага падыходу ў палітыцы на прыкладзе вельмі ідэйна блізкіх Пазьняку прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці Польшчы і Чэхіі выдатна разгледзелі Хуан Лінц і Альфрэд Стэпан (Linz and Stepan, 1996: 255–292, 316–333).

*незалежніцкіх ідэяў на іншыя элітныя колы, перш за ўсё на пэўныя сэгмэнты беларускай намэнклятуры*» (Сіліцкі, 2005: 10).

Узвязку з гэтым паказальна, што, кажучы пра падыходы розных палітычных сілаў – у прыватнасці БНФ, А.Лукашэнкі і АГП – да знешнепалітычных пытанняў у 1990-я гг., прадстаўнік афіцыйнай беларускай паліталогіі Уладзімір Улаховіч выступіў супраць стэрэатыпу пра раскол беларускай эліты па гэтай праблеме. На ягоную думку, наадварот, склаўся «*агульны назоўнік*» па ключавых момантах, датычных умацавання дзяржаўнасці, суверэнітэту і «*гістарычнай пераемнасці вонкавай палітыкі*». Безумоўна, прызнае ён, «*у гэтыя паняткі часам укладаюць розны сэнс, але ў любым выпадку стратэгічныя падыходы застаюцца блізкімі, супольнымі*» (Улахович, 2010: 49). Зрэшты, ягонае меркаванне адлюстроўвае хутчэй пазіцыю часткі беларускага палітычнага істэблішменту, якая склалася да сярэдзіны 2000-х, чым сапраўдную сітуацыю 1990-х гг.

## II. Усходняе пытанне: экспансія Расіі

Ніводнаму аспекту вонкавых зносінаў Пазьняк не надае столькі ўвагі, колькі стасункам з Расіяй. Да таго ж расійская тэма прысутнічае ў рыторыцы ды ідэалогіі Пазьняка раўнамерна і без якіх-небудзь значных часавых пікаў і спадаў інтэнсіўнасці яе артыкуляцыі.

Дэвід Марплз увогуле гаворыць пра «*русафобскі нацыяналізм*», у авангардзе якога стаяў БНФ на чале з Зянонам Пазьняком (Марплз, 2007: 94). Фактычна, стаўленне да ўсходняй суседкі Беларусі можна ахарактарызаваць як адвечную (прымардыялісцкую) канфрантацыю, бо Пазьняк бачыць пераемнасць ці нават тоеснасць між Масковіяй, Расійскай імперыяй, Савецкім Саюзам і сучаснаю Расіяй: «*Мы павінны ведаць гэтак жа, як Касьцюшка, Агінскі, Каліноўскі: Маскоўская імпэрыя, пакуль яна існуе, у якую б адзежу яна ні ўбіралася – была, ёсьць і будзе ворагам нашай беларускай незалежнасьці і нашай свабоды. З гэтай, і толькі з гэтай бясспрэчнай ісьціны, трэба зыходзіць, будуючы нашы рэальныя дачыненьні з Усходам*» (Пазьняк, 1994b).

Характэрная сама генеалогія «ўсходняга пытання» беларускай палітыкі ў версіі Пазьняка, бо часам ён мае на ўвазе пераемнасць паміж Расійскай імперыяй і мангольскімі дзяржавамі: «*Галоўным пытаньнем для Беларусі, пачынаючы з XIII стагодзьдзя, зьяўляецца пытаньне дачыненьняў з Усходам. Узьнікла яно са зьяўленьнем коньніцы манголаў пад сьценамі беларускіх гарадоў, а потым, пасьля адбіцьця мангольскай навалы, – з утварэньнем Залатой Арды, затым Маскоўскай дзяржавы і Расейскай імпэрыі*» (Пазьняк, 1993a). З расійскаю гісторыяй звязваюцца і трагічныя падзеі савецкага часу. Так, паводле Пазьняка, «*вселенское зло*» сталінізму абапіраецца на расійскія традыцыі, «*социальные структуры и исторические предрассудки*» (Пазьняк, 1990c), бальшавікі толькі ўмацавалі расійскую

імперыялістычную сістэму *«в необычайно жестоких и антинародных формах»* (Пазьняк, 1992g: 213).

Такое самае стаўленне пераважае і ў дачыненні новай, вонкава дэмакратычнай расійскай дзяржавы. Нават пасля роспуску Ельцыным у 1993 г. расійскага парламенту, дзе пераважалі прыхільнікі рэваншысцкай палітыкі, Пазьняк не схільны змякчаць пазіцыю: «*Што б там ні было, Расея, разабраўшыся з уладай і незалежна ад характару улады, будзе надалей працягваць сваю экспансіянісцкую геапалітыку. Дачыненьні Расейскай імпэрыі да нашай дзяржавы складваліся стагоддзямі і сэнс іх ніколі не зьмяняўся. Гісторыя дае нам зноў крыху часу, каб умацавацца. Яна сьведчыць, што трэба сьпяшацца*» (Пазьняк, 1993d).

Пазьняк агулам не выказвае якога-колечы аптымізму ў дачыненні сучасных ямуператварэнняў у Расіі. «*В России идет очередная политическая и экономическая перестройка имперской власти [...] Победа Ельцина в 1991 г. привела к полному уничтожению молодой, политически еще незрелой свободной русской демократии ... На место свободных демократов совершенно закономерно пришла красно-коричневая оппозиция*» (Пазьняк, 1994a).

За часы сваёй актыўнай палітычнай дзейнасці на бацькаўшчыне (1988–1996) Пазьняк часта разважае пра Расію ў такім ключы: «*Россия может стать демократической страной, но я на 99 процентов в этом сомневаюсь. И прежде всего потому, что Россия очень трудно преодолевает великодержавный синдром и, главное, имперскую психологию, которой в той или иной степени подвержены, к сожалению, не только А. Солженицын, но и современные русские демократы…*» (Пазьняк, 1992g: 214).

Імперыялізм, на думку Пазьняка, ахоплівае ўсю расійскую палітычную сцэну. Каментуючы напрыканцы 1993 г. поспех крайне правых на выбарах у Расіі, ён падкрэслівае, што здзіўляцца няма чаму: «*Жириновский популярно говорит то, что делают Ельцын, Козырев, Гайдар, Черномырдин и прочие русские господа*» (Пазьняк, 1991a). У якасці фактаў, якія пацвярджаюць існаванне небяспекі з боку Расіі, Пазьняк называе канфлікты ў Малдове, Таджыкістане, Асеціі, Абхазіі, Чачэніі, пераварот у Азербайджане, а таксама грамадзянскую вайну ў Грузіі. Ён асабліва акцэнтуе ўвагу на палітыцы Расіі ў абароне расійскага і рускамоўнага насельніцтва, лічачы, што яна аналагічная таму, як Гітлер выкарыстаў правы нямецкага насельніцтва ў сваёй экспансіі ў Еўропе ў 1930-я гг. Другою адметнасцю расійскай палітыкі на постсавецкай прасторы ён лічыць выкарыстанне старога прынцыпу «*разделяй и властвуй*» (Пазьняк, 1991a).

Абгрунтаванне Пазьняком «натуральнай» узаемасувязі між асаблівасцямі палітычнага развіцця Расіі ды немагчымасцю яе дэмакратызацыі падобнае да «гідраўлічнай гіпотэзы» Карла Вітфогеля (Wittfogel, 1957), толькі замест чынніка ірыгацыйных працаў у расійскім выпадку Пазьняк бачыць імкненне да экспансіі: «*По своей структуре, историческим*

*традициям и ментальным комплексам* [Россия – С. Б.] *– это типичная империя восточного образца, наследовавшая суть и методы Золотой Орды. Эта страна не должна оставаться монополистом в жизненно важных областях международных и межгосударственных отношений*» (Пазьняк, 1990c).

Пазьняк нязменна называе Расію імперыяй, праўда не ўдакладняючы, што ён разумее пад гэтаю дэфініцыяй. У той самы час такое азначэнне, на ягоную думку, звязанае з пэўнымі наступствамі, напрыклад, «*як вядома, імпэрыя проста “па вызначэньню” ня можа быць дэмакратычнай. Гэта аксіёма*» (Пазьняк, 2007b: 157).

З іншага боку «расійскае пытанне» для Пазьняка звязанае не толькі з аб'ектыўнымі цяжкасцямі, датычнымі асаблівасцяў дзяржаўнага ладу суседняй краіны з імперскім мінулым. Пытанне гэтае для яго ўрэшце зводзіцца да своеасаблівага сутыкнення цывілізацыяў: «*Пэрспэктывы дэмакратыі на ўсходзе Эўропы канчаюцца там, дзе зьнікае павага і самакаштоўнасьць чалавечай асобы; там, дзе гістарычна спынілася распаўсюджаньне “магдэбургскіх” гарадоў, гэта значыць па ўсходняй этнічнай мяжы Беларусі і Ўкраіны. Уся гісторыя Расеі была вельмі жорсткай, тыранічнай, крывавай і таталітарнай*» (Пазьняк, 1993a).

У звязку з гэтым, падсумоўвае Пазьняк, «*сьвету стане лепей, калі такой імпэрыі ня будзе існаваць. Дасягнуўшы вяршыняў свайго разьвіцьця, Расея ў XIX-м і XX-м стагоддзях уяўляла сабой пастаянную пагрозу міру ... Менавіта нацыянальная культура імкнецца вычleніць, разьвіць і абараніць свой творчы пачатак. Пакуль жа ў рускіх не нацыянальная, а імпэрская сьвядомасьць*» (Пазьняк, 2007b: 157).

Відаць, што для Пазьняка пытанне «імперскай свядомасці расійцаў» – вынік доўгіх роздумаў і назіранняў, нават калі ён выказваецца наконт актуальных падзеяў. Варта адзначыць, што пэўны недавер да Расіі не абмяжоўваецца палітыкай у вузкім сэнсе гэтага слова: «*Мне как человеку другой культуры многое чуждо, неприемлемо и неприятно в творчестве русских писателей и поэтов... Это прежде всего – нравственная раздвоенность личности писателей и комплекс какого-то чванливого азиатского шовинизма и неуважения к другим народам ... Однако я принимаю эту литературу такой, какой она есть, как объективную реальность со спокойствием и уважением, наблюдая, не вмешиваясь и не осуждая*» (Пазьняк, 1990c).

«*Сыравінны шантаж*». Кіраўнік БНФ разглядае «расійскую пагрозу» і ў эканамічнай сферы: «*Ня трэба, аднак, мець ніякіх ілюзіяў, што пераможная дэмнамэнклятура Расеі, якая, дарэчы, цяпер схіляецца да лібэральных ідэяў, адмовіцца ад імпэрскай палітыкі і ад сваіх геапалітычных і стратэгічных інтарэсаў. Імпэрыялізм Расеі ў гэтых варунках з цягам часу можа нават узмацніцца. Эканамічны ціск праз рынак і часовы сыравінны (рэсурсавы) манапалізм стане магутным і разбуральным рычагом расейскай палітыкі менавіта для Беларусі як*

*краіны, якую штучна затрымалі ў адміністрацыйным рэжыме»* (Пазьняк, 1993e).

Ва ўмовах першых гадоў незалежнасці адною з вострых праблемаў развіцця краіны было забеспячэнне эканомікі сыравінаю. Пазьняк падрабязна спыняецца на гэтай крыніцы ўразлівасці Беларусі і ўжо ў 1992 г. кажа пра «сыравінны шантаж» з боку Расіі (Пазьняк, 1992b).

Гэтая праблема разглядаецца ім у якасці фундаментальнай, таксама звязанай з сутнасцю Расіі як імперыі: «*Расея, якая ў эканамічным сэнсе зьяўляецца імпэрыяй, будуе сваю эканоміку пераважна на вывазе сыравіны, у першую чаргу, нафты. Расея зьяўляецца імпэрыяй і па сваёй структуры, бо гістарычна сфармавалася як імпэрыя – шляхам прыўлашчаньня і захопу тэрыторыяў [...] Дзяржава з такой велізарнай тэрыторыяй, з такой розьніцай культурнай, этнічнай і эканамічнай шкалы можа нармальна існаваць толькі як таталітарная імпэрыя з моцнай цэнтральнай уладай. Таму палітыка Расеі аб'ектыўна выяўляе імпэрскія інтарэсы*» (Пазьняк, 1992a).

У 1993 г. Пазьняк так апісвае праблемы Беларусі: «*Беларускія пастаўкі прамысловых і харчовых тавараў у Расею складаюць больш 70 адсоткаў усяго нашага нацыянальнага экспарту ... (назавем гэта залежнасць-1) ... такія энергарэсурсы, як нафту і газ, а таксама метал, мы атрымліваем выключна з Расеі (залежнасць-2) ... ня маючы ўласнай нацыянальнай валюты, мы поўнасьцю залежым ад усіх хваробаў расейскай эканомікі ... (залежнасць-3). Дзяржава ня можа ў такіх варунках багацець*» (Пазьняк, 1993a). Гэта, мяркуе Пазьняк, вядзе да таго, што беларускія камерсанты фактычна падтрымліваюць багатыя краіны, у той час як тыя дасылаюць у Беларусь гуманітарную дапамогу. Гэта лідар БНФ лічыць пачаткам «*афрыканізацыі*», ператварэння ў залежную краіну (Пазьняк, 1993a).

З расійскім уплывам Пазьняк звязвае і ўнутрыпалітычныя праблемы краіны, прыпускаючы, што расійскае кіраўніцтва можа падтрымліваць захаванне ў Беларусі існай сістэмы ўлады, «*адміністратыўна-камуністычнага запаведніку*», і шляхам ціхага эканамічнага ціску, найперш у звязку з пастаўкамі энерганосьбітаў, захопліваць у Беларусі ўсе самыя каштоўныя актывы і маёмасць. «*І ня трэба будзе ніякіх палітычных рашэньняў, акупацыяў, запальваньня дамовай вайны. Ціха і непрыкметна ашуканы беларускі народ перастане быць уласьнікам сваёй маёмасьці і гаспадаром на сваёй зямлі*» (Пазьняк, 1993d).

Кажучы пра небяспеку ратыфікацыі эканамічных дамоваў з Расіяй, Пазьняк пералічвае мноства патэнцыйных негатыўных наступстваў ажыццяўлення гэтых пагадненняў і адзначае: «*У выніку нашыя заводы, нашыя фабрыкі, чыгункі, лясы апынуцца ва ўласнасьці расейскіх прадпрымальнікаў і бізнэсмэнаў ... Узгадаем тры падзелы Рэчы Паспалітай. Мы цудоўна ведаем, як адбывалася тады разбурэньне нашых мануфактур, як нішчылася наша эканоміка, і гэта была сьвядомая палітыка Расейскай імпэрыі*» (Пазьняк, 1993f).

У 1994 г. Пазьняк цвердзіць: «*Украина и Беларусь за два года ограблены и выдоены до крови... Еще усилие, и, когда наша страна будет окончательно экономически разрушена, останется только "добровольно" загнать ее снова в российскую империю. За это время, особенно в Беларуси, укрепились российские спецслужбы, созданы их структуры в правительстве, в армии, в бизнесе, лобби в Верховном Совете ... Эта система оформилась летом 1992 года. Именно в это время возникают и искусственно муссируются идеи "двуязычия", ликвидации государственных национальных символов, так называемой "коллективной безопасности", "конфедерации с Россией", "экономического союза", "рублевой зоны", объединения денежных систем России и Беларуси, отказа от нейтралитета и т. д.*» (Пазьняк, 1994a).

Таму, уважае Пазьняк, ва ўмовах новаздабытай незалежнасці «*трэба не спазьніцца навязаць добрыя двухбаковыя стасункі з суседзямі, і ў тым ліку раўнапраўныя, цывілізаваныя дачыненьні з Расеяй праз моцную і цывілізаваную мяжу*» (Пазьняк, 1993a). Але наогул асабліва дэталёвых захадаў для развязання «расійскага пытання» не прапаноўваецца. Ускосна можна меркаваць, што асноўнае рашэнне Пазьняк можа бачыць у дзяржаўным і нацыянальным будаўніцтве самой Беларусі, пры спыненні ўмяшання Расіі і максімальным аслабленні яе ўплыву. Не ясна, ці мае Пазьняк устаноўку на нейую актыўную падтрымку распаду Расіі, аднак, рэагуючы на разрастанне расійска-чачэгскага канфлікту з канца 1994 г., ён не толькі выступае ў друку, адкрыта падтрымліваючы чачэгскую незалежнасць (Пазьняк, 1996a; 1996b), але на адным з масавых мітынгаў вясною 1996г. нават заклікае ўшанаваць хвілінаю маўчання памяць чачэгскага прэзідэнта Джахара Дудаева.

***Ваенныя аспекты стасункаў з Расіяй***. Пэўныя поспехі ў дыстанцыяванні Беларусі ад расійскіх спробаў захаваць або аднавіць ранейшую, савецкую сістэму бяспекі, былі дасягнутыя пры актыўным удзеле БНФ. Напрыклад, у прынятай у снежні 1992 г. Вайсковай дактрыне фіксавалася імкненне да пераходу «*ў статус нейтральнай, без'ядзернай дзяржавы», а таксама ўстаноўка на ўзаемадзеянне з «зацікаўленымі дзяржавамі рэгіёна па стварэнні без'ядзернага пояса ад Балтыйскага да Чорнага мораў*» (Военная доктрина, 1992).

Пазьняк супраціўляецца неаднаразовым спробам стварэння ваеннага звязу з Расіяй, пра якія ўрад Кебіча кажа ў першай палове 1990-х гг. Лідар БНФ называе нейтралітэт і бяз'ядзернасць «*нашымі важнейшымі палітычнымі каштоўнасцямі*», а таксама нагадвае пра канстытуцыйнае палажэнне, якое датычыць імкнення Беларусі да нейтральнасці ды замацоўвае яе бяз'ядзерны статус. Пазьняк характарызуе гэтую норму як «*гарантыю нашага незалежнага мірнага міжнароднага існаваньня*» (Пазьняк, 1993c). Ён звязвае намаганні ўраду па заключэнні ваеннага звязу з Расіяй з тым, што «*беларускія намэнклятурныя артадоксы зра-*

*білі стаўку на авантурныя сілы Расеі, якія імкнуцца адрадзіць КПСС, Савецкі Саюз, халодную вайну, савецкую таталітарную сістэму. І спадзяюцца на пэўныя колы старадумнай расейскай ваеншчыны, якая не хавае сваіх намераў*» (Пазьняк, 1993c).

Пазьняк патрабуе ўлічваць геапалітычнае становішча Беларусі ды мяркуе, што заключэнне ваеннага звязу з Расіяй прывядзе да пагаршэння стасункаў з іншымі суседнімі краінамі. На ягоную думку, такі звяз паслужыць мэтам рыхтавання да ўключэння Беларусі ў сферу палітычнай гегемоніі Расіі: «*Мы станем тэрыторыяй супрацьстаяньня*». Наступствы адмовы ад нейтралітэту будуць датычыць і агульнага міжнароднага становішча краіны ў Еўропе і па-за яе межамі, уважае палітык. Гаворка ідзе не толькі пра сам нейтралітэт: «*Здрада нэўтралітэту аўтаматычна пацягне за сабой зьнікненьне бязьядзернага статусу [...] гэта сапраўды змова, змова супраць Беларусі*» (Пазьняк, 1993c).

## III. Захад як надзея і пагроза

Ужо падчас кампаніяў, якія папярэднічалі першым адносна вольным выбарам у Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя саветы ў 1990 г., сярод асноўных выбарчых лозунгаў БНФ быў «*Беларусь, вяртайся ў Еўропу*» (Вячорка, 1993: 441). Некаторыя раннія заявы Пазьняка таго часу выяўляюць станоўчае стаўленне да развіцця стасункаў з Еўропаю, хаця ён абмяжоўваецца мімалётнымі згадкамі пра «*ўваход у эўрапейскі агульны рынак*» (Пазьняк, 1991a).

Іншым разам, рэзка асуджаючы стварэнне СНД і не згадваючы распаду СССР, Пазьняк у снежні 1991 г. абвяшчае: «*Для Беларусі няма іншай альтэрнатывы, як вяртаньне на Захад, як шлях у аб'яднаную Эўропу, як незалежная дзяржаўная палітыка ў інтарэсах свайго народа*» (Пазьняк З., 1991b). Зноў нагадаўшы пра імперскую сутнасць Расіі, Пазьняк на світанку незалежнасці зазначае: «*Аб'ектыўна, у інтарэсах нашага народу, у інтарэсах нашай дзяржавы мы павінны кіравацца ў Эўропу, мы павінны праводзіць толькі незалежную дзяржаўную палітыку. Але на працягу гэтага году старое камунна-савецкае кіраўніцтва не зрабіла нічога, каб умацаваць сувэрэнітэт, аслабіць залежнасьць ад расейскай сыравіны*» (Пазьняк, 1992a).

Тэма пранікнення ідэі еўрапейскай інтэграцыі ў беларускую палітыку застаецца нявывучанаю, таму цяжка меркаваць пра асаблівасці гэтага працэсу. Зрэшты, кажучы ў 1993 г. пра еўрапейскую інтэграцыю, Пазьняк адзначае, што на яго паўплывалі адпаведныя ідэі Лявона Баршчэўскага, аднаго з паплечнікаў Пазьняка па БНФ (Пазьняк, 1993a). У любым разе ў выступах кіраўніка БНФ прысутнічае сам лозунг еўрапейскай інтэграцыі: прыкладам можа быць ягоны выступ пры канцы 1995 г., дзе адпаведны пункт – праўда, шырэй не патлумачаны – названы сярод асноўных прынцыпаў той часткі грамадства, якую Пазьняк лічыць «сваёй» (Пазьняк, 1995).

Важна высветліць паходжанне і месца «еўрапейскіх» ідэяў, бо ідэя еўрапейскай арыентацыі перамяжоўваецца ў Пазьняка з вядомым непрыманнем сучаснай Еўропы, калі, побач з арыентацыяй на мінулае, антыкамунізмам і антырасійскаю рыторыкаю, перыядычна «*значная частка адраджэнцаў на чале з Пазьняком дыстанцыявалася ад заходняга лібералізму*» (Рудкоўскі, 2005).

У далейшым еўраскептыцызм расце, і ў каментары да перадвыбарнай платформы 1999 г. гаворыцца: «*Я цвёрда перакананы, што Беларусь, нават стаўшы нармальнай, заможнай дэмакратычнай краінай, не павінна ўступаць у Еўрапейскую унію, а застацца за яе межамі гэтак жа, як краіны Скандынавіі, Ісландыя і іншыя*» (Пазьняк, 1999).

Разам з тым стаўленне да Захаду ёсць неадназначным і часта спалучаецца з уяўленнем пра яго як крыніцу патэнцыйных пагрозаў, напрыклад, у выглядзе «заходняй змовы». Упершыню тэма «змовы» ўзнікае пры апісанні стасункаў СССР і ЗША: «*Советский Союз и Соединенные Штаты давно уже благополучно поделили мир, поэтому не стоит удивляться, видя, как дороги им их собственные интересы. Хорошо бы быть независимыми от обоих. Интеграция в западную экономическую систему из-за разницы в развитии практически невозможна. Для этого нужно время, условия и целенаправленная работа высокого уровня*» (Пазьняк, 1992e).

Антызаходняя рыторыка ўвязваецца і з іншымі лозунгамі БНФ, у прыватнасці па чарнобыльскай праблематыцы. «*Над нашым народам робіцца атамны медыка-радыёлагічны эксперымент, у якім зацікаўлены не толькі ваенна-прамысловы комплекс СССР, але і ЗША, увесь ядзерны свет і, перш за ўсё, такая арганізацыя, як МАГАТЭ. Яна абараняе не чалавека, не людзей, а інтарэсы ядзернай энергетыкі, ядзерных манапалістаў. А манапалістамі ў гэтай галіне з'яўляюцца СССР і ЗША*» (Пазьняк, 1990b). У тым самым інтэрв'ю Пазьняк кажа пра «міжнародную атамную мафію».

У той самы час палітык не пакідае без крытыкі пазіцыі ЗША. Закранаючы прыднястроўскі канфлікт, ён падкрэслівае: «*Как красноречиво молчит при этом международное "общественное мнение". Их интересуют только наши ядерные ракеты (т. е. своя шкура) – вот здесь официальной "озабоченности" через край. Америка всегда проводила согласованную политику с Советским Союзом. Теперь – с Россией в своих интересах. Не надо иллюзий (если они еще у кого-то остались). Наши сторонники в конфликте с империей – не на востоке и пока, увы, не за океаном*» (Пазьняк, 1992b). Але ў цэлым на адрас ЗША выказваецца менш дэталёвай крытыкі, чым у дачыненні Еўропы.

Ужо ў 1993 г., імаверна, пад уражаннем ад уласных паездак у Заходнюю Еўропу, Пазьняк выстаўляе і больш сутнасныя прэтэнзіі да сучасных еўрапейскіх краінаў. Аб'ектам ягонай крытыкі робяцца вынікі рэалізацыі ідэі правоў чалавека ў еўрапейскіх краінах, якія, на думку лідара БНФ, не заўсёды аказваюцца

становучымі. Галоўны закід у тым, што ў еўрапейскім разуменні правоў чалавека прыярытэт аддаецца правам чалавека, а не суверэнітэту. Акрамя таго, Пазьняк задаецца пытаннем, што гэта наогул за правы. Прыкладам згубнасці такой канцэпцыі ён лічыць праблему інтэграцыі асобаўнееўрапейскага паходжання ў еўрапейскіх краінах: «*Прыбышы, практычна, не інтэграваліся ў эўрапейскае грамадзтва* [...] *Міністэрства культуры (у прыватнасьці, напрыклад, Бэльгіі) распрацоўвае пытаньне аб мультыкультурнасьці. Гэта можна было б зразумець, гледзячы на Канаду, якая нават утварылася як краіна эмігрантаў. Але як яго разглядаць ў Эўропе?* [...] *прыярытэт правоў чалавека перад суверэнітэтам нацыі апынуўся наадварот, заціскаrandьнем правоў чалавека і, фактычна, паставіў пад пагрозу суверэнітэт*» (Пазьняк, 1993b). Выказваючы сваё негатыўнае стаўленне да прытоку імігрантаў у краіны Заходняй Еўропы, Пазьняк ужо ў 1993 г. экстрапалюе гэтую праблему на Беларусь і кажа пра небяспеку таго, што грамадзяне краіны апынуцца без працы, якую ў іх адбярэ *«дешевый вьетнамский рабочий»* або *«взяточник с Юга»* (Пазьняк, 1994a).

Адзначым, што ў далейшым абвінавачанні на адрас Захаду набудуць больш прынцыповы і не прывязаны да канкрэтнага выпадку характар: «*...Дэмакратычны Захад перажывае маральны крызіс і духоўны спад, які год за годам, дзень за днём павялічваецца і нагадвае пра сябе. Дэмакратычныя свабоды асобыператвараюцца ў свабоду заганаў і замацоўваюцца ў заканадаўстве. Для нацыі, якая вызвалілася ад камунізму і ідзе ў Еўропу без дэмакратычнага імунітэту, – гэта пагроза*» (Пазьняк, 1999). На думку Пётры Рудкоўскага, для Пазьняка «*існуюць тры розныя рэчы: дэмакратыя (са знакам плюс), лібэралізм (са знакам мінус) і адвечная бэрлінска-маскоўская змова супраць беларусаў (якая мае амаль дэманічны характар)*» (Рудкоўскі, 2006). Варта адзначыць, што гэтая канцэпцыя блізкая ідэям радыкальных польскіх нацыяналістаў. Гэта можа азначаць магчымасць неўсвядомленага запазычання ўсёй канцэпцыі або яе элементаў. На магчымасць запазычання ўказваюць і шматлікія паланізмы ў тэкстах Пазьняка, а таксама ягонае відавочнае знаёмства з польскім культурным кантэкстам.

***АПАД (НАТО).*** Пазьняк надае АПАД мінімальную ўвагу, згадак пра гэтую арганізацыю ў ягоных тэкстах і выступах зусім няшмат, тым больш адсутнічаюць заклікі да ўступу або нават збліжэння з альянсам. Часам ён нават крытыкуе блок. У 1993 г., падчас выступу ў парламенце ў пытанні магчымага ваеннага звязу з Расіяй, Пазьняк выказвае меркаванне, што «*натаўская бюракратыя*» «*зацікаўлена ў тым, каб утвараўся такі саюз* [маецца на ўвазе ваенны звяз з Расіяй або дамова пра калектыўную бяспеку, што, зрэшты, з пункту гледжання Пазьняка, амаль тое самае – С.Б.]. *Яна зацікаўлена ў супрацьстаяньні, таму што ў НАТО цяпер няма чаго рабіць. Калі скончацца канфлікты ў Босьніі і Герцагавіне, тады ў іх ізноў узьнікнуць*

*праблемы. Справа ня ў тым, што сам НАТО зацікаўлены ў нашым ваенным дагаворы з Расеяй. НАТО ніколі такога ня скажа адкрыта. А вось натаўская бюракратыя зацікаўленая*» (Пазьняк, 1993c). Больш за тое, камуністычная большасць Вярхоўнага Савету, адзначае Пазьняк у той жа прамове, знайшла ў гэтым пытанні «*агульныя інтарэсы*» з «*натаўскаю бюракратыяй*».

***Ядзерны статус***. Важным аспектам адносінаў Беларусі з Захадам у разгледжаны перыяд была адмова краіны ад ядзернай зброі. Лідар БНФ настойліва паўтарае, што ядзерная зброя Беларусі не патрэбная, але адзначае, што не варта яе каму-небудзь перадаваць. Гэта значыць, *«усё атамнае ўзбраеньне на Беларусі павінна быць зьнішчана ў рэчышчы агульнага міжнароднага працэсу раззбраеньня*» (Пазьняк, 1991a). Апроч адмовы ад ядзернай зброі, Пазьняк гатовы адмовіцца і ад мірных ядзерных тэхналогіяў: «*Беларусь не павінна выдаткоўваць ніводнага рубля на стварэньне і ўтрыманьне зброі масавага зьнішчэньня, рэзка скараціць выдаткі на войска ўвогуле. Беларуская дзяржава не павінна ўдзельнічаць у фінансаваньні атамнай энергетыкі, а скіраваць намаганьні на разьвіцьцё рэсурса- ды энэргазьберагаючай тэхналогіі, альтэрнатыўных крыніцаў здабычы энэргіі*» (Пазьняк, 1992f).

Нават наракаючы на адсутнасць дапамогі з боку заходніх краінаў у правядзенні раззбраення, Пазьняк абмяжоўваецца толькі вельмі туманнаю пагрозаю на гэты конт, відаць, разумеючы датклівасць закранутых пытанняў: «*Беларусь пайшла на ўсё: мы рэжам танкі, ракеты, – заўважце, акрамя нас ніхто гэтага ня робіць. Усё гэта – выключна за наш рахунак, улічваючы Чарнобыль, і... ніякай дапамогі Захаду. Як жа гэта назваць? Калі Захад і далей ня будзе дапамагаць нам раззбройвацца, думаю, можна будзе знайсьці іншае выйсьце з сытуацыі*» (Пазьняк, 2007b).

## IV. Балтыйска-Чарнаморскі саюз vs СНД: пытанне рэгіянальнай інтэграцыі

Мабыць, адзіным кірункам вонкавай палітыкі, у дачыненні якога лідар БНФ меў нейкі пазітыўны палітычны праект, быў рэгіён паміж Балтыйскім і Чорным морамі. Першыя публічныя выказванні Пазьняка на тэму рэгіянальнага блоку, імаверна, абумоўленыя сітуацыяй блакады Літвы. «*Политическое содружество всех западных республик СССР от Эстонии до Молдовы должно начинаться уже сейчас на почве солидарности с независимой Литвой... Содружество, солидарность и конкретные совместные политические действия независимых сил всех западных республик необходимы [...] полная независимость Балтии может оказаться иллюзорной, если не будет демократической Белоруссии и демократической Украины*» (Пазьняк, 1992e).

Што ж дакладна прапаноўваецца будаваць? Гаворка, як відаць з вышэйпрыведзенай выняткі, спачатку падкрэслена не ішла пра інтэгра-

цыю або нешта падобнае, бо такая рыторыка, імаверна, выклікала б адмоўную рэакцыю ў рэспубліках, якія імкнуліся да незалежнасці. Пасля Пазьняк ізноў будзе настойваць, што «*ідэя БЧС гэта не ёсць ідэя інтэграцыі. Інтэграцыя цяпер нерэальная і немагчымая*» (Пазьняк, 1993a).

Распавядаючы аб працоўнай сустрэчы на ўзроўні дэпутатаў Вярхоўных Саветаў і прадстаўнікоў Народных франтоў Беларусі, Літвы і Украіны ў красавіку 1990 г. у Менску, арганізаванай на ініцыятыву БНФ, Пазьняк кажа пра заключэнне «*в будущем политического Балтийско-Черноморского Союза восточноевропейских государств Украины, Белоруссии, Литвы, Латвии, Эстонии*» (Пазьняк, 1990c). Побач з такім «палітычным» варыянтам рэгіянальнага блоку ў ідэалогіі Пазьняка таго часу бытуе і больш эканамічны, што прадугледжвае стварэнне «*условий общего рынка республик БЧС*». Аднак, падкрэслівае ён, «*при этом все остаются независимыми суверенными государствами [...] что-то наподобие Восточноевропейского экономического сообщества...*» (Пазьняк, 1992g: 214). У пазнейшым выступе ўвогуле прапаноўваецца стварыць нашмат больш няпэўную «*Балтыйска-Чарнаморскую садружнасць (асацыяцыю) дзяржаў*»; больш за тое, гаворка нават падкрэслена вядзецца пра «*краіны БЧС*» (Пазьняк, 1993a), а не пра БЧС як самастойны суб'ект.

Ідэя БЧС ужо ў першай палове 1990-х гг. апынулася цесна звязанаю з БНФ, хоць з іншага боку гэта сведчыла пра яе абмежаваную распаўсюджанасць у беларускай палітычнай прасторы. У той жа час апаненты БНФ, валодаючы, як правіла, больш магутнымі палітычнымі пазіцыямі, мэтанакіравана скажалі ідэю рэгіянальнага блоку. Напрыклад, аўтары афіцыйна зацверджанага падручніка для беларускіх вышэйшых навучальных установаў, пералічваючы мэты БНФ, перакручана фармулююць адпаведны пункт наступным чынам: «*Стварыць Балтыйска-Чарнаморскі саюз (дзяржаву "ад мора і да мора" па прыкладу Вялікага княства Літоўскага перыяду яго росквіту)*» (Новік, Марцуль, 1998: 376).

Сам Пазьняк легітымізуе ідэю рэгіянальнага блоку і праз падкрэсліванне, што сама ідэя не новая, а была распрацаваная беларускімі палітыкамі пачатку стагоддзя і абвешчаная на міжнародным з'ездзе ў Лазане яшчэ ў 1916 г. (Пазьняк, 1993a). Іншы кіраўнік БНФ, Вінцук Вячорка, таксама кажа пра «*адраджэнне ідэі Балта-Чарнаморскай супольнасці*», зрэшты, не ўключаючы ў яе Малдову (Вячорка, 1993: 444).

Сярод удзельнікаў новай структуры рэгіянальнай супрацы Пазьняк бачыць практычна ўсе былыя заходнія савецкія рэспублікі. Спачатку ён называе іх «*восточноевропейские государства*», «*страны бывшего Великого княжества Литовского, Русского и Жемойтского*» і ўдакладняе: Украіна, Беларусь, Літва, Латвія, Эстонія (Пазьняк, 1990c) – у такой паслядоўнасці. У вочы кідаецца прысутнасць у гэтым шэрагу Эстоніі, якая гістарычна мела вельмі адрозную ад рэшты згаданых дзяржаваў палітычную і культурную традыцыю.

Пазней палітык уключае ў гэты спіс шостую дзяржаву – Малдову (Пазьняк, 1992d; Пазьняк, 1993a). У 1993 г. лідар БНФ кажа, што БЧС мог бы дамагчыся ўраўнаважвання сітуацыі ў рэгіёне і аказаць спрыянне ўзаемавыгаднаму развіццю краінаў рэгіёну «*ў супрацоўніцтве з Еўропай*» (!), тым самым улучыўшы Еўропу – зрэшты, не вызначаючы, што менавіта ён разумее пад гэтым словам, – у рэгіянальную раскладку сілаў, якія спрыяюць развіццю рэгіянальнага блоку (Пазьняк, 1993a).

Пазьняк выразна супрацьпастаўляе БЧС Садружнасці незалежных дзяржаваў, бо «*сумесна з Расеяй у межах былога СССР ня можа стабільна існаваць ніякая аб'яднаўчая сістэма дзяржаваў. Гэта аб'ектыўная, навуковая і гістарычная рэальнасць*» (Пазьняк, 1993a).

Усе дзеянні рэгіянальнага блоку мусілі быць накіраваныя на вырашэнне першачарговай задачы выхаду з СССР: «*Каким бы ни был Советский Союз, покуда он существует, выйти из него одной республике практически невозможно*». Апроч таго, «*такое содружество должно будет поменять ситуацию в Европе и гарантировать суверенитет каждой из пяти республик*» (Пазьняк, 1990c).

Не чужыя Пазьняку і пэўныя інтэграцыйныя памкненні, нягледзячы на ягоныя настойлівыя спробы адмовіцца ад любой «інтэграцыі»: «*Необходимо объединение усилий, координация экономических преобразований, согласованность политических действий, создание условий общего рынка республик БЧС*» (Пазьняк, 1992g). Але ў рэгіянальнага аб'яднання ёсць і нашмат маштабнейшая, сапраўды гістарычная задача: «*Неабходна аднавіць раўнавагу на ўсходзе Эўропы, разбураную 200 гадоў таму*» (Пазьняк, 1993a) – маюцца на ўвазе, верагодна, падзелы Рэчы Паспалітай.

Лідар БНФ даволі шмат разважае пра такі саюз як сродак супрацьстаяння Расіі: «*БЧС з апорай на сярэднюю Эўропу магла б стаць пэўнай процівагай агромністай Эўраазіяцкай Расеі, ураўнаважыць балянс сілаў на ўсходзе Эўропы, стабілізаваць разьвіцьцё, гарантаваць сувэрэнітэт. Гэта вельмі неабходная і добрая ідэя...*» (Пазьняк, 1992d).

Пазьняк упэўнены: «*России необходимо создать цивилизованное ограничение, то есть такое состояние, которое, закрывая ей путь к агрессии, вынудит обратиться к внутренней жизни и ресурсам своего общества, заставит развивать нормальные европейские взаимоотношения с другими странами и народами. И с этой точки зрения Балтийско-Черноморское политическое содружество государств могло бы сыграть очень положительную для развития русского общества роль*» (Пазьняк, 1990c).

Зрэшты, пазней ягоная рыторыка змякчаецца, і гаворка ідзе ўжо не пра супрацьстаянне, а «*ўзаемную каардынацыю па агульных пытаньнях дачыненьняў з Усходам*» як найважнейшы аспект супрацы ў рамках БЧС (Пазьняк, 1993a).

У 1993 г. Пазьняк больш выразна выкладае сваё бачанне сфераў супрацы ў межах БЧС. Ураўнаважанне (найперш, верагодна, Расеі) і спрыянне ўзаемавыгаднаму развіццю разглядаюцца ў якасці першай прыярытэтнай галіны супрацы. Другою прыярытэтнаю галіною ён бачыць «*экалёгію і забесьпячэньне энэргетычнымі рэсурсамі*». Зрэшты, калі першы кампанент гэтай звязкі («экалогія») застаецца нераскрытым, дык у выпадку другога Пазьняк выкладае дастаткова канкрэтнае бачанне задачаў супрацы і выразных супольных дзеянняў: «*Для ўсіх балта-чарнаморскіх краінаў было б жыцьцёва выгадна, напрыклад, стварыць вось энэргетычнага забесьпячэньня "поўдзень–поўнач". (Акрамя існуючай "усход–захад".) Ужо робяцца пэўныя захады краінамі Балтыі (газ з Нарвэгіі) і Украінай (блізкаўсходняя нафта). Павінна, аднак, быць сыстэма, якую можна ўладкаваць, злучыўшы ўжо існуючыя ніткі нафта- і газаправодаў на Беларусі і Украіне, працягнуўшы іх да балтыйскіх і чарнаморскіх тэрміналаў і да т. п.*» (Пазьняк, 1993a).

У гэтыя гады БНФ, нават нягледзячы на свае абмежаваныя магчымасці, спрабуе намацаць шляхі для прасоўвання такога кшталту праектаў у міждзяржаўных адносінах. Спачатку гэта былі, імаверна, кантакты на ўзроўні парламентаў з аднадумцамі БНФ з адпаведных краінаў. Вядома прынамсі пра дзве сустрэчы дэлегацыяў дэпутацкіх групаў у Менску ў красавіку (Пазьняк, 1990c) і лістападзе 1990 г. (Вячорка, 1993: 444). На апошняй сустрэчы Беларусь і Украіна былі прадстаўленыя апазіцыяй, Латвія – дэлегацыяй парламенцкай большасці, Літва – афіцыйнаю дэлегацыяй.

Бліжэй да сярэдзіны 1990-х такія высілкі канцэнтруюцца на Украіне. У гэтай сувязі БНФ вылучае ў 1993 г. прапанаваную экспертам Фронту Станіславам Гусакам ідэю Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектару (БЧНК), якую, зрэшты, урад Кебіча адкінуў (Гусак, 2007).

***Садружнасць незалежных дзяржаваў***. Падтрымліваючы ідэі Балтыйска-Чарнаморскага блоку, Пазьняк з самага пачатку выступае супраць любых ініцыятываў інтэграцыі на постсавецкай прасторы (нават нерасійскіх), разыходзячыся ў гэтым з прэм'ерам Кебічам (Пазьняк, 1991a). Яшчэ больш рэзка кіраўнік БНФ рэагуе на дамоўленасці з удзелам Расіі: «*Апазыцыя БНФ яшчэ два месяцы таму выступіла супраць падпісаньня Рэспублікай Беларусь дамовы аб эканамічным супольніцтве дзяржаваў былога СССР на той падставе, што ён Беларусі нявыгадны і што Расея ніколі не выконвала і ня будзе выконваць ніякіх дамоваў – гэта палітычная гульня, крок да новага "саюзнага дагавора" і рэанімацыі СССР*» (Пазьняк, 1991b). Фактычна ўся постсавецкая інтэграцыя – калі не ўся постсавецкая палітыка – разглядаецца Пазьняком у рамках канцэпцыі «імперскай Расіі» ды яе «прошукаў».

У гэтым жа ключы расцэньваецца і стварэнне СНД: «...*Стала вядома пра палітычную згоду двух паўнамоцных прэзыдэнтаў і старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі*

*аб “садружнасьці” Ўкраіны, Беларусі і РСФСР – з адзіным рублём, адзінай мытнай і эканамічнай прасторай і адзіным стратэгічным войскам [...] цэнтрам заплянаванай садружнасьці хочуць зрабіць Менск. (Каб мацней трымаць Беларусь.) [...] такое пагадненьне выгаднае найбольш Расеі*» (Пазьняк, 1991b).

Пазьняк нават пакідае без увагі факт распаду СССР, які адбыўся ў выніку гэтай сустрэчы, аддаючы перавагу таму, каб і надалей рабіць выгляд, што амаль нічога (ці зусім нічога) не змянілася: «*Беларускі народ хутка скажа сваё важкае слова і адкіне гэтую сэрыйную авантуру і маніпуляцыі зноў загнаць яго ў імпэрыю, якімі б хітрымі шыльдамі яна ні прыкрывалася*» (Пазьняк, 1991b). Крыху пазней ён падпраўляе сваю пазіцыю, прызнаючы, што рашэнне пра стварэнне СНД «*можно рассматривать только как этап к подлинному суверенитету. Содружество выгодно только России. Это обходной путь с целью загнать потом всех назад, в империю. Но есть и положительные моменты. Это шаг к разрушению старой империи Советского Союза [...] и поэтому должно рассматриваться только как временный этап*» (Пазьняк, 1991c).

Яшчэ праз нейкі час лідар БНФ лагаднее: «*Пагадненьне пра СНД мае часовы характар, бо было падпісанае ў выніку часовага супадзеньня інтарэсаў: імпэрская Расея і незалежная Ўкраіна аб'ядналі намаганьні ў справе зьнішчэньня старога гарбачоўскага цэнтру, які перашкаджаў усім. Аб'ектыўна ў гэтым зацікаўленая і Беларусь. Пасьля таго, як гэтая мэта была дасягнута, суб'екты СНД пачалі цягнуць коўдру кожны на сябе*» (Пазьняк, 1992a). Яшчэ больш канспіралагічную версію Пазьняк выказвае ў іншым выступе: «*Ідэя СНД узьнікла тады, калі ва ўрад Расеі прыйшлі эканамісты чыкагскай школы, якія цудоўна разумелі, што палітычнымі мэтадамі ўтрымаць гэтую бочку – Савецкі Саюз – ужо немагчыма ... І таму быў прапанаваны другі мэтад. Мэтад СНД*» (Пазьняк, 1993f).

Закранаючы пытанне пра ліпеньскія пагадненні 1992 г. між Беларуссю і Расіяй, Пазьняк упэўнены: «*СНД ужо вычарпала свае магчымасьці і ператварылася ў зручную шырму і падставу для імпэрскай палітыкі Расеі... Далейшае знаходжаньне ў гэтым фармальным утварэньні пагражае ўжо нашай, набытай незалежнасьці, не спрыяе вяртаньню ў цывілізаваную Эўропу. Выхад з СНД і поўны вывад расейскага войска з Беларусі да 1994 года – гэта патрэбы, якія становяцца на палітычны парадак дня*» (Пазьняк, 1992c).

Пазьняк падкрэслівае прынцыповае адрозненне інтэграцыйных ініцыятываў у Еўропе і былым СССР: «*Спынюся ... на іншым прапагандысцкім шулерстве – на савецкім “разьяднаньні” і эўрапейскай “інтэграцыі”. Тут трэба ведаць, што станоўчы зьмест можна атрымаць, калі інтэгруюцца і аб'ядноўваюць інтарэсы багатыя дзяржавы. Жабракі, як правіла, не аб'ядноўваюцца, з аб'яднання бедных нічога добрага не вынікае [...] Эўропа пачала інтэгравацца тады, калі краіны ў выніку прадуманага разьвіцьця дасягнулі*

*такога ўзроўню багацьця, што ў іх зьявіўся лішак тавараў і прадуктаў*» (Пазьняк, 1993a). Апроч таго, для пазітыўнага выніку інтэграцыі трэба, каб патэнцыялы і магутнасць яе ўдзельнікаў былі збалансаваныя, мяркуе кіраўнік БНФ, і гэтага таксама не назіраецца ў тым жа СНД.

Пры канцы 1993 г. Пазьняк сцвярджае: «*Прыклад і вопыт нашых суседзяў паказвае, што трэба ісьці па шляху балтыйскіх краінаў. Беларусь павінна рыхтавацца да выхаду з СНД. Трэба разьвіваць раўнапраўныя двухбаковыя дачыненьні з усімі краінамі-суседзямі, у тым ліку і з Расеяй, але нельга ўступаць зь ёй ні ў якія, нават фармальная, саюзы, садружнасьці і да т. п. Гэта небясьпечна*» (Пазьняк, 1993e).

Кажучы пра «Усход», Пазьняк мае на ўвазе Расію і, падобна, іншага «Усходу», акрамя Расіі, для яго няма. Ён фактычна не згадвае іншых краінаў на ўсход ад Беларусі, і нават Казахстан і Узбекістан для Пазьняка ёсць толькі «*пракамуністычнымі азіяцкімі рэспублікамі, якія знаходзяцца недзе на другім канцы сьвету*» (Пазьняк, 1991a). Зрэшты, у рамках сваёй катэгарызацыі лідар БНФ аперуе тэрмінамі, якія максімальна пазбягаюць рэлігійнай прывязкі, а маюць, наадварот, цывілізацыйную арыентацыю. У прыватнасці, Пазьняк ніколі не дапускае якой-кольвечы ісламафобіі, хоць і скептычна ставіцца да некаторых краінаў, што традыцыйна лічацца мусульманскімі. Больш за тое, часам ён становача разглядае іслам ды ісламісцкія рухі як сілу, што пераможа камуністычныя рэжымы ў Цэнтральнай Азіі (Пазьняк, 1992a).

Пры канцы 1991 г. Пазьняк адзначае, што «*па прывычцы намэнклятурнае кіраўніцтва Беларусі глядзіць на ўсход, на Маскву, якую цяпер адначасна ня любіць і баіцца, бяздумна завязвае кантакты з Азіяй і мусульманскім сьветам, замест таго, каб вярнуцца ў Эўропу, выкарыстаць свае эканамічныя, навуковыя, прамысловыя, геапалітычныя перавагі перад іншымі краінамі былой савецкай зоны, свой высокі ўзровень разьвіцьця*» (Пазьняк, 1991b). У далейшым, у красавіку 1993 г., Пазьняк заклікае ўрад Кебіча праводзіць больш узважаную вонкавую палітыку і сцерагчыся такіх пагадненняў, як дамова пра калектыўную бяспеку, заключаная большасцю краінаў СНД у 1992 г.

## V. Пытанне этнічных тэрыторыяў

У тэкстах і прамовах Пазьняка няма наўпроставых тэрытарыяльных прэтэнзіяў ні да адной краіны. З пункту гледжання патэнцыйных або ўскосных патрабаванняў Пазьняк закранае два рэгіёны: Віленскі край (да Літоўскай Рэспублікі) і Смаленшчыну з Браншчынай (да Расійскай Федэрацыі). Варта адзначыць адсутнасць у гэтым шэрагу характэрных для часткі беларускага нацыяналістычнага руху прэтэнзіяў на Дзвінск (Даўгаўпілс) да Латвіі, Чарнігаў да Украіны і, што самае галоўнае, на Беласточчыну да Польшчы. Зрэшты і пазіцыя па двух вышэйзгаданых

рэгіёнах не магла быць больш адрознаю: фактычна, Пазьняк адыходзіць ад паслядоўнага нацыяналізму ды імкнецца выявіць рэдкую для яго палітычную гнуткасць.

***Віленшчына***. Вільня досыць часта згадваецца ў тэкстах Пазьняка, але ён пазбягае пераносіць пытанне Вільні і Віленшчыны ў палітычную плоскасць, абмяжоўваючыся рамантычным праслаўленнем гэтых зямель (Пазьняк, 1990а). У гэтым сэнсе падыход Пазьняка да «віленскага пытання» моцна адрозніваецца ад стаўлення да Смаленшчыны, дзе ён – да распаду СССР – робіць упор менавіта на абмеркаванні імавернасці палітычнага рашэння смаленскага пытання і пазбягае ўсялякага рамантызму. Ён паслядоўна дыстанцуецца і ад любых спробаў палітызаваць віленскую праблему. Таму не дзіўна, што адзін з кіраўнікоў Літвы першай паловы 1990-х гг., Чэславас Юршэнас, пазітыўна ацэньвае пазіцыю Пазьняка ў пытанні этнічных тэрыторыяў, адзначаючы, што той пагадзіўся з парадаю не ўздымаць гэтай праблемы (Юршэнас, Чэславас. Гутарка з аўтарам. Ніда, Літва. 05.09.2001).

Пазьняк не выказвае радасці ў звязку з тым, што Прэзідыум Вярхоўнага Савету БССР афіцыйна паставіў пытанне пра вяртанне Беларусі Вільні і Віленскага краю «*ў выпадку выхада Літвы з СССР*». Вышэйшы прадстаўнічы орган нават прыняў у сакавіку 1990 г. адпаведную заяву Прэзідыуму. Лідар БНФ адзначае, што заява была прынятая менавіта пасля абвяшчэння незалежнасці Літвы, а таму гэта «*не было самостоятельным решением*». Больш за тое, «*оно продиктовано из Москвы. Советский Союз здесь имел свои цели – создать очаг напряженности, ввести чрезвычайное положение и покончить с сепаратизмом*» (Пазьняк, 1992g). Улічваючы падобныя сцэнары развіцця сітуацыі ў грузінскіх аўтаноміях, Нагорным Карабаху, Прыднястроўі ды іншых рэгіёнах СССР, такія сцвярджэнні кіраўніка БНФ цалкам адпавядалі палітычнай сітуацыі.

Пазьняк з гонарам заяўляе аб працідзеянні такім працэсам: «*По приглашению литовской стороны в апреле 1990 года состоялись переговоры между Народными депутатами – представителями БНФ и Саюдиса. Было принято общее заявление, в котором нашла оценку имперская политика шантажа, подтвержден принцип нерушимости границ, высказана решимость содействовать национально-культурному развитию автохтонного населения Виленщины по обе стороны существующей ныне границы*» (Пазьняк, 1992g).

Асабліва адметна, што Пазьняк у пытанні Віленшчыны дыстанцуецца і ад адпаведных дзеянняў афіцыйнага кіраўніцтва ўжо незалежнай Беларусі. У прыватнасці ў лютым 1992 г. міністр замежных справаў Беларусі Пятро Краўчанка падчас афіцыйнай сустрэчы ў Менску з дэлегацыяй Еўрапейскай супольнасці заявіў пра беларускія тэрытарыяльныя прэтэнзіі на прымежныя тэрыторыі Літвы, якія распасціраюцца аж да сталіцы Літоўскай Рэспублікі, Вільні. Ён падкрэсліў імкненне Беларусі развязаць

спрэчку мірным шляхам, але паведаміў, што жадае выступіць з гэтаю заяваю на міжнародным узроўні, бо Літва адмаўляецца весці перамовы па гэтай праблеме. У якасці абгрунтавання прэтэнзіяў ён спаслаўся на тое, што літоўскае насельніцтва Вільні пры канцы XIX ст. складала толькі 1 %, а да моманту анексіі Літвы Савецкім Саюзам у 1940 г. – усяго 6 % жыхароў (New York Times, 1992). Пазней афіцыйныя перамовы пра мяжу, яе дэмаркацыю і дэлімітацыю таксама зацягваліся бясконцымі спрэчкамі. Пры гэтым, як адзначаюць Кірыл Касцян і Ганна Васілевіч, Літва была адзінаю дзяржаваю, у дачыненні якой Рэспубліка Беларусь выступала з якімі-колечы тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі (Касьцян і Васілевіч, 2009).

*Усходнія абшары.* У той самы час Пазьняк не хавае сваіх амбіцыяў па ўсходніх тэрыторыях. Ён абапіраецца на гістарычны працэс узбуйнення БССР у 1920-х гг. коштам перадачы этнічных зямель са складу РСФСР: «*...Правительство БССР сумело ... возвратить часть своих восточных земель Витебской, Могилевской и Гомельской областей. Ожидалось возвращение Смоленщины и Брянщины. Но началась волна сталинских репрессий, и все снова потонуло в крови*» (Пазьняк, 1992g).

Праўда, гэтае пытанне звязваецца ім і з сучаснымі праблемамі Беларусі, найбольш пацярпелай сярод усіх савецкіх рэспублікаў ад радыеактыўнага забруджання ў 1986 г. «*Если бы не Чернобыльская трагедия, то вопрос о восточных землях Белоруссии, находящихся в составе РСФСР, не стал бы так остро. Ведь, вернув эти опустошенные этнические территории под юрисдикцию Белорусской ССР ... мы сможем переселить туда людей из сильно зараженных зон Белоруссии ... сохранить здоровье людей, традиции и культуру народа [...] Однако это пока только идеи. Они на уровне обсуждений. Радует, что многие русские, в том числе Народные депутаты РСФСР и руководители в России, относятся к этой идее с пониманием и доброжелательно*» (Пазьняк, 1992g).

Пытанне пра этнічныя тэрыторыі Пазьняк часцяком агучвае нават у аўдыторыі, дзе гэта відавочна можа мець адмоўны рэзананс. Выступаючы ў Еўрапарламенце кіраўнік Народнага фронту зазначае, што Беларусь «*у жніўні 1991 г. змагла аднавіць страчаны суверэнітэт на 2/3 сваёй тэрыторыі ў межах былой Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі*» (Пазьняк, 2007a).

Варта адзначыць, што артыкуляцыя гэтай тэмы даволі вузка абмежаваная па часе. Асабліва актыўна яна абмяркоўвалася да фактычнага распаду СССР у 1991 г. Гэта цалкам зразумела, бо ў рамках Савецкага Саюзу можна было спадзявацца на ўключэнне ў склад БССР нейкіх тэрыторыяў, адпаведныя прэцэдэнты ў савецкай гісторыі існавалі. Пасля абвяшчэння незалежнасці пытанне перамясцілася ў іншую плоскасць – не ўнутрысаюзных, а міждзяржаўных стасункаў. Імаверна, з гэтай прычыны ўжо да канца 1991 г. тэма згубленых тэрыторыяў знікае з тэкстаў Пазьняка.

*нае галасаванне ў два туры вядзе да шматпартыйнай сістэмы, партыі якой характарызуюцца "мяккаю" структураю, схільнасцю да альянсаў і адносную стабільнасцю (ва ўсіх выпадках)*»; 3) «*рэжым прапарцыйнага прадстаўніцтва вядзе да шматпартыйнай сістэмы з жорсткімі, незалежнымі і стабільнымі партыямі (за выключэннем выпадкаў рознага кшталту кароткачасовых, але бурных рухаў)*» (Дюверже, 2005: 257–270).

Пры аналізе расійскай партыйнай сістэмы мы ўжываем прынцып, паводле якога ўсе партыйныя сістэмы падзяляюцца на спаборніцкія і аўтарытарныя. Аднак далей мы ўжываем свайго кшталту класіфікацыйны эклектызм, калі разглядаем спаборніцкія партыйныя сістэмы згодна з класіфікацыяй Джавані Сарторы, а аўтарытарныя – згодна з прынцыпамі, вылучанымі Габрыэлем Алмандам і Бінгэмам Паўэлам.

Сарторы падзяліў партыйныя сістэмы на наступныя тыпы: 1) палярызаваны плюралізм; 2) памяркоўны плюралізм; 3) двухпартыйная сістэма; 4) сістэма з дамінантнаю партыяй. Для нашага аналізу важныя характарыстыкі сістэмы палярызаванага плюралізму і сістэмы з дамінантнаю партыяй, таму мы разгледзім толькі гэтыя тыпы.

Палярызаваны плюралізм (наяўнасць як мінімум пяці–шасці рэлевантных партыяў) мае наступныя характарыстыкі: а) наяўнасць значнай палярызацыі грамадскай думкі ды ідэалагічнай аддаленасці партыйна-палітычных суб'ектаў; б) наяўнасць рэлевантных антысістэмных партыяў; в) заняцце прасторы палітычнага цэнтру некаторымі ўплывовымі палітычнымі партыямі або пэўнаю групоўкаю некалькі партыяў; г) перавага цэнтрабежных тэндэнцыяў над цэнтраімклівымі; д) пераход ад цалкам спаборніцкай палітыкі да палітыкі паступальных абяцанняў не зважаючы на магчымасці іх выканання ды інш.

Сістэма з дамінантнаю партыяй характарызуецца сітуацыяй, калі цягам прынамсі трох–чатырох свабодных, канкурэнтных і справядлівых выбараў перамагае адна і тая самая палітычная сіла, якая фармуе аднапартыйны ўрад (больш падрабязна гл. Sartori, 2005: 113–176).

Аўтарытарныя партыйныя сістэмы, як і спаборніцкія, прызначаныя для агрэгацыі інтарэсаў. Толькі сутнасць працэсу ў гэтых двух выпадках прынцыпова адрозніваецца. Калі ў межах спаборніцкіх партыйных сістэмаў ідзе канкурэнцыя палітычных альтэрнатываў, і грамадзяне надзеленыя рэальнаю магчымасцю абіраць тыя ці іншыя палітычныя сілы ў органы дзяржаўнага кіравання, то аўтарытарныя партыйныя сістэмы пераважна закрытыя ад электаральнага ўплыву, і агрэгацыя інтарэсаў адбываецца ўнутры арганізацыі аўтаномным чынам або пад дзеяннем некаторых групаў уплыву. Згодна з класіфікацыяй Алманда і Паўэла, аўтарытарныя партыйныя сістэмы падзяляюцца на эксклюзіўныя ды інклюзіўныя.

Для эксклюзіўных партыйных сістэмаў характэрныя татальны кантроль над палітычнымі рэсурсамі ды адмаўленне любой легітымнай агрэгацыі інтарэсаў унутрыпартыйнымі групамі. Кіроўная эксклюзіўная партыя не дапускае ніякай свабоды дзейнасці сацыяльных групаў, апазіцыі, грамадзянаў і розных урадавых органаў. Сродкам легітымацыі яе палітычнага курсу выступае ўсёабдымная палітычная ідэалогія, якая прэтэндуе на веданне сапраўдных інтарэсаў грамадзянаў.

Інклюзіўная партыйная сістэма характарызуецца тым, што кіроўная партыя прызнае і спрабуе каардынаваць разнастайныя сацыяльныя групы. Партыя прымае і агрэгуе пэўныя інтарэсы, адначасова падаўляе іншыя і забараняе любыя формы дзейнасці, якія здольныя падарваць панаванне (Almond et al, 2008: 92–93).

Сённяшні стан расійскай партыйнай сістэмы характарызуе манапольнае становішча партыі ўлады «Единая Россия», якому папярэднічаў працэс змены як фармальных, так і нефармальных інстытутаў. Сучасную расійскую партыйную сістэму нярэдка называюць сістэмаю з дамінантнаю партыяй, грунтуючыся хутчэй на вонкавым падабенстве, чым на навуковым абгрунтаванні такой класіфікацыі. Для развязання праблемы класіфікацыі трэба вызначыць асаблівасці афармлення партыйнай сістэмы, уплыў выбарчай сістэмы на яе трансфармацыю, а таксама ролю, якую мае партыя ўлады «Единая Россия» ў палітычнай сістэме краіны. На нашу думку, і гэта ёсць гіпотэзаю даследавання, **у Расійскай Федэрацыі склалася сістэма інклюзіўнага монапартызму**. Сутнасць гэтай сістэмы заключаецца ў манапольным становішчы партыі ўлады «Единая Россия», якая падаўляе і/або для якой падаўляецца любая дзейнасць, здольная падарваць яе панаванне. Хаця пры гэтым дапускаюцца абмежаваныя альтэрнатыўныя магчымасці агрэгацыі грамадскіх інтарэсаў. У працэсе станаўлення сістэмы інклюзіўнага монапартызму ключавую ролю грала рэформа выбарчай сістэмы ў інтарэсах партыі ўлады.

## I. Характарыстыка інстытутаў расійскага партыйнага поля падчас станаўлення партыйнай сістэмы

Першыя альтэрнатыўныя палітычныя арганізацыі з'явіліся ў СССР на мяжы 1980-х–1990-х гг. Крыніцамі іх росту былі нефармальныя аб'яднанні, расколы КПСС на розныя плыні ды галасаванне на выбарах (Remington, 2008: 386). Парламенцкія выбары 1993 г. былі «ўстаноўчымі» з пункту гледжання зацвярджэння новых інстытутаў, аднак даволі спецыфічнымі, улічваючы сілавое вырашэнне канфлікту заканадаўчай і выканаўчай уладаў 1992–1993 гг. і, як вынік, абмежаванасць палітычных актараў новага парламентарызму ў звязку з недапушчэннем да ўдзелу ў выбарах шэрагу арганізацыяў, што выступалі падчас канфлікту супраць Ельцына.

Наяўнасць палітычных партыяў не ёсць сведчаннем існавання пар-

тыйнай сістэмы ў дзяржаве. Сярод крытэраў, паводле якіх магчыма вызначыць наяўнасць партыйнай сістэмы, можна назваць: пэўныя прынцыпы дачыненняў палітычных партыяў унутры заканадаўчых органаў у працэсе ажыццяўлення ўлады або барацьбы за яе (часцей за ўсё такімі прынцыпамі выступае кааліцыйны патэнцыял палітычных партыяў на стадыі парламенцкай канкурэнцыі), а таксама інстытуцыялізацыя саміх палітычных партыяў. Відавочна, што цягам 1990-х гг. гэтыя крытэры для расійскай палітычнай сістэмы не былі характэрныя. Нават з юрыдычнага пункту гледжання палітычных партыяў у Расійскай Федэрацыі не існавала да прыняцця ў 2001 г. Федэральнага закону аб палітычных партыях.

Дзейнасць кангламерату палітычных арганізацыяў рэгулявалася законам аб грамадскіх аб'яднаннях ад 1995 г. Арганізацыі, якія выстаўлялі свае спісы на выбарах у Дзяржаўную Думу па агульнафедэральнай акрузе, называліся «выбарчымі аб'яднаннямі». У прынцыпе, усе грамадскія аб'яднанні маглі скарыстаць з магчымасці ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах у тым выпадку, калі гэта дазваляў іх статут. Такая заканадаўчая норма падчас думскай выбарчай кампаніі 1995 г. дазваляла ўдзельнічаць у выбарах 260-ці грамадскім аб'яднанням, 43 з якіх зарэгістравалі свае спісы (Скосаренко, 2007: 164).

Згодна са зменамі ў Федэральны закон аб грамадскіх аб'яднаннях, унесенымі ў ліпені 1998 г., права ўдзельнічаць у выбарах пакінулі толькі за палітычнымі грамадскімі аб'яднаннямі, асноўнымі мэтамі якіх былі ўплыў на фармаванне палітычнай волі грамадзянаў, удзел у выбарах у органы дзяржаўнай улады і органы мясцовага самакіравання (Федеральный закон, 1995). Але гэта нязначна знізіла колькасць патэнцыйных гульцоў электаральнага працэсу, бо налічвалася 139 такіх аб'яднанняў, што не прынесла якіх-небудзь якасных зменаў, хаця большасць з іх і не выстаўляла сваіх спісаў на выбарах.

Федэральны закон аб палітычных партыях быў прыняты 11 ліпеня 2001 г. Згодна з законам у выбарах у Дзяржаўную Думу могуць удзельнічаць толькі палітычныя партыі. Дакумент устанавіў мінімальную колькасць сябраў палітычнай партыі на ўзроўні 10 тыс. чалавек, а згодна з папраўкамі ў 2004 г. мінімальная колькасць сябраў палітычнай партыі мусіць складаць 50 тыс. чалавек. Таксама ў рэдакцыі федэральнага закону ад 2004 г. павысілі мінімальнае патрабаванне да колькаснага складу рэгіянальных аддзяленняў: са 100 да 500 сябраў у больш як палове рэгіёнаў РФ, і з 50 да 250 сябраў у астатніх рэгіянальных аддзяленнях палітычнай партыі (Федеральный закон, 2001). Відавочна, што нават у ранняй рэдакцыі закону гэтыя патрабаванні даволі складаныя для расійскіх партыяў, не кажучы ужо пра рэдакцыю закону 2004 г. Натуральна, гэта было скіравана супраць малых партыяў, а таксама выступала бар'ерам для з'яўлення новых палітычных сілаў, што не змаглі б без адміністрацыйнага рэсурсу адпавядаць устаноўленым

патрабаванням. Што датычыць партыі ўлады «Единая Россия», забяспечанай адміністрацыйным рэсурсам, то для яе сітуацыя цалкам выйгрышная.

Асаблівасцю партыйнага заканадаўства РФ ёсць палажэнне пра агульнафедэральны характар палітычных партыяў, і адпаведна забараняецца стварэнне рэгіянальных або нацыянальных палітычных партыяў (Федеральный закон, 2001), што ва ўмовах шматнацыянальнай дзяржавы з федэратыўным ладам абмяжоўвае прынцып палітычнага прадстаўніцтва. Агульнафедэральны прынцып функцыянавання партыяў у Расіі ёсць фактарам уплыву федэральнай эліты на электаральную прастору як на федэральным, так і рэгіянальным узроўнях. У дачыненні апошняга гэта ёсць інстытуцыйным знешнім фактарам, які пачаў паступова пераважаць у рэгіянальных электаральных працэсах з 2000 г. (Чувилина, 2009: 56). Гэты інстытуцыйны фактар не дазваляў рэгіянальным элітам выкарыстоўваць рэсурсы мясцовых «партыяў улады», рэгіянальных палітычных рухаў і аб’яднанняў для ўмацавання свайго ўплыву на заканадаўчыя і прадстаўнічыя органы ды мусіў зрабіцца абмежаваннем патэнцыялу элітнай канкурэнцыі з федэральным цэнтрам у рэгіёнах. Вядома, партыйнае заканадаўства 2001 г. не было відавочным і адзіным каталізатарам адзначаных зменаў; у гэтым кантэксце важнае значэнне мелі пераход да змяшанай сістэмы на рэгіянальных выбарах з тэндэнцыяй у бок пашырэння прапарцыйнага складніку і адмена наўпраставых выбараў губернатараў, што ў перыяд 2003–2007 гг. прывяло да ўзмацнення вонкавых фактараў у рэгіянальных электаральных працэсах (Чувилина, 2009: 56). У гэтых умовах рэгіянальныя палітычныя эліты былі вымушаныя пераарыентавацца на новую партыю ўлады, «Единую Россию», для рэалізацыі сваіх палітычных амбіцыяў і захавання элітных пазіцыяў.

Важным фактарам, які вызначаў асаблівасці генезісу і развіцця партыйнай сістэмы ў сучаснай Расіі, ёсць слабасць расійскага парламенту ў структуры ўлады. Нягледзячы на тое што Расійская Федэрацыя – гэта прэзідэнцка-парламенцкая рэспубліка, дыспрапорцыя ў паўнамоцтвах між галінамі ўлады абумоўлівае дамінаванне прэзідэнта ў палітычнай сістэме. Дзяржаўная Дума не фармуе ўраду на аснове ўсеагульных выбараў, яна толькі дае згоду на прызначэнне старшыні ўраду прэзідэнтам, прычым пасля двухразовага адхілення кандыдатуры старшыні ўраду прэзідэнт яго прызначае самастойна, а Дзяржаўную Думу распускае і абвяшчае новыя выбары (Конституция…). Такім чынам, Дзяржаўная Дума, а значыць і палітычныя партыі пазбаўленыя непасрэднай магчымасці ўплываць на ўрадавы курс. Гэтая асаблівасць паходзіць з перыяду канфлікту прэзідэнта і Вярхоўнага Савету ў 1992–1993 гг., пасля чаго ў выніку сілавой перамогі выканаўчай улады была прынятая Канстытуцыя РФ, якая замацоўвае пераважнае становішча прэзідэнта ў палітычнай сістэме.

Слабасць парламенту мае непасрэдную сувязь з неразвітасцю партыйнай сістэмы (Шевцова, 2000: 80). Немагчымасць несці адказнасць за ажыццяўленне палітычнага курсу ператварае Дзяржаўную Думу ў месца лабіявання інтарэсаў зацікаўленых групаў (Голосов, 2008: 202).

## II. Расійская партыйная сістэма пасля выбараў 1999 года

Як адзначаюць некаторыя даследнікі, ужыванне любых прагнозных мадэляў у дачыненні расійскіх электаральных працэсаў 1990-х гг. было даволі складаным (Мелешкина, 2000: 6). Рэч у тым, што партыйная сістэма, а дакладней яе прататып узору 1990-х гг. і партыйная сістэма на пачатку свайго афармлення падчас функцыянавання Дзяржаўнай Думы трэцяга склікання (канец 1999 – 2003) характарызаваліся нестабільнасцю. Кожныя новыя выбары ў Дзяржаўную Думу прыводзілі да змены парламенцкіх партыяў. Напрыклад, у выніку выбараў 1995 г. у Дзяржаўную Думу другога склікання партыйныя спісы ў прапарцыйнай частцы выбарчай сістэмы змаглі правесці толькі чатыры выбарчыя аб'яднанні: Камуністычную партыю Расійскай Федэрацыі (КПРФ), Ліберальна-дэмакратычную партыю Расіі (ЛДПР), партыю ўлады «Наш дом Россия» (НДР) і «Яблоко» (Результаты…, 1995). Па выніках выбараў 1999 г. у Думу трэцяга склікання паводле прапарцыйнай формулы прайшлі ўжо шэсць выбарчых аб'яднанняў: КПРФ, новая партыя ўлады «Единство», альтэрнатыўная партыя ўлады «Отечество – Вся Россия» (ОВР), Саюз правых сілаў (СПС), Блок Жырыноўскага (ЛДПР) і «Яблоко». Акрамя павелічэння колькасці выбарчых аб'яднанняў, што прайшлі ў Думу на гэтых выбарах, адбылася змена партыі ўлады. Партыя «Наш дом Россия», пазбаўленая падтрымкі Крамля, не здолела правесці свой спіс, замест яе ў 1999 г. за некалькі месяцаў да парламенцкіх выбараў стварылася новая партыя ўлады – «Единство». Акрамя гэтага трэба мець на ўвазе, што палова дэпутатаў Думы абіралася па аднамандатных акругах і колькасць суб'ектаў парламентарызму не абмяжоўвалася партыйнымі спісамі.

Электаральная няўстойлівасць партыйнай сістэмы звязаная з перацяканнем электарату ад адных партыяў да іншых падчас новых выбараў, а таксама з адсутнасцю партыйнай ідэнтыфікацыі істотнай часткі электарату, што робіць магчымымі розныя варыянты яго паводзінаў.

Як адзначалася вышэй, па выніках выбараў 1999 г. шэсць выбарчых аб'яднанняў змаглі правесці ў парламент свае спісы праз прапарцыйную частку выбарчай сістэмы. Сярод іх другое месца з вынікам 23,32 % (Результаты…, 1999) заняла новая партыя ўлады «Единство», створаная спецыяльна для падтрымкі старшыні ўраду У. Пуціна, якога на той час ужо «раскручвалі» ў расійскім грамадстве, каб забяспечыць перадачу ўлады.

Партыя «Единство» паўстала як выбарчы блок, у які ўвайшоў шэраг дробных арганізацыяў. Нягледзячы на тое што прэм'ер-міністр Пуцін не

ўваходзіў у склад «Единства», ён заявіў пра сваю падтрымку выбарчага блоку 26 лістапада 1999 г. (Независимая газета, 1999). Не будзе лішнім адзначыць тую акалічнасць, што і Ельцын, і Пуцін вытрымлівалі некаторую дыстанцыю ад сваіх партыяў улады. Сапраўды, НДР (ельцынская партыя ўлады) і «Единая Россия» (пуцінская партыя ўлады) мелі куды меншыя рэйтынгі, чым прэзідэнты атрымлівалі на выбарах. Прыхільнасць, але разам з тым і некаторая дыстанцыя дазвалялі звярнуцца і да іншых палітычных сілаў па падтрымку на прэзідэнцкіх выбарах.

Выбары 1999 г. адзначаюцца тым, што ў іх узялі ўдзел тры так званыя партыі ўлады: НДР, як ужо вышэй адзначалася, страціла падтрымку Крамля і з гэтай прычыны набрала толькі 1,19 % галасоў у прапарцыйнай частцы выбарчай сістэмы (Результаты..., 1999); новая партыя ўлады «Единство» і альтэрнатыўная партыя ўлады ОВР (выбарчы блок «Отечество – Вся Россия», які ўяўляў з сябе хаўрус руху «Отечество» і альянсу губернатараў «Вся Россия»). ОВР узначальвалі такія вядомыя расійскія палітыкі як былы прэм’ер-міністр Яўген Прымакоў, мэр Масквы Юрый Лужкоў і прэзідэнт Татарстану Мінтымер Шайміеў. Блок ОВР быў даволі нетрывалаю структураю, якая пачала распадацца адразу пасля выбараў у Думу.

Аб’яднанне «Единства» і «Отечества» ў партыю «Единая Россия» адбылося 1 снежня 2001 г. Новую партыю ўзначалілі тры сустаршыні: Сяргей Шайгу, Юрый Лужкоў і Мінтымер Шайміеў (История партии...). Такім чынам, былі дасягнутыя элітны кансенсус і кансалідацыя эліты вакол Крамля. Такая кансалідацыя разгортвалася адначасова з пабудоваю «вертыкалі ўлады», і ў кантэксце гэтага працэсу асабліва значэнне набываў кантроль над парламентам праз партыю ўлады з большасцю ў Дзяржаўнай Думе.

Разам з такімі традыцыйнымі актарамі расійскага парламентарызму як КПРФ, ЛДПР і «Яблоко», якія абіраліся ў Думу першых двух скліканняў, па выніках выбараў 1999 г. у Дзяржаўную Думу трэцяга склікання быў абраны спіс правых лібералаў – Саюз правых сілаў. СПС разам з сацыяльнымі лібераламі – партыяй «Яблоко» – сталі асноўнымі палітычнымі сіламі ліберальнага кірунку ў Расіі ды адзінымі ліберальнымі партыямі ў расійскай партыйнай сістэме.

У 2001 г. старым і новым палітычным арганізацыям трэба было трансфармавацца ў палітычныя партыі ў адпаведнасці з новымі нормамі федэральнага закону. Да моманту парламенцкіх выбараў 2003 г. у Расіі існавалі 73 палітычныя партыі, якія мелі права браць удзел у думскіх выбарах (Список, c), свае спісы зарэгістравалі толькі 23 з іх (Результаты..., 2003). Тэндэнцыя да скарачэння колькасці палітычных партыяў працягвала развівацца, і ўжо ў 2007 г. перад выбарамі ў Дзяржаўную Думу пятага склікання засталося толькі 15 палітычных партыяў (Список, b).

Відавочна, што працэсу знікнення большасці партыяў спрыялі высокія патрабаванні да колькасці сябраў.

Змены нефармальных інстытутаў у расійскай палітычнай сістэме, пад якімі мы разумеем дасягненне элітнага кансенсусу вакол асобы прэзідэнта Пуціна і пачатак замыкання кола «палітычная эліта – бюракратыя – бізнес-манаполіі» на асобу прэзідэнта, прывялі да змены фармальных інстытутаў. Першаю з такіх зменаў была тэндэнцыя да ажыццяўлення кантролю над заканадаўчай уладаю праз павелічэнне вагі «Единой России» пасля аб'яднання «Единства» і «Отечества» і пераходу шэрагу дэпутатаў з іншых аб'яднанняў у склад фракцыі «Единая Россия». Такая логіка развіцця партыйнай сістэмы прывяла да таго, што па выніках выбараў 2003 г. «Единая Россия» атрымала абсалютную большасць галасоў у чацвёртай Дзяржаўнай Думе (Результаты..., 2003). У фракцыю гэтай партыі масава перайшла большасць аднамандатнікаў, што склала 80 % ад іх агульнай колькасці (Remington, 2008: 388).

Выбары 2003 г. унеслі змены ў контуры партыйнай сістэмы. У Думу не прайшлі дзве ліберальныя партыі – СПС і «Яблоко», якім крыху не хапіла для пераадолення 5-адсоткавага выбарчага бар'еру. Гэта прывяло да скарачэння колькасці партыяў, прадстаўленых у парламенце, з шасці да чатырох. Праўда, сюрпрызам аказаўся блок «Родина», які набраў на выбарах 9,02 % галасоў (Результаты..., 2003) і адрозніваўся даволі вострай апазіцыйнасцю ўрадаваму курсу. Аднак гэта была апошняя неспадзяванка такога кшталту, бо развіццё партыйнай сістэмы ў бок поўнага кантролю «Единой России» над Дзяржаўнаю Думаю і тыя інстытуцыйныя пераўтварэнні, якія суправаджалі гэты працэс, мусілі выключыць любую небяспеку для партыі ўлады.

Такім чынам, партыйная сістэма ў Расійскай Федэрацыі склалася ў канцы 1990-х гг., і першаю вяхой у яе фармаванні былі парламенцкія выбары 1999 г., якія замацавалі «старых» палітычных актараў расійскага парламентарызму і далі далейшае развіццё такому інстытуту як партыя ўлады. Папярэдні перыяд існавання палітычных партыяў можна характарызаваць як прататып партыйнай сістэмы. Да таго ж саміх партыяў да 2001 г. не існавала з юрыдычнага пункту гледжання Прыняцце адпаведнага заканадаўства было другою вяхой у складанні партыйнай сістэмы і новых інстытутаў. **Партыйную сістэму канца 1990-х гг. і мяжы XXI ст. можна ахарактарызаваць як сістэму палярызаванага плюралізму** паводле класіфікацыі Сарторы, і сістэма гэтая адрознівалася няўстойлівым характарам. Аднак далейшае развіццё партыйнай сістэмы ў Расіі пайшло ў бок зацвярджэння кантролю Крамля над Дзяржаўнаю Думаю праз партыю ўлады, «Единую Россию». Гэтая тэндэнцыя мела места пад уплывам зменаў нефармальных інстытутаў і была замацаваная выбарамі 2003 г., пасля якіх у партыйнай

сістэме Расіі ўсталявалася манаполія партыі ўлады.

## III. Трансфармацыя выбарчай сістэмы ў Расійскай Федэрацыі

Расійская выбарчая сістэма перыяду 1993–2005 гг. была змяшанаю нязвязанаю мажарытарна-прапарцыйнаю. Можна сказаць, што яна ў свой час нараджалася ў пакутніцкіх умовах. Рэч у тым, што перыяд 1992–1993 гг. – гэта час канфлікту заканадаўчай і выканаўчай уладаў. Падчас гэтага процістаяння выспела неабходнасць інстытуцыйных пераўтварэнняў у палітычнай сістэме. Адным з аб'ектаў такога пераўтварэння мусіла стаць старая савецкая мажарытарная выбарчая сістэма, згодна з якою працаваў апазіцыйны прэзідэнту Вярхоўны Савет.

Новыя правілы фармавання заканадаўчай улады без істотных зменаў праіснавалі з 1993 да 2005 г. Асноўныя палажэнні гэтай выбарчай сістэмы заключаліся ў змяшаным мажарытарна-прапарцыйным прынцыпе фармавання ніжняй палаты парламенту – Дзяржаўнай Думы; уводзіўся 5-адсоткавы электаральны бар'ер для партыйных спісаў; былі магчымасці двайнога балатавання кандыдатаў (Скосаренко, 2007: 81).

Гэтая сістэма была разлічаная на тое, каб стымуляваць партыйнае развіццё (гэтаму мусіла спрыяць прапарцыйная частка электаральнай формулы) і ў той жа час падштурхоўваць дэпутатаў-аднамандатнікаў да працы з насельніцтвам. Увогуле змяшаныя выбарчыя сістэмы нібы заклікаными да пераадолення негатыўных якасцяў мажарытарных і прапарцыйных сістэмаў. Асаблівасцю расійскай выбарчай сістэмы 1993–2005 гг. была нязвязанасць прапарцыйнай і мажарытарнай частак сістэмы. Гэта азначае, што вынікі выбараў у кожнай з частак ніяк не ўплывалі на ўзаемнае размеркаванне мандатаў.

Натуральна, гэта была не беззаганная сістэма. Вядома, што вынікі выбараў па аднамандатных акругах моцна залежалі ад мясцовых палітычных элітаў, якія «прасоўвалі» сваіх кандыдатаў і г. д. Тым не менш, нягледзячы на некаторыя спробы зменаў у выбарчай сістэме Расіі, яна дастаткова стабільна дзейнічала цягам чатырох электаральных цыклаў, і можна сказаць, так ці інакш задавальняла асноўныя палітычныя сілы краіны, пакуль існавалі абмежаваны плюралізм і канкурэнцыя элітаў.

Сітуацыя пачала змяняцца ў 2000 г. з прыходам Пуціна да ўлады і пачаткам пабудовы ягонай «вертыкалі». Новая логіка палітычнага развіцця вызначыла рух да манаполіі адной палітычнай сілы – новай партыі ўлады, «Единой России». У гэтай сітуацыі востра паўстала пытанне пра механізм забеспячэння дамінавання новага палітычнага праекту Крамля ў заканадаўчай уладзе. Рэч у тым, што падчас прэзідэнцтва Ельцына апазіцыйнасць складаў Дзяржаўнай Думы значна ўскладняла заканадаўчы працэс, і Адміністрацыі прэзідэнта даводзілася рабіць значныя высілкі для забеспячэння падтрымкі пэўных рашэнняў.

Такая сітуацыя падрыхтавала глебу для зменаў у выбарчай сістэме, якая ёсць вельмі важным элементам палітычнай сістэмы, аднак пры гэтым найменш складаным у плане трансфармацыі (Taagepera and Shugart, 1989: 4).

Восенню 2004 г. прэзідэнт Расіі У. Пуцін выступіў з ініцыятываю выбарчай рэформы, згодна з якой выбары ў Дзяржаўную Думу маюць праходзіць паводле прапарцыйнай сістэмы. Вось як патлумачыў ініцыятыву прэзідэнта спікер Дзяржаўнай Думы Барыс Грызлоў: «*Выбары паводле партыйных спісаў могуць даць дадатковы шанец, дадатковую магчымасць для стварэння такой сістэмы* (рэальнай партыйнай сістэмы – А.Ш.) – *і гэтае рашэнне абсалютна правільнае*» (Грызлов). Паводле Грызлова, «*дзейная сістэма не спрыяе стабільнасці дзейных палітычных структураў – мы бачым скандалы і праблемы ў тых блоках і партыях, якія прайшлі ў Дзярждуму*» (Грызлов). Неабходнасць пераходу да прапарцыйнай сістэмы тлумачылася патрэбаю стварыць буйныя адказныя партыі. Больш за тое, як адзначыў сакратар генсавету партыі «Единая Россия», першы намеснік кіраўніка фракцыі «Единая Россия» ў Дзяржаўнай Думе Валерый Багамолаў, «*новая прапарцыйная сістэма выбараў дазволіць вырашыць самую галоўную задачу – адказнасці партыі і яе дэпутатаў перад выбарцамі, а саміх дэпутатаў перад партыяй*» (Что думают…).

Аднак наколькі такое абгрунтаванне пераходу да прапарцыйнай сістэмы неабходнасцю стварэння стабільных, буйных і адказных партыяў адпавядае наступствам ад увядзення яе? Тут, безумоўна, ёсць супярэчнасці, бо прапарцыйная сістэма дае іншыя эфекты. Так, натуральна, яна спрыяе партыйнаму развіццю і большай партыйнай дысцыпліне, але можна ўпэўнена сказаць, што гэтая сістэма захоўвае выразную тэндэнцыю да шматпартыйнасці ды фрагментацыі. Як адзначаў М. Дзювэржэ, «*нішто не падахвочвае тут роднасныя партыі да зліцця … Нішто не замінае ўнутрыпартыйным расколам*» (Дюверже, 2005: 301). Яшчэ больш сумнеўна гучыць тэзіс наконт адказнасці партыяў і дэпутатаў перад выбарцамі, бо ў адрозненне ад мажарытарнай сістэмы прапарцыйны выбарчы рэжым не заахвочвае дэпутатаў да працы з насельніцтвам, бо пераважае макрапалітычны ўзровень.

Новы выбарчы закон быў прыняты Думай і падпісаны прэзідэнтам 19 чэрвеня 2005 г. Асноўныя палажэнні новага закону аб выбарах: 1) дэпутаты Дзяржаўнай Думы абіраюцца па федэральнай выбарчай акрузе прапарцыйна колькасці галасоў, пададзеных за федэральныя спісы кандыдатаў у дэпутаты; 2) вылучэнне спісаў кандыдатаў ажыццяўляецца толькі палітычнымі партыямі. Закон не прадугледжвае стварэння выбарчых блокаў; 3) электаральны бар'ер павялічваецца да 7 %; 4) бар'ер, пры недасягненні якога выбарчы заклад не вяртаецца партыі, якая яго ўнесла, павышаецца з 3 да 4 %; 5) бар'ер, пры недасягненні якога партыя абавязаная вярнуць грошы за эфірны

час, павышаецца з 2 да 3 %; б) для рэгістрацыі спісу кандыдатаў максімальная колькасць несапраўдных подпісаў не мусіць перавышаць 10 % (Федеральный закон, 2007).

Цягам 2006 г. у новае заканадаўства быў унесены шэраг зменаў. Напрыклад, у выбарчых бюлетэнях знікла пазіцыя «супраць усіх» (Федеральный закон, 2006). Акрамя гэтага ў лістападзе 2006 г. Дзяржаўная Дума скасавала парог яўкі на выбарах.

Згодна з сацыялагічнымі законамі М. Дзювэржэ, прапарцыйная выбарчая сістэма вядзе да палітычнай фрагментацыі ды замацоўвае шматпартыйнасць. Таму незразумела, як прапарцыйная сістэма здольная натуральным шляхам стварыць буйныя адказныя партыі з вялікаю палітычнаю вагою ва ўмовах крайняй палярызацыі расійскага грамадства, для якога характэрныя вельмі розная шкала каштоўнасцяў і значная апалітычнасць. Аднак пераход да прапарцыйнасці ў Расіі суправаджаўся павышэннем электаральнага бар'еру да 7 %. Электаральны бар'ер – гэта вельмі істотны элемент выбарчай сістэмы, і ў гэтым выпадку ён супрацьдзейнічае тэндэнцыі да шматпартыйнасці і партыйнай фрагментацыі. Увядзенне даволі высокага электаральнага бар'еру абгрунтоўвалася «*стварэннем у Расіі працаздольнага парламенту, які б адпавядаў свайму прызначэнню вышэйшага палітычнага і заканадаўчага органу краіны*» (Вешняков, 2005). Відавочна, што высокі электаральны бар'ер закліканы адсекчы магчымасць абрання ў парламент невялікіх партыяў. Акрамя электаральнага бар'еру абмежаваннямі для невялікіх партыяў ці новых палітычных сілаў, якія не маюць магчымасці выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу, ёсць колькасныя патрабаванні для складу партыі ды яе рэгіянальных аддзяленняў, павышэнне адсоткавага бар'еру, пры недасягненні якога партыя мусіць вярнуць грошы за эфір, павышэнне бар'еру для вяртання выбарчага закладу і г. д. Таксама вельмі паказальнаю выглядае адмена магчымасці пратэстнага галасавання «супраць усіх» і парога яўкі.

Надзвычай важнай асаблівасцю расійскай выбарчай сістэмы ёсць забарона на фармаванне выбарчых блокаў, што разам з вышэй прыведзенымі абмежаваннямі азначае інстытуцыйны бар'ер для праходжання невялікіх партыяў ў парламент. Выбарчыя блокі былі характэрным інстытутам для постсавецкай электаральнай гісторыі Расіі. Шмат якія палітычныя сілы выкарыстоўвалі гэтую магчымасць для праходжання ў Думу.

Акрамя трансфармацыі электаральнай формулы пры правядзенні федэральных выбараў яшчэ раней змяніўся прынцып фармавання заканадаўчых органаў суб'ектаў федэрацыі, якія цяпер мусяць як мінімум напалову камплектавацца паводле прапарцыйнай сістэмы. Прычым закон не забараняе фармавання рэгіянальнага сходу цалкам паводле прапарцыйнай сістэмы (Федеральный закон, 1999). Упершыню такая ініцыятыва ад уладаў прагучала з вуснаў тагачаснага намесніка

кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Расіі Дзмітрыя Казака, які ў 2002 г. заявіў, што «*партыйныя арганізацыі будуць несці палітычную адказнасць за сваіх сябраў і за іх будучыя дзеянні. Акрамя таго, гэта дапаможа пазбегчы пранікнення ў парламент выпадковых людзей*» (Устюгов, 2008: 21). Гэтае выказванне датычыла вынікаў выбараў у заканадаўчы сход Санкт-Пецярбургу – дарэчы, першага суб'екту федэрацыі, які цалкам перайшоў на прапарцыйны прынцып фармавання заканадаўчага сходу (Вешняков, 2005). Відавочна, што артыкуляваны Казаком намер не дапусціць пранікнення ў рэгіянальныя сходы «выпадковых людзей» адлюстроўвае палітыку Крамля ў зацвярджэнні свайго дамінавання ў рэгіянальных электаральных прасторах. Гэта, разам з выпрацоўваннем працэдуры адхілення ад пасады рэгіянальных кіраўнікоў і рэформаю фармавання выканаўчай улады рэгёнаў (замена абрання кіраўнікоў суб'ектаў федэрацыі насельніцтвам на прызначэнне іх прэзідэнтам са згоды рэгіянальнага сходу), было асноваю станаўлення адміністрацыйнай вертыкалі ўлады і па сутнасці прывяло да абмежавання федэралізму.

У святле гэтага трансфармацыя выбарчай сістэмы ў рэгіянальным вымярэнні мае дадатковае значэнне, бо тым самым у 2003–2007 гг. адбылося ўзмацненне вонкавых фактараў у рэгіянальных электаральных працэсах, суб'ектам якіх ёсць федэральны цэнтр (Чувилина, 2009: 56–57). «Единая Россия» як новы асяродак федэральнай эліты, аб'яднанай вакол прэзідэнта Пуціна, была зацікаўленая ў забеспячэнні свайго дамінавання на рэгіянальным узроўні. Гэтаму мусілі спрыяць увядзенне і пашырэнне прапарцыйнай формулы на выбарах у заканадаўчыя органы суб'ектаў федэрацыі, а таксама інстытуцыйныя бар'еры для дробных палітычных сілаў. Сярод іх павышэнне электаральнага бар'еру, як, напрыклад, у Валагодскай вобласці і Таймырскай аўтаномнай акрузе (8 %), Пермскай вобласці (7,5 %), Валгаградскай і Омскай абласцях, Алтайскім краі, Татарстане і Башкартастане (7 %) (Устюгов, 2008: 24).

## IV. Правілы фармавання Дзяржаўнай думы ды іх спрыяльнасць для палітычных партыяў

Змены выбарчага заканадаўства 2005 г., якія паклалі канец існаванню ў Расіі змяшанай мажарытарна-прапарцыйнай выбарчай сістэмы, былі ініцыяваныя прэзідэнтам і падтрыманыя палітычнай элітаю: партыяй улады «Единой Россией» і некаторымі іншымі палітычнымі сіламі, як, напрыклад, Ліберальна-дэмакратычнаю партыяй Расіі. Гэтая ініцыятыва выклікала мноства водгукаў, але ў цэлым падавалася праз афіцыйныя каналы інфармацыйнага ўздзеяння як выключна карысная і прагрэсіўная. Безумоўна, сама па сабе тая ці іншая выбарчая сістэма не ёсць дрэннаю ці недасканалаю, і прапарцыйная сістэма існуе ў шматлікіх дэмакратычных дзяржавах. Аднак такая выбарчая

сістэма, якая ўсталявалася ў Расіі, акрамя непасрэдна прапарцыйнай формулы мае дадатковыя інстытуты, як, напрыклад, высокі электаральны бар'ер ды іншыя элементы, якія разглядаліся ў папярэднім раздзеле, што змяняюць сістэмныя характарыстыкі, а менавіта, замест павелічэння колькасці партыяў назіраецца іх скарачэнне. Зыходзячы з таго, што афіцыйныя прычыны змены выбарчай сістэмы супярэчаць наступствам ужывання прапарцыйнай электаральнай формулы паводле Дзюверже, варта засяродзіць увагу на тым, якім чынам вынікі выбараў паводле змяшанай выбарчай сістэмы адбіваліся на асноўных актарах партыйнага спаборніцтва і электаральнага працэсу.

Галоўную ўвагу сярод гэтых актараў мы засяродзім на партыях улады і крамлёўскай «хаўрусніцы», якая, нягледзячы на сваю вонкавую апазіцыйнасць, не ўяўляе небяспекі для сістэмы і выконвае прыкладную функцыю. Да апошняй мы адносім Ліберальна-дэмакратычную партыю Расіі на чале з Уладзімірам Жырыноўскім, якая збірае вакол сябе маргінальны электарат і канвертуе яго ў выніку сваёй дзейнасці ў Думе ў падтрымку кіроўнага рэжыму.

Калі казаць пра першую партыю ўлады, то ёй быў блок «Наш дом – Россия», створаны для ўдзелу ў думскіх выбарах 1995 г. З'яўленне партыі ўлады было звязанае з тым, што Крэмль хацеў, нягледзячы на «нязначнасць» Дзяржаўнай Думы, забяспечыць трывалую заканадаўчую падтрымку сваіх законапраектаў і палітыкі, а значыць, і знізіць выдаткі самога палітычнага працэсу. Але ў цэлым праект першай партыі ўлады, НДР, аказаўся малапаспяховым.

Другім прыкладам партыі ўлады, якая прыйшла на змену НДР у канцы 1990-х гг., было «Единство» – даволі паспяховы праект, які ў 2001–2003 гг. выйшаў на якасна новы ўзровень, аб'яднаўшыся з «альтэрнатыўнаю» партыяй улады «Отечество – Вся Россия» і ўтварыўшы «Единую Россию». У нашым аналізе вынікаў выбараў (гл. табл. 1) «Единство» ў 1999 г. пазначаецца як «Единая Россия» дзеля практычнасці ўжывання ў форме табліцы, а таксама з той прычыны, што «Единая Россия» ёсць генетычным працягам «Единства».

У табл. 1 адлюстраваныя толькі выбарачныя звесткі: для НДР – толькі за выбары 1995 г., хаця гэтая сіла ўдзельнічала і ў выбарах 1999 г., але тады ўжо згубіла статус партыі ўлады і не прайшла ў Думу паводле прапарцыйнай часткі сістэмы. Таксама не паказаныя вынікі выбараў 2003 г. для «Яблока» і СПС, бо гэтыя партыі не здолелі пераадолець 5-адсоткавы бар'ер. Гэтая табліца выкарыстоўваецца для аналізу заканамернасцяў паспяховасці выбараў у розных частках змешанай выбарчай сістэмы за 1995–2003 гг., таму мы не ўключылі сюды ўсёй інфармацыі.

Як відаць з вынікаў выбараў паводле змяшанай мажарытарна-прапарцыйнай сістэмы, традыцыйна

**Табліца 1. Вынікі выбараў паводле змешанай сістэмы для асноўных палітычных сілаў**

| | Выбары 1995 г. | | Выбары 1999 г. | | Выбары 2003 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | федэральная акруга | аднамандатныя акругі | федэральная акруга | аднамандатныя акругі | федэральная акруга | аднамандатныя акругі |
| НДР | 10,1 % (45) | 10 | – | – | – | – |
| «Единая Россия» | – | – | 23,32 % (64) | 9 | 37,57 % (120) | 100 |
| ЛДПР | 11,2 % (50) | 1 | 5,98 % (17) | 0 | 11,45 % (36) | 0 |
| КПРФ | 22,3 % (99) | 58 | 24,29 % (67) | 46 | 12,61 % (40) | 11 |
| «Яблоко» | 6,9 % (31) | 14 | 5,93 % (16) | 4 | – | – |
| СПС | – | – | 8,52 % (24) | 5 | – | – |

**Крыніцы: Результаты…, 1995; Результаты…, 1999; Выборы в Государственную Думу…**

партыі ўлады і ЛДПР вельмі няўдала выступалі ў мажарытарнай частцы сістэмы. Гэта тлумачыцца тым, што да пачатку 2000-х гг. на рэгіянальным электаральным узроўні пераважалі ўнутраныя фактары ўплыву (Чувилина, 2009: 56), то бок рэгіянальныя эліты часта спрыялі абранню ў аднамандатных акругах «сваіх» кандыдатаў. Сітуацыя пачала змяняцца ў пачатку 2000-х гг., калі быў узяты курс на пабудову адміністрацыйнай вертыкалі ўлады, прызначэнне губернатараў і ўключэнне мясцовай эліты ў склад «Единой России» або яе замены. Гэтую тэндэнцыю дэманструюць вынікі выбараў у Дзяржаўную Думу 2003 г. Да таго ж у 2001 г. ужо адбылося аб'яднанне «Единства» і ОВР, што прынесла новай партыі дадатковы рэсурс рэгіянальнай падтрымкі.

Разам з тым у 2003 г. у Дзяржаўную Думу абралі 71 так званага незалежнага дэпутата (Результаты…, 2003). І хаця ў чацвёртай Думе 80 % усіх дэпутатаў-аднамандатнікаў увайшлі ў склад фракцыі «Единая Россия» (Remington, 2008: 388), як і шэраг дэпутатаў, што абраліся ад іншых партыяў, патэнцыйна захоўвалася інстытуцыйная магчымасць страты кантролю над дэпутатамі-аднамандатнікамі. Да таго ж, як адзначаюць некаторыя даследнікі, «*у параўнанні з дэпутатамі-спісачнікамі, дэпутаты-аднамандатнікі схільныя да больш незалежных заканатворчых паводзінаў. Гэта звязана з тым, што аднамандатнікі адчуваюць непасрэдную адказнасць перад сваімі выбарцамі, клапоцяцца пра сваю падтрымку ў акрузе, а не пра інтарэсы партыі*» (Голосов, 2008: 206).

Асноўным матывацыйным складнікам трансфармацыйнага працэсу было змяншэнне выдаткаў праз змены інстытутаў, а не дапасаванне да ўжо існых «правілаў гульні», бо ў межах агульнафедэральнай акругі прасцей задзейнічаць тэхналогіі ўплы-

ву на выбарцаў, чым забяспечыць абранне «патрэбных» кандыдатаў у акругах.

## V. Комплекс «партыйная – выбарчая сістэмы» ў палітычнай сістэме сучаснай Расіі

Пасля рэформы выбарчай сістэмы расійскія палітычныя партыі падышлі да парламенцкіх выбараў 2007 г. Гэтыя выбары праходзілі выключна паводле прапарцыйнай сістэмы, і для таго каб правесці свой спіс у Думу, партыям трэба было пераадолець 7-адсоткавы бар'ер. Упершыню ў электаральнай гісторыі Расіі палітычным партыям забаранялася аб'ядноўвацца ў выбарчыя блокі. Асаблівасцю выбараў у Дзяржаўную Думу пятага склікання было тое, што колькасць патэнцыйных удзельнікаў электаральнага працэсу скарацілася да 15-ці палітычных партыяў (Список, b), 14 з якіх зарэгістравалі свае спісы (Список, d), што выглядае даволі значным змяншэннем у параўнанні з папярэднімі электаральнымі цыкламі.

Па выніках выбараў 2007 г. у Дзяржаўную Думу пятага склікання партыя ўлады «Единая Россия» атрымала 64,30 % галасоў выбарцаў, але эфектыўны адсотак галасоў склаў 70,08 % (Выборы депутатов…). Эфектыўны адсотак партыя атрымоўвае за коштам пераразмеркавання галасоў іншых партыяў, якія не пераадолелі 7-адсоткавага бар'еру і не прайшлі ў Думу. Пры пераразмеркаванні найбольшую частку іх галасоў атрымоўваюць партыі паводле прынцыпу: чым большы спіс дэпутатаў змагла партыя правесці ў парламент, тым большы эфектыўны адсотак яна атрымоўвае. Сярод усіх партыяў, што прайшлі ў Дзяржаўную Думу, менавіта «Единая Россия» атрымала найбольшы эфектыўны адсотак галасоў – амаль плюс 6 % (Выборы депутатов…). Такім чынам, па выніках выбараў у пятую Думу партыя ўлады атрымала канстытуцыйную большасць у ніжняй палаце парламенту, што забяспечыла ёй поўны кантроль над Дзяржаўнаю Думаю: цяпер яна магла прымаць любыя рашэнні, не зважаючы на апазіцыю, цалкам кантраляваць парадак дня і г.д.

Што датычыць расійскай апазіцыі, то і ў гэтым плане контуры партыйнай сістэмы змяніліся ў параўнанні з папярэднімі выбарамі. Дзве ліберальныя партыі, СПС і «Яблоко», не здолелі вярнуць сабе статусу парламенцкіх партыяў, які яны страцілі па выніках выбараў 2003 г. Іх прыклад паказаў, што ў Расіі немагчыма, страціўшы статус парламенцкай партыі, вярнуцца ў Дзяржаўную Думу ў нязменным фармаце праз адзін або некалькі электаральных цыклаў (прынамсі, гэтага яшчэ не здарылася).

Новым суб'ектам расійскага парламентарызму зрабілася партыя «Справедливая Россия». Гэтая палітычная сіла ўтварылася шляхам аб'яднання партыі «Родина», Расійскай партыі жыцця і Расійскай партыі пенсіянераў, якое адбылося 29 жніўня 2006 г. (Справедливая Россия, b). Новую партыю ўзначаліў спікер Савету Федэрацыі Сяргей Міронаў.

Палітычны праект «Справедливая Россия» даваў падставы для разгляду яго як другой структурнай адзінкі ў працэсе стварэння двухпартыйнай сістэмы. І хаця «Справедливая Россия» не зрабілася «другою нагою» Крамля, бо на выбарах 2007 г. ледзь пераадолела 7-адсоткавы бар'ер (Выборы депутатов...), тым не менш стварэнне гэтага праекту ажыццяўлялася са згоды і пад патранажам крамлёўскай адміністрацыі. Напярэдадні аб'яднання РПЖ, «Родины» і РПП іх кіраўнікі правялі шэраг сустрэчаў з намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта і крамлёўскім куратарам «Единой России» Уладзіславам Сурковым, а таксама з прэзідэнтам У. Пуціным (Справедливая Россия, a). Партыю «Справедливая Россия» можна разглядаць як альтэрнатыўны асяродак эліты, арыентаванай на прэзідэнта Пуціна. Мэтаю гэтага праекту было аб'яднаць усе левыя сілы, акрамя КПРФ, і такім чынам засцерагчы кіроўны рэжым ад патэнцыйнага росту левай апазіцыі. «Справедливая Россия» акрэслівае сябе як палітычную сілу, апазіцыйную манапольнаму становішчу «Единой России», але падтрымлівае цяперашняга прэм'ера Пуціна і ягоны «тандэм» з прэзідэнтам Мядзведзевым (Политическое соглашение...).

Прычынаю малапаспяховага выступлення на выбарах у пятую Думу, на якіх «Справедливая Россия» набрала 7,74 % галасоў (Выборы депутатов...), была неабходнасць ажыццяўлення ў Расіі плану «пераемнік-2008», дзеля якога Крамлю трэба было забяспечыць «Единой России» канстытуцыйную большасць у Дзяржаўнай Думе, таму ўсе рэсурсы былі накіраваныя на падтрымку партыі ўлады (Камышев, 2007).

Другое месца па выніках парламенцкіх выбараў 2007 г. заняла Камуністычная партыя Расійскай Федэрацыі з 11,57 % галасоў (Выборы депутатов...). КПРФ – адна з найстарэйшых партыяў у сучаснай Расіі. Яна абіралася ўва ўсе пяць складаў Дзяржаўнай Думы. КПРФ на цяперашні момант ёсць апошняю рэальнаю апазіцыйнаю партыяй сістэмнай апазіцыі, хаця і не ўяўляе сабой сур'ёзнай пагрозы манаполіі «Единой России» ў парламенце.

Ліберальна-дэмакратычная партыя Расіі, ролю якой у палітычнай сістэме мы мімаходзь закранaлі ў папярэднім раздзеле пры аналізе паспяховасці электаральнай формулы для крамлёўскіх праектаў, ёсць нязменным актарам расійскага парламентарызму і самаю старою партыяй у сучаснай Расіі (яна вядзе сваю гісторыю з 1989 г.). Па сваёй сутнасці ЛДПР – гэта папулісцкая імперска-нацыяналістычная партыя, нязменным іміджам якой ёсць экстравагантныя выхадкі яе лідара, У. Жырыноўскага. ЛДПР выконвае спецыфічную функцыю збіральніцы маргінальнага электарату і яго канвертацыі на выхадзе ў падтрымку Крамля.

Выбары 2007 г. у Дзяржаўную Думу пятага склікання замацавалі за чатырма расійскімі партыямі статус парламенцкіх. Сярод іх, як мы згадалі вышэй, апазіцыйнаю ёсць фактычна толькі КПРФ. А гэта азначае,

што расійская партыйная сістэма ёсць неспаборніцкаю.

З моманту выбараў 2007 г. на сёняшні дзень засталіся толькі сем палітычных партыяў: «Единая Россия», КПРФ, ЛДПР, «Патриоты России», «Яблоко», «Справедливая Россия» і «Правое дело» (Список, а). Вельмі інтэнсіўнае скарачэнне шматпартыйнасці назіралася ў перыяд 2008–2009 гг.

Адным з прыкладаў утварэння новай партыі ёсць ліберальны праект «Правое дело», які паўстаў у лістападзе 2008 г. на аснове трох палітычных партыяў: СПС, «Гражданской силы» і Дэмакратычнай партыі Расіі. Гэты праект ажыццяўляўся пад дырыжыраваннем Крамля, што прывяло да адасаблення ад новага праекту істотнай часткі СПС (Рыжков), якая папоўніла шэрагі так званай антысістэмнай апазіцыі.

Сучасныя контуры расійскай партыйнай сістэмы, якія сфармаваліся пасля перыяду трансфармацыі выбарчай сістэмы (2005–2007), а таксама пасля выбараў 2007 г., абмяжоўваюцца чатырма парламенцкімі партыямі, сярод якіх канстытуцыйную большасць у Дзяржаўнай Думе мае партыя ўлады «Единая Россия». Логіка развіцця расійскай шматпартыйнасці, якая заключаецца ў штучным змяншэнні колькасці гульцоў, дазваляе меркаваць, што да наступных выбараў у Дзяржаўную Думу ў 2011 г. не з'явіцца ніводнай новай палітычнай партыі.

Па выніках свайго дзесяцігадовага развіцця палітычны праект «Единая Россия» аказаўся вельмі паспяховым з пункту гледжання той задачы, якая перад ім ставілася, а менавіта кантроль над заканадаўчай уладай і, як вынік, забеспячэнне лаяльнасці Дзяржаўнай Думы. «Единая Россия» мае канстытуцыйную большасць у парламенце, старшынём партыі ёсць цяперашні прэм'ер-міністр Уладзімір Пуцін. Такі сцэнар быў проста неабходны для ажыццяўлення плану «пераемнік-2008», калі на пасаду прэзідэнта Расіі ў сакавіку 2008 г. быў абраны даўні сябар Пуціна, былы віцэ-прэм'ер Дзмітрый Мядзведзеў.

У развіцці сцэнару перадачы прэзідэнцтва пераемніку Пуціна вылучаецца наступная паслядоўнасць:

1) Пуцін узначальвае спіс «Единой России» на парламенцкіх выбарах 2007 г. і тым самым забяспечвае партыю ўлады дадатковым палітычным капіталам. «Единая Россия» прапаноўвае яму пасля сканчэння паўнамоцтваў заняць пасаду старшыні ўраду. Зразумела, што старшыню ўраду прызначае прэзідэнт са згоды Дзяржаўнай Думы;

2) «Единая Россия» перамагае на парламенцкіх выбарах, але не проста перамагае, а атрымоўвае канстытуцыйную большасць. Дарэчы, сам Пуцін казаў пра гэтую ўмову для рэалізацыі ягонага плану (Единая Россия, 2007);

3) «Единая Россия» просіць Пуціна зрабіцца афіцыйным лідарам партыі ды атрымоўвае ягоную згоду;

4) Мядзведзеў, пасля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах, высоўвае кандыдатуру Пуціна на пасаду старшыні ўраду для зацвярджэння Думаю. Нават калі б тры апазіцыйныя пар-

тыі пры зацвярджэнні кандыдатуры Пуціна галасавалі супраць, партыя ўлады ўсё роўна, маючы канстытуцыйную большасць, зацвердзіла б яго ў якасці новага прэм'ера. Але як мы высветлілі папярэдне, расійскі парламент пятага склікання не апазіцыйны, і тры з чатырох партыяў у Думе ёсць прапуцінскімі («Единая Россия», ЛДПР і «Справедливая Россия»).

Відавочна, што «Единая Россия» стала цэнтральным звяном у плане «пераемнік-2008», і гэта гарантавала пасяховасць рэалізацыі пуцінскай ракіроўкі. Увогуле асоба Пуціна грае выключную ролю ў пасяховасці партыі ўлады. Як надзвычай папулярны палітык, ён нібы перадае істотную частку сваёй папулярнасці «Единой России», што пазіцыянуе сябе як партыя Пуціна. Некаторыя аўтары нават называюць папулярнасць прэм'ерміністра адною з «сістэмаўтваральных» крыніцаў абсалютнага дамінавання партыі ўлады (Муштук, 2010: 48).

У асяроддзі «единороссов», а таксама ў экспертным коле «Единую Россию» часта называюць дамінантнаю партыяй і параўноўваць яе з Ліберальна-дэмакратычнаю партыяй Японіі (LDP). І насамрэч, паводле класіфікацыі Сартора, Японія мае партыйную сістэму з дамінантнаю партыяй. Аднак наколькі правамоцным будзе такое параўнанне? Мы ўстанавілі, і гэта відаць з разгляду станаўлення «Единой России», што яна не кіроўная партыя, а партыя ўлады. У Японіі LDP менавіта кіроўная партыя, і ўрад фармуецца па выніках выбараў. У гісторыі Расіі яшчэ ніколі ўрад не змяняўся па выніках парламенцкіх выбараў. Наступнае адрозненне заключаецца ў тым, што LDP, будучы дамінантнаю партыяй, існуе ў межах спаборніцкай партыйнай сістэмы і сваё дамінаванне заваявала ў канкурэнтнай барацьбе. Але па выніках парламенцкіх выбараў 2009 г. у Японіі перамагла і сфармавала ўрад апазіцыйная Дэмакратычная партыя. Таму свабодныя выбары ёсць абавязковаю характарыстыкаю партыйных сістэмаў з дамінантнаю партыяй. Да таго ж LDP, у адрозненне ад «Единой России», мае ідэалагічную платформу, што немагчыма сказаць пра партыю ўлады ў РФ.

Атрымоўваецца, што «Единая Россия» не адпавядае крытэрыям дамінантнай партыі, а расійская партыйная сістэма не ёсць спаборніцкаю.

«Единая Россия» – гэта карпаратыўная структура, бо адным з аспектаў яе фармавання быў працэс замыкання буйнога бізнесу на асобу Пуціна яшчэ ў перыяд першага тэрміну ягоных прэзідэнцкіх паўнамоцтваў, што па сутнасці азначала зрошчванне дзяржавы, бізнесу і бюракратыі ў адну карпаратыўную структуру. У межах такога нефармальнага інстытуту «Единая Россия» зрабілася адным з каналаў функцыянавання гэтай квазікарпаратыўнай сістэмы. Усталяваліся вельмі шчыльныя сувязі паміж кіраўніцтвам партыі ўлады ды Расійскім саюзам прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў (Перегудов, 2009а: 27). Таксама было заключанае стратэгічнае партнёрства з асноўным прафса-

юзным аб'яднаннем – Федэрацыяй незалежных прафсаюзаў Расіі (Соглашение…). Акрамя гэтага ў 2008 г. пры прэзідыуме «Единой России» сфармавалася Камісія ў пытаннях прамысловасці і прадпрымальніцтва, якую ўзначаліў прэзідэнт Расійскага саюзу прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Аляксандр Шохін, што адначасова ўваходзіць у прэзідыум «Единой России» (Ведомости 2008). Пацвярджэннем значнасці гэтага інстытуту ёсць той факт, што доля дзяржаўных службоўцаў, якія маюць досвед працы ў бізнесе, у 2008 г. склала амаль 40 %, у той час як у 2002 г. доля такіх службоўцаў складала толькі 11,3 % (Перегудов, 2009б: 146).

У дзеяннях кіроўнага рэжыму выразна бачнае жаданне максімальна абмежаваць магчымасці агрэгацыі грамадскіх інтарэсаў па-за межамі партыі ўлады. Гэтым тлумачыцца жорсткая рэакцыя ўладаў на публічныя акцыі так званай антысістэмнай апазіцыі, куды ўваходзяць такія арганізацыі, як «Солидарность», Расійскі народна-дэмакратычны саюз, Нацыянал-бальшавіцкая партыя ды іншыя. Мэтай антысістэмнай апазіцыі ёсць змена рэжыму ў Расіі ды вяртанне на шлях дэмакратычнага развіцця. Аднак нягледзячы на манаполію «Единой России» ў агрэгацыі грамадскіх інтарэсаў, пэўныя альтэрнатыўныя магчымасці ўсё ж захоўваюцца, хаця і вельмі абмежаваныя. Яны пераважна датычаць астатніх парламенцкіх партыяў: КПРФ, ЛДПР і «Справедливой России». Той факт, што партыя ўлады крайне не зацікаўленая ў палітычнай канкурэнцыі як на федэральным, рэгіянальным, так і на мясцовым узроўнях, штурхае яе да каласальнага злоўжывання адміністрацыйным рэсурсам і прыводзіць да масавых фальсіфікацыяў выбараў. З гэтаю тэмаю звязаны буйны скандал у Дзяржаўнай Думе, што апошнім часам даволі рэдкая з'ява. Скандал выкліканы масавымі фальсіфікацыямі мясцовых выбараў, якія прайшлі 11 кастрычніка 2009 г. Пасля таго як намеснік спікера ад «Единой России» Алег Марозаў не даў дэпутатам магчымасці абмеркаваць на паседжанні выпадкі фальсіфікацыяў, тры партыі – «Справедливая Россия», КПРФ і ЛДПР – пакінулі залу паседжанняў і запатрабавалі сустрэчы з прэзідэнтам Дзмітрыем Мядзведзевым (Демарш…). Сустрэча адбылася, але канфлікт быў хутка залагоджаны.

Прыведзеная характарыстыка партыі ўлады як карпаратыўнай структуры, што манапалізавала функцыю агрэгацыі інтарэсаў, структуры, праз якую выканаўчая ўлада падпарадкавала сваім інтарэсам Дзяржаўную Думу, вызначае яе не як дамінантную кіроўную партыю, а як тыповую інклюзіўную партыю.

## Заключэнне

Існаванне шматпартыйнасці ў Расійскай Федэрацыі ў 1990-х гг. не азначала наяўнасці партыйнай сістэмы. Расійская шматпартыйнасць перыяду 1990-х гг. уяўляла з сябе атамістычны кангламерат неінстытуцыялізаваных палітычных арганізацыяў. Аднак сярод гэтай атамістычнай су-

купнасці вылучаецца шэраг партыяў, якія фармуюць стрыжань прататыпу партыйнай сістэмы падчас дзейнасці Дзяржаўнай Думы другога склікання (1995–1999).

Фармаванне ў Расіі партыйнай сістэмы звязанае з дзвюма асноўнымі падзеямі. Па-першае, гэта выбары ў Дзяржаўную Думу трэцяга склікання ў 1999 г., па-другое, гэта партыйнае заканадаўства 2001 г. Выбары 1999 г. замацавалі контуры расійскай партыйнай сістэмы і асноўных актараў у ёй, да якіх належалі КПРФ, ЛДПР, «Яблоко», а таксама новая партыя ўлады «Единство» і альтэрнатыўная парыя ўлады ОВР. Акрамя іх у Думу трэцяга склікання свой спіс правёў выбарчы блок СПС. Расійская партыйная сістэма набыла рысы палярызаванага плюралізму.

Сам працэс інстытуцыялізацыі палітычных партыяў у Расіі быў запаволены з той прычыны, што палітычныя партыі не фармуюць ураду і не маюць непасрэднай магчымасці ўплываць на ўрадавы курс. Гэтая асаблівасць перадвызначыла далейшае развіццё партыйнай сістэмы і яе месца ў палітычнай сістэме Расіі.

Нягледзячы на тое, што расійская партыйная сістэма пасля выбараў 1999 г. набыла рысы палярызаванага плюралізму, з 2001 г. пасля аб'яднання «Единства» і «Отечества» ў партыю «Единая Россия» апошняя паступова заняла манапольнае становішча ў Дзяржаўнай Думе.

Манапалізацыя заканадаўчай улады партыяй «Единая Россия» была звязаная з трансфармацыяй выбарчай сістэмы. Пераход да прапарцыйнай выбарчай сістэмы тлумачыўся неабходнасцю стварэння буйных і адказных партыяў, а таксама скарачэннем шматпартыйнасці, хаця прапарцыйная электаральная формула, згодна з сацыялагічнымі законамі М. Дзювэржэ, не спрыяе гэтай мэце, а наадварот, у пэўнай ступені супярэчыць ёй. Аднак скарачэнне шматпартыйнасці было дасягнутае праз увядзенне высокага 7-адсоткавага электаральнага бар'еру, забарону выбарчых блокаў, ускладненне рэгістрацыйных патрабаванняў для партыяў ды іншыя захады, якія ўтвараюць своеасаблівы інстытуцыйны бар'ер на шляху пранікнення ў парламент невялікіх партыяў і з'яўлення новых палітычных сілаў.

Вынікі выбараў у Дзяржаўную Думу паводле змяшанай выбарчай сістэмы паказваюць, што менавіта прапарцыйная электаральная формула была больш прадуктыўнай для партыяў улады, якія не маглі дамагчыся значных поспехаў у мажарытарнай частцы выбарчай сістэмы. Таму рэформа выбарчай сістэмы 2005 г. была праведзеная ў інтарэсах партыі ўлады і вынікала з жадання Крамля знізіць выдаткі на забеспячэнне манапольных пазіцыяў «Единой России» ў Дзяржаўнай Думе шляхам змены інстытутаў, бо дапасаванне да старых правілаў патрабавала большых высілкаў.

Абумоўленасць манаполіі «Единой России» як партыі ўлады была звязаная з такімі нефармальнымі інстытутамі, як элітны кансенсус, кансалідацыя элітаў вакол асобы прэзідэнта У. Пуціна і замыканне на яго

кола «палітычная эліта – бюракратыя – бізнес-манаполіі».

«Единая Россия», якая мае канстытуцыйную большасць у Дзяржаўнай Думе і пераважае на рэгіянальным і мясцовым узроўнях, ёсць асноўным суб'ектам агрэгацыі грамадскіх інтарэсаў у палітычнай сістэме. Тым не менш, захоўваюцца пэўныя абмежаваныя альтэрнатыўныя магчымасці для дзейнасці іншых партыйных актараў, найперш тых, хто прызнае «правілы гульні», якія склаліся за часоў прэзідэнцтва Пуціна. У іх ліку ЛДПР і «Справедливая Россия» (прапуцінскія палітычныя сілы). У той жа час улады прыкладаюць усе намаганні для супрацьдзеяння так званай антысістэмнай апазіцыі.

Зыходзячы з гэтага, можна канстатаваць, што партыя ўлады «Единая Россия» ёсць інклюзіўнаю партыяй, а партыйная сістэма Расіі – інклюзіўнаю (аўтарытарнаю) партыйнаю сістэмаю. Пры гэтым трансфармацыя выбарчай сістэмы была адным з найважнейшых шляхоў да замацавання манапольных пазіцыяў партыі ўлады.

**Літаратура**


1. Almond, G., Powell, B., Strom, K., Dalton, R. (2008). «Interest aggregation and Political Parties», in G. Almond, B. Powell (eds.), *Comparative Politics Today: a World View*. 9-th edition. N.Y.: Pearson Longman.
2. Freedom House (2009). *Freedom in the World – Russia*.
3. Remington, T.F. (2008). «Politics in Russia», in G. Almond and B. Powell (eds.), *Comparative Politics Today*. N.Y.: Pearson Longman.
4. Sartori, G. (2005). *Parties and party systems: a framework for analysis*. Essex, ECPR Press.
5. Taagepera, R., Shugart, M. (1989). *Seats and Votes: The Effects and Determinants of Electoral Systems*. New Haven & London.
6. Ближе к Путину. Президиум «"Единой России" заводит лоббистский орган — комиссию по вопросам промышленности и предпринимательства» (2008), *Ведомости*, URL (доступ 13.06.2010) http://www.vedomosti.ru/newspaper/article/2008/12/12/173488
7. Блок «Единство» из досье НГС (1999), *Независимая газета*, URL (доступ 12.05.2010) http://scenario.ng.ru/elections/1999-12-08/5_dossier.html
8. Вешняков, А.А. (2005). «Интернет-пресс-конференция Председателя ЦИК России А.А. Вешнякова на тему: "Правда и мифы об изменениях избирательного законодательства в Российской Федерации"» 21.07.2005 г., URL (доступ 16.08.2010) http://zoom.cikrf.ru/zoom/EdFields.asp?nqr=1&ndoc=0&npg=-1
9. *Выборы в Государственную Думу Федерального Собрания Российской Федерации четвертого созыва*, URL (доступ 19.05.2010) http://gd2003.cikrf.ru/
10. *Выборы депутатов Государственной Думы Федерального Собрания Российской Федерации пятого созыва*, URL (доступ 03.07.2010) http://www.vybory.izbirkom.ru/region/izbirkom?action=show&global=1&vrn=100100021960181&region=0&prver=0&pronetvd=null
11. Голосов, Г. (2008). «Политические институты и мотивация законодательной деятельности в российском парламенте», в Мельвиль, А.Ю., Соловьев, А.И. (отв. ред. и авт. вст. ст.), *Российская политическая наука: в 5 т. Т. 5: 1995 – 2006 гг.* Москва: РОССПЭН: 197–206.
12. «Грызлов: пропорциональная система выборов создаст партийную систему», URL

(доступ 16.02.2010) http://www.polit.ru/news/2004/09/17/stmv.html
13. *Демарш оппозиционных партий в Государственной Думе*, URL (доступ 09.06.2010) http://www.camarade.biz/page/1/bo/21030/article.html
14. Дюверже, М. (2005). *Политические партии*. Пер. с франц. Изд. 3-е. Москва: Академический проект; Королев, Парадигма.
15. Единая Россия (2007). «Владимир Путин возглавит предвыборный список "Единой России"», URL (доступ 12.11.2010) http://old.edinros.ru/news.html?id=124221
16. *История партии «Единая Россия»*, URL (доступ 28.05.2010) http://www.edinros.ru/rubr.shtml?110112
17. Камышев, Д. (2007). «Год удвоения президента», *Коммерсант Власть*. 24.12.2007, № 50 (754).
18. *Конституция Российской Федерации от 25.12.1993 с изменениями 09.01.1996, 10.02.1996, 09.06.2001*, URL (доступ 19.05.2010) http://www.constitution.ru/
19. Мелешкина, Е.Ю. (2000). «Выборы 1999–2000 гг. сквозь призму предыдущего электорального цикла», в *Первый электоральный цикл в России (1993-1996 гг.)*. Москва: Издательство «Весь мир»: 5–11.
20. Муштук, О. (2010). Генезис российской многопартийности, *Обозреватель – Observer*, № 2: 42–51.
21. Перегудов, С.П. (2009а). «Политическая система России после выборов 2007–2008 гг.: факторы стабилизации и дестабилизации (часть I)», *Полис: Политические исследования*, № 2: 23–38.
22. Перегудов, С.П. (2009б). «Политическая система России после выборов 2007–2008 гг.: факторы стабилизации и дестабилизации (часть II)», *Полис: Политические исследования*, № 3: 145–161.
23. *Политическое соглашение между всероссийской политической партией «Единая Россия» и политической партией «Справедливая Россия»*, URL (доступ 11.06.2010) http://duma.spravedlivo.ru/news/?Id=1197
24. *Результаты выборов в Думу II созыва* (1995). 17 декабря 1995 г., URL (доступ 19.05.2010) http://www.politika.su/fs/gd2rezv.html
25. *Результаты выборов в Думу III созыва* (1999). 19 декабря 1999 г., URL (доступ 22.05.2010) http://www.politika.su/fs/gd3rezv.html
26. *Результаты выборов в Думу IV созыва* (2003). 7 декабря 2003 г., URL (доступ 29.05.2010) http://www.politika.su/fs/gd4rezv.html
27. «Рыжков: СПС станет "кремлевским проектом"». URL (доступ 03.06.2010) http://rian.ru/politics/20080926/151636862.html
28. Скосаренко, Е.Е. (2007). *Избирательная система России: мифы и политическая реальность*. Москва: «Формула права».
29. *Соглашение между ФНПР и фракцией «Единая Россия» в Госдуме*, URL (доступ 10.06.2010) http://www.fnpr.org.ru/5/69/648.html
30. *Список (а) зарегистрированных политических партий*, URL (доступ 03.06.2010) http://www.minjust.ru/ru/activity/nko/partii/
31. *Список (b) политических партий, имеющих право участвовать в выборах*. Выборы депутатов Государственной Думы Федерального Собрания Российской Федерации пятого созыва, URL (доступ 29.05.2010) http://www.vybory.izbirkom.ru/region/region/izbirkom?action=show&root=1&tvd=100100021960186&vrn=100100021960181&region=0&global=1&sub_region=0&prver=0&pronetvd=null&vibid=100100021960181&type=240
32. *Список (с) политических партий, общественных объединений, обладающих правом принимать участие в избирательной кампании*. Выборы депутатов Государственной Думы Федерального Собрания Российской Федерации четвертого созыва, URL

(доступ 29.05.2010) http://www.vybory.izbirkom.ru/region/region/izbirkom?action=show&root=1&tvd=100100095621&vrn=100100095619&region=0&global=1&sub_region=0&prver=0&pronetvd=0&vibid=100100095619&type=240

33. *Список (d) политических партий, принимающих участие в выборах*. Выборы депутатов Государственной Думы Федерального Собрания Российской Федерации пятого созыва, URL (доступ 13.06.2010) http://www.vybory.izbirkom.ru/region/region/izbirkom?action=show&root=1&tvd=100100021960186&vrn=100100021960181&region=0&global=1&sub_region=0&prver=0&pronetvd=null&vibid=100100021960181&type=236
34. *Справедливая Россия* (a). Пятая Дума, URL (доступ 11.06.2010) http://duma.lenta.ru/parties/spavros/index.html
35. *Справедливая Россия* (b): хроника исторического развития, URL (доступ 15.06.2010) http://www.spravedlivo.ru/information/hronic/
36. Устюгов, М. (2008). «Пути трансформации политического статуса региональных законодательных собраний», *Обозреватель – Observer*. №6: 20–28.
37. *Федеральный закон (1995) от 19 мая 1995 г. N82-ФЗ «Об общественных объединениях»* (с изменениями от 17 мая 1997 г., 19 июля 1998 г.), URL (доступ 02.02.2010) http://www.democracy.ru/library/laws/federal/82_fz/
38. Федеральный закон (1999) от 6 октября 1999 г. № 184-ФЗ «Об общих принципах организации законодательных (представительных) и исполнительных органов государственной власти субъектов Российской Федерации». *Российская газета*. 19.10.1999.
39. *Федеральный закон (2001) о политических партиях № 95-ФЗ*, URL (доступ 10.02.2010) http://isbircom.ru/zakon/federalnyi-zakon-o-politicheskikh-partiyakh
40. Федеральный закон (2006) от 12 июля 2006 г. № 107-ФЗ «О внесении изменений в отдельные законодательные акты Российской Федерации в части отмены формы голосования против всех кандидатов (против всех списков кандидатов)». *Парламентская газета*. 20.07.2006, № 118.
41. *Федеральный закон (2007) о выборах депутатов Государственной Думы Федерального собрания Российской Федерации: официальный текст, действующая редакция*. Москва: Издательство «Экзамен».
42. «Что думают политики и эксперты о переходе на пропорциональную избирательную систему», URL (доступ 13.02.2010) http://www.expert.ru/printissues/expert/2004/35/35extema33a/
43. Чувилина, Н. (2009). «Региональные электоральные процессы в постсоветский период», *Власть*. № 9: 56–59.
44. Шевцова, Л. (2000). «Российский парламентаризм: обрамление президентского самодержавия или самостоятельный институт?», в Лысенко, В.Н. (ред.), *Парламентаризм и многопартийность в современной России. К десятилетию двух исторических дат*. Москва: ИСП: 78–85.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Міхаіл Нядзвецкі

# Узровень вэб-актыўнасці кандыдатаў на мясцовых выбарах 2010 года (Мінск)[1]

## Уводзіны

Гэтае даследаванне ёсць працягам папярэдняга вывучэння палітычнай вэб-актыўнасці ў Беларусі: падчас мясцовых выбараў 2007 г. (Крывалап, 2007: 56–63) і парламенцкіх 2008 г. (Храпавіцкі, 2008: 110–120). Вэб-актыўнасць падчас прэзідэнцкай кампаніі 2006 г. глыбока не вывучалася, а толькі згадвалася ў пералічаных вышэй, а таксама ў некаторых іншых працах (Мельянцоў, 2006: 32–41). Нізкую ступень даследаванасці вэб-актыўнасці выбарчых кампаніяў рознага ўзроўню можна патлумачыць дзвюма прычынамі. Па-першае, інтэнсіўны рост карыстальнікаў інтэрнэту ў Беларусі назіраецца толькі з 2009 г.: калі ў 2003 г. агульная колькасць беларускіх карыстальнікаў сусветнага павуціння складала 1.391.900 чалавек, у 2007 г. – 2.795.100 чалавек, то ў 2008 і 2009 гг. – 3.100.700 і 4.436.800 чалавек адпаведна (СтатКамитет, 2010b).

Паводле звестак Міжнароднага саюзу электрасувязі (International telecommunication union), у Беларусі налічвалася 6 млн інтэрнэт-карыстальнікаў з 9.690.000 чалавек насельніцтва краіны на той момант, то бок 61,92 % (Novostey.com, 2008). Пазней аказалася, што такія завышаныя лічбы былі выкліканыя выкарыстаннем некарэктнай інфармацыі Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь. Пасля выпраўлення недарэчнасці Саюз удакладніў ў статыстычныя звесткі, згодна з якімі ў 2007 г. у Беларусі было 2.809.800 інтэрнэт-карыстальнікаў ці 29% ад агульнай колькасці жыхароў краіны. Рэсурс CIA (The World Factbook, 2008) ацэньваў колькасць беларускіх інтэрнэт-карыстальнікаў як 3.100.700 чалавек (57-ае месца ў свеце). На пачатку 2009 г. беларускую аўдыторыю ацэньвалі, паводле інфармацыі «Акавіты», у раёне 3 млн чалавек, у сакавіку 2009 г. – 3,2 млн. Адно з грамадскіх апытанняў (НИСЭПИ, 2009), праведзенае нап-

[1] Даследаванне праводзілася ў межах праекту падтрымкі навукова-даследчай дзейнасці студэнтаў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэту (Вільня, Літва) у перыяд з 1 ліпеня да 15 лістапада 2010 г.

рыканцы 2009 г., паказала, што інтэрнэтам карыстаецца 41,4% беларусаў.

Другою прычынай ёсць павольнае развіццё самога сеціва, выкліканае дзеяннем манаполіі з боку РУП «Белтэлекам» на рынку аказання паслугаў – праз кантроль усяго трафіку і яго размеркавання іншымі правайдэрамі, а таксама праз палітыку цэнаў. На практыцы гэта значыла, што пры малых хуткасцях кошты на інтэрнэт былі вялікімі. Палітыка цэнаў, а таксама аб'ём вонкавага каналу пачынаюць змяняцца ў 2009 г.: напрыклад, калі ў 2005 г. шырыня айчыннага інтэрнэт-шлюзу складала 465 Мбіт/с, у 2006-м – 1,8 Гбіт/с, у 2007-м – 3,1 Гбіт/с, у 2008-м – 5,2 Гбіт/с, то ўжо ў 2009 г. вонкавы канал складаў 22 Гбіт/с, а ў другой палове 2010 г. – 47 Гбіт/с (It.tut.by, 2010).

## I. Кароткая характарыстыка кампаніі мясцовых выбараў 2010 года

Выбары ў Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў прайшлі 25 красавіка 2010 г. Датэрміновае галасаванне праходзіла ў перыяд 20–24 красавіка. Тэрыторыя дзевяці адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак сталіцы (раёнаў) была падзеленая на 57 выбарчых акругаў: Заводскі раён на сем акругаў; Ленінскі – сем; Кастрычніцкі – шэсць; Маскоўскі – восем; Партызанскі – тры; Першамайскі – сем; Савецкі – пяць; Фрунзенскі – дзесяць; Цэнтральны – чатыры.

Паводле стану на 1 красавіка 2010 г. у якасці кандыдатаў у дэпутаты зарэгістравалі 221 асобу (Минский курьер, 2010). Такім чынам, конкурс склаў 3,88 чалавекі на адно дэпутацкае месца. Мінімальная колькасць кандыдатаў на акрузе складала два чалавекі, максімальная – сем (Сухараўская выбарчая акруга № 30). Сярэдняя колькасць кандыдатаў па акрузе ў Заводскім раёне склала 3,43 чалавекі; у Ленінскім – 4; Кастрычніцкім – 4,5; Маскоўскім – 2,63; Партызанскім – 5; Першамайскім – 3,86; Савецкім – 4; Фрунзенскім – 4,2; Цэнтральным – 4,75.

Пры аналізе колькасных паказнікаў выявілася адна тэндэнцыя: у акругах з двума кандыдатамі (такіх было шэсць: па адной у Ленінскім і Фрунзенскім раёнах і ажно чатыры ў Маскоўскім) у трох выпадках (выбарчыя акругі №13, 23 і 37) «барацьба» адбывалася паміж беспартыйнымі прадстаўнікамі дырэктарату дзяржаўных установаў з сябрамі Ліберальна-дэмакратычнай партыі; на выбарчай акрузе № 24 канкуравалі галоўны эканаміст аднаго з аддзелаў «Белаграпрамбанку» і першы сакратар БРСМ Маскоўскага раёну (абодва беспартыйныя); на акрузе № 27 – зноў беспартыйныя (галоўны лекар і працаўнік прыватнага прадпрыемства ва ўзросце дваццаці аднаго года). Толькі ў адным выпадку – на акрузе № 26 – канкурэнцыю дырэктару гандлёвага цэнтру склаў прадстаўнік апазіцыйнай Беларускай партыі левых «Справядлівы свет».

На думку аўтара, практыка выстаўлення спарынг-кандыдатаў з ліку

прапрэзідэнцкай Ліберальна-дэмакратычнай партыі ці асобаў з незразумелай арганізацыйнай прывязанасцю ажыццяўлялася для імітацыі электаральнай барацьбы. Па-першае, у выбарцаў з'яўлялася пэўная «альтэрнатыва» кандыдату ад улады; па-другое, вынікі выбараў у такіх акругах цалкам легалізоўваліся (адсутнасць апазіцыйных кандыдатаў сама па сабе ліквідавала магчымасць любой крытыкі, бо тыя, хто зазнаў паразу, у сваю чаргу не аспрэчвалі вынікаў).

У цэлым выбары прайшлі з мноствам парушэнняў, таму АБСЕ і беларускія незалежныя назіральнікі не прызналі іх свабоднымі і дэмакратычнымі.

## II. Метадалогія даследавання

Мэтаю даследавання ёсць выяўленне ўзроўню вэб-актыўнасці падчас мясцовых выбараў 2010 г. у Мінску. Асноўнаю задачаю даследавання ёсць атрыманне звестак пра вэб-актыўнасць кандыдатаў у дэпутаты і правядзенне яе колькаснага аналізу. У будучыні даследаванне можа супастаўляцца з іншымі даследаваннямі вэб-актыўнасці ў Беларусі дзеля агульнай ацэнкі лангіцюдных змяненняў шэрагу палітычных кампаніяў і дзеля фіксацыі эвалюцыі або стагнацыі вэб-актыўнасці ў Беларусі.

Даследаванне імкнецца разгледзець асаблівы аспект праблемы: у якой ступені інтэрнэт у Беларусі ёсць прыкладным інструментам у палітычных кампаніях. Для аналізу вэб-актыўнасці падчас мясцовых выбараў 2010 г. мы будзем разглядаць дзве асноўныя функцыі: 1) інфармацыйную падтрымку кандыдатаў у дэпутаты ды 2) рэкрутаванне валанцёраў і мабілізацыю чалавечых рэсурсаў для правядзення ўласнай кампаніі. Метадалогія праекту заснаваная на статыстычным аналізе ўсіх зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты па Мінску паводле стану на 1 красавіка 2010 г.[2]

У якасці адзінкі даследавання выступае наяўнасць вэб-старонак у сацыяльных сетках *odnoklassniki.ru, vkontakte.ru, facebook.com;* блогаў на рэсурсах *livejournal.com, twitter.com* ды іншых падобных сістэмах; а таксама наяўнасць персанальных сайтаў. Пошук сайтаў і блогаў (уключаючы мікраблогавую сістэму *twitter.com*) ажыццяўляўся праз сайт *google.com*; акаўнтаў у сацыяльных сетках і для сайту *livejournal.com* – праз уласныя пошукавыя сістэмы гэтых рэсурсаў. Для персанальных сайтаў, блогаў, старонак у «LiveJournal» і «Twitter», старонак кандыдатаў ды інфармацыйных суполак у сацыяльных сетках праводзіўся кантэнт-аналіз. Для кадавання інфармацыі збіраліся наступныя звесткі: прозвішча ды імя; узрост (паводле стану на 25 красавіка 2010 г.); акруга, дзе балатаваўся кандыдат; партыйная прыналежнасць і

[2] Кандыдаты, якія здымаліся з выбарчай дыстанцыі з любых прычынаў пазней за 1 красавіка 2010 г., усё роўна ўлічваліся пры правядзенні даследавання.

сяброўства ў грамадскіх арганізацыях.

Даследуючы вэб-актыўнасць кампаніі лакальнага ўзроўню, аўтар робіць некалькі дапушчэнняў: па-першае, сабраныя звесткі не даюць абсалютна справядлівага адлюстравання ўзроўню вэб-актыўнасці. У прыватнасці, у сацыяльных сетках існуе практыка закрытых профіляў, што не дае магчымасці сабраць патрэбную інфармацыю. Па-другое, без дадатковых метадаў (анкетавання, інтэрв'ю ды інш.) у сацыяльных сетках можна прааналізаваць толькі адкрытую інфармацыю («open information») – статусы, запісы на сцяне, спасылкі на іншыя вэб-крыніцы, фотаздымкі і відэазапісы, інфармацыю ў тэматычных суполках. Камунікацыя кандыдата з патэнцыйнымі выбарцамі (вядома, пры яе наяўнасці) праз паведамленні, чаты, рассылку электроннай пошты ёсць закрытай інфармацыяй («closed information»). Што датычыць гэтага даследавання, то пры яго правядзенні да дадатковых метадаў не звярталіся, а інфармацыя бралася толькі з адкрытага доступу.[3] Пры аналізе сацыяльных сетак і сістэмы «Twitter» у бальшыні выпадкаў немагчыма было высветліць дакладную дату рэгістрацыі акаўнтаў, таму не выключаецца магчымасць таго, што некаторыя акаўнты ўвогуле былі зарэгістраваныя пасля правядзення выбараў.

## III. Вынікі даследавання

***Odnoklasniki.ru.*** Сайт *odnoklassniki.ru* з'явіўся 4 сакавіка 2006 г. і на сённяшні дзень ёсць адным з самых папулярных рэсурсаў расійскамоўнага інтэрнэту. Беларуская аўдыторыя гэтай сацыяльнай сеткі на пачатку 2009 г. складала больш за 800.000 чалавек (Marketing.by, 2010). Згодна з версіяй *alexa.com*, рэсурс *odnoklassniki.ru* займае паводле папулярнасці 12-е месца ў Беларусі (Alexa.com, 2010).

Пошук кандыдатаў праводзіўся праз увядзенне прозвішча ды імя кандыдата (на расійскай мове)[4] і ўзросту (паводле стану на 25 красавіка 2010 г.). З агульнай колькасці зарэгістраваных па Мінску кандыдатаў у дэпутаты ў сацыяльнай сетцы *odnoklassniki.ru* былі знойдзеныя 70 чалавек. Адсотак знойдзеных акаўнтаў ад агульнай колькасці зарэгістраваных дэпутатаў – 31,67 %. У 16-ці акаўнтах можна было прасачыць вэб-актыўнасць падчас выбарчай кампаніі (ці 22,86 % ад колькасці знойдзеных акаўнтаў кандыдатаў). У

[3] Вывучаючы вэб-актыўнасць кандыдатаў у дэпутаты, аўтар кіраваўся наступным прынцыпам: збор інфармацыі ў сацыяльных сетках і блогавых сістэмах праводзіўся не з уласных, а са спецыяльна зарэгістраваных акаўнтаў. Такі крок стаў своеасаблівым эксперыментам, пры якім аўтар даследавання выступаў у ролі патэнцыйнага выбарца кандыдата. Аўтар мяркуе, што кандыдат мусіў рабіць свае акаўнты ў сацыяльных сетках адкрытымі, каб пашырыць магчымасць прагляду інфармацыі. Акрамя таго, павышалася імавернасць правядзення аб'ектыўнага даследавання, бо з шэрагам кандыдатаў у дэпутаты аўтар знаёмы асабіста.

[4] Згодна з правапісам імя і прозвішча кандыдатаў у дэпутаты, апублікаваных на сайце Мінгарвыканкаму: http://minsk.gov.by/ru/actual/view/240/sveden_dept.shtml.

адзіным выпадку[5] было немагчыма атрымаць інфармацыю, неабходную для правядзення даследавання. Яшчэ ў адным выпадку[6] немагчыма было даць гарантыю, што быў знойдзены патрэбны чалавек, таму ён не ўключаўся ў агульную колькасць знойдзеных акаўнтаў. У табл. 9 (гл. Дадатак) змешчаная агульная інфармацыя з кантэнт-аналізам акаўнтаў кандыдатаў на рэсурсе *odnoklassniki.ru*.

Кантэнт-аналіз тых акаўнтаў, дзе была заўважаная пэўная вэб-актыўнасць, паказаў, што кандыдаты пераважна[7] выкарыстоўвалі на рэсурсе статусы – агульную інфармацыю, якая датычыць кампаніі, ці спасылкі на іншыя свае вэб-рэсурсы. У выпадку з кандыдатам Вольгай Касаткінай (Лошыцкая выбарчая акруга № 14) назіраецца сітуацыя, калі статус з'явіўся толькі пасля выбараў ды інфармаваў пра перамогу, аднак больш ніякай актыўнасці заўважана не было. У выпадку з Барысам Самковічам (Купалаўская акруга № 12) назіраецца сітуацыя, калі статусы выкананы ў нахабным стылі. Другою паводле папулярнасці формай актыўнасці было выстаўленне інфармацыі з

**Табліца 1. Формы вэб-актыўнасці кандыдатаў у дэпутаты на сайце *odnoklassniki.ru***

| Форма вэб-актыўнасці | Колькасць |
|---|---|
| Біяграфічныя звесткі кандыдата | 7 |
| Запісы на сцяне акаўнту | 1 |
| Статусы і спасылкі на іншыя вэб-рэсурсы | 12 |
| Фотаздымкі | 4 |

**Табліца 2. Узроставая структура кандыдатаў у дэпутатаў, якія маюць рэгістрацыю на сайце *odnoklassniki.ru***

| Узрост | Колькасць кандыдатаў | Колькасць, % |
|---|---|---|
| 18–21 | 1 | 1,43 |
| 22–25 | 13 | 18,57 |
| 26–30 | 24 | 34,29 |
| 31–40 | 15 | 21,43 |
| 41–50 | 11 | 15,71 |
| >50 | 6 | 8,57 |

5 Закрыты профіль кандыдата ў дэпутаты Юрыя Васкрасенскага (Машэраўская выбарчая акруга № 47).

6 Профіль кандыдата ў дэпутаты Зайтуны Івановай (Ангарская выбарчая акруга № 2). Блытаніна ўзнікла з той прычыны, што праз пошукавую сістэму сайту быў знойдзены чалавек з супадзеннем імя, прозвішча і ўзросту, але горад (не вядома, нараджэння ці цяперашняга пражывання) гэтага чалавека знаходзіцца на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі.

7 Кандыдат у дэпутаты мог у сваім акаўнце выкарыстоўваць адразу ўсе формы вэб-актыўнасці або толькі адну з формаў.

біяграфічнымі звесткамі кандыдатаў і, у меншай ступені, фотаздымкаў і запісаў на сценах акаўнтаў.

Сярэдні ўзрост кандыдатаў, якія маюць рэгістрацыю ў гэтай сацыяльнай сетцы, склаў 33,23 года, пры гэтым мінімальны ўзрост кандыдатаў склаў 21 год, а максімальны – 59. У табл. 2 паказваецца ўзроставая структура кандыдатаў, што маюць рэгістрацыю на рэсурсе *odnoklassniki.ru*. Як бачым, трацiна ўваходзіць ва ўзроставую групу ад 26 да 30 гадоў, але немалую долю складаюць і групы старэйшых за 31 год – агулам 45,71%.

Калі аналізаваць вэб-актыўнасць на сайце *odnoklassniki.ru*, то сярод праўладных кандыдатаў яе можна прасачыць толькі ў чатырох асобаў: Вадзіма Кудзіна (Вяснянская акруга № 39), Эдуарда Кузняцова (Мірашнічэнкаўская акруга № 43), Аляксея Музыкіна (Васняцоўская акруга № 5) і Андрэя Чыстага (Лагойская акруга № 44).

Сярод апазіцыйных кандыдатаў толькі сярод чатырох было заўважанае вядзенне актыўнасці: у Аляксандра Куўшынава (Машэраўская акруга №47), Юрыя Меляшкевіча (Слабадская акруга № 28), Аляксандра Шумкевіча (Вяснянская акруга № 39) і Дзмітрыя Ясевіча (Шабаноўская акруга № 3; пасля зняў сваю кандыдатуру).

Сярод кандыдатаў без вызначанай арганізацыйнай прывязанасці вэб-актыўнасць на сайце заўважаная ў Эдуарда Амельчука (Сухараўская акруга № 30), Алены Бандарэнкі (Лошыцкая акруга № 14), Таццяны Бурай (Мендзялееўская акруга № 55), Таццяны Куўшынавай (Машэраўская акруга № 47), Ірыны Пташнік (Заходняя акруга № 29), Барыса Самковіча і Сяргея Федарца (Пляханаўская акруга № 10), а таксама ў Дзмітрыя Шаўцова (Куйбышаўская акруга № 46).

***Vkontakte.ru (vk.com).*** Сайт *vkontakte.ru* (міжнародная версія *vk.com*) з'явіўся 10 кастрычніка 2006 г. і на сённяшні дзень ёсць самым папулярным рэсурсам у Расіі ды Украіне, а таксама другім паводле папулярнасці ў Беларусі (Alexa.com, 2010). Беларуская аўдыторыя рэсурсу ў сакавіку 2010 г. перавышала 1.725.000 чалавек (Rgmedia.by, 2010).

Пошук кандыдатаў праводзіўся праз увядзенне прозвішча ды імя кандыдата (на расійскай і беларускай мовах) і ўзросту (паводле стану на 25 красавіка 2010 г.). Пры правядзенні пошуку было знойдзена 47 акаўнтаў кандыдатаў у дэпутаты, якія карыстаюцца гэтым рэсурсам, што склала 21,27% ад агульнай колькасці зарэгістраваных кандыдатаў. У васьмі выпадках была заўважаная вэб-актыўнасць, што склала 17,02 % ад агульнае колькасці знойдзеных акаўнтаў кандыдатаў. У дзесяці выпадках немагчыма было знайсці інфармацыю, неабходную для правядзення даследавання. У табл. 3 адлюстроўваецца агульная інфармацыя наконт формаў вэб-актыўнасці.

Бачна, што статусы, запісы на сцяне акаўнту, размяшчэнне фотаздымкаў (саміх кандыдатаў або выбарчай прадукцыі) у аднолькавай колькасці ўжываліся ў якасці формаў вэб-актыўнасці на сайце *vkontakte.ru*. Трое кандыдатаў – Таццяна Куўшынава, Фёдар Масленнікаў (Чыгуначная

**Табліца 3. Формы вэб-актыўнасці кандыдатаў у дэпутаты на сайце *vkontakte.ru***

| **Форма вэб-актыўнасці** | **Колькасць** |
|---|---|
| Запісы на сцяне акаўнту | 3 |
| Статусы і спасылкі на іншыя вэб-рэсурсы | 3 |
| Суполкі кандыдатаў у дэпутаты | 3 |
| Фотаздымкі | 3 |

акруга № 20) і Аляксандр Шумкевіч – мелі ўласныя інфармацыйныя суполкі. Сярэдні ўзрост кандыдатаў, зарэгістраваных на сайце, – 26,57 года, пры гэтым мінімальны ўзрост кандыдатаў склаў 18 гадоў, а максімальны – 42. У табл. 4 паказаная ўзроставая структура ўсіх кандыдатаў, якія маюць рэгістрацыю на сайце. Асноўная ўзроставая група кандыдатаў на *vkontakte.ru* (*vk.com*) – ад 22 да 25 гадоў. За ёй ідзе група ва ўзросце 26–30 гадоў. Агулам кандыдатаў ва ўзросце да 30 гадоў налічваецца 77,85%.

Сярод праўладных кандыдатаў вэб-актыўнасць можна назіраць толькі ў аднаго – прадстаўніка Ліберальна-дэмакратычнай партыі Эдуарда Кузняцова. Сярод апазіцыйных кандыдатаў вэб-актыўнасць назіраецца ў пяці чалавек: Аляксандра Лагвінца (Сухараўская акруга № 30), Віталя Карабкова (Ракасоўская акруга № 9), Фёдара Масленнікава, Аляксандра Сяргеенкі (Ангарская акруга № 2) і Аляксандра Шумкевіча. Сярод кандыдатаў без вызначанай арганізацыйнай прывязанасці вэб-актыўнасць назіралася толькі ў Таццяны Куўшынавай і Арцёма Шаркова (Сухараўская акруга № 30).

Таццяна Куўшынава, Фёдар Масленнікаў і Аляксандр Шумкевіч мелі асобныя інфармацыйныя суполкі. Так, у суполку Куўшынавай паводле стану на 9 лістапада 2010 г. уваходзілі ўсяго дзевяць удзельнікаў, хоць суполка і мела адкрыты доступ для кожнага, хто мае рэгістрацыю на сайце *vkontakte.ru*. Яна змяшчала агульную інфармацыю пра кандыдата, спасылку на асноўны сайт, сямнаццаць фотаздымкаў (з іх тры – спам) і адзін відэазапіс. З усёй статыстыкі можна зрабіць выснову, што гэтая суполка мала выкарыстоўвалася для інфармацыйнае падтрымкі кампаніі кандыдата ў дэпутаты.

**Табліца 4. Узроставая структура кандыдатаў у дэпутаты, якія маюць акаўнты на сайце *vkontakte.ru***

| **Узрост** | **Колькасць кандыдатаў** | **Колькасць, %** |
|---|---|---|
| 18–21 | 8 | 17,02 |
| 22–25 | 18 | 38,3 |
| 26–30 | 12 | 25,53 |
| 31–40 | 8 | 17,02 |
| 41–50 | 1 | 2,13 |
| >50 | - | - |

Суполка Ф. Масленнікава паводле стану на 9 лістапада 2010 г. налічвала 31 ўдзельніка. Яна змяшчае агульную інфармацыю пра кандыдата, размеркаваную па наступных блоках: «*Пра кандыдата Масленнікава Фёдара*», «*Праграма – толькі факты*», «*Хто можа галасаваць?*», «*Маладыя дэмакраты – каманда дэпутатаў*». Адзначым, што суполка мае добрае інфармацыйнае напаўненне: там можна даведацца пра асноўны мэсідж кандыдата патэнцыйным выбарцам, прыводзяцца праграмныя тэзісы, інфармацыя пра межы акругі ды пра каманду кандыдатаў у дэпутаты па Мінску ад моладзевай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі «Маладыя дэмакраты».

У суполцы прысутнічае зваротная сувязь: пераважна ў запісах на сцяне суполкі, а таксама адзін запіс у рубрыцы «*Сустрэчы з выбарцамі*». Ёсць таксама чатыры спасылкі на інфармацыйныя суполкі: Аб'яднанай грамадзянскай партыі, арганізацыі «Маладыя дэмакраты», грамадзянскай кампаніі «За альтэрнатыўную службу ў Беларусі» ды культурніцкага аддзелу АГП.

Трэцяя інфармацыйная суполка – кандыдата ад Моладзевага хрысціянскага сацыяльнага саюзу «Маладыя дэмакраты» (не блытаць з арганізацыяй АГП «Маладыя дэмакраты») Аляксандра Шумкевіча – на 9 лістапада 2010 г. мела 19 удзельнікаў. Суполка слаба напоўненая інфармацыяй: фотаальбом змяшчае дванаццаць здымкаў, восем з якіх – спам. Фідбэк утрымлівае ўзаемныя абразы двух бакоў: кандыдата і чальцоў суполкі, таму ствараецца падазрэнне, што сама суполка, як і акаўнт Шумкевіча (усяго на сайце *vkontakte.ru* было знойдзена сем профіляў кандыдата ў дэпутаты), не ёсць сапраўднаю.

***Facebook.com.*** У агульным рэйтынгу (*Alexa.com*, 2010) сацыяльная сетка *facebook.com* займае 14-е месца. Беларуская аўдыторыя гэтага рэсурсу на пачатку кастрычніка 2010г. складала 119.800 карыстальнікаў (Facebackers. com, 2010). З агульнай колькасці зарэгістраваных кандыдатаў на сайце *facebook.com* было знойдзена 28 акаўнтаў (12,66 %). Колькасць акаўнтаў, на якіх падчас выбарчай кампаніі ў мясцовыя саветы кампаніі была заўважаная вэб-актыўнасць – шэсць (ці 21,43% ад колькасці знойдзеных акаўнтаў кандыдатаў). Сярэдні ўзрост кандыдатаў, які маюць рэгістрацыю на *facebook.com* (28 чалавек), склаў 30,29 годоў: мінімальны ўзрост – 18 гадоў, максімальны – 58.

**Табліца 5. Узроставая структура кандыдатаў у дэпутаты, якія маюць акаўнты на сайце *facebook.com***

| Узрост | Колькасць кандыдатаў | Доля, % |
|---|---|---|
| 18–21 | 2 | 7,14 |
| 22–25 | 9 | 32,14 |
| 26–30 | 7 | 25 |
| 31–40 | 6 | 21,43 |
| 41–50 | 2 | 7,14 |
| >50 | 2 | 7,14 |

Папулярнаю формаю вэб-актыўнасці на сайце *facebook.com* былі запісы на сцяне акаўнтаў; у крыху меншай ступені – статусы, спасылкі на іншыя вэб-рэсурсы і фотаздымкі. Сярод праўладных кандыдатаў ніводзін не выкарыстоўваў «Facebook» для вэб-актыўнасці. Пры гэтым на рэсурсе назіраецца вялікая колькасць кандыдатаў ад апазіцыі – агулам 20 чалавек. Чатыры з іх – Вадзім Канапацкі (Першамайская акруга № 56), Аляксандр Лагвінец, Уладзімір Навасяд (Пляханаўская акруга № 10) і Аляксандра-Вольга Тыгрыцкая (Першамайская акруга № 56) – выкарыстоўвалі сайт у якасці крыніцы інфармацыйнае падтрымкі (Лагвінец – яшчэ і для мабілізацыі чалавечых рэсурсаў). Сярод кандыдатаў без арганізацыйнай прывязанасці вэб-актыўнасць была заўважаная толькі ў Таццяны Куўшынавай і Арцёма Шаркова.

**Табліца 6. Формы вэб-актыўнасці кандыдатаў у дэпутаты на сайце *facebook.com***

| Форма вэб-актыўнасці | Колькасць |
|---|---|
| Арганізацыя падзеяў і рассылка запрашэнняў | 1 |
| Відэа | 1 |
| Запісы на сцяне | 5 |
| Зваротная сувязь | 2 |
| Інфармацыйная суполка | 1 |
| Спасылкі, статусы | 3 |
| Фотаздымкі | 3 |

Адзін кандыдат – Аляксандр Лагвінец – меў уласную інфармацыйную суполку, у якой паводле стану на 9 лістапада 2010 г. было 111 чальцоў. Суполка мае добры інфармацыйны кантэнт: навіны ўласнай выбарчай кампаніі, спасылкі на артыкулы ў медыях, фотаздымкі. Бачная прысутнасць зваротнай сувязі. Адзінаю заўвагаю ёсць разыходжанне колькасці сяброў кандыдата ва ўласным профілі з колькасцю ўдзельнікаў у суполцы.

***Twitter.com***. Мікраблогавая сістэма «Twitter» – найноўшы вэб-сэрвіс, які пачаў набываць папулярнасць у Беларусі, у адрозненне, напрыклад, ад такіх сэрвісаў як міжнародны *jaiku.com*, расійскі *juick.com* ці айчынны *speech.by*. Але даследаванне паказала, што рост папулярнасці сістэмы «Twitter» не адбіўся на вэб-актыўнасці кандыдатаў у дэпутаты на мясцовых выбарах 2010 г.

Метадалогія пошуку заставалася такою самаю, як і ў выпадках з сацыяльнымі сеткамі *odnoklassniki.ru*, *facebook.com* і *vkontakte.ru*: уводзіліся імя, прозвішча і горад пражывання (узрост не ўводзіўся). Пошук кандыдатаў апынуўся самым цяжкім этапам: па-першае, сістэма дае колькасны ліміт на знаходжанне людзей цягам 24 гадзінаў; па-другое, у сістэме не прадугледжваецца транслітарацыя імя і прозвішча. Пошук адбываўся з увядзеннем беларуска- і

расійскамоўнага напісання імя і прозвішча, а таксама ўводзіліся камбінацыі напісання лацінкаю паводле правілаў транслітарацыі.[8] Дадаткова адбываўся пошук кандыдатаў праз пошукавую сістэму *google.com*, бо яна індэксуе запісы ў «Twitter».

У выніку было знойдзена дзевяць акаўнтаў кандыдатаў, якія маюць рэгістрацыю на гэтым сайце: Валянціна Вячоркі (Мірашнічэнкаўская акруга №43), Вячаслава Дзіянава (Шугаеўская акруга №53), Ірыны Губскай (Шугаеўская акруга № 53), Таццяны Куўшынавай, Аляксандра Лагвінца, Фёдара Масленнікава, Юрыя Фабішэўскага (Курасоўшчынская акруга № 16), Артура Фінькевіча (Убарэвіцкая акруга № 7) і Аляксея Янукевіча (Галадзедаўская акруга № 6).

З усіх знойдзеных акаўнтаў вэб-актыўнасць на рэсурсе заўважаная толькі ў двух кандыдатаў: Аляксандра Лагвінца і Фёдара Масленнікава. Першы выкарыстоўваў гэты сродак для інфармацыйнага асвятлення выбарчай кампаніі, другі – яшчэ і ў якасці спосабу рэкрутацыі валанцёраў.

Акаўнт Лагвінца меў шэсць запісаў (tweets), прысвечаным мясцовым выбарам: сярод іх пяць запісаў зробленыя па-беларуску, адзін – на англійскай мове. Паводле стану на 9 лістапада 2010 г. акаўнт меў 263 падпісчыкі, а сам быў падпісаны на 227 акаўнтаў. Гэтыя паказнікі ўяўляюць з сябе добрыя суадносіны паміж тымі, хто чытае блог Лагвінца, будучы зарэгістраванымі ў сістэме мікраблогаў, і тымі, каго чытае сам уладальнік акаўнту. Акаўнт адкрыты, што тэарэтычна значна павышае яго чытанасць сярод тых, хто не мае рэгістрацыі ў гэтай сістэме.

У Масленнікава выбарам прысвечаныя шэсць інфармацыйных запісаў і яшчэ адзін утрымлівае прапанову ўвайсці ў каманду кандыдата. Паводле стану на 9 лістапада 2010 г. акаўнт кандыдата меў 184 падпісчыкі, а сам кандыдат падпісаны на 114 акаўнтаў. У профілі ўтрымліваецца спасылка на афіцыйны сайт арганізацыі «Маладыя дэмакраты», у якую ўваходзіць кандыдат. Акаўнт таксама адкрыты.

У астатніх знойдзеных акаўнтах не было заўважана якіх-небудзь відаў актыўнасці, звязаных з правядзеннем кампаніі ў мясцовыя саветы. Пры гэтым некаторыя акаўнты – кандыдатаў Вячоркі, Дзіянава, Фінькевіча і Янукевіча – маюць першыя запісы ўжо пасля правядзення выбараў; а ў выпадку з кандыдатамі Губскай, Куўшынавай і Фабішэўскім проста не выкарыстоўваліся.

У «Twitter» існуе практыка стварэння гэш-тэгаў (hash-tag), якія дазваляюць рабіць запісы ў суполку на асобныя тэмы. Так, перад выбарамі быў адмыслова зроблены тэг *#electby*. Кандыдаты, чые профілі былі знойдзеныя ў «Twitter», не выкарыстоўвалі гэтага тэгу для ўласнай папулярызацыі, інфармацыйнай кампаніі або мабілізацыі чалавечых рэсурсаў – яго пераважна выкарыстоўвалі назіральнікі падчас выбараў.

***Персанальныя сайты і блогі.*** Месячная аўдыторыя белару-

8 Праз анлайнавы лацінізатар: http://www.pravapis.org/latin.asp

скага сегменту блогавай сістэмы *livejournal.com* складае больш за 270.000 чалавек (*Alexa.com*, 2010), а сам сайт паводле рэйтынгу займае 13-е месца (*Alexa.com*, 2010).

Пры пошуку было знойдзена 13 блогаў кандыдатаў (Кудзіна, Радкевіча, Шылава, Губскай, Корбана, Лагвінца, Масленнікава, Навасяда, Пташнік, Меляшкевіча, Янчурэвіча, Кузняцова і Куўшынавай) і 5 сайтаў (Куўшынавай, Лагвінца, Амельчука, Шаркова і Язава). Акрамя гэтага, у сістэме «LiveJournal» быў знойдзены фан-клуб Т. Куўшынавай.

Правядзенне кантэнт-аналізу блогаў паказала, што найбольш эфектыўна праца рабілася на старонках кандыдатаў Куўшынавай, Радкевіча, Лагвінца і Пташнік. Пры гэтым, блог Ірыны Пташнік адмыслова быў адкрыты для кампаніі ў мясцовыя саветы, пра што ўскосна сведчыць сама назва інтэрнэт-дзённіку.

Пэўную спробу арганізацыі перадвыбарчага блогу рабілі кандыдаты Губская, Меляшкевіч і Навасяд; але вядзенне старонак не было надта прадуктыўнае.

Кандыдаты Кудзін, Шылаў, Корбан, Масленнікаў, Янчурэвіч і Кузняцоў зрабілі слабую спробу арганізаваць працу ў блогавых сістэмах, маючы пры гэтым рэгістрацыю, або ўвогуле праігнаравалі такі від дзейнасці.

Што датычыць блогу фан-клубу Таццяны Куўшынавай, то ён мае вельмі малую інфармацыю напаўняльнасць (усяго тры запісы) і малую колькасць сяброў.

Кантэнт-аналіз сайтаў паказаў, што найбольш эфектыўнымі былі рэсурсы кандыдатаў Куўшынавай і Лагвінца. Персанальны сайт Куўшынавай, дзякуючы добрай раскрутцы, стаў сапраўды пазнавальным і наведвальным. Такая паспяховасць найперш абумоўліваецца тым, што сайт мае добры кантэнт. Акрамя інфармацыйнай часткі, сайт выступае як сродак мабілізацыі рэсурсаў для кампаніі ды ўтрымлівае пэўныя прапановы, якім чынам старонні чалавек можа дапамагчы кандыдату.

На сайце Лагвінца ў перыяд з 18 лютага да 30 красавіка 2010 г. налічваецца 20 артыкулаў, якія датычаць кампаніі кандыдата, вялікая частка артыкулаў дапоўненая фотаздымкамі, некаторыя – відэазапісамі.

Сайты астатніх трох кандыдатаў маюць слабыя якасныя паказнікі эфектыўнасці: кепская тэхнічная арганізацыя; малы аб'ём інфармацыі (у выпадку з А. Шарковым – яшчэ і наяўнасць граматычных памылак).

***Іншыя віды вэб-актыўнасці.*** Да іншых відаў вэб-актыўнасці можна аднесці выкарыстанне рассылкі праз электронную пошту; відэа- і банэрную рэкламу. Каб усталяваць факты выкарыстання электроннай рассылкі падчас выбарчай кампаніі кандыдатаў, трэба ўжываць дадатковыя метады: анкетаванне ці інтэрв'ю кандыдатаў і/або выбарцаў. У межах гэтага даследавання да дадатковых метадаў не звярталіся, але дакладна вядома, што прынамсі для мабілізацыі чалавечых рэсурсаў (пошук валанцёраў) і для інфармацыйнай кампаніі такі метад актыўнасці ў інтэрнэце выкарыстоўваў кандыдат Аляксандр Лагвінец.

База адрасоў электроннай пошты магла фармавацца ў працэсе збору подпісаў. Акрамя гэтага кандыдаты маглі выкарыстоўваць кантакты з уласнай базы.

Выкарыстанне банэрнай рэкламы было заўважанае толькі ў адным выпадку – у Таццяны Куўшынавай. Банэр рэкламаваў персанальны сайт кандыдата і быў дапоўнены слоганам выбарчай кампаніі: *«Прыгажосць выратуе свет»*.

Уласныя відэаролікі з самарэкламаю выкарыстоўвалі кандыдаты Дзмітрый Кучук і Аляксандра-Вольга Тыгрыцкая. Прома-ролік Кучука быў размешчаны на афіцыйным сайце Беларускай партыі «Зялёныя» і на канале партыі на відэапартале *youtube.com*; ролік Тыгрыцкай – на адным з каналаў *youtube.com*.

## Асноўныя вынікі даследавання

Вяртаючыся да пачатковага пытання (ці ёсць інтэрнэт прыкладным інструментам у лакальнай палітычнай кампаніі ў Беларусі на прыкладзе сталіцы) можна разгледзець наступныя звесткі: з агульнай колькасці зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты па Мінску 70 чалавек (31,67% ад агульнай колькасці зарэгістраваных кандыдатаў) мелі акаўнты на сайце *odnoklassniki.ru*; 47 (21,27%) – на сайце *vkontakte.ru*; 28 (12,66%) – на сайце *facebook.com*; 9 (4,07%) – у блогавай сістэме *twitter.com*; 13 (5,88%) – у блогавай сістэме livejournal.com, *blogspot.com* ды інш.; 5 чалавек (2,26%) былі ўладальнікаў персанальных сайтаў.

Калі аналізаваць узроставую структуру, то можна заўважыць, што найстарэйшую мае рэсурс odnoklassniki.ru – 32,23 года; сярэдні ўзрост кандыдатаў, што маюць уласныя сайты, – 31,4 года; сярэдні ўзрост кандыдатаў, што маюць рэгістрацыю ў блогавых сістэмах «LiveJournal», «Blogspot» ды інш. – 31,31 года; далей ідуць зарэгістраваныя карыстальнікі сайту *facebook.com* – 30,03 года; *vkontakte.ru* – 26,57 года; сістэмы *twitter.com* – 26,4 года.

Калі ў адносінах да кандыдатаў да 30 гадоў уключна карыстацца катэгорыяй «моладзь», то паводле ўзроставых звестак даследавання можна зрабіць выснову, што інтэрнэт у мэтах выбарчай кампаніі выкарыстоўвалі пераважна маладыя людзі (гл. табл. 7).

Калі праводзіць параўнанне ў выкарыстанні вэб-рэсурсаў паводле палітычнай прыналежнасці, то маем наступную сітуацыю (гл. табл. 8).

Відавочна, што па ўсіх інтэрнэт-рэсурсах большасць актыўных карыстальнікаў прыпадае на групы апазіцыйных кандыдатаў і кандыдатаў без вызначанай арганізацыйнай прывязанасці. Пры гэтым апошняя група мае лідарства на трох рэсурсах: на сайце *odnoklassniki.ru*, блогавых сістэмах (акрамя сістэмы *twitter.com*) і персанальных сайтах. Група апазіцыйных кандыдатаў мае першыя пазіцыі таксама ў трох рэсурсах: *vkontakte.ru*, *facebook.com* і абсалютны стоадсоткавы паказчык ў мікраблогу *twitter.com*. Група праўладных

### Табліца 7. Узрост кандыдатаў у дэпутаты, якія выкарыстоўвалі інтэрнэт у выбарчай кампаніі

| Назва рэсурсу | Сярэдні ўзрост карыстальнікаў з наяўнасцю вэб-актыўнасці, гадоў | Узроставая структура карыстальнікаў да 30 гадоў уключна, % | Узроставая структура карыстальнікаў ад 31 года, % |
|---|---|---|---|
| odnoklassniki.ru | 32,06 | 56,25 | 43,75 |
| vkontakte.ru | 28,75 | 62,5 | 37,5 |
| facebook.com | 32 | 50 | 50 |
| twitter.com | 30 | 50 | 50 |

### Табліца 8. Размеркаванне паводле палітычнай прыналежнасці кандыдатаў у дэпутаты, якія выкарыстоўвалі інтэрнэт у выбарчай кампаніі

| Назва рэсурсу | Колькасць праўладных кандыдатаў, % | Колькасць апазіцыйных кандыдатаў, % | Колькасць кандыдатаў без вызначанай арганізацыйнай прывязанасці, % |
|---|---|---|---|
| odnoklassniki.ru | 25 | 25 | 50 |
| vkontakte.ru | 12,5 | 62,5 | 25 |
| facebook.com | 0 | 66,67 | 33,33 |
| twitter.com | 0 | 100 | 0 |
| іншыя блогавыя сістэмы | 22,22 | 33,33 | 44,44 |
| персанальныя сайты | 0 | 20 | 80 |

кандыдатаў мае пэўныя пазіцыі сярод карыстальнікаў сайту odnoklassniki.ru (чвэрць) і крыху больш за 20% сярод тых кандыдатаў, што маюць уласныя блогі. Пры гэтым праўладная група ніяк не рэпрэзентаваная на сайце *facebook.com* і ў блогавай сістэме *twitter.com*, а таксама не ўключае ніводнага ўладальніка персанальнага сайту.

У Табліцах 9, 10 і 11 (гл. Дадатак) прыводзіцца інфармацыя пра стан вэб-актыўнасці. Бачна, што рэсурс *odnoklassniki.ru* эфектыўней выкарыстоўвалі кандыдаты Эдуард Кузняцоў (праўладны) і Юрый Меляшкевіч (апазіцыйны кандыдат). Рэсурс *vkontakte.ru* найлепш выкарыстоўвалі Аляксандр Лагвінец, Фёдар Масленнікаў і Аляксандр Сяргеенка (усе апазіцыйныя); *facebook.com* – Вадзім Канапацкі і Аляксандр Лагвінец (апазіцыйныя); *twitter.com* – Аляксандр Лагвінец і Фёдар Масленнікаў (апазіцыйныя).

Сярод уладальнікаў персанальных блогаў найбольш удалае і практычнае выкарыстанне можна было назіраць у Міхаіла Радкевіча (кандыдат без арганізацыйнай прывязанасці), Аляксандра Лагвінца (апазіцыйны), Ірыны Пташнік (без арганізацыйнай прывязанасці), Таццяны Куўшынавай (без арганізацыйнай прывязанасці) і Юрыя Меляшкевіча (апазіцыйны). Сярод уладальнікаў персанальных

сайтаў – у Аляксандра Лагвінца (апазіцыйны) і Таццяны Куўшынавай (без арганізацыйнай прывязанасці).

Калі разглядаць якасныя паказчыкі комплексна, то зноў можна зрабіць выснову, што эфектыўнасць выкарыстання інтэрнэту была большаю сярод групы апазіцыйных кандыдатаў – 11 выпадкаў (адзін на сайце *odnoklassniki.ru*; тры – на сайце *vkontakte.ru*; па два – на рэсурсах *facebook.com* і *twitter.com*; два – у блогавых сістэмах і адзін – сярод уладальнікаў персанальных сайтаў). Пры гэтым на сайтах *vkontakte.ru*, *facebook.com* і *twitter.com* прадстаўнікі апазіцыі мелі найлепшую арганізацыю вэб-актыўнасці. Сярод прадстаўнікоў групы кандыдатаў без арганізацыйнай прывязанасці тры асобы эфектыўна выкарыстоўвалі інтэрнэт-рэсурсы ў блогавых сістэмах; адзін кандыдат эфектыўна выкарыстоўваў персанальны сайт. Сярод праўладных кандыдатаў толькі адзін – сябра Ліберальна-дэмакратычнай партыі Эдуард Кузняцоў – эфектыўна выкарыстоўваў вэб-рэсурс для выбарчай кампаніі (сайт *odnoklassniki.ru*).

Сярод кандыдатаў, абраных у дэпутаты, вэб-актыўнасць назіралася толькі ў Вадзіма Кудзіна і Ігара Шылава (абодва мелі ўласныя блогі), але узровень вэб-актыўнасці на гэтых рэсурсах быў слабы, з чаго можна зрабіць выснову, што праўладныя кандыдаты выкарыстоўвалі інтэрнэт-рэсурсы ва ўласных кампаніях вельмі неэфектыўна. Лідарства ў актыўнасці належала групе апазіцыйных кандыдатаў, але гэтую выснову нельга лічыць цалкам аптымістычнаю, бо нават сярод гэтай групы бальшыня кандыдатаў ўвогуле не мела рэгістрацыі ў сацыяльных сетках ці блогавых сістэмах, не кажучы ўжо пра наяўнасць сайтаў. Лідарства кандыдатаў ад апазіцыі на некаторых рэсурсах можна патлумачыць тым, што апазіцыя ўжо дзесяцігоддзе застаецца пазасістэмнаю, і кандыдаты, якія не маюць доступу да дзяржаўных традыцыйных і электронных медыяў, выкарыстоўвалі магчымасць данясення ўласнай пазіцыі хаця б праз інтэрнэт.

Агулам, па выніках даследавання, можна зрабіць выснову, што нават у сталіцы ў абсалютнай большасці выпадкаў інтэрнэт не выкарыстоўваўся кандыдатамі пры правядзенні кампаніі ды, такім чынам, не зрабіўся прыкладным інструментам падчас сёлетніх мясцовых выбараў.

**Літаратура**


1. «Alexa – Top sites in Belarus» (2010), URL (consulted 01.08.2010) http://www.alexa.com/topsites/countries/BY
2. «Belarus Facebook Statistics» (2010), URL (consulted 10.10.2010) http://www.facebakers.com/countries-with-facebook/BY/
3. *The World Factbook. Belarus. Communications* (2008), URL (consulted 04.07.2010) https://www.cia.gov/library/publications/the-world-factbook/geos/bo.html
4. «“Белтелеком” готовится к расширению интернет-шлюза» (2010), URL (доступ 30.09.2010) http://it.tut.by/202082
5. «ЖЖ читают более 270 тысяч белорусов» (2010), URL (доступ 14.07.2010) http://www.electroname.com/story/6824
6. Крывалап, А. (2007). «Livejournal і раённая газета ў кантэксце выбараў-2007», *Палітычная сфера,* № 9: 56–63.
7. «Количество интернет-пользователей в Белоруссии составило 6 млн.» (2008), URL (доступ 12.07.2010) http://novostey.com/internet/news80117.html
8. Мельянцоў, Д. (2006). «Спантанныя групы ў паслявыбарчы перыяд», *Палітычная сфера*, № 7: 32–41.
9. «НИСЭПИ: Интернетом пользуется 41,4 % белорусов» (2009), URL (доступ 12.07.2010) http://www.electroname.com/story/4727
10. «Одноклассники.ru: нас 30 миллионов» (2010), URL (доступ 14.07.2010) http://marketing.by/main/market/company_news/0026132/
11. «Реклама на Vkontakte.ru» (2010), URL (доступ 15.09.2010) http://rgmedia.by/vkontakte.html
12. «Спіс кандыдатаў у дэпутаты Мінскага гарадскога Савета» (2010), *Минский курьер*, URL (доступ 01.07.2010) http://mk.by/2010/04/01/17213/
13. «Статкомитет: В Беларуси 27,2% жителей пользуются интернетом» (2010), URL (доступ 12.07.2010) http://www.electroname.com/story/7174
14. Храпавіцкі, А. (2009). «Аналіз вэб-актыўнасці кандыдатаў у дэпутаты на парламенцкіх выбарах 2008 года», *Палітычная сфера*, № 12: 110–120.


**Вэб-прысутнасць кандыдатаў у дэпутаты:**[9]


1. Амяльчук, Эдуард (2010). Персанальны сайт, URL (доступ 09.11.2010) http://mechta.3dn.ru
2. Арлоў, Арцём (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id11364137
3. Ачарэтная, Крысціна (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=1713118098
4. Бабак, Віктар (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100000453078526
5. Бабак, Віктар (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id83691580


[9] Не прыводзяцца вэб-спасылкі на профілі кандыдатаў у дэпутаты ў сацыяльнай сетцы *odnoklassniki.ru*, бо ў гэтай сістэме адсутнічаюць сталыя адрасы акаўнтаў. Захаваная спасылка не працуе ўжо ў наступнай сесіі, бо ўсе спасылкі абараняюцца кантрольнаю сумаю tkn.

6. Бандарэнка, Алена (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id4695963
7. Башура, Міхаіл (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100001236014915
8. Башура, Міхаіл (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id28880111
9. Бурая, Таццяна (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id29079906
10. Відэаканал Беларускай партыі Зялёныя, URL (доступ 27.08.2010) http://www.youtube.com/user/belgreens
11. Вілюха, Арцём (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id3551580
12. Вячорка, Валянцін (2010). Акаўнт у мікраблогавай сістэме «Twitter», URL (доступ 09.11.2010) http://twitter.com/vincukV
13. Гаршкова, Ганна (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id11453996
14. Губская, Ірына (2010). Акаўнт у мікраблогавай сістэме «Twitter», URL (доступ 09.11.2010) http://twitter.com/Hubskaya
15. Губская, Ірына (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=1630883185
16. Губская, Ірына (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id19074091
17. Губская, Ірына (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://irririnka.livejournal.com/
18. Гур, Сяргей (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id5588060
19. Дзіянаў, Вячаслаў (2010). Акаўнт у мікраблогавай сістэме «Twitter», URL (доступ 09.11.2010) http://twitter.com/Dianov1987
20. Дзіянаў, Вячаслаў (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=1674811867
21. Дзіянаў, Вячаслаў (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/dziyanau
22. Дзявятка, Уладзімір (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id7631246
23. Дубоўскі, Эдуард (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=1374558242
24. Зязюльчык, Уладзімір (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id6313673
25. Каменева, Любоў (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100000168438063
26. Каменева, Любоў (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id12121074
27. Канапацкі, Вадзім (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100000447639165
28. Карабкоў, Віталій (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id33581261
29. Кармазін, Дзмітрый (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id18281333
30. Карповіч, Сяргей (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ

09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100000645086655
31. Карповіч, Сяргей (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id3686397
32. Касаткіна, Вольга (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id61402067
33. Каспяровіч, Дзмітрый (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100001094295401
34. Каспяровіч, Дзмітрый (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id14936907
35. Контусь, Яўгеній (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id22205256
36. Корбан, Алег (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100001266520976
37. Корбан, Алег (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id10144257
38. Корбан, Алег (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://aleh-korban.livejournal.com/
39. Крыжаноўскі, Яўгеній (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010)http://www.facebook.com/profile.php?id=1503208425
40. Кудзін, Вадзім (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id8968635
41. Кудзін, Вадзім (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://www.ipp.by/pages.php?sid=293
42. Кузняцоў, Эдуард (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id12594216
43. Кузняцоў, Эдуард (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://edkuznet.blog.tut.by/
44. Кумец, Уладзімір (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/kumets
45. Куўшынава, Таццяна (2010). Акаўнт у мікраблогавай сістэме «Twitter», URL (доступ 09.11.2010) http://twitter.com/krasotaEU
46. Куўшынава, Таццяна (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/krasotaEU
47. Куўшынава, Таццяна (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id71020497
48. Куўшынава, Таццяна (2010). Блог фан-клуба, URL (доступ 09.11.2010) http://nashatania.livejournal.com
49. Куўшынава, Таццяна (2010). Інфармацыйная суполка ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/club16953119
50. Куўшынава, Таццяна (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://krasotaeu.livejournal.com/
51. Куўшынава, Таццяна (2010). Персанальны сайт, URL (доступ 09.11.2010) http://krasota.eu/
52. Куўшынаў, Аляксандр (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/aliaksandr
53. Кучук, Дзмітрый (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100000743567727
54. Кучук, Дзмітрый (2010). Відэаролік на партале «YouTube», URL (доступ 27.08.2010) http://www.youtube.com/watch?v=6Vzf7OwR9ag

55. Лагвінец, Аляксандр (2010). Акаўнт у мікраблогавай сістэме «Twitter», URL (доступ 09.11.2010) http://twitter.com/lahviniec
56. Лагвінец, Аляксандр (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/lahviniec
57. Лагвінец, Аляксандр (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id30073367
58. Лагвінец, Аляксандр (2010). Інфармацыйная суполка ў сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/group.php?gid=102627857520
59. Лагвінец, Аляксандр (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://lahviniec.livejournal.com/
60. Лагвінец, Аляксандр (2010). Персанальны сайт, URL (доступ 09.11.2010) http://www.lahviniec.org
61. Лява, Арцём (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=1276892647
62. Маеўскі, Гай (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id39865220
63. Масленнікаў, Фёдар (2010). Акаўнт у мікраблогавай сістэме «Twitter», URL (доступ 09.11.2010) http://twitter.com/f_maslennikov
64. Масленнікаў, Фёдар (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/fiodar.maslennikov
65. Масленнікаў, Фёдар (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/fedia.maslennikov
66. Масленнікаў, Фёдар (2010). Інфармацыйная суполка ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/club16736284
67. Масленнікаў, Фёдар (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://f-maslennikov.livejournal.com/
68. Меляшкевіч, Юрый (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/meliashkevich
69. Меляшкевіч, Юрый (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id3663126
70. Меляшкевіч, Юрый (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://meliashkevich.livejournal.com/
71. Навасяд, Уладзімір (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100000661926898
72. Навасяд, Уладзімір (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://novosiad.livejournal.com/
73. Несцяронак, Аляксандр (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id5699609
74. Петражыцкі, Алег (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100000717593569
75. Петражыцкі, Алег (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id16307898
76. Піліпчук, Аляксандр (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id4348963
77. Пракапенка, Максім (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id61804778
78. Пракаповіч, Сяргей (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id62648387

79. Пташнік, Ірына (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://ptashnik-elect.livejournal.com/
80. Радкевіч, Міхаіл (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id77999784
81. Радкевіч, Міхаіл (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://mihrad.blogspot.com/
82. Рашэтнік, Аляксей (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=100001209406697
83. Рашэтнік, Аляксей (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id6681509
84. Садоўскі, Дзяніс (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id40305662
85. Сайт Беларускай партыі «Зялёныя», URL (доступ 27.08.2010) http://belgreens.org/
86. Сігаеў, Аляксей (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id69507967
87. Сяргеенка, Аляксандр (2010) Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=1627986811
88. Сяргеенка, Аляксандр (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id9026567
89. Тыгрыцкая, Аляксандра-Вольга (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/atigritskaja
90. Тыгрыцкая, Аляксандра-Вольга (2010). Відэаролік на партале «YouTube», URL (доступ 27.08.2010) http://www.youtube.com/watch?v=UkzVIKDH91Y&feature=player_embedded
91. Фабішэўскі, Юрый (2010). Акаўнт у мікраблогавай сістэме «Twitter», URL (доступ 09.11.2010) http://twitter.com/fabishevskij
92. Фабішэўскі, Юрый (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/yuriy.fabishevskiy
93. Фабішэўскі, Юрый (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id10542931
94. Фінькевіч, Артур (2010). Акаўнт у мікраблогавай сістэме «Twitter», URL (доступ 09.11.2010) http://twitter.com/artur_finkevich
95. Фінькевіч, Артур (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=1772077039
96. Фінькевіч, Артур (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id25234691
97. Ціхаміраў, Аляксандр (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id51971085
98. Шаркоў, Арцём (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/profile.php?id=802125928
99. Шаркоў, Арцём (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id25340590
100. Шаркоў, Арцём (2010). Персанальны сайт, URL (доступ 09.11.2010) http://sharkov.unit.by/
101. Шумкевіч, Аляксандр (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id22802616
102. Шумкевіч, Аляксандр (2010). Інфармацыйная суполка ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/club5686960
103. Шылаў, Ігар (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://i.shilov.blog.tut.by/

104. Ягорава, Ганна (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/hanna.yahorava
105. Ягорава, Ганна (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id71225600
106. Язаў, Аляксандр (2010). Персанальны сайт, URL (доступ 09.11.2010) http://www.yazov.com
107. Янукевіч, Аляксей (2010). Акаўнт у мікраблогавай сістэме «Twitter», URL (доступ 09.11.2010) http://twitter.com/janukievic
108. Янукевіч, Аляксей (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «Facebook», URL (доступ 09.11.2010) http://www.facebook.com/alaksej.janukevich
109. Янукевіч, Аляксей (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id21427017
110. Янушкевіч, Віталій (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id62767005
111. Янчурэвіч, Віктар (2010). Акаўнт у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», URL (доступ 09.11.2010) http://vkontakte.ru/id18089279
112. Янчурэвіч, Віктар (2010). Персанальны блог, URL (доступ 09.11.2010) http://janchurevich.livejournal.com/

## Дадатак:

**Табліца 9. Кантэнт-аналіз акаўнтаў кандыдатаў на сайце odnoklassniki.ru**

| № | Прозвішча ды імя кандыдата | Назва і нумар акругі | Прыналежнасць да партыяў, ГА | Узрост | Актыўнасць |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Альшэўскі, Дзмітрый | Аўтазаводская № 4 | Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) | 42 | Адсутнічае |
| 2 | Амяльчук, Эдуард | Сухараўская № 30 | Беспартыйны | 38 | Біяграфічныя звесткі |
| 3 | Ачарэтная, Крысціна | Заслаўская № 40 | Аб'яднаная грамадзянская партыя | 27 | Адсутнічае |
| 4 | Бандарэнка, Алена | Лошыцкая № 14 | Беспартыйная | 40 | Статусы (1), біяграфія |
| 5 | Бараноўскі, Ігар | Аўтазаводская № 4 | Беспартыйны | 47 | Адсутнічае |
| 6 | Башура, Міхаіл | Нававіленская № 42 | Беспартыйны | 34 | Адсутнічае |
| 7 | Бурая, Таццяна | Мендзялееўская № 55 | Беспартыйная; ГА «Зоасвет»; Моладзь БХД | 25 | Статусы (1) |
| 8 | Васільеў, Ігар | Грушаўская № 22 | Беспартыйны | 49 | Адсутнічае |
| 9 | Васкрасенскі, Юрый | Машэраўская № 47 | Камуністычная партыя Беларусі | 33 | Закрыты профіль |
| 10 | Вашкоў, Андрэй | Ясенінская № 24 | Беспартыйны | 29 | Адсутнічае |
| 11 | Гарадзецкі, Антон | Старавіленская № 41 | Беспартыйны | 31 | Адсутнічае |
| 12 | Гаршкова, Ганна | Сухараўская № 30 | Беспартыйная | 25 | Адсутнічае |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **13** | Доўнар, Віктар | Чыгуначная № 20 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 29 | Адсутнічае |
| **14** | Дубінская, Кацярына | Масюкоўшчынская № 34 | Беспартыйная | 44 | Адсутнічае |
| **15** | Дылько, Мікалай | Пляханаўская № 10 | Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» | 59 | Адсутнічае |
| **16** | Жаркіна, Таццяна | Ахоцкая № 1 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 28 | Адсутнічае |
| **17** | Ждановіч, Дзміры́й | Ясенінская № 24 | ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» | 27 | Адсутнічае |
| **18** | Казееў, Мікалай | Багдановіцкая № 45 | Беспартыйны | 30 | Адсутнічае |
| **19** | Казлоўскі, Сяргей | Ракасоўская № 9 | Беспартыйны; ГА «Праваахова спажыўцоў» | 35 | Адсутнічае |
| **20** | Калацкі, Мікалай | Шугаеўская № 53 | Ліберальна-дэмакратычная партыя; ГА «Беларускае таварыства інвалідаў па зроку» | 28 | Адсутнічае |
| **21** | Касаткіна, Вольга | Лошыцкая № 14 | Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя; ГА «Беларусі рэспубліканскі саюз моладзі» | 27 | Статусы (1) |
| **22** | Карабкоў, Віталій | Ракасоўская № 9 | Аб’яднаная грамадзянская партыя | 30 | Фотаздымкі (2) |
| **23** | Клімовіч, Наталля | Чкалаўская № 19 | Беспартыйная | 47 | Адсутнічае |
| **24** | Контусь, Яўгеній | Нававіленская № 42 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 25 | Адсутнічае |
| **25** | Краснікевіч, Аляксей | Уруцкая № 51 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 29 | Адсутнічае |
| **26** | Крыжаноўскі, Яўгеній | Заслаўская № 40 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 54 | Адсутнічае |
| **27** | Кудзін, Вадзім | Вяснянская № 39 | Беспартыйны | 21 | Фотаздымкі (1); біяграфічныя звесткі |
| **28** | Кузняцоў, Эдуард | Мірашнічэнкаўская № 43 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 35 | Статусы (5), запіс на сцяне (1), feedback (1), Фотаздымкі (1) |
| **29** | Куўшынава, Таццяна | Машэраўская № 47 | Беспартыйная | 30 | Статусы (1) са спасылкаю на сайт krasota.eu |
| **30** | Куўшынаў, Аляксандр | Машэраўская № 47 | Аб’яднаная грамадзянская партыя | 29 | Статусы (1) са спасылкаю на сайт krasota.eu |
| **31** | Куцы, Аляксандр | Каліноўская № 49 | Беспартыйны | 36 | Адсутнічае |
| **32** | Манковіч, Руслан | Усходняя № 52 | Беспартыйны | 46 | Адсутнічае |
| **33** | Масленнікаў, Фёдар | Чыгуначная № 20 | Аб’яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 22 | Адсутнічае |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **34** | Меляшкевіч, Юрый | Слабадская № 28 | Партыя БНФ, Рух «За свабоду» | 27 | Статусы (7) |
| **35** | Музыкін, Аляксей | Васняцоўская № 5 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 28 | Фотаздымкі (1) |
| **36** | Навасяд, Уладзімір | Пляханаўская № 10 | ГА «Праваахова спажыўцоў»; аргкамітэт Партыі свабоды і прагрэсу | 42 | Адсутнічае |
| **37** | Несцяронак, Аляксандр | Лошыцкая № 14 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 25 | Адсутнічае |
| **38** | Петражыцкі, Алег | Асаналіеўская № 15 | Беспартыйны | 26 | Адсутнічае |
| **39** | Піліпчук, Аляксандр | Заходняя № 29 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 23 | Адсутнічае |
| **40** | Прасаловіч, Віктар | Трактаразаводская № 57 | Беспартыйны | 51 | Адсутнічае |
| **41** | Пташнік, Ірына | Заходняя № 29 | Беспартыйная | 53 | Фотаздымкі (1); статусы (3); спасылкі на іншыя вэб-старонкі |
| **42** | Радзіонаў, Аляксей | Чкалаўская № 20 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 37 | Адсутнічае |
| **43** | Раманчык, Вераніка | Пляханаўская № 10 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 24 | Адсутнічае |
| **44** | Савановіч, Міхаіл | Кальварыйская № 37 | Беспартыйны | 54 | Адсутнічае |
| **45** | Садоўскі, Дзяніс | Каменнагорская № 32 | Аргкамітэт БХД | 26 | Адсутнічае |
| **46** | Самковіч, Барыс | Купалаўская № 12 | Беспартыйны | 26 | Статусы (2) |
| **47** | Сігаеў, Аляксей | Карбышаўская № 50 | Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) | 29 | Адсутнічае |
| **48** | Скарабагаты, Леанід | Кастрычніцкая № 17 | Беспартыйны | 45 | Адсутнічае |
| **49** | Стаін, Дзяніс | Чыгуначная № 20 | Рэспубліканская партыя | 25 | Адсутнічае |
| **50** | Старавойтава, Ганна | Чырванаборская № 31 | Беспартыйная | 43 | Адсутнічае |
| **51** | Стралкоўскі, Андрэй | Асаналіеўская № 15 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 33 | Адсутнічае |
| **52** | Стралкоўскі, Васілій | Малінінская № 8 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 42 | Адсутнічае |
| **53** | Тарлюк, Сяргей | Ракасоўская № 9 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 30 | Адсутнічае |
| **54** | Ухналёў, Валерый | Акадэмічная № 48 | Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» | 55 | Адсутнічае |
| **55** | Федарэц, Сяргей | Пляханаўская № 10 | Беспартыйны | 34 | Статусы (8) |
| **56** | Фінькевіч, Артур | Убарэвіцкая № 7 | Беспартыйны; «Маладая Беларусь» | 25 | Адсутнічае |
| **57** | Хасіневіч, Вячаслаў | Адоеўская № 36 | Беспартыйны | 42 | Адсутнічае |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **58** | Ціхаміраў, Аляксандр | Машэраўская № 47 | Беспартыйны | 25 | Адсутнічае |
| **59** | Чысты, Андрэй | Лагойская № 44 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 37 | Статусы (1), біяграфія |
| **60** | Шаўцоў, Дзмітрый | Куйбышаўская № 46 | Беспартыйны | 36 | Біяграфія |
| **61** | Шпакоўскі, Аляксандр | Чырванаборская № 31 | Беспартыйны | 25 | Адсутнічае |
| **62** | Шулакоў, Дзмітрый | Васняцоўская № 5 | Беспартыйны | 37 | Адсутнічае |
| **63** | Шумкевіч, Аляксандр | Вяснянская № 39 | Беспартыйны, МХСС «Маладыя дэмакраты» | 27 | Біяграфія |
| **64** | Шыбут, Уладзімір | Карбышаўская № 50 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 29 | Адсутнічае |
| **65** | Шэлег, Міхаіл | Чырванаборская № 31 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 29 | Адсутнічае |
| **66** | Шэўчык, Андрэй | Малінінская № 8 | Аб’яднаная грамадзянская партыя | 36 | Адсутнічае |
| **67** | Ягорава, Ганна | Жудроўская № 35 | Аб’яднаная грамадзянская партыя | 25 | Адсутнічае |
| **68** | Якубоўскі, Сяргей | Маякоўская № 13 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 26 | Біяграфія |
| **69** | Янушкевіч, Віталь | Мендзялееўская № 55 | Беспартыйны | 23 | Адсутнічае |
| **70** | Ясевіч, Дзмітрый | Шабаноўская № 3 | Беспартыйны; «Малады фронт» | 28 | Біяграфія |

### Табліца 10. Кантэнт-аналіз акаўнтаў кандыдатаў на сайце vkontakte.ru

| № | **Прозвішча ды імя кандыдата** | **Назва і нумар акругі** | **Прыналежнасць да партыяў, ГА** | **Узрост** | **Актыўнасць** |
|---|---|---|---|---|---|
| **1** | Арлоў, Арцём | Сухараўская № 30 | Беспартыйны | 24 | Адсутнічае |
| **2** | Бабак, Віктар | Лагойская № 44 | Камуністычная партыя Беларусі | 42 | Адсутнічае |
| **3** | Бандарэнка, Алена | Лошыцкая № 14 | Беспартыйная | 40 | Адсутнічае |
| **4** | Башура, Міхаіл | Нававіленская № 42 | Беспартыйны | 34 | Адсутнічае |
| **5** | Бурая, Таццяна | Мендзялееўская № 55 | Беспартыйная; ГА «Зоасвет»; Моладзь БХД | 25 | Адсутнічае |
| **6** | Вілюха, Арцём | Шугаеўская № 53 | Беспартыйны | 23 | Адсутнічае |
| **7** | Гаршкова, Ганна | Сухараўская № 30 | Беспартыйная | 25 | Закрыты профіль |
| **8** | Губская, Ірына | Шугаеўская № 53 | Аргкамітэт БХД | 18 | Закрыты профіль |
| **9** | Гур, Сяргей | Усходняя № 52 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 31 | Адсутнічае |
| **10** | Дзіянаў, Вячаслаў | Шугаеўская № 53 | Беспартыйны; ГА «Рух будучыні» | 23 | Адсутнічае |
| **11** | Дзявятка, Уладзімір | Багдановіцкая № 45 | Беспартыйны | 21 | Закрыты профіль |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **12** | Зязюльчык, Уладзімір | Старавіленская № 41 | Беспартыйны | 26 | Адсутнічае |
| **13** | Каменева, Любоў | Багдановіцкая № 45 | Аргкамітэт БХД; Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам | 22 | Адсутнічае |
| **14** | Карабкоў, Віталій | Ракасоўская № 9 | Аб'яднаная грамадзянская партыя | 30 | Фота з перадвыбарчым плакатам (1) |
| **15** | Кармазін, Дзмітрый | Аэрафлоцкая № 18 | Беспартыйны | 39 | Адсутнічае |
| **16** | Карповіч, Сяргей | Аэрафлоцкая № 18 | Партыя БНФ, «Моладзь БНФ» | 23 | Закрыты профіль |
| **17** | Касаткіна, Вольга | Лошыцкая № 14 | Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя; ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» | 27 | Адсутнічае |
| **18** | Каспяровіч, Дзмітрый | Куйбышаўская № 46 | Партыя БНФ | 28 | Адсутнічае |
| **19** | Корбан, Алег | Рафіеўская № 25 | Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 25 | Адсутнічае |
| **20** | Контусь, Яўгеній | Нававіленская № 42 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 25 | Адсутнічае |
| **21** | Кудзін, Вадзім | Вяснянская № 39 | Беспартыйны | 21 | Закрыты профіль |
| **22** | Кузняцоў, Эдуард | Мірашнічэнкаўская № 43 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 35 | Фотаальбом (1); запіс на сцяне (1) |
| **23** | Кумец, Уладзімір | Васняцоўская № 5 | Беспартыйны; ГА «Рух будучыні» | 21 | Адсутнічае |
| **24** | Куўшынава, Таццяна | Машэраўская № 47 | Беспартыйная | 30 | Спасылка на сайт кандыдата (1); суполка кандыдата |
| **25** | Лагвінец, Аляксандр | Сухараўская № 30 | Беспартыйны, Рух «За свабоду» | 38 | Запісы на сцяне (3); спасылка на сайт кандыдата (1) |
| **26** | Маеўскі, Гай | Каліноўская № 49 | Беспартыйны | 20 | Закрыты профіль |
| **27** | Масленнікаў, Фёдар | Чыгуначная № 20 | Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 22 | Інфармацыйная суполка кандыдата; фотаальбом (1) |
| **28** | Меляшкевіч, Юрый | Слабадская № 28 | Партыя БНФ, Рух «За свабоду», ГА «Цэнтр падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятыў» | 27 | Адсутнічае |
| **29** | Несцяронак, Аляксандр | Лошыцкая № 14 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 25 | Адсутнічае |
| **30** | Петражыцкі, Алег | Асаналіеўская № 15 | Беспартыйны | 26 | Закрыты профіль |
| **31** | Піліпчук, Аляксандр | Заходняя № 29 | Ліберальна-дэмакратычная партыя | 23 | Адсутнічае |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **32** | Пракапенка, Максім | Грушаўская № 22 | Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» | 31 | Адсутнічае |
| **33** | Пракаповіч, Сяргей | Купалаўская № 12 | Беспартыйны | 21 | Адсутнічае |
| **34** | Радкевіч, Міхаіл | Пушкінская № 38 | Беспартыйны; установа «Сербскі цэнтр» | 20 | Закрыты профіль (усяго 2 профілі) |
| **35** | Рашэтнік, Аляксей | Пляханаўская № 10 | Беспартыйны, ГА «Рух будучыні» | 19 | Закрыты профіль |
| **36** | Садоўскі, Дзяніс | Каменнагорская № 32 | БХД | 26 | Адсутнічае |
| **37** | Сігаеў, Аляксей | Карбышаўская № 50 | Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) | 29 | Адсутнічае |
| **38** | Фабішэўскі, Юрый | Курасоўшчынская № 16 | Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 27 | Адсутнічае |
| **39** | Фінькевіч, Артур | Убарэвіцкая № 7 | Беспартыйны, «Маладая Беларусь» | 25 | Адсутнічае |
| **40** | Ціхаміраў, Аляксандр | Машэраўская № 47 | Беспартыйны | 25 | Адсутнічае |
| **41** | Шаркоў, Арцём | Сухараўская № 30 | Беспартыйны; ГА «Савет малога і сярэдняга прадпрымальніцтва» | 24 | Спасылка на сайт кандыдата (1) |
| **42** | Шумкевіч, Аляксандр | Вяснянская № 39 | Беспартыйны, МХСС «Маладыя дэмакраты» | 27 | Закрыты профіль (усяго 7 профіляў); інфармацыйная суполка (несапраўдная) |
| **43** | Ягорава, Ганна | Жудроўская № 35 | Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 25 | Адсутнічае |
| **44** | Янукевіч, Аляксей | Галадзедаўская № 6 | Партыя БНФ | 33 | Адсутнічае |
| **45** | Янушкевіч, Віталь | Мендзялееўская № 55 | Беспартыйны | 23 | Адсутнічае |
| **46** | Янчурэвіч, Віктар | Каліноўская № 49 | Беспартыйны | 30 | Адсутнічае |

## Табліца 11. Кантэнт-аналіз акаўнтаў кандыдатаў на сайце facebook.com

| **№** | **Прозвішча ды імя кандыдата** | **Назва і нумар акругі** | **Прыналежнасць да партыяў, ГА** | **Узрост** | **Актыўнасць** |
|---|---|---|---|---|---|
| **1** | Ачарэтная, Крысціна | Заслаўская № 40 | Аб'яднаная грамадзянская партыя | 27 | Адсутнічае |
| **2** | Бабак, Віктар | Лагойская № 44 | Камуністычная партыя Беларусі | 42 | Адсутнічае |
| **3** | Башура, Міхаіл | Нававіленская № 42 | Беспартыйны | 34 | Адсутнічае |
| **4** | Губская, Ірына | Шугаеўская № 53 | Аргкамітэт БХД | 18 | Адсутнічае |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 5 | Дзіянаў, Вячаслаў | Шугаеўская № 53 | Беспартыйны, ГА «Рух будучыні» | 23 | Адсутнічае |
| 6 | Дубоўскі, Эдуард | Першамайская № 56 | Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці | 58 | Адсутнічае |
| 7 | Каменева, Любоў | Багдановіцкая № 45 | Аргкамітэт БХД; «Моладзь БХД» | 22 | Адсутнічае |
| 8 | Канапацкі, Вадзім | Першамайская № 56 | Партыя БНФ | 34 | Запісы на сцяне; фотаальбом кампаніі (1) |
| 9 | Касяровіч, Дзмітрый | Куйбышаўская № 46 | Беспартыйны | 28 | Адсутнічае |
| 10 | Корбан, Алег | Рафіеўская № 25 | Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 25 | Адсутнічае |
| 11 | Крыжаноўскі, Яўгеній | Заслаўская № 40 | Беспартыйны | 54 | Адсутнічае |
| 12 | Куўшынава, Таццяна | Машэраўская № 47 | Беспартыйная | 30 | Спасылкі на сайт кандыдата (1) |
| 13 | Куўшынаў, Аляксандр | Машэраўская № 47 | Аб'яднаная грамадзянская партыя | 29 | Адсутнічае |
| 14 | Кучук, Дзмітрый | Масюкоўшчынская № 34 | Беларуская партыя «Зялёныя» | 36 | Адсутнічае |
| 15 | Лагвінец, Аляксандр | Сухараўская № 30 | Беспартыйны; рух «За свабоду» | 38 | Камунікацыя з выбарцамі; відэа з падліку галасоў; асобная суполка кандыдата; фотаздымкі кампаніі; арганізацыя імпрэзаў і рассылка запрашэнняў; запісы на сцяне; спасылка на сайт кандыдата |
| 16 | Лява, Арцём | Ракасоўская № 9 | Партыя БНФ | 33 | Адсутнічае |
| 17 | Масленнікаў, Фёдар | Чыгуначная № 20 | Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 22 | Адсутнічае |
| 19 | Меляшкевіч, Юрый | Слабадская № 28 | Партыя БНФ, Рух «За свабоду» | 27 | Адсутнічае |
| 20 | Навасяд, Уладзімір | Пляханаўская № 10 | Аргкамітэт Партыі свабоды і прагрэсу | 42 | Запісы на сцяне (1) |
| 21 | Петражыцкі, Алег | Асаналіеўская № 15 | Беспартыйны | 26 | Адсутнічае |
| 22 | Рашэтнік, Аляксей | Пляханаўская № 10 | Беспартыйны, ГА «Рух будучыні» | 19 | Адсутнічае |
| 23 | Сяргеенка, Аляксандр | Ангарская № 2 | Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 24 | Адсутнічае |
| 24 | Тыгрыцкая, Аляксандра-Вольга | Першамайская № 56 | Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) | 24 | Запісы на сцяне; фотаздымкі з перадвыбарчым плакатам |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **25** | Фабішэўскі, Юрый | Курасоўшчынская № 16 | Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 26 | Адсутнічае |
| **26** | Фінькевіч, Артур | Убарэвіцкая № 7 | Беспартыйны; «Маладая Беларусь» | 25 | Адсутнічае |
| **27** | Шаркоў, Арцём | Сухараўская № 30 | Беспартыйны; ГА «Савет малога і сярэдняга прадпрымальніцтва» | 24 | Спасылка на сайт кандыдата (1); запіс на сцяне (1) |
| **28** | Ягорава, Ганна | Жудроўская № 35 | Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Маладыя дэмакраты» | 25 | Адсутнічае |
| **29** | Янукевіч, Аляксей | Галадзедаўская № 6 | Партыя БНФ | 33 | Адсутнічае |

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Аляксей Ластоўскі

# Крызіс веды пра Беларусь

Bekus, Nelly *(2010). Struggle Over Identity. The Official and the Alternative «Belarusianness».* Budapest: Central European University

Ужо даўно адзначана, што Беларусь не ўяўляе з сябе асаблівага прадмету зацікаўлення ні для Еўропы, ні для астатняга свету. Пра цікавасць, зразумела ж, кажуць, бо ігнараванне краіны ў непасрэднай блізасці да Еўрапейскага Звязу выглядае не зусім паліткарэктна. Але інтарэс гэты намінальны, бо ён праяўляецца хутчэй у любаванні дзікунскай экзотыкай «апошняй дыктатуры ў Еўропе», чым у спробах аднесціся да Беларусі інтэлектуальна і стратэгічна. У якасці прыкладу можна прывесці практычна поўную адсутнасць акадэмічных і экспертных асяродкаў па-за межамі Беларусі, якія б займаліся вывучэннем нашай краіны. Спецыялістаў па Беларусі можна пералічыць за дзве хвіліны, дый большыня іх займаецца нашаю краінаю ў якасці дадатку да тэматыкі Украіны. І сапраўды, Беларусь – гэта «сэрца цемры» пасярод Еўрапейскага кантыненту, пра яе жудасную ірацыянальнасць лепш забыць ці проста чакаць, калі ж Расія нарэшце верне сваю закінутую правінцыю.

Звычайна такую асіметрыю зацікаўленасці, характэрную не толькі для Беларусі, але і для іншых «посткаланіяльных» краінаў, спрабуюць выправіць эмігранты. Маюцца на ўвазе людзі, якія пакінулі сваю радзіму, але добра яе памятаюць і пры гэтым трапілі ў заходняе акадэмічнае асяроддзе, дзе ім таксама трэба заняць уласную нішу. Чакаць нейкіх тэарэтычных і метадалагічных інавацыяў ад такіх выгнаннікаў ніхто не будзе, а вось зацікаўленасць у эксклюзіўнай інфармацыі пра Богам пакінутыя месцы сапраўды існуе. Часам эміграцыя аказваецца здольнй інстытуцыяналізаваць сваю спецыфічную веду. У якасці добрага прыкладу зноў можна прывесці нашых паўднёвых суседзяў, якія яшчэ за савецкім часам здолелі стварыць два сур'ёзныя акадэмічныя асяродкі: Гарвардскі ўкраінскі даследчы інстытут (Harvard Ukrainian Research Institute), заснаваны ў 1973 г., і Канадскі інстытут украінскіх даследаванняў пры Універсітэце Альбэрты (Canadian Institute of Ukrainian Studies), заснаваны ў 1976 г. Беларусы нічым падобным пахваліцца не могуць. Таму і дагэтуль кожная новая кніга пра Беларусь, што выходзіць на англійскай мове, выклікае нават невялікае здзіўленне.

Можна толькі вітаць з'яўленне кнігі Нэлі Бекус «Барацьба за ідэнтычнасць», да таго ж у даволі прэстыжным выдавецтве Цэнтральнаеўрапейскага ўніверсітэту (Будапешт, Вугоршчына). Цікава, што біяграфія аўтаркі адлюстроўвае адзнача-

ную траекторыю кар'еры вучонага-эмігранта. Часам Нэлі Бекус называе сябе беларускім аўтарам, але ўжо даўна (з 1999 г.) жыве і працуе ў Варшаве. Такая пазіцыя дае магчымасці для пашыранай кампетэнцыі: акрамя непасрэднага ведання беларускага кантэксту можна мець шчыльны кантакт з сучаснымі трэндамі польскай і заходняй навукі.

Зразумела, гэта павышае і патрабаванні да тэксту, вымушае ставіцца да яго больш сур'ёзна. Тым больш, што ўводзіны ў кнігу пачынаюцца з жорсткай канстатацыі праблемнасці вывучэння беларускай посткамуністычнай трансфармацыі, якая праяўляецца ў панаванні шэрагу «базавых ісцінаў», што робяцца ўсё больш самадастатковымі. У якасці адной з такіх аксіяматычных ісцінаў Нэлі Бекус прыводзіць сцверджанне, што недахоп беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці стымулюе беларускі аўтарытарны рэжым. Сапраўды, з фіксацыяй крызісу даследаванняў беларускае ідэнтычнасці, якія робяцца ўсё больш банальнымі і стэрэатыпічнымі і ўсё менш могуць штосьці патлумачыць, можна толькі пагадзіцца. З іншага боку такая заяўка на пачатку кнігі задае і модус чаканняў ад яе зместу. Міжволі ўжо бачацца крытычная рэвізія наяўнага апісання беларускай сітуацыі ды фармуляванне нейкіх новых канцэптуальных падыходаў.

Але ўжо праз два абзацы насцярожаны чытач адчуе расчараванне: «*Мэтаю гэтай працы ёсць прэзентацыя посткамуністычнай Беларусі як публічнай і культурнай прасторы, дзе разгортваецца "барацьба за ідэнтычнасць" паміж афіцыйным і апазіцыйным дыскурсамі і дзе абодва дыскурсы абвяшчаюць сябе адзіным голасам сапраўднай беларускасці*» (с. 4). То бок насамрэч гэтая кніга ўяўляе з сябе разгортванне яшчэ адной «аксіяматычнай ісціны», якая пануе ў шматлікіх іншых публікацыях і беларускіх, і заходніх аўтараў. Але на гэтым кропкі ў рэцэнзіі я ставіць не буду, а ўсё ж такі паспрабую пашукаць на гэтых старонках і залатыя макулінкі сэнсу.

Не дужа ўдалаю падаецца прапанаваная структура кнігі. Пачынаецца праца з апісання асаблівасцяў трайной (палітычнай, эканамічнай і грамадзянскай) трансфармацыі посткамуністычнай Беларусі. У другой главе аўтарка звяртаецца да тэорыі ды разглядае сучасныя падыходы да вывучэння нацыі ды нацыяналізму. У гэтай жа главе яна разглядае і гісторыю беларускага нацыяналізму, асабліва спыняючыся на нацыянальным адраджэнні мяжы XIX–XX стст. і фармаванні беларускай ідэнтычнасці за савецкім часам. У трэцяй, апошняй главе яна зноў вяртаецца да сучаснасці ды апісвае барацьбу двух дыскурсаў за гегемонію над беларускасцю. Такія скокі (сучаснасць–тэорыя–гісторыя–сучаснасць) збіваюць з панталыку, і адыход ад класічнай структуры (тэорыя–метадалогія–гісторыя–сучаснасць) наўрад ці можна лічыць абгрунтаваным.

Такім чынам, кніга пачынаецца з апісання найноўшай гісторыі Беларусі. Нягледзячы на крытычны пасыл, закладзены на пачатку прадмовы, Нэлі Бекус пры напісанні свайго тэксту выбірае стратэгію стварэння паліфанічнага наратыву. Гісторыя таго, як Аляксандр Лукашэнка прыйшоў да ўлады і ўсталяваў аўтарытар-

ны палітычны рэжым, падаецца як адзіны несупярэчлівы аповед, куды ўплятаюцца галасы розных аўтараў. Сама Нэлі Бекус пры напісанні першай главы сыходзіць у пазіцыю метаназіральніка, які з рэчаіснасцю судакранаецца толькі праз апасродкаваныя тэксты (у найлепшым выпадку, праз вынікі сацыялагічных апытанняў). Таму прыход Лукашэнкі да ўлады, сутнасць палітычнага рэжыму ў Беларусі ці асаблівасці посткамуністычнай трансфармацыі падаюцца не як уласны досвед і яго асэнсаванне, а як вынік кампіляцыі рознай аналітычнай літаратуры і звядзення разрозненых пазіцыяў і выказванняў іншых аўтараў у адзіны тэкст. Зноў жа, такі падыход ёсць практычным адмаўленнем ад задачаў крытычнага перагляду поля даследаванняў Беларусі. Замест таго, каб кантэкстуалізаваць веду пра нашу краіну, паказваць абумоўленасць інтэрпрэтацыяў, шукаць разрывы ў цэласнасці рэпрэзентацыяў, аўтарка кнігі «Барацьба за ідэнтычнасць» папросту сшывае свой тэкст са слоў іншых. Пералік розных «лэйблаў» беларускага рэжыму – ці то «суперпрэзідэнцтва», ці то «неакамунізм», ці то «султанізм», ці то «лукашызм» – нагадвае каталагізацыю розных поглядаў. Яны не маюць між сабою сутнасных супярэчнасцяў, а проста рознымі словамі кажуць пра адно і тое ж, што прыводзіць урэшце да спрашчэння рэчаіснасці, якая ўжо зразумелая a priori.

У сваім аналізе посткамуністычнай трансфармацыі Нэлі Бекус звяртаецца да ўжо класічнай схемы транзіту, якая ўключае працэсы дэмакратызацыі палітычнай сістэмы, рынкавых рэформаў у эканоміцы і фармавання грамадзянскай супольнасці. Відавочна, што выпадак Беларусі ніяк не хоча ўлазіць ў пракруства ложа транзіталогіі. Таму цалкам слушнаю выглядае прыведзеная ў тэксце крытыка гэтай парадыгмы Крыстыянам Гэрпфэрам (Christian Haerpfer): ён у якасці альтэрнатывы прапаноўвае «трансфармацыйны падыход» (transformation approach), што адмаўляецца ад загадзя вызначаных мэтаў для працэсу зменаў. Аднак дэкларатыўная згода з такім падыходам падрываецца ўласна апісаннем трайной трансфармацыі, выкананым усё ж згодна са стандартамі транзіталогіі, дзе мэты якраз ёсць строга вызначанымі.

Так, афармленне беларускай палітычнай сістэмы апісваецца аўтаркай як разбурэнне дэмакратычных прынцыпаў і канцэнтрацыя ўлады ў прэзідэнцкіх руках, што зноў жа разумецца як адхіленне ад «ідэальнай» лініі дэмакратызацыі. Эканамічнае развіццё Беларусі ўсё ж падаецца больш амбівалентным, бо адсутнасць патрэбных рынкавых рэформаў суправаджаецца эканамічнаю стабільнасцю і нават развіццём, хоць тлумачыцца такі «эканамічны цуд» зноў жа праз банальную версію пра залежнасць ад падтрымкі Расіі. І нарэшце, развіццё грамадзянскай супольнасці апісваецца як рэпрэсіўны працэс выцяснення недзяржаўных арганізацыяў з публічнай сферы ў паралельны свет «па-за ўладаю».

Хоць, як ужо было пазначана, корпус літаратуры па Беларусі не такі ўжо і вялікі, але менавіта гэтыя тэмы разабраныя даволі дэталёва. На шчасце, аўтарка кнігі не абмяжоўваецца шэраговым апісаннем гэ-

тых вядомых працэсаў, а спрабуе ісці далей, шукаючы перадумовы ўсталявання аўтарытарызму. Разуменне нашай краіны як нейкага адмысловага выключэння з агульных працэсаў (гэтая візія найбольш пашыраная ў заходняй аналітыцы) патрабуе і пошуку нейкага спецыфічнага комплексу прычынаў для такога ўнікальнага шляху. Зразумела, што некаторыя з пералічаных Бекус прычынаў – няздатнасць дэмакратычнага руху часоў позняй перабудовы перахапіць уладу ці адсутнасць папярэдняй дэмакратычнай дзяржаўнасці – прадстаўленыя ў рэгіёне і наўрад ці могуць сапраўды патлумачыць выключ(а) насць Беларусі. Адным з найбольш важкіх аргументаў для казусу Беларусі зрабілася пазначэнне пазітыўнага досведу савецкага часу, і гэты сюжэт адмыслова разгортваецца ў другой главе кнігі.

Цікава, што аўтарка шукае перадумовы і для дэмакратызацыі, пры гэтым зноў жа яўна апелюючы да патрэбнай і вызначанай мэты посткамуністычнай трансфармацыі ў Беларусі. Адным з ключавых момантаў для Нэлі Бекус выступаюць вынікі даследавання індэксу дэмакратыі, праведзенага ў 15-ці краінах паміж 1991 і 1998 гг. пад кіраўніцтвам усё таго ж Крыстыяна Гэрпфэра (Haerpfer, 2002). Паводле вынікаў, беларусы ў сваіх палітычных прэферэнцыях адныя з найбольш «дэмакратычных» нацыяў у Сярэдне-Усходняй Еўропе і саступаюць толькі эстонцам.

Вынікі гэтага даследавання вельмі часта сустракаюцца на старонках кнігі «Барацьба за ідэнтычнасць», ствараючы ўрэшце ўражанне, што мы маем справу не з нейкаю фіксаваною сацыёлагамі ў акрэслены перыяд тэндэнцыяй, а з натуральным фактам, уласцівай беларусам характарыстыкай. Наогул, вельмі часта ў тэксце сустракаецца рознага кшталту сацыялагічная інфармацыя, што зусім не здзіўляе, бо аўтарка мае навуковую ступень па сацыялогіі. З іншага боку манера прэзентацыі гэтай інфармацыі мае пэўныя хібы, якія можна акрэсліць як прымат сінхроннасці ды грэбаванне кантэкстам. Вынікі апытанняў розных гадоў (і розных даследчых інстытутаў) падаюцца ў тэксце ўперамешку, без храналагічных сувязяў, што часам стварае ўражанне нейкай застылай карцінкі Беларусі, дзе нічога не адбываецца і не змяняецца.[1]

То бок Нэлі Бекус ідзе па шляху камбінавання гетэрагеннай інфармацыі ў нібыта гамагеннае апісанне,

[1] У якасці прыкладу можна прывесці параграф «Нацыянальны гонар і парадоксы русіфікацыі» (с. 65–71), які ў найбольшай ступені насычаны вынікамі розных сацыялагічных даследаванняў. У гэтым тэксце прыводзяцца звесткі даследаванняў (пералік адпавядае кніжнаму) 2005, 2001, 2005, 1995–1998, 2005, 1992–1993, 1996 гг. – гэта вынікі НІСЭПД, «World Values Survey» і польскіх сацыёлагаў. Да таго ж у гэтым параграфе разглядаецца толькі пытанне гонару за краіну сярод беларусаў, а пра парадоксы русіфікацыі гаворка ідзе ў наступным параграфе «Парадоксы палітычнай і лінвістычнай русіфікацыі», так што ёсць відавочная праблема і з суаднясеннем назвы гэтага параграфу і яго зместу. У якасці больш пазітыўнага прыкладу выкарыстання сацыялагічнай інфармацыі можна назваць папярэдні параграф «Расійскі фактар у самаўспрыняцці беларусаў», дзе сапраўды адсочваюцца працэсы зменаў, хоць і ў характэрным стылі «міксту».

статычнае і пазбаўленае дынамікі, што ёсць відавочным скажэннем метадалагічных стандартаў сацыялагічнай навукі. Акрамя таго, у кнізе можна сустрэць і проста грубыя памылкі пры выкарыстанні сацыялагічных звестак. Так, на с. 4 падаецца лічба 58% выбарцаў, якія ў 2006 г. прагаласавалі за Лукашэнку (паводле вынікаў даследавання НІСЭПД), у той жа час на с. 21 зноў падаецца тая ж інфармацыя, але лічба змяняецца да 63 %. Часта ў тэксце сустракаюцца вынікі сацыялагічных даследаванняў без пазначэння года правядзення як неістотнай інфармацыі (даводзіцца шукаць у першакрыніцах).

Але вернемся да зместу кнігі. Адным з найбольш цікавых месцаў, на мой погляд, ёсць параграф «Аргументы і парадоксы слабой беларускай ідэнтычнасці», дзе Нэлі Бекус цалкам справядліва і слушна аспрэчвае адну з «аксіяматычных ісцінаў» даследаванняў Беларусі пра тое, што поспех аўтарытарнага рэжыму вынікае са слабой нацыянальнай ідэнтычнасці. Выкарыстанне багатага сацыялагічнага матэрыялу дазваляе заўважыць тры тэндэнцыі, якія ставяць пад сумнеў гэтую тэзу:

1) паступовы адыход беларускага насельніцтва ад падтрымкі аб'яднаўчага праекту з Расіяй і ўсведамленне каштоўнасці дзяржаўнай незалежнасці;

2) узмацненне грамадзянскай ідэнтычнасці і гонару за сваю краіну сярод жыхароў Беларусі;

3) хібнасць палітычна-лінгвістычнай дыверсіфікацыі беларускай прасторы, дзе беларускамоўныя жыхары атаясамліваюцца з дэмакратычнай апазіцыяй, а рускамоўныя – з прыхільнікамі Лукашэнкі.

Грунтаванне на сацыялагічнай інфармацыі дазваляе Бекус цалкам справядліва паставіць пад сумнеў агульнапрынятыя меркаванні пра нягегласць і недаразвітасць беларускай ідэнтычнасці. Адзінае, што фіксацыя найбольш відавочных фактаў, якія падрываюць гэтую тэорыю, не закранае базісу такой стэрэатыпізацыі Беларусі, угрунтаванай у прадукаванні дамінуючай веды, дзе вызначаюцца мэты і прыярытэты, а тое, што аддаляецца ад інструкцыяў, кляймуецца і стыгматызуецца. Але варты падтрымкі сам крок, зроблены Нэлі Бекус у аспрэчванні гэтай не толькі састарэлай, але і шкоднай схемы.

У другой жа главе аўтарка аддаляецца ад непасрэднага аналізу сітуацыі ў Беларусі, спрабуючы найперш вызначыцца з тэарэтычнымі падыходамі да нацыі ды нацыяналізму (хоць, зноў жа, гэта лепш было зрабіць на пачатку кнігі). Падобнай праблематыцы прысвечаны вялікі корпус грунтоўных працаў, таму ад гэтай часткі кнігі асаблівых адкрыццяў чакаць не даводзіцца. Адзначым толькі, што сучаснае разуменне нацыяў і нацыяналізму аўтарка зводзіць да двух асноўных падыходаў: мадэрнісцкага (Э. Гелнэр, Э. Хабсбаўм) і этнасімвалічнага (Э. Сміт, М. Грох). Нэлі Бекус, апісваючы, на яе думку, два асноўныя падыходы, зноў змяшчаецца ў сваю любімую пазіцыю мета-назіральніка, які прыводзіць набор розных меркаванняў, але з такога месца выбраць нейкі акрэслены падыход для ўласнай працы робіцца немагчымым. Адсюль натуральным чынам паўстае меркаванне, што для аналізу

беларускай сітуацыі варта ўжываць і мадэрнісцкі, і этнасімвалічны падыход, кожны з якіх мае сваю праўду.

У другой палове гэтай главы Н. Бекус спрабуе падсумаваць напрацоўкі сучасных даследаванняў, прысвечаных ажыццяўленню савецкай нацыянальнай палітыкі. Для аўтарскага разумення развіцця беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці істотным робіцца той фундаментальны пераварот у савецкіх штудыях, які ажыццявіўся за два мінулыя дзесяцігоддзі і звязаны перадусім з імёнамі амерыканскіх даследнікаў: Т. Марціна, Р. Суні, Р. Брубэйкера.[2] Савецкі Саюз апісваецца цяпер пераважна не як рэпрэсіўная імперыя, што жорстка падаўляла нацыянальныя амбіцыі паняволеных народаў, а як дзяржава, дзе былі створаныя інстытуцыйныя перадумовы для развіцця спектру нацыянальных ідэнтычнасцяў, што ўрэшце прывяло да ўзнікнення належных магчымасцяў для паўставання нацыянальных дзяржаваў.

Гэты падыход у дачыненні гісторыі БССР, у прыватнасці, плённа выкарыстаў у сваім артыкуле Сяргей Богдан, даводзячы, што савецкая нацыянальная палітыка шмат у чым спрыяла развіццю беларускасці, хоць, зразумела, у рэдукаванай пад сацыялістычную ідэалогію форме. На жаль, ягоны артыкул «БССР і беларускі нацыяналізм» (Богдан, 2009) выйшаў не так даўно, таму Нэлі Бекус не магла ім скарыстацца, і яе тэкст выглядае больш падобным да схематычнай рэтрансляцыі напрацовак аўтараў-першапраходцаў на беларускі матэрыял. З іншага боку высновы кшталту «*ўвесь перыяд савецкай улады можа разглядацца як спецыфічны працэс афармлення беларускай нацыі, інкарпараванай у ідэалагічную схему савецкага рэжыму*» (с. 133), пакуль яшчэ выглядаюць свежым дыханнем у асвятленні перыяду БССР. Будзем спадзявацца, што кніга «Барацьба за ідэнтычнасць» таксама паспрыяе даўно наспеламу перагляду гісторыі савецкага перыяду, якая пакуль найперш вызначаецца ў рыторыцы змагання ці апалагетыкі, хоць ужо настаў час прааналізаваць гэты перыяд больш аб'ектыўна.

І нарэшце, трэцяя глава складаецца з вынікаў уласных даследаванняў Нэлі Бекус, і той, хто ўжо стаміўся ад пераказвання думак іншых аўтараў, можа звярнуцца да арыгінальных высноваў. На вялікі жаль, нічога якасна новага ў беларускія даследаванні аўтарка прыўнесці так і не змагла. Асноўная канцэптуальная ідэя – што ў сучаснай Беларусі за культурна-палітычную гегемонію змагаюцца дзве версіі нацыянальнай ідэі (афіцыйная і альтэрнатыўная) – ужо таксама прэтэндуе на статус змярцвелай «аксіяматычнай ісціны». Тая істотная змена ў канцэптуалізацыі, якую Нэлі Бекус прыводзіць у сваю заслугу, а менавіта тое, што адну нацыянальную ідэю яна замяняе дзвюма (то бок надае афіцыйнаму праекту таксама статус нацыянальнага, які за ім прызнаюць не ўсе даследнікі), ужо даўно зрабілася відавочнаю.

Таму і гэтая кніга становіцца ў шэраг шматлікіх даследаванняў Беларусі, дзе наша краіна апісваецца як прастора, падзеленая паміж су-

[2] Гл.: Martin, 2001; Suny, 1998; Brubaker, 1996.

працьлеглымі «дыскурсамі», кожны з якіх валодае сваёй логікаю, мэтамі і каштоўнасцямі, практыкамі і магчымасцямі інстытуцыйнага ўвасаблення. Гэта прыводзіць да непазбежнай рэдукцыі складанай рэчаіснасці, з выключэннем усіх феноменаў, якія існуюць «паміж», з тэндэнцыяй ігнаравання ўзаемадзеянняў і ўзаемаўплываў, трансфераў і запазычанняў (але ж, як мы памятаем, аўтарка мае схільнасць да статычных карцінак, таму тут няма чаму здзіўляцца).

Апісанне гэтых двух модусаў нацыянальнай ідэі пачынаецца з пераказу спрэчак між афіцыйнаю і альтэрнатыўнаю гістарыяграфіяй. На жаль, гэта яшчэ адна базавая схема, якая, хоць актыўна і выкарыстоўваецца ў працах шматлікіх паважаных аўтараў (Р. Ліндэр, Г. Сагановіч, А. Смалянчук, А. Катлярчук), відавочна страціла ўсялякую эўрыстычную рэлевантнасць. У апісанні Нэлі Бекус гэтая аджылая схема яшчэ больш прымітывізуецца і ператвараецца ў суцэльны шаблон, які да таго ж выклікае шэраг абгрунтаваных сумненняў у метадалагічным плане. Па-першае, вельмі размытымі застаюцца крытэры падзелу паміж афіцыйнай і альтэрнатыўнай школамі, і спасылка на тое, што гісторыкаў падзяляюць геапалітычныя арыентацыі (адныя падтрымліваюць версію пазітыўнага расійскага ўплыву, а другія яго аспрэчваюць), яўна не дастатковая для абгрунтавання такога падзелу. Да таго ж параўнанне праводзіцца пераважна на падставе тэкстаў, напісаных у розныя часы і ў розных жанрах, што ёсць некарэктным. Ствараецца ўражанне, што аўтарка спрабавала прэзентаваць дзве максімальна супрацьлеглыя версіі беларускай гісторыі, і ахвяраю чысціні рэпрэзентацыі гэтага супрацьстаяння зрабілася сама гістарыяграфія.

Напрыклад, Нэлі Бекус падкрэслівае, што ў афіцыйнай гісторыі перыяд уваходжання тэрыторыі Беларусі ў склад Рэчы Паспалітай ацэньваецца негатыўна, а прыхільнікі альтэрнатывы разглядаюць яго ў пазітыўным ключы. Ужо нават па гэтым тэзісе любы чалавек, які больш-менш ведае развіццё і стан беларускай гістарыяграфіі, можа зразумець ступень спрашчэння і скажэння зместу дыскусіяў і фармавання пазіцыяў. Зразумела, што немагчыма апісаць гістарыяграфію без працэдураў рэдукцыі, але ў названым выпадку гэта прыводзіць да поўнага вынішчэння сутнасці.

Далей, у наступным параграфе, альтэрнатыўны праект беларускай нацыі распадаецца на дзве плыні. Адна з іх апісваецца як уласна «еўрапейскі» праект, што разглядае Беларусь як еўрапейскую краіну. Артыкуляцыя гэтага праекту грунтуецца на шэрагу асноўных прынцыпаў: ліберальна-дэмакратычная інтэрпрэтацыя нацыі (нацыя можа быць пабудаваная толькі на дэмакратычнай аснове), бачанне беларускага мінулага як часткі еўрапейскай гісторыі з агульнымі палітычнымі ды маральнымі каштоўнасцямі і геапалітычная арыентацыя на Захад. Але Нэлі Бекус на гэтым не спыняецца і вылучае яшчэ адну версію альтэрнатыўнай «беларускасці», якая грунтуецца на бачанні Беларусі як краіны, не прыналежнай ні Усходу, ні Захаду. Беларусь у такой інтэрпрэтацыі ляжыць на сутыку дзвюх цывілізацыяў, але

не належыць цалкам ніводнай з іх, асуджаная на пошукі ўласнага шляху.

Такі падзел, на маю думку, выглядае штучным і выклікае пярэчанні. Ужо напачатку даследніца сцвярджае, што «*два альтэрнатыўныя канцэпты беларускасці не толькі не супярэчаць адзін аднаму, але і часта аб'ядноўваюцца ў сваёй апазіцыі да прарасійскасці, якая дамінуе ў афіцыйнай культуры і палітыцы*» (с.156). Насамрэч, рытарычны заклік да «еўрапейскага» ці «міжцывілізацыйнага статусу» Беларусі не ёсць падставай, якая абумоўлівае адрозненні ў бачанні мінуўшчыны, сучаснасці і будучыні нашай краіны (і тым самым вызначае палітычныя і культурныя прэферэнцыі). Гэтыя дзве рэпрэзентацыі ўжо ператварыліся ў стандартныя клішэ і спакойна могуць падмяняцца і нават ужывацца побач. І ў такой якасці яны могуць выкарыстоўвацца з рознымі палітычнымі мэтамі, у тым ліку і ў некаторых фармулёўках дзяржаўнай ідэалогіі. Можна лёгка падабраць набор цытатаў Аляксандра Лукашэнкі, дзе ён кажа пра «еўрапейскасць» Беларусі або пра тое, што нашай краіне наканавана звязваць Захад і Усход. Адпаведна, мы маем справу не з «дыскурсіўнымі стратэгіямі», як імкнецца паказаць Нэлі Бекус, а ўсяго толькі з рытарычнымі фігурамі.

Уласна, і ў параграфе, прысвечаным беларускай дзяржаўнай ідэалогіі, аўтарка імкнецца да цэласнасці рэпрэзентацыі аб'екту, які ёсць эклектычным і супярэчлівым. На жаль, не паказваюцца вытокі гэтых супярэчнасцяў, шляхі камбінаторыкі і барацьба інтарэсаў, закладзеныя ў праект напісання дзяржаўнай ідэалогіі, затое цалкам слушна падкрэсліваецца прымат ідэі дзяржаўнай незалежнасці, які закладаецца ў гэты канструкт. Таму Нэлі Бекус і запісвае афіцыйную ідэалогію да нацыянальных ідэяў, і тут трэба з ёю пагадзіцца.

Далей аўтарка пераходзіць да апісання культурных маніфестацыяў альтэрнатыўнай беларускасці. На жаль, пачатковая ўстаноўка на строгую канфрантацыю апазіцыйных версіяў адыграла тут сваю негатыўную ролю, бо метафара палярызацыі зноў жа адмаўляе любую дынаміку, якая ўсё-ткі мае месца ў нашай краіне. Напрыклад, адною з такіх праяваў альтэрнатыўнай беларускасці Нэлі Бекус лічыць фільм Андрэя Кудзіненкі «Акупацыя. Містэрыі» і піша пра забарону кінастужкі ў афіцыйнай культурнай прасторы з прычыны відавочнай канфліктнасці з базавымі ідэямі афіцыйнай беларускасці. І публічны лёс гэтага фільму быццам характэрны для ўсёй альтэрнатыўнай беларускасці, выціснутай з публічнай прасторы. Але развіццё падзеяў ставіць гэтыя высновы пад сумнеў: кніга «Барацьба за ідэнтычнасць» пабачыла свет 1 траўня 2010 г., а ўжо летам гэтага года забарона на паказ фільму ў Беларусі была знятая, яго прадэманстравалі ў кінатэатрах і, больш за тое, паказалі на дзяржаўным тэлебачанні ў прайм-тайм. А сам Кудзіненка ўжо некалькі гадоў сябруе з Уладзімірам Замяталіным, дырэктарам «Беларусьфільму», і відавочна знаходзіцца ў фаворы дзяржаўнага кінематографу. Ці адлюстроўвае гэты факт таксама стан беларускай альтэрнатыўнай культуры?

Фактычна, толькі прыклад «Вольнага тэатру» сапраўды падпадае пад зададзеную інтэрпрэтацыю альтэрнатыўнай культуры, бо гэты праект удала спекулюе на сваёй рэпрэсаванасці ды прасоўванні дэмакратычных і еўрапейскіх ідэалаў ва «ўмовах дыктатуры». Яшчэ адзін прыклад альтэрнатыўнай беларускасці – рэканструктарскі рыцарскі рух – хутчэй разбурае візію двух варожых лагераў, бо ён не пабудаваны ў палітычнай логіцы (улада / апазіцыя), мае іншыя вытокі ды ўключае ў сябе разнастайнасць формаў. Гэта хутчэй адзін з тых феноменаў «паміж», на якіх переважна і будуецца беларуская культура, але іх імкнуцца не заўважаць аналітыкі, што спрабуюць усімі магчымымі сродкамі знайсці канфлікт і супрацьстаянне. Сама Нэлі Бекус разумее, што прыклад рэканструктарскага руху не дужа адпавядае выстаўленым ёй крытэрыям, але гэта не робіцца для яе нагодаю, каб адмовіцца ад агульнай схемы двух дыскурсаў. Шкада.

Заканчваецца кніга апісаннем афіцыйнай палітыкі ідэнтычнасці, якая прадстаўляецца праз стандартныя знакі: фестываль «Славянскі базар», фільм «Анастасія Слуцкая», дзяржаўныя святкаванні. Кантроль над інстытуцыйнымі рэсурсамі дазваляе дзяржаве цалкам паспяхова ажыццяўляць сваю «нацыянальную ідэю», якая засноўваецца на пачуцці прыналежнасці да беларускага народу як крыніцы дзяржаўнага суверэнітэту.

Падсумоўваючы, можна вітаць публікацыю гэтай кнігі, бо для англамоўнага чытача веда пра Беларусь вельмі абмежаваная – як па аб'ёме, так і па якасці. Але паводле сваёй сутнасці «Барацьба за ідэнтычнасць» ёсць хутчэй спадчынніцаю тых заганаў корпусу даследаванняў Беларусі, пра якія Нэлі Бекус піша ў прадмове да сваёй працы. Яна спрабуе артыкуляваць тыя моманты, якія да гэтага часу не былі адэкватна ўспрынятыя шмат якімі даследнікамі (спецыфічнае значэнне савецкага досведу для фармавання беларускай ідэнтычнасці ці ўключанасць нацыянальных інтарэсаў у фундамент дзяржаўнай ідэалогіі). Але бальшыня базавых схемаў, якія ўжывае аўтарка, яўна аджылі сваё і патрабуюць крытычнага перагляду. Найбольш крыўдна тое, што ўласна даследніцкая частка кнігі (трэцяя глава), якая разглядае змаганне афіцыйнай і альтэрнатыўнай версіяў беларускасці, канцэптуальна хібная і слаба прапісаная. Таму мы атрымалі хутчэй працу, якая падсумоўвае крызісныя моманты ў вывучэнні і рэпрэзентацыі беларускай сітуацыі ды ёсць моцным аргументам для наспелай рэвізіі гэтага поля. А спадзяванні былі куды большыя – на даследаванне, якое б адкрыла новыя дагляды ў разуменні Беларусі.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**


1. Brubaker, R. (1996). *Nationalism Reframed. Nationhood and nationalism in the New Europe.* Cambridge University Press.
2. Haerpfer, C.W. (2002). *Democracy and Enlargement in Post-Communist Europe: The Democratization of the General Public in 15 Central and Eastern European Countries, 1991–1998.* New York.
3. Martin, T. (2001). *Affirmative Action Empire. Nations and Nationalism in the Soviet Union, 1923–1939.* Cornell University Press
4. Suny, R. (1998). The Soviet Experiment: Russia, the USSR, and the Successor States. Oxford University Press.
5. Богдан, С. (2009). «БССР и белорусский национализм». *Перекрестки*, № 1–2: 101–133.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Віктар Кавалёў

# Тэорыя і метадалогія асобнай кафедры

Решетников, С.В. (2009). *Политическая наука в БГУ: теоретико-методологические и прикладные аспекты*. Минск: БГУ. 175 с.

Паводле афармлення выданне выглядае навуковым, што пацвярджаюць адпаведны надпіс на апошняй старонцы і наяўнасць двух рэцэнзентаў: доктара філасофскіх навук Льва Крыштаповіча і доктара гістарычных навук Алега Бухаўца. Але пры гэтым цяжка было б сфармуляваць анатацыю, якая б яшчэ менш адлюстроўвала змест. Кніга відавочна не раскрывае «сучаснага этапу развіцця паліталогіі ў Рэспубліцы Беларусь», яна ў прынцыпе прысвечаная іншаму. Больш дакладная назва магла б гучаць наступным чынам: «Кафедра паліталогіі БДУ: арганізацыйныя і метадычныя дакументы». Паводле свайго характару выданне хутчэй прэзентацыйнае і можа быць цікавае галоўным чынам для супрацоўнікаў кафедры, выпускнікоў і, магчыма, абітурыентаў, а не для *спецыялістаў у галіне палітычных навук, а таксама практыкуючых палітыкаў* (с. 4). Аўтарскага тэксту там практычна няма (толькі невялікія ўводзіны), і асноўнае месца займаюць дакументы вельмі рознага характару і прызначэння.

Структура кнігі апісваецца наступным чынам: «*У першай главе разглядаюцца пытанні, звязаныя з развіццём паліталогіі як навучальнай дысцыпліны і дысцыпліны спецыялізацыі; у другой главе – праблемы развіцця паліталогіі як навуковай галіны, як галіны падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі. У кнізе ўтрымліваюцца звесткі пра прадстаўнікоў паліталагічнай супольнасці Беларусі, інфармацыя пра выпускнікоў кафедры паліталогіі БДУ, абароненыя дысертацыі за апошнія 16 гадоў*» (с. 4). Але гэта не зусім дакладна адлюстроўвае змест.

У кнізе можна знайсці цэлую калекцыю метадычных матэрыялаў: апісанне кваліфікацыйнай характарыстыкі «палітолаг-юрыст», планы навучальных курсаў і нават спіс тэмаў курсавых і дыпломных праектаў на дзесяці старонках (с. 56–66). Уся гэтая спецыфічная і вузкаспецыялізаваная інфармацыя складае першую главу працы.

Другую главу адкрываюць два інтэрв'ю ўкладальніка,[1] загадчыка кафедры паліталогіі БДУ Сяргея Рашэтнікава: газеце «Звязда» (1997) і перыёдыку «Проблемы управления» (2002). Пасля ізноў ідуць метадычныя матэрыялы, якія раскрываюць змест навучальных праграмаў паліталогіі. У главе таксама змешчаныя дакументы, звязаныя з даследчаю і навуковаю дзейнасцю: заяўка на атрыманне фінансавання ад Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў, анкета навуковай школы кафедры паліталогіі БДУ, статутныя дакументы Беларускай акадэміі палітычных навук (грамадскае аб'яднанне, створанае ў 1990-я гг.), інфармацыя аб працы саветаў па абароне дысертацыяў. Напрыканцы падаюцца кароткія біяграфічныя звесткі прадстаўнікоў паліталагічнае супольнасці Беларусі, як яе вызначае ўкладальнік, і спіс выпускнікоў кафедры паліталогіі БДУ з 1997 да 2007 г.

Выданне пакідае вельмі дзіўнае ўражанне. З аднаго боку, кніга ўтрымлівае матэрыял, на падставе якога можна аналізаваць развіццё палітычнай навукі Беларусі (дакладней, аднаго яе сегменту), але пры гэтым змешчаныя дакументы разнародныя, часта малаінфарматыўныя і бюракратычныя, з яўным ухілам у навучальны працэс, а публікацыя шэрагу матэрыялаў выклікае здзіўленне. Акрамя гэтага, далёка не заўсёды пазначаецца дата складання дакументаў, у які перыяд і для каго яны мелі сілу.

Калі змешчаная інфармацыя адэкватна адлюстроўвае працу кафедры, то вынікі яе дзейнасці падаюцца вельмі аднабаковымі: складаецца адчуванне (якое цалкам пацвярджаецца падрабязным аналізам тэкстаў), што кафедра ўстойліва функцыянуе выключна як метадычная і адукацыйная ўстанова. Шкада, бо ў 1990-я гг. на кафедру і супольнасць, якая паўставала вакол яе, ускладаліся вялікія акадэмічныя надзеі.

Дэталёвы аналіз апублікаваных у кнізе дакументаў дазваляе скласці пэўнае ўражанне пра развіццё палітычнае адукацыі ды навукі на кафедры паліталогіі БДУ, яе логіку і акадэмічны стыль. Пакідаючы па-за ўвагай адукацыйныя аспекты – як другасныя для вызначэння акадэмічнага статусу ўстановы – звернем асаблівую ўвагу на наступныя істотныя моманты: апісанне месца і ролі кафедры ў паліталагічнай супольнасці Беларусі ды развіццё і кірункі навуковае дзейнасці.

Першае, што кідаецца ў вочы: логіка кнігі цалкам выключае з поля «палітычнай навукі» БДУ міжнародныя адносіны (адпаведны факультэт і кафедры), паліталогію на гістарычным факультэце, а таксама іншыя формы даследавання (выкладання) палітыкі. Палітычная навука ў БДУ, на думку Рашэтнікава, раўняецца кафедры паліталогіі, цягам усёй кнігі падкрэсліваецца выключнасць і ўнікаль-

[1] У звязку з тым, што аўтарскага тэксту ў кнізе практычна няма (яна складаецца пераважна з дакументаў), нам падаецца больш правільным весці размову не пра аўтара, а пра ўкладальніка выдання.

насць кафедры. Больш за тое, часам ствараецца ўражанне, што кафедра паліталогіі БДУ, паліталогія ў БДУ і паліталогіі ў Беларусі ў цэлым – гэта адное і тое ж. Праўда, з іншых публікацыяў супрацоўнікаў кафедры можна даведацца, што ў Беларусі склаліся дзве школы паліталогіі: адпаведная кафедра БДУ і Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце (Решетников и др., 2009). Сума гэтых дзвюх школаў, трэба думаць, ужо амаль на 100% мусіць складаць беларускую паліталогію.

Такое вузкае кола дысцыпліны ў дзесяцімільённай краіне можа выклікаць сум, але, здаецца, супрацоўнікам кафедры яно толькі дадае адчуванне выключнасці і ўнікальнасці. Як бачна, сюды нават не трапляюць значныя дзяржаўныя асяродкі, якія належаць да political science у звычайным значэнні. Пра недзяржаўныя цэнтры размовы няма ў прынцыпе.

Асаблівай увагі ў звязку з гэтым заслугоўвае акрэсленне ў кнізе паняцця «паліталагічная супольнасць». «*Кніга ўтрымлівае звесткі аб прадстаўніках паліталагічнае супольнасці Беларусі*» (с. 4). Такім чынам пазначаецца ў прадмове задача, якой прысвечаны адмысловы раздзел (с. 148–170). Дык як выглядае паліталагічная супольнасць Беларусі, хто ў яе трапляе і на якіх падставах? Па-першае, выданне ўключае ў яе ўсіх дактароў палітычных навук, якія абараніліся ў БДУ, незалежна ад таго, ці звязаныя яны з кафедраю і ці займаюцца навуковаю дзейнасцю. У пералік уваходзіць нават Вячаслаў Агееў з Калінінградскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэту (Расія), для якога Беларусь – гэта толькі месца абароны дысертацыі.

Акрамя дактароў навук у паліталагічную супольнасць Беларусі трапляюць усе выкладчыкі кафедры паліталогіі – ад прафесараў да асістэнтаў, незалежна ад наяўнасці ступені, публікацыяў і досведу працы. Дактары і выкладчыкі дапаўняюцца заснавальнікам кафедры паліталогіі Аляксандрам Байчоравым і невялікаю дадатковаю групай асобаў: Алена Дастанка (факультэт міжнародных адносінаў БДУ), Уладзімір Падкапаеў (Нацыянальная акадэмія навук Беларусі) і Аляксандр Дарашэнка (Еўразійская сетка палітычных даследаванняў). Першыя двое ўвайшлі ў гэты спіс, відавочна, на падставе таго, што іхным навуковым кіраўніком быў Сяргей Рашэтнікаў. Гэтым склад беларускай паліталагічнай супольнасці абмяжоўваецца. Гэта значыць, істотная частка, калі не большасць, навукоўцаў, якія працуюць у дысцыпліне political science, проста не згадваецца. Гэта ў поўнай ступені датычыць як дзяржаўных, так і недзяржаўных навучальных і даследчых інстытуцыяў. Што, у прынцыпе, адпавядае логіцы ўнікальнасці і цэнтральнасці кафедры паліталогіі БДУ, у адпаведнасці з якой складзенай кніга.

Прэзентацыя навуковай дзейнасці ў выданні выглядае таксама вельмі дзіўна, прынамсі значных відавочных вынікаў такой працы не дэманструецца – і гэта ва ўстанове, якая прэтэндуе на статус «школы» і асноўнага цэнтру палітычнай навукі ў Беларусі.

Стан даследчай дзейнасці можна ацаніць на аснове «Анкеты навуковай школы ў галіне палітычных навук» (такая школа, як сцвярджаецца, склалася на кафедры паліталогіі БДУ). Дакумент датуецца 29 лістапада 2006 г. Асноўныя даследчыя кірункі фармулююцца наступным чынам: сацыяльна-палітычныя аспекты палітычных даследаванняў, методыка і тэхніка палітычных даследаванняў, параўнальныя даследаванні палітычных сістэмаў (с. 115). Але, як падаецца, збольшага гэты спектр застаецца дэкларатыўным.

Напрыклад, п. 17 (с. 120–121) паказвае, што за пяць гадоў працы школы (2001–2006 гг.) выйшлі дзесяць манаграфіяў, дзесяць падручнікаў і навучальных дапаможнікаў, дваццаць чатыры метадычныя дапаможнікі ды чатыры навучальныя праграмы дысцыплінаў. Такім чынам, уласна навуковая прадукцыя складае дзесяць манаграфіяў (у сярэднім дзве манаграфіі на год), пры гэтым колькасны склад школы – сорак чалавек. Калі паглядзець на спіс асноўных публікацыяў за апошнія пяць гадоў, то ён пакідае яшчэ больш дзіўнае ўражанне. Пералік уключае дзевяць пазіцыяў, пры гэтым дзве манаграфіі напісаныя расійскім аўтарам, Вячаславам Агеевым (Агеев, 1997; Агеев, 2001). Акрамя гэтага дзве кнігі са спісу былі напісаныя ў 1996 г. (Землякоў, 1996a; Землякоў, 1996b), такім чынам, у 2001–2006 гг. сорак навукоўцаў школы выдалі толькі пяць манаграфіяў. Больш за тое, калі выключыць са спісу кнігі, што выйшлі ў 2001 г. і відавочна былі напісаныя да пачатку наступнай «пяцігодкі», манаграфіяў застанецца дзве (Решетников, 2003; Матусевич, 2005). Лічбы, калі яны адпавядаюць рэчаіснасці, проста шакуюць.

Не менш праблемным выглядае і такі важны пункт, як удзел у арганізацыі навуковых канферэнцыяў, што адлюстроўваецца ў п. 23 «Арганізацыя навуковых мерапрыемстваў і семінараў (у тым ліку і для маладых навукоўцаў) па тэматыцы навуковай школы» (с. 123–124). Тут пазначаныя дзве канферэнцыі ў Горадні, адна ў Екацерынбурзе і адна ў Маскве. Ніводнай канферэнцыі ў Менску на базе кафедры, ніводнай за пяць гадоў.

Калі казаць пра акадэмічнае прызнанне школы, то яно звязанае выключна з адукацыйнаю дзейнасцю. У кнізе называюцца толькі прэмія за развіццё здольнасцяў таленавітай моладзі (Сяргей Рашэтнікаў у 2002 г.) і дзве прэміі за падрыхтоўку пераможцаў Рэспубліканскага конкурсу студэнцкіх працаў (Алена Грэчнева і Таццяна Салавей у 2006 г.).

Узровень прысутнасці «школы» ў навуковых радах акадэмічных часопісаў, калі верыць апублікаванай інфармацыі, таксама дастаткова нізкі. А гэта дастаткова істотны паказнік прызнання (калі не навукова-даследчага, то прынамсі акадэмічна-бюракратычнага) з боку больш шырокай супольнасці калегаў з розных дысцыплінаў і ўстановаў. З усіх сарака супрацоўнікаў толькі два – Сяргей Рашэтнікаў і Леанід Землякоў – уваходзяць у склад навуковых радаў. Пры гэтым Рашэтнікаў пазначаны як сябра рады шасці выданняў, а Зем-

лякоў – двух. У саветы па абароне дысертацыяў уваходзяць тры прадстаўнікі школы.

У звязку з гэтым дастаткова цікава выглядае дынаміка прадстаўніцтва розных дысцыплінаў у савеце па абароне дысертацыяў на наданне навуковай ступені доктара палітычных навук (с. 126–129). Прадстаўніцтва дактароў філасофскіх, гістарычных, юрыдычных, сацыялагічных і палітычных навук тут змянялася на працягу апошніх дваццаці гадоў (гл. табл. 1).

**Табліца 1. Склад навуковага савету па абароне доктарскіх дысертацыяў па палітычных навуках*, 1991–2009 гг. (складзена рэцэнзентам)***

| | 1991–1995 | 1997–2001 | 2001–2006 | 2006–2009 |
|---|---|---|---|---|
| Дактары палітычных навук | 0 | 1 | 2 | 5 |
| Дактары сацыялагічных навук | 2 | 3 | 3 | 0 |
| Дактары філасофскіх навук | 6 | 6 | 4 | 5 |
| Дактары гістарычных навук | 3 | 4 | 3 | 4 |
| Дактары юрыдычных навук | 3 | 0 | 0 | 0 |

*У склад савету звычайна ўваходзіць адзін кандыдат навук, які выконвае сакратарскія функцыі. У нашых падліках ён прыраўноўваецца да доктара.

Паказальным уяўляецца знікненне з савету пасля 1995 г. дактароў юрыдычных навук, нягледзячы на тое што ў 1994 г. кафедра паліталогіі стала часткаю менавіта юрыдычнага факультэту. Гэта ўскосна сведчыць, што істотнай акадэмічнай супрацы з юрыстамі не атрымалася. Прадстаўніцтва гісторыкаў – тры–чатыры чалавекі. Самаю значнаю групаю у гістарычнай перспектыве выступаюць філосафы, якія маюць чатыры–шэсць прадстаўнікоў. Напэўна, гэтыя дысцыпліны, з перавагаю філасофіі, можна лічыць асноўнымі акадэмічнымі «партнёрамі» паліталогіі БДУ, што асабліва паказальна на фоне знікнення з савету сацыёлагаў. Адметна і тое, што доля дактароў палітычных навук паступова расце, хоць пакуль яшчэ ніжэйшая за палову.

У выданні адзначаецца, што даследаванні кафедры на 90 % маюць фундаментальны характар, а рэшта – дастасоўны (прыкладны). Але што гэта за даследаванні, застаецца нявысветленым. Цяжка зразумець, у чым заключаецца гэтая фундаментальнасць. Калі гэта распрацоўванне асобных тэарэтычных кірункаў, то як можна сфармуляваць тэарэтычныя здабыткі? Ці ўсё завяршаецца напісаннем падручнікаў і складаннем навучальных праграмаў для студэнтаў? Ці можна вызначыць нейкі даследчы профіль кафедры як акадэмічнай інстытуцыі? Адказы на гэтыя пытанні дастаткова складаныя, а дакументы, прадстаўленыя ў кнізе, іх не даюць.

Выключэннем уяўляецца змешчаная ў кнізе заяўка на грант у Беларускі рэспубліканскі фонд фундаментальных даследаванняў. Застаецца толькі шкадаваць, што практыка пу-

блікаваць грантавыя заяўкі не вельмі распаўсюджаная, а змешчаны ў кнізе прыклад – адзінкавы. Было б цікава паглядзець на правілы і аргументацыю пры атрыманні фінансавання ад дзяржаўных фондаў.

Адлюстраваны ў заяўцы праект мае назву «Метадалогія і метады аналізу публічнай палітыкі», асноўныя выканаўцы – Сяргей Рашэтнікаў, Ядвіга Яскевіч, Ніна Антановіч і Алена Дастанка, а сам праект датаваны ажно 1998 г. Калі ўлічыць, што друкуецца ён у кнізе, якая выйшла ў 2009-м, ці не значыць гэта, што на працягу адзінаццаці гадоў кафедра не мела ніводнага іншага значнага даследчага праекту? Грантавая заяўка друкуецца цалкам, таму ў кнізе можна бачыць асабістыя звесткі ўдзельнікаў праекту, у прыватнасці хатнія адрасы і тэлефоны, а таксама даведацца пра выніковую суму фінансавання праекту – 650 млн бел. руб. (каля 6 тыс. долараў на пачатак 1999 г.).

Уважлівы даследнік любы тэкст мусіць успрымаць як крыніцу веды, падбіраючы для кожнага асобную стратэгію прачытання. Рэцэнзаваная кніга, відавочна, уяўляе з сябе прэзентацыйнае выданне, нягледзячы на пастаўленую ва ўводзінах задачу і пазнаку «навуковае». Дакладней, гэта зборнік асобных дакументаў аб працы кафедры паліталогіі БДУ. Тым не менш, змест гэтых дакументаў дастаткова паказальны.

Па-першае, ён дэманструе высокую ступень ізаляванасці кафедры ад паліталогіі па-за яе межамі (за выключэннем, магчыма, Акадэміі кіравання) і ад акадэмічнай супольнасці Беларусі ў больш шырокім кантэксце. Пры гэтым праз выданне сістэмна праходзіць ідэя пра ўнікальнасць, цэнтральнае месца і вядучыя пазіцыі кафедры.

Па-другое, кніга паказвае амаль выключную засяроджанасць кафедры на выкладанні, навучальным працэсе і адукацыйнай дзейнасці. Прасачыць значную (для калектыву такога памеру) навуковую дзейнасць нам, на жаль, не ўдалося, як і вызначыць даследчы профіль кафедры. Магчыма, гэта звязана з тым, што выданне не поўнае і не ўтрымлівае дадатковай істотнай інфармацыі, а частка змешчаных звестак ужо састарэла. Але ж у гэтай рэцэнзіі мы зыходзім толькі з тэксту, які не дае падставаў для больш пазітыўнай інтэрпрэтацыі ды выклікае адпаведныя развагі пра стан палітычнай навукі ў Беларусі.

**Літаратура**


1. Агеев, В.В. (1997). *Интеграция стран Западной Европы: политический процесс*. Калининград: Калининградский государственный технологический университет.
2. Агеев, В.В. (2001). *Развитие европейского федерализма*. Калининград: Калининградский юридический институт МВД РФ.
3. Землякоў, Л.Я. (1996a). *Беларусь на шляху да свабоды сумлення*. Менск: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.
4. Землякоў, Л.Я. (1996b). *Рэлігія і грамадства*. Менск: Вышэйшы каледж сувязі.
5. Матусевич, Е.В. (2005). *Национально-государственные интересы Республики Беларусь в контексте процесса глобализации*. Минск: ИНБ Республики Беларусь.
6. Решетников, С.В. (2003). *Теория принятия управленческих решений*. Минск: Академия управления при Президенте Республики Беларусь.
7. Решетников, С.В., Антанович, Н.А., Ляхович-Петракова, Н.В. (2009). «Политическая наука в Республике Беларусь: проблемы и перспективы», *Вестник БГУ.* Сер. 3, 2009. № 1: 80-86.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Таццяна Чыжова

# Пра некаторых дэпутатаў незалежнасці...

Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк (2010). *Дэпутаты незалежнасьці.* Варшава, Нью-Ёрк, Вільня: «Беларускія Ведамасьці», Таварыства беларускай культуры ў Летуве. 304 с.

Кніга Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка «Дэпутаты незалежнасці», выдадзеная ў 2010 г. у Вільні, прысвячаецца падзеям 1990–1991 гг., а дакладней – дзейнасці ў гэты перыяд апазіцыйнай фракцыі БНФ у складзе Вярхоўнага Савету БССР XII склікання. Як адзначылі самі аўтары, кнігу яны вырашылі выдаць з нагоды набліжэння ўгодкаў надання Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі статусу канстытуцыйнага закону (у самой кнізе пазначаецца гэтая круглая дата – 25 жніўня 2011 г.).

Кніга збольшага складаецца з артыкулаў, апублікаваных у эміграцкім выданні «Беларускія ведамасці» цягам 2009 г., а таксама асобных тэкстаў, якія пабачылі свет у 2008–2010 гг. Яна не прэтэндуе на навуковае, гістарычнае ці палітычнае даследаванне, а ўяўляе з сябе хутчэй мемуары, суб'ектыўны погляд асобаў – непасрэдных удзельнікаў – на гістарычныя павароты ў былым савецкім і новым беларускім грамадстве. Менавіта з гэтага пункту гледжання кніга можа быць цікаваю для даследніка беларускай палітыкі.

Пры гэтым мы не знойдзем і паслядоўнага храналагічнага выкладання падзеяў. У гэтым выданне моцна кантрастуе з «Сямю гадамі Адраджэння» (Навумчык, 2006). Апроч гэтага артыкулы Пазьняка і Навумчыка хіба наўмысна чаргуюцца, прычым часцяком дублююючы змест адзін аднаго. Сам Зянон Пазьняк патлумачыў: «*Я зьвярнуўся да Сяргея Навумчыка, бо такую кніжку, калі хутка, то рыхтаваць разам, з розных пунктаў гледжаньня*» (Радыё Свабода, 2010). Але абодва аўтары – не проста сведкі, а і паплечнікі, да таго ж абодва 14 гадоў жывуць у эміграцыі, таму не дзіва, што ў большасці выпадкаў аўтарскае бачанне падзеяў практычна супадае, адрозніваюцца ў пэўнай ступені хіба стыль і форма падачы матэрыялу.

Першы раздзел кнігі «Дэпутаты незалежнасці» (с. 5–91) напісаны З. Пазьняком. Гэта самая вялікая і, відавочна, цэнтральная частка кнігі, прысвечаная дзейнасці дэпутацкай групы БНФ у беларускім парламенце: стварэнню, умовам працы, змаганню з канфармісцкаю большасцю, а перадусім – яе дзеянням у ліпені

1990-га і жніўні 1991-га. Менш падрабязна, але таксама апісваюцца дзеянні «апазіцыйнага Давіда»[1] (с. 69) у 1992–1995 гг.

Наступныя два раздзелы аўтарства Сяргея Навумчыка – «Крок да незалежнасці» (с. 92–109) і «Перамога тых, хто быў з ідэяй» (с. 110–126) – распавядаюць пра тыя ж падзеі, канцэнтруючыся таксама на прыняцці Дэкларацыі аб незалежнасці 27 ліпеня 1990 г. і наданні ёй статусу канстытуцыйнага закону 25 жніўня 1991 г. Абедзве часткі параўнальна кароткія і ўяўляюць з сябе перадрукаваныя артыкулы аўтара з «Беларускіх ведамасцяў» за 2009 г. (Навумчык, 2009b; Навумчык, 2009c).

«Дзень незалежнасці» (с. 127–133) і «Незалежнасць як працэс адраджэння» (с. 134–147) – чацвёрты і пяты раздзелы кнігі, напісаныя Пазьняком. «Дзень незалежнасці» таксама ўжо быў надрукаваны (Пазьняк, 2009). У гэтых раздзелах атрыманне Беларуссю незалежнасці (25 жніўня 1991 г.) разглядаецца як лагічны працяг гістарычнага «змагання з імперскаю Расіяй» з 1794 г. (с. 127) і праводзіцца кароткі экскурс у старадаўнюю і больш падрабязны – у новую гісторыю Беларусі. У прыватнасці, падрабязна выкладаецца аўтарскае бачанне падзеяў 1918 г.

Як і раней, падкрэсліваецца несамастойнасць беларуска-савецкай наменклатуры, адсутнасць у яе якой-кольвечы нацыянальнай свядомасці, а таксама згадваецца нядобрым словам яшчэ адзін вядомы ўдзельнік тых падзеяў – Станіслаў Шушкевіч. Яго абодва аўтары цягам амаль усёй кнігі адорваюць непрыемнымі эпітэтамі, бо лічаць здраднікам нацыянальных інтарэсаў на карысць наменклатурнай большасці.

Сяргею Навумчыку належыць асобны раздзел пра сімволіку «Нашыя бел-чырвона-белы сцяг і “Пагоня”» (с. 148–163): пра першае выкарыстанне сцягоў на мітынгу 1988 г. у Курапатах, прыняцце сцяга і герба ў якасці дзяржаўных сімвалаў, каротка – пра рэферэндум 1995 г. Раздзел створаны на падставе артыкулу з блогу Навумчыка на радыё «Свабода» (Навумчык, 2009a).

У наступным раздзеле пад назовам «Эпоха ў жыцці нацыі (да дваццацігоддзя БНФ)» (с. 164–175) эстафету зноў прымае Пазьняк. Тут вельмі сцісла распавядаецца пра ўтварэнне БНФ і яго ідэі, а таксама з аўтарскай пазіцыі тлумачыцца, чаму ў 1990-я не атрымалася прывесці Фронт да ўлады: «*Нягледзячы на складанасьць абставінаў у 90-х гадах, прыход да ўлады Народнага Фронту была цалкам выканальная задача, калі б ні ўмяшаньне Расеі ў беларускія справы, у першую чаргу – яе спэцслужбаў і стварэньне імі кантролю над урадам Кебіча, над КГБ, над цэлымі палітычнымі групамі*» (с. 169). Палітык спрабуе паказаць, чаму ідэі БНФ не знайшлі падтрымкі ў шырокіх слаёў насельніцтва: «… *Грамадзтва, прыдушанае векавымі*

[1] Так акрэсліў фракцыю БНФ сам Пазьняк, маючы на ўвазе біблійны міф пра Давіда і Галіяфа – *Т. Ч.*

*рэпрэсіямі, вынішчанае бальшавіцкім генацыдам і камуністычнай прапагандай, не пасьпявала за ідэйнымі пераменамі, дрэнна арыентавалася і не зусім разумела сутнасьць і неабходнасьць дзяржаўнага нацыянальнага разьвіцьця. Час для нацыянальна-культурнага асьветніцтва масаў аказаўся занадта кароткім, каб масы людзей пачалі актыўна ўдзельнічаць у фармаваньні незалежнай дзяржавы, падтрымліваць палітычны авангард, імкнуцца да пераменаў*» (с. 167–168).

Далей Пазьняк звяртаецца да разгляду больш блізкіх падзеяў, пачынаючы з усплёску масавай актыўнасці ў 1996 г. Аўтар бязлітасна крытыкуе аб’яднаную апазіцыю другой паловы 1990-х, якая, на ягоную думку, была ўтвораная супольнымі дзеяннямі «*рэжыму (найперш КГБ), Масквы і палітыкі Эўразьвязу*» (с. 171) насуперак абвешчанаму ў 1997 г. на V З’ездзе БНФ «*на чале з Фронтам агульнабеларускага Вызвольнага руху супраць прамаскоўскага рэжыму і імпэрскай палітыкі Масквы*» (с. 170). Прычым на чале гэтых разбуральных сілаў, на думку Пазьняка, стаяў «*нямецкі разьведчык Ганс-Георг Вік, які фармальна ачольваў Місію АБСЭ ў Менску*» (с. 170). Апазіцыю, што ўтварылася з тых часоў, Зянон Пазьняк называе «маргінальнаю» і «падстаўною», абвінавачваючы знешнія варожыя сілы, што наўмысна паспрыялі размыванню нацыянальна-адраджэнскай пазіцыі БНФ і прывялі да ўзнікнення нейкага штучнага, на думку аўтара, утварэння на падставе абстрактна дэмакратычных прынцыпаў. «*У будучыні Ганс-Георг Вік, хутчэй за ўсё, стане перад беларускім дэмакратычным судом за антыбеларускую дзейнасьць і нанясеньне шкоды інтарэсам Беларусі*», – заключае Пазьняк (с. 173).

Цяперашняя КХП-БНФ для яго – адзіная сапраўдная апазіцыйная структура, што захоўвае правільную пазіцыю і вернасць нацыянальным інтарэсам і каштоўнасцям: «*Франтаўскі працяг, рэальная беларуская пазыцыя Адраджэньня і палітыка, якая зыходзіць зь беларускіх нацыянальных інтарэсаў, сканцэнтравана цяпер у дзейнасьці і ідэалёгіі Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – Беларускі Народны Фрон*т» (с. 173–174).

Раздзел Навумчыка «Незалежнасць і распад імперыі» (с. 176–193) апісвае Віскулёўскія пагадненні снежня 1991 г., прычым даводзіцца, што не яны, а менавіта прыняцце Дэкларацыі ды наданне ёй статусу закону замацавалі суверэнітэт Беларусі. Завяршае кнігу адмыслова падрыхтаванае Пазьняком у 2010 г. «Слова пра калег і сяброў» (с. 271–285) – кароткі асабісты ўспамін-нарыс пра кожнага з былых паплечнікаў, пра тое, якімі палітык іх памятае дваццаць гадоў таму.

Акрамя гэтага выданне змяшчае біяграфічную інфармацыю пра кожнага з 27-мі дэпутатаў парламенцкай групы БНФ (с. 216–271): фотаздымак, звесткі пра тое, дзе і калі дэпутат нарадзіўся, адукацыю, месца працы перад абраннем у парламент, а таксама інфармацыю пра ўдзел у дэпутацкай галадоўцы супраць рэ-

ферэндуму ў 1995 г. Пра далейшую дзейнасць дэпутатаў, на вялікі жаль, не пішацца. Асноўнаю крыніцай інфармацыі выступае выдадзены ў 1992 г. даведнік «Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь: Дванаццатае скліканне» (Народныя дэпутаты, 1992).

Кніга аздобленая даволі вялікай колькасцю ілюстрацыяў, частка якіх мае гістарычную каштоўнасць. Большыня фотаздымкаў шырока вядомая з прэсы 1990-х, але некаторыя ўзятыя з асабістага архіву і не публікаваліся раней.

Як можна было заўважыць з вышэйпрыведзеных цытатаў, стыль кнігі адрозніваецца ўжываннем шматлікіх рэзкіх эпітэтаў на адрас былых палітычных апанентаў: «*ветэраны партыі і НКВД*» (с. 25, 26, 67, 74) – пра дэпутатаў парламенту, якія прайшлі па ветэранскай квоце; «*з абласным шармам і з нейкай маскоўска-энкавэдзісцкай пацінай у манерах*» (с. 66) – пра аднаго з дэпутатаў і г. д. А базавым аргументам Зянона Пазьняка супраць Вячаслава Кебіча, Аляксандра Лукашэнкі ды «маргінальнай апазіцыі» выступае традыцыйнае абвінавачванне іх у залежнасці ад *КГБ*[2] (с. 45, 46), які дагэтуль, на ягоную думку, уяўляе з сябе не нацыянальную службу дзяржбяспекі, а сатэліт расейскіх спецслужбаў (с. 214).

Цалкам процілеглым чынам аўтары выказваюцца на адрас парламенцкай групы БНФ, апісваючы яе самымі ўзвышанымі і падкрэслена станоўчымі словамі. На іх думку, у асяроддзі апазіцыйнай дэпутацкай групы адбываецца ні больш ні менш як фармаванне нацыянальнай палітычнай эліты (с. 54).

Увогуле няцяжка заўважыць, што ўся віхура насычаных і складаных падзеяў тых часоў у інтэрпрэтацыі абодвух аўтараў віецца вакол гэтых 27-мі чалавек. Цягам усёй кнігі можна назіраць падкрэсліванне суб'ектыўнага аспекту падзеяў – актыўнай дзейнасці малой групы насуперак коснай большасці, да таго ж у неспрыяльных умовах: «*Зазначу, што ў камуністычным Вярхоўным Савеце 12 скліканьня было 345 дэпутатаў, зь іх 27 – дэпутаты Апазыцыі БНФ. І пры гэтым мы йшлі пераможным шляхам. Гэта ўнікальны факт…*» (с. 16).

Большасць эпітэтаў, ужытая ў дачыненні фракцыі БНФ, закліканая прадэманстраваць «гераічны» момант: «*У залі мора... – сотні чырвоных твараў, рашуча настроеных "навести порядок", і наша няпоўная апазыцыйная трыццатка, якая паставіла задачу перамагчы гэтую арду*» (с. 22). Гэта выклікае асацыяцыі з персанажамі гераічнага эпасу, дзе купка адважных і рашучых дзякуючы сваім выдатным здольнасцям і ўнутранай арганізаванасці перамагае нашмат мацнейшага і большага ворага. «*Наша перавага была ў інтэлекце, у добрай адукацыі і эрудыцыі, ва ўменьні хутка думаць, правільна фармуляваць думкі і правільна іх выказваць; нарэшце – у лепшай арганізацыі і самадысцы-*

[2] Захаваны аўтарскі правапіс – Т.Ч.

*пліне*», – падкрэслівае Пазьняк (с. 60–61).

Апазіцыя выступае ці то ў ролі антычных герояў, што змагаюцца з багамі наменклатурнага «Алімпу» за свабоду і шчасце простых смяротных, ці то ў ролі трох соцень спартанцаў: «*…У 90-х гадах – гэта быў баявы авангард, які (насуперак усялякай арыфметычнай парляманцкай логіцы) з ходу браў бастыён за бастыёнам і (больш таго) вызваліў цэлую крэпасьць*» (с. 57). Асобныя рэплікі наўпрост адсылаюць да біблійнай легенды пра Давіда і Галіяфа: «*Апазыцыйны Давід гатовы быў зьвярнуць горы. Лічу вялікім нашым тактычным дасягненьнем, што мы адразу, з ходу пачалі перамагаць, крушыць, блытаць, раскідваць гэтую намэнклятурную закасьнелую масу, не даючы ім апамятацца*» (с. 69).

Гэткая гераізацыя парламенцкай апазіцыі як суб’екту тагачаснай палітыкі ёсць наступствам цалкам валюнтарысцкай інтэрпрэтацыі гістарычных падзеяў. Відавочна, што ў тых умовах БНФ насамрэч быў адзінай альтэрнатыўнаю дзейнай уладзе палітычнаю сілаю, актыўнаю і масаваю на фоне іншых груповак (але не дастаткова масаваю). Таму словы аўтараў пра БНФ і адпаведную парламенцкую групу як пра «авангард пераменаў» – збольшага апраўданыя. Але пры гэтым амаль цалкам ігнаруюцца вонкавыя фактары, ажно да простага адмаўлення іх ролі ў змене сітуацыі ў 1990–1991 гг.

Адзіным чыннікам, што спрыяў апазіцыі ў палітычнай барацьбе, прызнаецца наяўнасць нацыянальна-дэмакратычнага руху ў Беларусі – БНФ і яго прыхільнікаў. Таму раз-пораз у тэксце сустракаюцца словы ўдзячнасці: «*Нічога б не было, каб за намі не стаяў наш народ, яго актыўныя прадстаўнікі, згуртаваныя ў Народны Фронт, – нічога б не было, каб не існавала іхняй волі і іхняй падтрымкі, каб яны не стаялі за намі шэрагамі і ня дыхалі нам у патыліцу. Было запатрабаваньне грамадзтва*» (с. 89). Усе поспехі БНФ, на думку аўтараў, – гэта выключна заслуга самой партыі (руху), але ніякім чынам не збег гістарычных абставінаў. Знешнія фактары бяруцца пад увагу толькі, каб пры іх дапамозе патлумачыць няўдачы апазіцыі.

Такая цалкам суб’ектывісцкая пазіцыя прымушае паставіць пад сумнеў праўдзівасць шэрагу апісаных у кнізе момантаў, напрыклад: «*Мы шмат чаго дамагліся ў першы ж год няроўнага парляманцкага змаганьня. Кіроўная роля камуністычнай партыі ў дзяржаве была адменена, партарганізацыі кампартыі выведзеныя з прадпрыемстваў. Праўда пра Чарнобыль, якую падняў Фронт, была публічна афіцыйна засьведчана і заканадаўча абумоўлена дапамогай пацярпелым, парадкам выкарыстаньня зямлі*» (с. 16). І далей: «*Прывілеі і спэцмагазіны камуністычнай намэнклятуры былі ліквідаваныя*» (с. 18). Аўтары не адасабляюць тое, што было дасягнутае высілкамі парламенцкай апазіцыйнай групы, ад таго, чаму паспрыялі вонкавыя чыннікі ды што адбылося пад уплывам агульных тэндэнцыяў

часу, прыпісваючы сабе абсалютна ўсё: «*...Апазыцыя БНФ выйграла барацьбу ў камуністычным савецкім парляманце за Незалежнасьць, за праўду пра Чарнобыль (якая пільна хавалася ад грамадзтва), за нацыянальнае войска, за нацыянальныя грошы, за заканадаўства незалежнай дзяржавы, за Беларускі сьцяг і гэрб Пагоня і ўвогуле – за дзяржаўнае існаваньне незалежнай Беларусі, спыніўшы пры гэтым дзейнасьць КПБ (КПСС). Меншыня спыніла дзейнасьць бальшыні!*» (с. 59).

Такія відавочныя перабольшанні і нацяжкі могуць выклікаць у чытачоў сумневы ў іншых пазначаных фактах (не асабліва вядомых у шырокіх колах). Напрыклад, датычных абрання Станіслава Шушкевіча ў 1989 г. дэпутатам Вярхоўнага Савету СССР. Як сцвярджае Зянон Пазьняк, гэта адбылося дзякуючы высілкам БНФ: «*Сутнасьць нашай прапановы была ў тым, што калі Шушкевіч падтрымлівае пазыцыю, ідэалы і палітыку БНФ, то мы (Фронт) будзем праводзіць яго ў Вярхоўны Савет СССР (агітацыя, прапаганда, групы падтрымкі і г. д.) [...] За Шушкевіча Фронт вымушаны быў, што называецца, выкласьціся [...] Фронт перамог. Нічога не дапамагло камуністам: ні спробы фальсіфікацыі галасоў, ні ўлада. Сістэма ўжо пачала трашчэць пад нашым напорам*» (с. 77–80).

Але выказванні кшталту: «*Красавік 1991 года адзначыўся масавымі пратэстамі рабочых Менска (арганізаваных БНФ, які меў свае суполкі на заводах) супраць антынароднай сацыяльнай палітыкі Масквы і КПСС (павышэньне цэнаў і т. п.)*» (с. 21) – цалкам падрываюць давер да праўдзівасці апавядання, хай сабе яно напісанае і з суб'ектыўнага аўтарскага гледзішча. Бо калі ў страйкамах і прысутнічалі прадстаўнікі БНФ, то гэта не азначае, што самыя масавыя ў гісторыі Беларусі пратэсты рабочых у красавіку 1991 г. былі непасрэдна «арганізаваныя БНФ», як сцвярджае аўтар.[3]

Не менш пытанняў выклікае і заява наконт прэзідэнцкіх выбараў, згодна якой у «*супроцьстаяньні Кебіч–БНФ савецкія выбаршчыкі, што былі ўжо супраць Кебіча, галасавалі б за БНФ (іншай альтэрнатывы не было). Калі ж у кампанію ўключыўся кандыдат з пазыцыяй пакараць Кебіча і абяцаньнем вярнуць усё, як было за СССР (бо пры Кебічы стала горай), то большая палова савецкага электарату перакінулася на бок савецкага кандыдата. Атрымалася, што Лукашэнка аўтаматычна пакарыстаўся вынікамі нашай працы*» (с. 46). Цяжка запярэчыць таму, што першы прэзідэнт прыйшоў да ўлады на хвалі народнай нелюбові

3 Прэса таго часу, у тым ліку і альтэрнатыўная, дастаткова падрабязна апісвае стыхійнасць выступленняў працоўных, спробы БНФ уцягнуць рух працоўных у сваю арбіту адбываліся post factum. Больш за тое, калі пачаліся масавыя акцыі ў красавіку 1991 г., вышэйшае кіраўніцтва БНФ адсутнічала ў Беларусі – *заўв. рэд.*

да Кебіча і ягонай наменклатурнай каманды, але сумнеўна, што такое стаўленне – вынік працы выключна БНФ, а не самога экс-прэм'ера.

Лагічным працягам суб'ектывізму і валюнтарысцкай інтэрпрэтацыі гістарычных падзеяў выступае відавочны скрайні ідэалізм апавядальнікаў, на думку якіх асноўная палітычная барацьба адбываецца найперш паміж ідэямі ды сімваламі: «*Камунізм і расейскі каляніялізм нічога ня мог супроцьпаставіць нашым ідэям, акрамя збанкрутаваных сваіх догмаў ("рабы старых ідэй", як сьпявалася ў гімне Народнага Фронту). Не змаглі супроцьпаставіць – і прайгралі з усёй сваёй пачварнай камуністычнай сілай*» (с. 55). Загаловак аднаго з раздзелаў кнігі так і гучыць: «Перамога тых, хто быў з ідэяй» (с. 110).

Схільнасць да сімвалічных дзеянняў – гэта, магчыма, адзнака таго часу, калі з прычыны інфармацыйнага вакууму былі вельмі запатрабаваныя новыя, яркія вобразы будучыні. Але ж пры чытанні кнігі складаецца ўражанне, што для аўтараў рознага кшталту сімвалічныя акты не проста істотныя, але першасныя. Аб'ектыўныя матэрыяльныя ўмовы таго ж дзяржаўнага будаўніцтва – для іх пытанне чыста тэхнічнае і другаснае ў параўнанні з дэклараваннем незалежнасці і прыняццем новай сімволікі: «*Адразу пачалася ярасная барацьба за галоўнае па парадку дзеяньня – за Беларускі Сьцяг і Гэрб незалежнай Беларусі [...] Урэшце – мы выйгралі гэтую "бітву", паклаўшы на шалі ўвесь свой інтэлект і душэўныя сілы [...] Пасьля сымволікі найцяжэйшая барацьба разгарэлася па двух атрыбутах незалежнасьці: па войску і грошах*» (с. 25, 27, 29).

Вельмі паказальны ў гэтым сэнсе экскурс у гісторыю БНР, прадаўжальнікамі ідэалаў якой лічаць сябе аўтары: «*У БНР не было войска і паліцыі, не было сваіх нацыянальных грошай і фінансавай сыстэмы, не было сыстэмных структураў мясцовага самакіраваньня, міжнародныя сувязі на ўзроўні амбасадаў былі абмежаваныя і ў пачатковым выглядзе, тэрыторыя знаходзілася пад расейска-нямецкай акупацыяй, дзе дамінавала ўлада і рашэньні акупацыйнага войска. Аднак, для абгрунтаваньня справядлівасьці і права нашай незалежнасьці, істотнай ёсьць не атрыбутыка суверэннасьці (гэта пытаньне дзяржаўнага будаўніцтва), а тое, што Рада БНР і абвешчаная ёй незалежнасьць БНР валодалі ўсімі чыньнікамі легітымнасьці і выяўлялі суверэнную волю Беларускага народа...*» (с. 142).

Дарэчы, крытыкуючы вядомую тэзу пра тое, што незалежнасць звалілася на беларусаў знянацку, аўтары не толькі ўсяляк падкрэсліваюць уласную барацьбу на палітычным полі, але і сцвярджаюць, што іхная дзейнасць, як і ўсяго БНФ, – «*гэта заканамерны вынік змаганьня пакаленьняў беларусаў за Незалежнасьць*» (с. 108). Не спыняючыся на гістарычнай пераемнасці БНР і Рэспублікі Беларусь, яны зануракцца ў глыб вякоў, да часоў ВКЛ і Рэчы Паспалітай: падкрэсліваецца, што барацьба за незалежнасць

вялася не менш за два стагоддзі, але рэалізаваць гэтыя памкненні атрымалася толькі ў 1990–1991 гг.

Палітычныя мэты БНФ узору пачатку 1990-х застаюцца для аўтараў пазачасаваю канстантаю і не пераглядаюцца, а акцэнт у апісанні палітычнай (парламенцкай) барацьбы робіцца на тактычныя хады, псіхалагічныя прыёмы і хітрасці ў дачыненні парламенцкай большасці. Падрабязнасці гэтай барацьбы, апісаныя ў кнізе, утрымліваюць шмат цікавых і паказальных момантаў, нюансаў, якія можна знайсці толькі ў такога кшталту мемуарнай літаратуры. Вялікую цікаўнасць могуць выклікаць таксама апісанне стасункаў апазіцыі БНФ са спікерам Вярхоўнага Савету Станіславам Шушкевічам і падрабязны расповед Сяргея Навумчыка пра тое, якую ролю адыгрываў Захад у станаўленні незалежнай дзяржавы. На ягоную думку, у адрозненне ад пазіцыі ў дачыненні Прыбалтыкі, да незалежнасці Украіны (і тым больш Беларусі) стаўленне Захаду было хутчэй адмоўнае. Адчуваецца моцная эмацыйная захопленасць аўтараў, якія нібыта з кожным словам успамінаў наноў перажываюць тыя падзеі. Але такая захопленасць пазбаўляе іх магчымасці зірнуць на падзеі дваццацігадовай даўніны з пазіцыяў сучаснасці. Складаецца ўражанне, што сучаснасць для іх засталася там – у першай палове 1990-х.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**


1. Навумчык, С. (2006). *Сем гадоў Адраджэньня, альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988–1995)*. Варшава, Прага: «Беларускія ведамасьці», «Člověk v tisni»
2. Навумчык, С. (2009a). «Дзень, калі плакаў Пазьняк», *Радыё «Свабода»*, 18.08.2009. URL (доступ 01.10.2010) http://www.svaboda.org/content/article/1825687.html
3. Навумчык, С. (2009b). «Крок да незалежнасьці», *Беларускія ведамасьці*. № 2 (67): 14–17.
4. Навумчык, С. (2009c). «Перамога тых, хто быў з ідэяй», *Беларускія ведамасьці*, № 2 (67): 3–6.
5. *Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь: Дванаццатае скліканне (1992)*. Мінск: Беларусь
6. Пазьняк, З. (2009). «Дзень незалежнасьці». *Беларускія ведамасьці*, № 2 (67): 1–3.
7. *Радыё «Свабода»* (2010). «Зянон Пазьняк: наступны год трэба абвясьціць годам незалежнасьці», 12.08.2010, URL (доступ 01.10.2010) http://www.svaboda.org/content/article/2126114.html

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Уладзіслаў Іваноў

# Беларусь, спружыны адной дыктатуры

Lallemand, J.-C., Symaniec, V. (2007). *Biélorussie, mécanique d'une dictature.* Les petits matins, Paris, 255 pages.

*«Беларусь увасабляе тыповы выпадак, удалы прыклад задушэння дэмакратычных контруладных сілаў грамадства; а гэта якраз тое, пра што так мараць шматлікія кіраўнікі, і не толькі звычайныя дыктатары»* (Lallemand et Symaniec, 2007).

**Жан-Шарль Ляльман.** Нарадзіўся ў 1973 г. Палітолаг, доктар палітычных навук Інстытуту палітычных навук (Парыж), даследуе Расію і Беларусь, разам з Віржыні Шыманец рэдагуе бюлетэнь «Perspectives biélorussiennes» («Беларускія перспектывы»). Аўтар шматлікіх артыкулаў, прысвечаных Беларусі і Расіі. Адзін з рэдкіх аўтараў у франкамоўным свеце, які аналізуе выбары, мясцовую і цэнтральную ўладу ў Беларусі.

**Віржыні Шыманец.** Нарадзілася ў 1968 г. Пісьменніца, публіцыстка, артыстка, тэатразнаўца, доктарка (Сарбона, Парыж). Спецыялізуецца ў пытаннях культуры, мовы і тэатру Беларусі. Аўтарка і суаўтарака кніг пра Беларусь (Symaniec, 2003a; Symaniec, 2003b; Goujon et Symaniec, 1997). Узначальвае ў выдавецтве «l'Harmattan» аддзел, які выдае кнігі пра Беларусь.

Кніга «Беларусь, спружыны адной дыктатуры», напісаная палітолагам Жанам-Шарлем Ляльманам і даследніцаю тэатру Віржыні Шыманец, пабачыла свет яшчэ ў 2007 г. і засталася амаль не заўважанай у Беларусі. Вядома, у значнай ступені з прычыны гучнай назвы: у Беларусі няма звычкі называць такім чынам выданні, тым больш палітычныя. Кніга засталася мала вядомаю таксама з-за адсутнасці перакладу. А яшчэ, магчыма, таму, што ў разуменні беларускіх палітолагаў французскі погляд на палітычнае ў Беларусі не прапаноўвае нічога новага і актуальнага. У самой жа Францыі кніга прыцягнула ўвагу спецыялістаў па Усходняй Еўропе і постсавецкай культуры, бо ўпершыню з'явілася адначасова аналітычная і публіцыстычная кніга пра Беларусь, у якой акцэнт робіцца на разглядзе палітычнай сістэмы краіны.

Дасюль выходзілі кнігі пераважна культуралагічнага, гістарычнага, краіназнаўчага і моўнага кшталту (Goujon et Symaniec, 1997; Du Castel, 1997; Richard, 2002; Dépelteau

et Lacassagne, 2003; Symaniec, 2003; Grandazzi et al, 2006; Drweski, 2002; Lapatniova, 2001; Goujon et al., 2001) або артыкулы агульнага характару па беларускай тэматыцы.

Неабходна пазначыць, што сучасная французская беларусістыка, у тым ліку і палітычная, развіваецца пераважна вакол выдавецтва «l'Harmattan», у межах якога створаная серыя «Беларусь». У ёй выходзяць як кнігі беларускіх спецыялістаў, што апынуліся ў Францыі (сярод іх шмат былых студэнтаў французска-беларускага факультэту ЕГУ), так і значных французскіх навукоўцаў: Бруно Дрэўскага (Bruno Drweski), Віржыні Шыманец (Virginie Symaniec), Аляксандры Гужон (Alexandra Goujon), Жан-Шарля Ляльмана (Jean-Charles Lallemand) ды інш. За час існавання серыі, з канца 1990-х гг., выдавецтва апублікавала каля дзясятка кніг пра Беларусь.

І Віржыні Шыманец, і Жан-Шарль Ляльман стала цікавяцца Беларуссю, рэгулярна яе наведваюць і праводзяць апытанні. На дадатак, маладыя аўтары з 1996 г. рэдагуюць бюлетэнь «Perspectives biélorussiennes» («Беларускія перспектывы») – ці не адзіны такі франкамоўны праект, прысвечаны палітыцы і культуры сучаснай Беларусі. Таму ў аснову кнігі кладзецца не толькі аналітычны і крытычны падыход маладых спецыялістаў, а перадусім іхная гістарычная і культуралагічная кампетэнцыя.

Да таго ж Віржыні Шыманец спецыялізуецца ў гісторыі культуры і тэатру Беларусі, а як, калі не праз прызму культуры, мовы і тэатру, лепей разумеецца менталітэт беларусаў і палітычная культура наагул? Жан-Шарль Ляльман як палітолаг таксама мае публікацыю па Беларусі (Lallemand, 2006), у якой падрабязна аналізуюцца перадвыбарчая сітуацыя і выбары 2006 г., а таксама механізмы захавання дзейным прэзідэнтам сваёй пасады. Гэты артыкул, на нашу думку, заслугоўвае асобнай увагі і варты перакладу на беларускую мову. Такім чынам, аўтары маюць розную спецыялізацыю, але пры гэтым падышлі да напісання кнігі з выразным разуменнем праблематыкі, картэзіянскаю рацыянальнасцю і назапашаным досведам падчас працы ў «Perspectives biélorussiennes».

Трэба сказаць, што самі аўтары вызначылі сваю працу як эсэ. Таму адразу адпадае крытыка выдання з пазіцыі «жорсткай» класічнай паліталогіі, дзе ідэалам ёсць сухі аналітычны і даследчы тэкст без прыкметаў публіцыстыкі. Дзякуючы вызначэнню жанру, гэтую кнігу не варта ацэньваць паводле жорсткіх правілаў, што ўжываюцца для навуковых манаграфіяў. Французская традыцыя эсэ, у тым ліку палітычнага кшталту, палягае на дастаткова вольным і часам вельмі суб'ектыўным аналізе ды інтэрпрэтацыі падзеяў, а таксама на сінтэзе стыляў: навуковага і публіцыстычнага. Якраз гэта і можна назіраць у кнізе В. Шыманец і Ж.-Ш. Ляльмана.

Эсэ складаецца з паслядоўных храналагічных частак. Напачатку ідзе раздзел, які апісвае набыццё незалежнасці ды перыяд няўстойлівай дэмакратыі, калі беларусы, на думку аўтараў, сапраўды дакрануліся да дэмакратычных свабодаў і ў 1994 г. ці

не ўпершыню за ўсё XX ст. галасавалі вольна і дэмакратычна. Пасля змяшчаецца частка пра зараджэнне беларускай мадэлі аўтарытарызму і антыпарламентарызм Лукашэнкі. Пры гэтым аўтары шмат увагі надаюць не апісанню, але пошуку каранёў з'явы і прапаноўваюць некалькі тлумачэнняў таму, што адбылося (с. 14–15, 21). Называюцца як унутраныя прычыны (адсутнасць грамадзянскай супольнасці ды, адпаведна, кволасць палітычных партыяў і апазіцыі наогул), так і вонкавыя: расейскі чыннік безупынку згадваецца ў працы, і, падаецца, французскія даследнікі ніколі не забываюць пра яго, апісваючы падзеі ў Беларусі.

Частка працы прысвечаная, як гэтага патрабуе заходні дэмакратычны канон, рэгулярнаму парушэнню правоў чалавека і маруднаму паўстанню мясцовай грамадзянскай супольнасці. Да дэкларацыяў афіцыйных структураў Беларусі пра павагу правоў чалавека французскія даследнікі ставяцца скептычна. Рэальнай абароны правоў чалавека не можа быць без незалежных прафсаюзаў, рухаў і партыяў. Адпаведныя структуры так і не паўсталі падчас кіравання Лукашэнкі, а таму заявы пра дэмакратыю маюць відавочна дэкларатыўны характар. У адным з інтэрв'ю французскі журналіст задаў Віржыні Шыманец пытанне: «*Як развіваецца сітуацыя з правамі беларускіх грамадзянаў пасля 2007 года?*» На што яна адказала: «*Якіх грамадзянаў?*» – падкрэсліваючы такім чынам, што рана гаварыць пра беларускіх *грамадзянаў* у сітуацыі, калі базавыя грамадзянскія правы не гарантаваныя (Symaniec, 2010).

Надзвычай цікава і нестандартна выглядае частка эсэ, прысвечаная прэзідэнцкаму дэспатызму, а таксама дзяржаўнай сістэме Беларусі – вонкава сацыяльнай і сацыялістычнай, а па сутнасці капіталістычнай у сваёй заганнай версіі. Тут думка Ляльмана ідзе ў рэчышчы крытыкі прэзідэнцкага рэжыму, у святле небяспекі гэтага рэжыму ва ўмовах новых, пагатоў няўстойлівых дэмакратыяў, якія не маюць досведу, а галоўнае – патрэбных інстытуцыяў, механізмаў і контрмеханізмаў. У выніку няўстойлівыя дэмакратыі, што выбралі прэзідэнцкую мадэль, звычайна правальваюцца ў аўтарытарызм. Раздзел «Адсутная сацыяльная дзяржава» падмацоўвае тэзу пра ілюзорнасць мясцовага сацыялізму, які пад ціскам суседняй Расіі даўно перайшоў на рэйкі капіталізму (с. 16, 113–115).

Паказальнаю ёсць і сама трактоўка аўтарамі рэжыму Лукашэнкі як дыктатуры (с. 13–16). Хоць прэзідэнт прыйшоў да ўлады ў выніку дэмакратычных выбараў, а не праз путч ці пераварот, як гэта бывае ў класічных выпадках, але паступова ўсталявалася класічнае адзінаўладдзе з моцным вертыкальным падпарадкаваннем. Іншаю рысаю дыктатуры ёсць гвалт і цкаванне апазіцыі, запалохванне прэсы, рухаў і партыяў, асобных адважных лідараў, сістэматычныя арышты апазіцыянераў і фальсіфікацыя выбараў. Як і лацінаамерыканскія дыктатуры XX ст., цяперашняя Беларусь мела выпадкі знікнення і выкрадання людзей з атачэння апазіцыі. Пры гэтым варта адзначыць, што для французскай палітычнай традыцыі азначэнне «дыктатура» пашыра-

нае і цалкам натуральнае. У Беларусі сітуацыя трохі іншая: панятак «дыктатура» мае гістарычнае адценне і ўжываецца вельмі асцярожна, пераважна ў апазіцыйным дыскурсе.

Апрача гэтага, эсэ адрозніваецца слушнаю і цікаваю кампаратывістыкаю. Беларуская рэчаіснасць заўсёды разглядаецца ў звязку з агульнаю сітуацыяй у свеце, Еўропе, рэгіёне. Дэспатычная, кансерватыўная Беларусь – не заўсёды выключэнне. Аўтары прапаноўваюць быць больш шчырымі і крытычна ставіцца да іншых краінаў. Перадусім Шыманец і Ляльман называюць Расію, дзе назіраецца тэндэнцыя да своеасаблівай узурпацыі ўлады, якая аказалася ў руках прэзідэнта, прэм'ер-міністра і створанага імі блоку «Единая Россия» (с. 21). У прадмове аўтары пішуць: «*Беларусь – гэта не гітлераўская Нямеччына, не сталінскі СССР, не Чылі Пiначэта, не Аргенціна генералаў, нават не Сербія Мілошавіча. Прэзідэнт Беларусі не вінаваты ў стольківх смерцях, як пуцінская Расія, замяшаная ў чачэгскай вайне, але гэта ўсё адно дыктатура аднаго чалавека, які заяўляе, што не належыць да ніводнай партыі*» (с. 13–14).

Нават унутры ЕЗ існуюць краіны з праявамі палітычнай культуры, якую можна назіраць і ў Беларусі. Напрыклад, частка польскай эліты займае куды кансерватыўнейшыя за беларусаў пазіцыі ў такіх пытаннях, як сексуальнасць, значнасць хрысціянскіх каштоўнасцяў у палітыцы і г.д. У дэмакратычнай і еўрапейскай Італіі прэм'ер-міністр таксама кантралюе ці не ўсе медыі, а дзяржава – інтэрнэт-кавярні, таму доступ у Сеціва абмежаваны. Такім чынам, аўтары эсэ шырока глядзяць на працэсы, што адбываюцца ў Беларусі, і падкрэсліваюць, што ў пэўнай ступені яны ўпісваюцца ў міжнародную логіку і асобныя тэндэнцыі развіцця міжнароднай супольнасці (с. 21–22).

Так, пасля 2001 г. шматлікія заходнія краіны ўзмацнілі палітыку бяспекі, часам не на карысць дэмакратыі. Менавіта гэты шырокі падыход і разгляд «беларускага рэжыму» ў сусветным кантэксце ёсць новым і надзвычай эфектыўным, бо дэманструе дынаміку і жвавасць рэжыму, «доўгатэрміновай» ці «трывалай дыктатуры», паводле вызначэння аўтараў. У дадатак, такі падыход сведчыць, што рэжым Лукашэнкі, як трапна заўважае Шыманец, – гэта не простае паўтарэнне і адлюстраванне савецкай мадэлі, а актуалізацыя гэтай мадэлі ды прыстасаванне яе да XXI ст. Аўтары пішуць: «*Лукашэнкаўскі рэжым, хоць і захаваў усе помнікі Леніну, тым не менш не з'яўляецца простым паўтарэннем гісторыі […] Рэжым удала жанглюе інтэрнэтам, мабільнымі тэлефонамі ды іншымі тэхналогіямі, якія спрыяюць цыркуляцыі інфармацыі ўнутры грамадства, пры гэтым рэгулярна арганізуе рэпрэсіі супраць палітычных, прафсаюзных дзеячаў, прадпрымальнікаў і незалежных журналістаў*» (с. 16, 229).

І тут рэжым і яго ідэолагі, не зважаючы на пэўную архаічнасць эканомікі і тэхналогіяў, апынуліся ў выйгрышы: у адрозненне ад Расіі ды Еўразвязу афіцыйны Менск не разважае старымі каланіялісцкімі катэгорыямі (сутыкненне Захаду і Ус-

ходу), улады не трактуюць Беларусь як перыферыю, а наадварот, усяляк даводзяць, што гэта цэнтр цывілізацыі, Еўропы. Рэжыму Лукашэнкі не трэба абапірацца на нацыянальную праеўрапейскую ідэалогію (ён бы і не змог скарыстацца гэтым капіталам праз сваю адданасць і звязанасць з савецкай безнацыянальнай ідэалогіяй). Таму палітыку Лукашэнкі аўтары лічаць паслядоўнаю, бо ўлічваючы геапалітычны, а таксама важны эканамічны чыннік ягоная палітыка мае сэнс і логіку. Нават вядомую дыпламатычную крызу 1990-х гг. варта ўспрымаць не як простую памылку маладога і неспрактыкаванага яшчэ дыктатара, а як спрытную інструменталізацыю дыпламатычнай крызы на сваю карысць. Пазней рэжым з такім самым спрытам скарыстае з нафтавай крызы з Расіяй (с. 167–168).

Такім чынам, усе часткі эсэ ахопліваюць розныя механізмы або спружыны досыць трывалай, рэальнай дыктатуры, якая, не зважаючы на крытыку, грунтоўна інтэграваная ў грамадства і дзяржаву. Палітычныя, эканамічныя ды ідэалагічныя спружыны складаюць адзінае цэлае і функцыянуюць як зладжаны механізм, як млын, бо іншыя механізмы, у тым ліку дэмакратычныя, пакуль проста невядомыя беларусам.

З гэтай нагоды прагнозы аўтараў хутчэй песімістычныя, і ў завяршальнай частцы – «Доўгатэрміновая дыктатура» – даследнікі гэтага не хаваюць. Трывалая, ці доўгатэрміновая дыктатура функцыянуе, бо дзейнічае ўся сістэма, спрацоўваюць усе яе механізмы, бо дзяржава і рэжым Лукашэнкі не разумеюць іншай мадэлі – дэмакратычнай, а працуюць толькі на карысць адзінай, аўтарытарнай. Дыктатура не проста вынік збегу дзіўных абставінаў, а мэтанакіраваны праект: у чым яго цяперашняя моц, у тым і заўтрашняя слабасць.

На дадатак, трываласці беларускай дыктатуры спрыяе не толькі ўнутраная сітуацыя (адсутнасць грамадзянскай супольнасці і як вынік адсутнасць палітычнай культуры дэмакратычнага кшталту), але і міжнародная кан'юнктура: эканамічная крыза і ажыятаж у пытанні бяспекі ў пэўнай ступені паніжаюць вобраз і каштоўнасць дэмакратыі, апраўдваючы шэраг паліцэйскіх захадаў. У святле пэўнага антыдэмакратызму, які вынікае з сітуацыі эканамічнай крызы і жорсткай палітыкі бяспекі, будучыня беларускай дыктатуры малюецца ў светлых колерах. Аўтары пакуль не бачаць і не прапаноўваюць ніякай іншай альтэрнатывы сучаснай дыктатуры.

Заслугоўвае ўвагі і частка пра беларускую культуру ва ўмовах аўтарытарызму. На прыкладзе культурнай сітуацыі выразна бачная агульнапалітычная тэндэнцыя цкавання людзей наогул і творчых у прыватнасці (с. 221). Гэтая тэндэнцыя ўпісваецца, як пазначалася вышэй, у жорсткую палітыку бяспекі краіны, калі шматлікія грамадзяне (перадусім апазіцыянеры) робяцца патэнцыйнымі ворагамі сістэмы. Параўнанне афіцыйнай палітыкі ў сферы культуры і мовы з палітыкаю генерала Пэтэна таксама мае сэнс (с. 226), бо, як і французскі дыктатар падчас Другой сусветнай вайны, сучасны беларускі «аналаг» прапаноўвае аднабаковае і выключна

традыцыяналісцкае бачанне культуры і мовы, скіроўваючы культурную палітыку ў бок фальклярызацыі і фетышызацыі паняткаў «раса», «народ» (французскі ў выпадку Пэтэна, «беларускі» і «савецкі» – у нашым). Пры гэтым гуманітарная веда, як ніякая іншая, перакручваецца ды ідэалагізуецца, а ў выніку цалкам вынішчаецца, так і не паспеўшы вырасці з савецкай эпохі.

Зрэшты, вялікім плюсам працы ёсць не зусім тыповы для французаў дэкаланіялісцкі падыход аўтараў да перадачы беларускай спецыфікі – уласных назваў, напрыклад. Аўтары (Віржыні Шыманец добра валодае беларускаю моваю) адчуваюць моўную праблематыку Беларусі. Яны зрабілі досыць смелую спробу праігнараваць расійскацэнтрычную традыцыю азначэння беларускіх назваў у афіцыйнай французскай мове. У прадмове аўтары пазначылі, што падаюць уласныя назвы, напрыклад, прозвішча прэзідэнта Лукашэнкі, не ў расійскай транскрыпцыі (Loukachenko), а ў транскрыпцыі беларускай (Loukachenka) (с. 12). Таксама аўтары ўжываюць неакадэмічную форму прыметніка «беларускі» (**biélorussien** замест **biélorusse**). Апошняя форма – неалагізм, створаны, як пішуць аўтары эсэ, у 1940-я гг. пад уплывам расійскай мовы (с. 12), тады як даследчыкі надаюць Беларусі ўсе правы на рускую ці русінскую спадчыну, а таму настойваюць на **biélorussien**.

Калі ўспрымаць эсэ ў выключна французскім кантэксце, то для франкамоўнага чытача гэта сапраўды найлепшыя ўводзіны ў беларускі свет, як адзначае «Le Monde diplomatique» (Biélorussie, 2007). Аўтары, няма сумневу, улічвалі неабазнанасць французскага чытача ў беларускім пытанні, таму аздобілі эсэ падрабязнымі тлумачэннямі ды біяграфічнымі заўвагамі, здымкамі ды рознага кшталту каментарамі, каб тэкст быў як мага даступнейшы. З гэтай прычыны эсэ можа падацца беларускаму чытачу і тым больш беларускаму палітолагу занадта правільным, а часам простым. Тым не менш, мяркую, свежасць погляду звонку прыносіць толькі карысць, бо такім чынам паўстаюць новыя перспектывы і не вядомыя дасюль заўвагі, вымярэнні палітычнага. Магчыма, калі сёння мы лепей зразумеем спружыны дыктатуры, заўтра будзе прасцей яе пазбавіцца.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**

1. Dépelteau, F., Lacassagne, A. (2003). *Le Bélarus. L'état de l'exception*. PU LAVAL.
2. Drweski, B. (2002). *Le petit parlement biélorussien. Les Biélorussiens au Parlement polonais entre 1922 et 1930.* L'Harmattan.
3. Du Castel, V. (1997). *Biélorussie, une indépendance à la dérive*. L'Harmattan.
4. Goujon, A., Symaniec, V. (1997). *Parlons biélorussien, langue et culture.* L'Harmattan.
5. Goujon, A., Symaniec, V., Lallemand, J.-C. (2001). *Chroniques sur la Biélorussie contemporaine*. L'Harmattan.
6. Grandazzi, G., Ackerman, G., Lemarchand, F. (2006). *Les silences de Tchernobyl - L'avenir contaminé*. AUTREMENT.
7. Lapatniova, A. (2001). *Biélorussie: les mises en scène du pouvoir*: L'Harmattan.
8. Lallemand, J.-C. (2006). *Biélorussie 2006. Manipulation électorale dans une dictature post-soviétique*, URL (consulted 25.01.11) http://www.ceri-sciencespo.com/publica/cahier_russie/cahier_2.pdf
9. Lallemand, J.-C., Symaniec, V. (2007). *Biélorussie, mécanique d'une dictature*: Les petits matins, Paris.
10. «Biélorussie. Mécanique d'une dictature» (2007), *Le Monde diplomatique,* juillet 2007: 24.
11. Richard, Y. (2002). *La Biélorussie, une géographie historique*. L'Harmattan.
12. Symaniec, V. (2003a). *Le théâtre en Biélorussie (fin du XIXème siècle – années 1920).* L'Harmattan.
13. Symaniec, V. (2003b). *Mikola Piniguine. Mises en scène d'un exil*. L'Harmattan.
14. Symaniec, V. (2010). *Interview de Virginie Symaniec, Le régime biélorusse : «une verticale présidentielle et une violence systématique envers ses opposants»*, URL (consulted 25.01.11) http://www.taurillon.org/Le-regime-bielorusse-une-verticale-presidentielle-et-une-violence

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Сяргей Богдан

# У тумане знешняй палітыкі Беларусі

Улаховић, В.Е. (2010). *Формирование основ внешней политики Республики Беларусь (1991–2005).* Минск: Харвест. 352 с.

Дырэктар Цэнтру міжнародных даследаванняў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту Уладзімір Улаховіч зрабіў першую спробу падсумавання беларускай вонкавай палітыкі за гады незалежнасці. Выніковая кніга выглядае неадназначна. На другой старонцы выдання, што пабачыла свет у менскім выдавецтве «Харвест», якое спецыялізуецца збольшага на ненавуковай літаратуры, імёны рэцэнзентаў стаяць побач з грыфам «Рэкамендавана да друку Упраўленнем знешняй палітыкі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». То бок чытачу застаецца гадаць: ён трымае ў руках навуковае выданне, ці ўсё ж афіцыйны курс гісторыі міжнароднай дзейнасці беларускага ўраду?

Скажу адразу, што адназначнага адказу на гэта я не магу даць і пасля прачытання ўсяго тэксту. Бо калі дэталяў, што супярэчаць афіцыйнай палітыцы, няшмат – усяго толькі занадта нейтральныя, як для афіцыёзу, згадкі пра апазіцыйных палітыкаў, – дык заўвагаў да выдання як навуковай публікацыі ўзнікае нашмат болей. Тэкст чытаецца вельмі цяжка, бо ў ім складана адшукаць канцэптуальны каркас ці нейкі сюжэт. Матэрыял арганізаваны вакол аднае лініі, якую ўмоўна можна назваць «шэсце беларускае дыпламатыі ды вонкавае палітыкі па планеце, яе поспехі і дробныя цяжкасці». Сам аўтар мяркуе, што «*манаграфія напісаная не ў інтэрпрэтацыйным ключы, а ў стылі, які больш уласцівы гісторыкам-фундаменталістам, што ставяць у цэнтр разгляду рэальныя падзеі ды факты, а не каментары да іх*» (с. 6). Аднак нават простай упарадкаванай хронікі развіцця міжнародных сувязяў Беларусі ў кнізе не знойдзеш.

## Ідэя і метад

Кніга пачынаецца з разгляду тэарэтычных асноваў і гістарыяграфіі вонкавай палітыкі. На жаль, аўтар не рызыкнуў пайсці далей за паўтор самых агульных рэчаў, напісаўшы, напрыклад, што канцэптуальны падыход у вонкавай палітыцы характарызуюць «*ацэнка сітуацыі, адэкватная рэфлексія нацыянальных інтарэсаў, падбор сродкаў іх прасоўвання і выпрацоўка стратэгіі*» (с. 16). Тут няма з чым спрачацца, але якая карысць ад такога паўтору для разгляданай тэмы? Далей ідзе пералік працаў асноўных беларускіх навукоўцаў па тэме і па рэлевантных,

на думку аўтара, пытаннях: нацыянальнай ідэнтычнасці і нацыянальнай гістарычнай дактрыне. Звяртае на сябе ўвагу адметнае апісанне асаблівасцяў фармавання «беларускай ідэі»: «*Яе станаўленню спрыялі як асіміляцыя духоўнага досведу заходнееўрапейскай і рускай традыцыяў культураю Беларусі, так і сацыяльна-філасофскія і гуманістычныя ідэі беларускай філасофіі, увасобленыя ў дзейнасці Ф. Скарыны, С. Буднага, С. Полацкага, у работах пачатку XX стагоддзя А. Гаруна, Н. Абдзіраловіча-Канчэўскага, у філасофска-публіцыстычных тэкстах Я. Коласа, М. Багдановіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, В. Ластоўскага*» (с. 20–21). Цешыцца, праўда, тут няма з чаго, бо, здаецца, для аўтара гэта толькі рытуальнае называнне імёнаў (некаторых нават няправільна), а не асэнсаванне поглядаў – бо дзіўная і сама падборка асобаў і тое, як яна выбіваецца з кантэксту самой кнігі (калі б гэты спіс раптам знік, чытач таго і не заўважыў бы).

Разглядаючы стан даследаванняў і публікацыяў па тэме, Улаховіч наважыўся нават прызнаць існаванне шэрагу «недзяржаўных» працаў, асцярожна названых «дыскусійнымі» (с. 21). Але бяда ў іншым. Фактычна абвясціўшы намер даследаваць вонкавую палітыку Беларусі ў 1991–2005 гг., аўтар ужо ў першым раздзеле раптам пачынае разглядаць (ці дакладней апісваць) публікацыі куды шырэйшага плану: ад Полацкага княства да савецкага перыяду і часоў незалежнасці. Уласна ж апісанню – не аналізу – даследаванняў вонкавай палітыкі менавіта незалежнай Беларусі адводзіцца менш за восем старонак. Прытым апісанне гэтае вельмі агульнае.

Яшчэ горш выглядае агляд замежных даследаванняў па тэме, дзе кідаецца ў вочы адсутнасць польскіх публікацыяў (у прыватнасці Цэнтру ўсходніх даследаванняў) і вельмі маргінальная ўвага да расейскіх аўтараў (напрыклад, Дзмітрый Трэнін проста згадваецца, а такія фігуры як Канстанцін Затулін ігнаруюцца наагул). У кнізе У. Улаховіча прысутнічае і рэдкая для выдання з'едлівая заўвага, вартая цытавання на мове арыгіналу: «*Больше всего изданий опубликовал канадский автор Д. Марпл, однако его работы можно отнести к жанру скорее публицистики, нежели научных исследований*» (с. 42). Думаецца, Улаховічу варта было б больш дэталёва спыніцца на гэтым пункце «ненавуковасці» работ прафесара Універсітэту Альбэрты Дэвіда Марплза (David Marples), бо інакш заўвага выглядае дастаткова сумнеўнаю.

Уладзімір Улаховіч наступным чынам пазначае мэты ўласнага даследавання: «*паспрабаваць разгледзець асноўныя элементы працэсу станаўлення і развіцця знешняй палітыкі краіны, яе дыпламатычнай гісторыі ў першыя пятнаццаць гадоў існавання ... абазначыць канкрэтныя знешнепалітычныя прынцыпы канцэптуальнага характару, што склаліся на гэтым гістарычным адрэзку*» (с. 5). Аднак мэты і задачы даследавання прапісаныя даволі невыразна, а некаторыя праграмныя фрагменты змяшчаюць вельмі спрэчныя сцверджанні: «*канцэптуальныя палажэнні, што паслужылі аб'ектам даследавання, разглядаюцца як прынцыпы міжнароднай палітыкі Беларусі*

*і адначасова як інструменты рэалізацыі гэтай палітыкі*» (с. 5–6). На думку Улаховіча, пазначаная тэма «*праецыруе міждысцыплінарны падыход і, апроч гістарычнага погляду, патрабуе тэарэтычнага аналізу*» (с. 54). Таму прымяняюцца наступныя «прыватныя методыкі»: «*аналіз, параўнанне, абагульненне, сістэматызацыя, прагноз»,* прытым што *«асноўным быў сістэмны метад*» (с. 54). Фактычна, гэта ўсё, што можна зразумець з тэксту пра метадалогію даследавання.

## Прызнанне Манголіі

Другі раздзел прысвечаны вонкавай палітыцы і фармаванню міжнароднай ідэнтычнасці краіны ў 1990-я гг. Ён пачынаецца з разгляду «канцэптуальнага выбару» і параўнання беларускага выбару з досведам іншых краінаў. Праўда, параўнанне вельмі фрагментарнае і спрэчнае, бо змешвае вонкавую палітыку і нацыянальную бяспеку. Да таго ж яно не пазбаўленае яўных памылак. Скажам, Улаховіч мяркуе, што пасада памочніка прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы была ўведзеная ў 1970-я гг., хаця такая пасада дэ-факта існавала з 1947 г., а з 1953-га ўжо і ў цяперашняй афіцыйнай форме. Аб'екты для параўнання выбраныя таксама даволі дзіўна: апроч ЗША, Брытаніі, Расіі, Украіны, Латвіі ды Літвы, разглядаецца – прычым вельмі агульна – досвед Кыргызстану, Таджыкістану і Туркменістану, але не ўлічваецца Польшча ды іншыя рэлевантныя прыклады.

Далей Улаховіч разглядае пытанні «палітычна-праўнага замацавання суверэннасці міжнароднай палітыкі Беларусі» ў 1991–1994 гг., але абмяжоўваецца самымі агульнавядомымі фактамі ды не закранае нават супярэчлівасці міжнароднай дзейнасці беларускага ўраду за часоў Кебіча і Шушкевіча. А між тым апошняя кніжка першага пасла Беларусі ў Нямеччыне і актыўнага ўдзельніка працэсу вызначэння міжнароднай палітыкі нашай краіны Пятра Садоўскага як найлепшым чынам адлюстроўвае часам скандальную шматграннасць (нават звязаную з махлярствам і ўнутрыўладнымі звадамі) гэтае палітыкі (Садоўскі, 2008). У кнізе Ўлаховіча згадак пра яе няма, магчыма з той прычыны, што выйшла праца Садоўскага адносна нядаўна – напрыканцы 2008 г. На тле такіх прагалаў які сэнс у дробязных паведамленнях пра тое, што «*арыгіналы адпаведных дакументаў* [аб прызнанні Беларусі Турэччынай, Швецыяй і Манголіяй – С.Б.] *можна было пабачыць на выставе "Станаўленне знешняй палітыкі Беларусі: міжнародна-прававыя дакументы і фотаздымкі (1945–2006)", якая праходзіла ў беларускім МЗС у 2007 г.*» (с. 78). Пры гэтым нават аднаго поўнага абзаца не прысвечана пытанню адмовы Беларусі ад ядравай зброі ды адпаведных матэрыялаў. Толькі на с. 80 у некалькіх сказах пералічваюцца асноўныя факты па гэтым пытанні.

Больш сістэматычна і ўзважана напісаны падраздзел «Станаўленне беларускай дыпламатычнай школы», якому пайшло на дабро выкарыстанне аўтарам архіваў МЗС. Пададзены матэрыял сыраваты, яму бракуе крытычнага разгляду, але некаторыя

змешчаныя факты выбіваюцца з парараднай карціны развіцця беларускай дыпламатыі сваёй неардынарнасцю. Напрыклад, тое, што Інфармацыйны цэнтр МЗС быў напачатку створаны «*на правах малога прадпрыемства Інфармацыйна-камерцыйны цэнтр (ІКЦ) пры МЗС БССР*» (с. 89).

Разглядаючы ў наступным падраздзеле дактрыну нейтралітэту, Улаховіч пачынае з агульнай гісторыі панятку. Усё б нічога, але аналіз нават добра вядомых міжнародных прэцэдэнтаў зроблены вельмі дзіўна. Анягож, нейтралітэт Фінляндыі разглядаецца праз спасылкі на дамоўленасці 1930-х гг., затое ігнаруюцца дзве вайны з СССР і адносіны з Масквою па Другой сусветнай вайне, нягледзячы на яўную дарэчнасць разгляду канцэпцыі «фінляндызацыі» ў беларускім выпадку. Называюцца таксама прыклады Швейцарыі, Аўстрыі ды Швецыі. Затое не тлумачыцца, якая розніца паміж пазначанымі выпадкамі, і дзе меў месца выбар, а дзе нейтралітэт быў прымусовы. Гэтак сама хаатычна разбіраецца нейтральны статус постсавецкіх рэспублікаў: Туркменістану, Кыргызстану, Таджыкістану, а таксама Малдовы і Украіны. Месца на сутнасны аналіз не застаецца, затое амаль на цэлую старонку цытуецца выказванне арыентаванага на Расію дэпутата Украіны А. Дзеркача ў 2001 г. (с. 104), і на абзац – апісанне выданнем «Коммерсантъ» візіту шведскага міністра ў Расію ў 2001 г. (с. 101). Уладзімір Улаховіч максімальна сцісла, але трапна падсумоўвае досвед «постсавецкага нейтралізму» (тэрмін аўтара, с. 105): «*Досвед постсавецкай нейтральнасці сведчыць, што па змесце гэта быў не класічны міжнародна-прававы нейтралітэт, а нешта іншае. Па палітычнай сутнасці гэта хутчэй форма ўмацавання незалежнасці праз асцярожнасць знешнепалітычнага выбару. (...) для большасці дзяржаваў гэта было больш дэкларацыяй, намерам, чым змястоўнаю і паслядоўнаю палітыкаю*» (с. 106).

Праўда, аўтар у наступным падраздзеле не наважыўся наўпрост звязаць гэтую выснову з Беларуссю, у якой, на думку Улаховіча, склалася «свая інтэрпрэтацыя панятку нейтралітэту» (с. 106). У прыватнасці аўтар – чамусьці ў прошлым часе – піша, што «*беларускі нейтралітэт выступаў як інструмент фармавання міжнароднай і палітычнай ідэнтычнасці краіны і, з другога боку, як пэўны кампраміс розных грамадска-палітычных сілаў*» (с. 107). Улаховіч разглядае розныя канцэпцыі, прынятыя і непрынятыя дакументы, аднак адкрытым застаецца пытанне, ці можна казаць пра здзяйсненне канцэпцыі нейтралітэту на практыцы. І калі можна, дык у які час? Нават у 1992–1993 гг. немагчыма ўсур'ёз разглядаць Беларусь як нейтральную краіну, пазней пытанне робіцца ўвогуле рытарычным, бо наша дзяржава ўцягваецца ў хаўрусніцкія адносіны з Масквою. То бок, можа, не трэба шукаць інтэрпрэтацыі беларускага нейтралітэту, а варта прызнаць, што яго няма і не было?

Улаховіч сцвярджае, што «*самая маштабная дыпламатычная ініцыятыва мінулага пятнаццацігоддзя – стварэнне бяз'ядравай зоны ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе – таксама мае наўпростае дачыненне да імкнення рэалізаваць белару-*

*скі нейтралітэт на практыцы*» (с. 120), аднак не прыводзіць доказаў сур'ёзнасці гэтай ініцыятывы, што выглядала хутчэй як дэмагагічны крок у адказ на пашырэнне АПАД (НАТО), чымся як сапраўднае і ўзважанае імкненне да бяз'ядравасці. Яшчэ больш спрэчным ёсць іншы згаданы аўтарам крок да нейтральнасці – уступленне Беларусі ў Рух недалучэння ў 1998 г. Але дыскусіям, відаць, не знайшлося месца ў аглядане́й кнізе.

Цалкам прадказальна наступны раздзел кнігі называецца «Абранне прэзідэнта. Распрацоўка знешнепалітычных параметраў у новых умовах». Ключавым прынцыпам ў беларускай вонкавай палітыцы гэтага часу, на думку аўтара, быў прынцып «шматвектарнай збалансаванай палітыкі» (с. 122). Але не зразумела, па-першае, у чым палягае гэты прынцып, калі далей Улаховіч тлумачыць, што такі падыход «*шмат у чым грунтаваўся на імкненні аднавіць СССР, захаваць і ўмацаваць поўнамаштабныя сувязі з дзяржавамі СНД, у першую чаргу з Расіяй*» (с. 122). Дзе тут шматвектарнасць і збалансаванасць? Па-другое, чым гэтая палітыка рознілася ад палітыкі ўраду Кебіча да 1994 г.? Хіба толькі няздольнасцю Кебіча аформіць свае прарасійскія і прасавецкія сімпатыі ў форме гучных праграмаў і лозунгаў. Сутнасць жа была тая самая.

Тэрмін «шматвектарнасць» – увогуле загадка, бо яго азначэння няма не толькі ў кнізе Улаховіча, але і ў іншых вядомых мне публікацыях і дакументах па гэтым пытанні. Застаецца даваць толькі кантэкставую інтэрпрэтацыю. У прыватнасці, у кнізе прыводзіцца выступ міністра замежных справаў Івана Антановіча, які ў 1998 г. абвясціў галоўным прынцыпам вонкавай палітыкі шматвектарнасць і адначасова назваў галоўнаю хібаю вонкавай палітыкі Беларусі на папярэднім этапе «празмерную заходнюю арыентацыю» (с. 133). Трэба думаць, тэрмін звязаны з рэакцыяй на збліжэнне з Захадам.

Але раздзел мае пэўную каштоўнасць дзякуючы расповедам пра розныя – збольшага ніколі не прынятыя – праекты ды інстытуцыі, што мелі адносіны да вонкавай палітыкі Беларусі ў той час. Разам з тым пры чытанні падраздзелу можа скласціся ўражанне пра ўнікальна паспяховы этап беларускай палітыкі, хаця насамрэч усё, што рабілася на той час, праўдападобна, было б зроблена практычна любым беларускім урадам.

Паказальна, што наступнаму падраздзелу – пад назваю «Стратэгічнае партнёрства з Расіяй» – Улаховіч прысвяціў менш за тры старонкі. Але шмат пытанняў пакідае падраздзел «Супраца па лініі шматбаковай дыпламатыі ды на еўрапейскім кірунку ў 1995–1999 гг.», дзе змяшаная ў адно супраца з міжнароднымі арганізацыямі, у тым ліку ААН, ЕЗ, АБСЕ, НАТО і рознымі еўрапейскімі краінамі. На дадатак тут жа вядзецца гаворка пра II З'езд беларусаў свету ў 1997 г. Усё гэта без разбіўкі па пунктах: канвеерным чынам, абзац за абзацам, ідзе пералік падзеяў, выбраных аўтарам. Напрыканцы выснова – пра ажыццяўленне прынцыпу шматвектарнасці ў 1996–1999 гг. Агулам выглядае незразумела, але паважна. У такім стылі пісалі, дарэчы, і пра міжнародныя кантакты БССР: трош-

кі пра ААН, пра пастаўкі прадукцыі ў 80 краінаў свету, пра рух міру і г.д. Не зразумела, але ўражанне складалася, нібыта кантакты ёсць.

Больш за дванаццаць старонак (с. 151–163) аўтар прысвяціў надзвычай сумнеўным у плане іх абгрунтаванасці і ўзважанасці ініцыятывам афіцыйнага Мінску ў стварэнні «поясу добрасуседства» і бяз'ядравай прасторы. На тле іншых падраздзелаў гэты выглядае проста невымерным, асабліва калі параўнаць з фактычным месцам гэтай ініцыятывы і ў тагачаснай вонкавай палітыцы, і ў выніках працы беларускай дыпламатыі. Кніга дэманструе адсутнасць выразнай іерархіі падзеяў і кірункаў беларускай вонкавапалітычнай дзейнасці. Заяўлены «гістарычны фундаменталізм» выяўляецца ў адмове бачыць відавочную сувязь між гэткімі ініцыятывамі ды прарасійскім і антынатаўскім стаўленнем афіцыйнага Мінску на той час.

Апроч таго, у другім раздзеле даволі блытана разглядаюцца сувязі Беларусі з краінамі Азіі, Афрыкі ды Лацінскай Амерыкі. У Беларусі былі прыярытэты ў гэтых рэгіёнах, і палітыку абумоўлівалі пэўныя чыннікі, яна была адзначаная і поспехамі і няўдачамі, але ў агляданай кнізе ёсць толькі пералік некаторых візітаў таго часу. Вядома, нашто пісаць пра правал у Перу ці Іраку? Мала што пазітыўнага даў бы і адэкватны аналіз удзелу ў Руху недалучэння – клубе краінаў з сумнеўнымі палітычнымі рэжымамі. Праўда, Уладзімір Улаховіч нечакана прызнае, што «*ў рамках рашэння пра далучэнне да РН Беларусь арыентавалася і на яго палітычную складовую*» (с. 173–174). Больш за тое, «*нельга не прызнаць і некаторую пераацэнку РН як вонкавапалітычнага рэсурсу Беларусі*» (с. 174).

Пры канцы другога раздзелу разглядаецца рэарганізацыя МЗС у 1995–2000 гг. У пераліку шэрагу падзеяў і дакументаў губляецца важнае – змены структуры і штатнага раскладу МЗС з арыентацыяй на «павышэнне эфектыўнасці знешнеэканамічнага складніку» ў 1996 г. (с. 174) і скасаванне напрыканцы 1998 г. міністэрстваў знешнеэканамічных сувязяў і па справах СНД.

## Пра ўсё, але пра што?

Трэці раздзел названы «Вонкавая палітыка Рэспублікі Беларусь на парозе новага тысячагоддзя (2000–2005)». Ён пачынаецца падраздзелам «Прагматызм як аснова гандлёва-эканамічнай супрацы». Адбудаваць СССР ці заняць Крэмль у беларускага кіраўніцтва не атрымалася, таму асноўным арыенцірам стала зараблянне грошай. «*У 2000–2005 гг. прынцып пабудовы шматвектарнай збалансаванай вонкавай палітыкі быў дапоўнены прынцыпам прагматычнай супрацы, заснаванай на прасоўванні нацыянальных інтарэсаў*» (с. 180). Аднак адметна, наколькі рыторыка разыходзілася з рэальнасцю. Улаховіч пералічвае ключавыя палажэнні вонкавай палітыкі краіны, як іх выклаў прэзідэнт на пачатку 2000 г.: Расія і СНД, Еўропа, краіны Балтыі, Украіна, Польшча, ЗША, краіны Азіі, Афрыкі ды Лацінскай Амерыкі (с. 180). Рытарычным будзе пытанне, чаму ж тады афіцыйны Мінск так

настойліва сябраваў з Іракам, Іранам і Кубаю ды грэбаваў стасункамі з Вашынгтонам? Але такія пытанні ў кніжцы Улаховіча не разглядаюцца, затое на чытача абрынаецца мноства лічбаў і фактаў, якія мала пра што кажуць самі па сабе. Вось 1023 прадстаўніцтвы замежных арганізацыяў з 51-ай краіны свету (с. 181) – гэта шмат ці не? І хто зразумее, што азначае фраза: «*прырост экспарту забяспечаны на адзін мільярд долараў у параўнанні з параметрамі праграмы*» (с. 182)?

Аднак Улаховіч перадае атмасферу пераходу да арыентацыі на гандаль. Ён цытуе Хвастова: «*Паглыбленне раўнапраўнай супрацы з Расійскаю Федэрацыяй – важны, аднак не адзіны кірунак беларускай вонкавай палітыкі*» (с. 183). Праўда, нязменна фрагментарнае адлюстраванне розных кірункаў і аспектаў гэтай палітыкі не дазваляе зразумець нечага канкрэтнага. Адметна толькі, што пры адсутнасці сур'ёзных кантактаў паміж беларускім і еўрапейскімі ўрадамі аўтар ілюструе развіццё стасункаў з Еўропаю прыкладамі накшталт міжгаліновай сустрэчы дзелавых колаў Нямеччыны і Беларусі з кантактна-кааперацыйнаю біржай у 2003 г. (с. 187).

Нават у рамках наступнага падраздзелу «Пашырэнне ЕЗ і Беларусь. Ініцыятывы беларускага МЗС» не прызнаецца ізаляванасць нашай дзяржавы пры кантактах з заходнімі краінамі з 1997 г. За адсутнасцю іерархіі падзеяў і кірункаў супрацы, а адпаведна і шкалы, паводле якой можна вымяраць адносіны, вельмі лёгка выдаваць дробныя праекты за буйныя ініцыятывы. Пры адсутнасці дыферэнцыяцыі адносінаў магчыма абагульняць і змешваць розныя кірункі, што дапамагае схаваць поўны правал палітыкі за лакальнымі і сацыяльнымі праектамі ды праграмамі. Праўда, і там не ўсё чыста, і, напрыклад, створаныя ў Беларусі еўрарэгіёны заслугоўваюць большага аналізу, а не кароткай згадкі пра іх існаванне (с. 191). Зрэшты, аўтар прызнае, што пералічаныя ім прапановы, у прыватнасці з беларускага боку, «*не былі рэалізаваныя ў поўным аб'ёме з-за палітычных рашэнняў наконт супрацы з Беларуссю, прынятых органамі ЕЗ. Супраца была мінімізаваная і зведзеная збольшага да гандлёвай і гуманітарнай сфераў; ЕЗ таксама імкнуўся супрацоўнічаць з няўрадавым сектарам, апазіцыйнымі палітычнымі партыямі*» (с. 205).

Наступны падраздзел – «Міжнародная бяспека, удзел у форумах шматбаковай дыпламатыі» – па сваёй эклектычнасці ды разнастайнасці ёсць унікальным нават для гэтай кнігі. Бо ў ім ідзецца не толькі пра НАТО і ААН, але і пра міжнародную супрацу ў вайсковай сферы, чарнобыльскую тэматыку, АБСЕ, двухбаковыя адносіны з краінамі Азіі, Афрыкі ды Лацінскай Амерыкі, колькасць міжнародных дамоваў з удзелам Беларусі, колькасць прызнанняў, наяўнасць дыпламатычных прадстаўніцтваў, а завяршаецца ўсё фрагментам, прысвечаным месцу Беларусі ў сусветным рэйтынгу краінаў паводле індэксу развіцця чалавечага патэнцыялу. Усё гэта на менш як трынаццаці старонках з фотаздымкамі. Наўрад ці такая структураванасць і такое спалучэнне тэмаў апраўданыя ў рамках аднаго падраздзелу.

Рэшта кнігі занятая канспектыўным выкладам абставінаў распрацоўвання і зместу розных прамоваў прэзідэнта, дзяржаўных дакументаў, кшталту Вайсковай дактрыны Беларусі, Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі, Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2001–2005 гг. і новай версіі сайту МЗС паводле стану на 2003 г. На дзесяці старонках заканспектаваны даклад Аляксандра Лукашэнкі «Вонкавая палітыка Беларусі ў новым свеце», трохі больш месца прысвячаецца розным другарадным у дачыненні тэмы манаграфіі падрабязнасцям прыняцця Закону «Аб асноўных кірунках унутранай і вонкавай палітыкі Рэспублікі Беларусь» ды яго характэрна неканкрэтнаму і некрытычнаму апісанню ў стылі: «*Апраўдана, што асноўная ўвага надаецца эканоміцы*» (с. 278).

Апроч таго, у трэцім раздзеле асобна вылучаны падраздзел «Завяршэнне фармавання вонкавапалітычнага механізму», дзе разглядаецца механізм вонкавапалітычнай дзейнасці, пераважна з пункту гледжання структураў і працэдураў. І лагічным панегірыкам беларускай навуцы стаў падраздзел «Станаўленне нацыянальнай школы міжнародных даследаванняў», у якім прадстаўлены хоць і не поўны, але даволі рэпрэзентатыўны агляд стану міжнародных даследаванняў у краіне, і згадваецца нават недзяржаўны цэнтр «Стратэгія». Аўтар пакідае ўбаку якасць гэтых даследаванняў ды іх месца ў міжнароднай навуковай супольнасці, але гэты прагал красамоўна сведчыць пра адсутнасць увагі да такіх «дробязяў». Яго запаўняюць шчодрыя цытаты паправак у так ніколі і не прынятыя дакументы, а таксама пералік удзельнікаў круглага стала, праведзенага Цэнтрам міжнародных даследаванняў БДУ ў 2000 г. (с. 245). Агулам трэці раздзел выглядае горш за астатнія часткі кнігі. Здаецца, чым бліжэй да сучаснасці падыходзіць расповед, тым больш хаосу і невыразнасці з'яўляецца ў тэксце.

## Ні навукі, ні ідэалогіі

Адна з фундаментальных праблемаў агляданага выдання палягае ў тым, што змешчаны ў ім фактalaгічны матэрыял сам па сабе надта разнамасны і рознакаліберны. То цэлыя старонкі аддаюцца пад апісанне спробаў распрацоўваць канцэпцыі вонкавай палітыкі (прычым разглядаюцца праекты, што так ніколі і не былі прынятыя), то каротка – на пару старонак – разглядаецца кардынальны паварот беларускае дыпламатыі ў кірунку развіваных краінаў.

Важныя факты перамяшаныя з банальнасцямі ды інфармацыяй, пазбаўленай сэнсу, напрыклад, звесткамі пра чарговыя прэсавыя канферэнцыі міністраў замежных справаў. Побач са згадкаю важнага візіту міністра Уладзіміра Сянько стаіць анекдатычнае (бо вырванае з кантэксту) апісанне ягонага пытання нямецкаму калегу: «*Ці ёсць для беларускага нейтралітэту месца ў новай Еўропе?*» (с. 122–123). Выглядае гэта як наіўнае пытанне настаўніку, а не размова двух міністраў. Дарэчы, Уладзімір Улаховіч увогуле асабліва не спыняецца на людзях, што рабілі вонкавую палітыку краіны. Нават міністры сустракаюцца на старонках кнігі толькі як маргінальныя персанажы, трохі

больш увагі надаецца цяперашняму міністру Сяргею Мартынаву, але і яму няшмат. Замены міністраў згадваюцца як дробныя падзеі, у адрозненне ад круглых сталоў ці выставаў.

Нават пры павярхоўным праглядзе крыніцаў іх склад выклікае здзіўленне. Анягож толькі 8 з 519-ці крыніцаў належаць па часе публікацыі да перыяду пасля 2006 г., і нават гэтыя восем пераважна не даследаванні, а дакументы ці інфармацыйныя публікацыі. Няўжо аўтар хоча сказаць, што вонкавая палітыка краіны не даследавалася пасля 2006 г.? Але сам ён такога не піша, затое ў рэцэнзента склалася журботнае ўражанне, што кніга проста не актуалізавалася, хаця падпісалі яе ў друк толькі напрыканцы 2009 г. Пералік крыніцаў звыкла перамешвае фундаментальныя даследаванні ды кароткія газетныя зацемкі ў адным вялізным спісе. Выніковая лічба ўражвае, але прагляд зместу бязлітасна расчароўвае: мноства публікацыяў – гэта невялікія артыкулы. Патлумачыць такую выбарку газетна-часопісных артыкулаў чымсьці апрача выпадковасці ў мяне не атрымалася, многія ўключаныя ў спіс буйныя публікацыі згадваюцца толькі мімаходзь і адзін раз.

Кніга звыкла для постсавецкай «дзяржаўнай» навукі пазбаўленая канфліктнасці, і любыя згадкі пра супярэчнасці беларускай вонкавай палітыкі ў ёй адсутнічаюць увогуле, не кажучы пра іх аналіз ці апісанне. Пры чытанні перыядычна ўзнікае ўражанне, што гартаеш дайджэст зводак і данясенняў МЗС. Відавочна, толькі міністэрства і можа зрабіць выгляд, што словы міністра Антановіча, маўляў, супраца Беларусі з НАТО ўсё ж развіваецца, сведчаць пра развіццё стасункаў з Захадам на тле поўнай блакады Беларусі з боку заходніх краінаў пасля рэферэндуму 1996 г.

Але праблема кнігі не абмяжоўваецца толькі такімі ідэалагічна далікатнымі момантамі. Фактычна, яна ані дэманструе фармавання механізму вонкавых зносінаў краіны, ані апісвае структуры ці хаця б гісторыі гэтых зносінаў. Візіты і выказванні цытуюцца фрагментарна, статыстычныя лічбы нярэдка называюцца без указання на час, якога яны датычаць. Статыстыка амаль ніколі не супастаўляецца па розных гадах, што ператварае лічбы ў хаос. Праблема не толькі са статыстыкаю – параўнанні вонкавапалітычных канцэпцыяў шэрагу краінаў абмяжоўваюцца толькіараднымі цытатамі з кожнай канцэпцыі, адсутнічае не проста падрабязны аналіз, але і нават сціслы выклад зместу гэтых дактрынаў.

Разам з тым, кніжка не адпавядае жанру апалагетыкі. Канцэптуальна яна не прапаноўвае нічога, апрача параднага спавяшчэння, што магло прагучаць на нейкай урачыстай імпрэзе. Наўрад ці можна ўсур'ёз успрымаць сцверджанні пра поспехі беларускае дыпламатыі, прачытаўшы расповед У. Улаховіча пра тое, як Беларусь спрабавала прасунуць у ААН свае рэзалюцыі пры дапамозе краінаў Акіяніі. І не важна, што ў тым выпадку ад яе адасобіліся амаль усе іншыя буйнейшыя хаўруснікі ў развіваным свеце.

Вядома, каб атрымаць грыф Адміністрацыі Прэзідэнта, шмат пра што давялося прамаўчаць. Справа

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

ішла, аднак, не ў кірунку спрашчэння: мудрагелістых месцаў у кніжцы Улаховіча хапае. На фоне пераліку шэрых фактаў, датычных, прыкладам, даслоўнага пераказу зместу далёка не самых істотных указаў прэзідэнта, у вочы адразу кідаецца самотны пасаж: «*Да пачатку 21-га ст., нягледзячы на складанасці і праблемы, знешняя палітыка суверэннай Беларусі ў значнай ступені рэалізавалася як з пункту гледжання сваёй праграсіўна-тэарэтычнай функцыі (быў напрацаваны важкі багаж тэарэтычных матэрыялаў доўгатэрміновага характару), так і з пункту гледжання планава-аналітычнага (распрацаваныя і прынятыя праграмна-планавыя дакументы галіновага і агульнага характару) і арганізацыйна-кіроўнай функцыяў (быў сфармаваны дастаткова эфектыўны знешнепалітычны механізм)*» (с. 179).

Перыядызацыя ў рэцэнзаванай кніжцы зробленая таксама не зусім выразна (с. 47): 1991–1994 гг. – «перыяд міжнароднага прызнання»; 1994–2000 гг. – «перыяд развіцця вонкавай палітыкі на аснове прынцыпаў суверэннасці ды шматвектарнасці»; і 2000–2005 гг. – «перыяд завяршэння фармавання элементаў, што ўтвараюць асновы вонкавай палітыкі». То бок фармаванне, далейшае фармаванне і завяршэнне фармавання. Як, цікава, мае называцца наступны перыяд – перафармаванне?

Яшчэ адна вартая шкадавання, але пашыраная рыса публікацыяў постсавецкай навукі – недастатковае або цалкам адсутнае рэдагаванне (і навуковае, і агульнае) – таксама бачная ў гэтай кнізе. У выніку ў выданні прысутнічаюць моўныя і стылёвыя памылкі. Хапае і дробязяў – зблытаных словаў «многие» і «многочисленные», а канадскі даследнік Дэвід Марплз ператварыўся ў Д. Марпла. Сама ж кніга адрасаваная таксама «*студэнтам, чые інтарэсы звязаныя з праблематыкаю міжнародных адносінаў*».

У чым жа асноўная каштоўнасць кнігі Улаховіча? Найперш у самой смелай спробе асэнсавання досведу вонкавых зносінаў незалежнай Беларусі. Выканаць гэтае заданне самому Улаховічу ўдалося толькі часткова, аднак выклік кінуты. Ці настолькі апісаная, прааналізаваная і даследаваная вонкавая палітыка Беларусі, каб была магчымасць зрабіць абагульненне ў рамках агляднай працы? У гэтым ёсць пэўныя сумневы, і, на жаль, прапанаванае выданне паказвае, што тэма не прапрацаваная аналітыкамі і даследнікамі нават у мінімальным аб'ёме. Безумоўна, падагульняць можна і на падставе асабістага досведу, без даследаванняў – выдаючы свае мемуары, напрыклад, як зрабіў Пятро Краўчанка (Краўчанка, 2007), апісаўшы некалькі гадоў гісторыі беларускай вонкавай палітыкі. Але мемуары не могуць быць сур'ёзнаю заменаю даследчай працы.

З іншага боку кніга ёсць пэўным дакументам эпохі, бо яна ўтрымлівае эпізоды – на жаль, нешматлікія і разрозненыя, – даследаваныя аўтарам на базе архіўных матэрыялаў, а таму могуць стаць сыравінай для выкарыстання ў новых даследаваннях. Гэта датычыць апісання Улаховічам працэсу прыняцця шэрагу рэзалюцыяў, а таксама стварэння шэрагу канцэпцыяў і структураў у галіне вонкавай

палітыкі. Усе гэтыя канцэпцыі, распрацаваныя ў БДУ ці каля БДУ, усе гэтыя грамадскія рады па вонкавапалітычных пытаннях, можа, і здаюцца не надта істотнымі на тле буйнейшых паваротаў краіны на міжнароднай арэне, аднак і яны дапамогуць камусьці канцэптуальна выкласці, якім чынам фармавалася вонкавая палітыка незалежнай Беларусі. Іншая рэч, што знайсці гэтыя каштоўныя фрагменты ў тэксце дастаткова складана.

Падсумоўваючы, можна канстатаваць, што кніжка Уладзіміра Ўлаховіча не стала прарывам сярод таго, што выдаецца ў Беларусі пад маркаю «навукі» міжнародных адносінаў і паліталогіі наагул. Гэты прагал не спрыяе кшталтаванню ўзважанае вонкавае палітыкі, і сумны факт палягае ў тым, што на сёння мы не ведаем ані што было зроблена і робіцца ў рамках вонкавапалітычнага курсу краіны, ані ступені паспяховасці гэтага курсу, ані падставаў для яго вызначэння. Службовая інфармацыя пахаваная ў архівах, адкрытая – у газетных падшыўках, а беларуская дыпламатыя пазбаўленая гісторыі.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**

1. Краўчанка, П. (2007). *Беларусь на ростанях: Нататкі дыплямата і палітыка.* Вільня: Інстытут беларусістыкі.
2. Садоўскі, П. (2008). *Мой Шыбалет. Аўтабіяграфічныя арабэскі.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №15(2), 2010

Дзяніс Мельянцоў

# Украінска-беларускія адносіны: несістэмны падыход

Вдовенко, С.М. (2010). *Україна-Білорусь: взаємовідносини на перехрестях перемін.* Чернігів. 448 с.

Рэцэнзаванае выданне – гэта бадай што першая спроба комплекснага разгляду і апісання ўкраінска-беларускіх адносінаў пасля распаду Савецкага Саюзу і ўтварэння незалежных дзяржаваў – Украіны і Беларусі. Выданне рэкамендавала да друку Навуковая рада Чарнігаўскага дзяржаўнага інстытуту эканомікі ды кіравання, прафесарам якога Станіслаў Удавенка зрабіўся ў 2010 г. Аднак у анатацыі да кнігі гаворыцца, што гэта не чыста навуковае, але навукова-папулярнае выданне, «*скіраванае на навукоўцаў, палітыкаў, дыпламатаў, студэнтаў ... а таксама шырокае кола чытачоў*».[1]

Уступ ды інфармацыя пра аўтара адразу настройваюць на сур’ёзнае стаўленне да выдання, нягледзячы на тое што яно пазіцыянуецца як навукова-папулярнае. Станіслаў Удавенка пазначаны як доктар навук у галіне дзяржаўнага кіравання, прафесар Чарнігаўскага дзяржаўнага інстытуту эканомікі ды кіравання, аўтар манаграфіі, шэрагу дапаможнікаў і каля сотні навуковых артыкулаў. Аўтар таксама цягам дзесяці гадоў – з 1999 да 2009 г. – працаваў ва ўкраінскай амбасадзе ў Мінску, спачатку на пасадзе дарадцы ў гуманітарных пытаннях, а потым дарадцам у палітычных пытаннях. То бок ён меў самыя наўпроставыя адносіны да ўкраінска-беларускіх дачыненняў і мусіць быць добра абазнаны ў гэтым пытанні.

Аўтар наступным чынам вызначае прадмет і метады свайго даследавання: «*У гэтай працы на падставе параўнальнага аналізу і супастаўлення паказнікаў, разгляду фактаў у пэўных часавых і прасторавых рамках, бачання аналогіяў і паралеляў развіцця, комплекснага падыходу да ацэнак падзеяў даследуюцца асноўныя чыннікі ўкраінска-беларускіх адносінаў*» (с. 7). Крыху ніжэй Удавенка настойвае на неабходнасці «*канкрэтнага аналізу сукупнасці ўсіх чыннікаў, якія ўплываюць на развіццё краіны*» (с. 10).

Кніга складаецца з пяці раздзелаў, з якіх уласна ўкраінска-беларускім адносінам прысвечаны толькі апошні. А ў межах гэтага пятага раздзелу палітычным адносінам адводзіцца толькі пятнаццаць старонак тэксту. То бок з больш як чатырохсот старо-

[1] Тут і далей пераклад з украінскай мовы зроблены аўтарам рэцэнзіі.

нак кнігі, прысвечанай украінска-беларускім адносінам, толькі пятнаццаць датычаць палітычных дачыненняў паміж дзвюма краінамі. Пра што ж усё астатняе?

**Першы раздзел** кнігі падрабязна распавядае пра грамадска-палітычны лад у Беларусі. Аўтар робіць гістарычны экскурс, распавядае пра тое, што «*лінія беларускага этнасу ідзе ад інда-іранцаў, скіфаў, венедаў, ліцвінаў*» (с. 12). Удавенка выкладае беларусацэнтрычную версію гісторыі, прызнае ВКЛ беларускаю дзяржаваю, называе мову дыпламатычных дакументаў ВКЛ старабеларускаю. Але пры гэтым пасярод разгляду перыяду Рэчы Паспалітай згадвае пра тое, што ў 2005 г. у Мінску адбыўся Усеславянскі з’езд супраць глабалізацыі (с. 17). У гэтым жа раздзеле Удавенка разглядае гісторыю парламентарызму ў Беларусі, распавядае пра палітычныя партыі ды недзяржаўныя арганізацыі, а таксама пра выбары, партыйныя кааліцыі ды акцыі апазіцыі. Аўтар прыходзіць да высноваў, што парламент у Беларусі фактычна ёсць прапрэзідэнцкім, а палітычныя сілы не сталі важнымі грамадскімі інстытуцыямі. Удавенка таксама прапаноўвае сваю перыядызацыю ўнутрыпалітычных адносінаў у Беларусі: першы перыяд – жорсткае супрацьстаянне ўлады і апазіцыі; другі – зніжэнне ўзроўню канфрантацыі (з 2008 г.). Гэта прыклад адной з нешматлікіх спробаў аналізу ў гэтай кнізе.

Аўтар робіць намаганне быць як мага больш нейтральным у сваіх ацэнках, прыводзіць разнастайныя версіі ды падыходы, бярэ інфармацыю з ідэалагічна розных крыніцаў, але ў выніку за гэтым усім не відаць пазіцыі яго самога. І хаця Удавенка прыводзіць багата фактаў, выкарыстоўвае меркаванні самых розных аналітыкаў (хоць часта без канкрэтных цытатаў ды імёнаў), аднак аналізу як такога ў тэксце мы не знаходзім. Тым больш навуковага даследавання. Першы раздзел вельмі нагадвае энцыклапедычны артыкул або даведнік, які падае багатую фактуру, але не ўтрымлівае аналізу матэрыялу.

Што да крыніцаў і цытавання, то аўтар ставіцца да іх досыць вольна. Гэтак, практычна заўсёды адсутнічаюць спасылкі на прыведзеныя меркаванні навукоўцаў або аналітыкаў, вельмі рэдка даецца спасылка на статыстычныя звесткі ды вынікі сацыялагічных апытанняў, спасылкі на артыкулы ў медыях увогуле не афармляюцца, а напрыканцы кожнага раздзелу проста ідзе пералік сайтаў (пераважна гэта *www.mfa.gov.by, www.belapan.info, www.belta.by, www.belarus.mfa.gov.ua*). Беларускі гісторык Уладзімір Пічэта ў кнізе ператвараецца ў «В. Пичет», Ігар Усеваладавіч Чаквін – у «Чавкін І. І.», а Язэп Аляксандравіч Юхо – у «Юхно А.». Спіс выкарыстаных крыніцаў напрыканцы раздзелаў не мае дыферэнцыяцыі: у ім змяшаныя даведнікі, навуковыя манаграфіі (іх зусім няшмат) і артыкулы, газетныя навіны ды інфармацыя з інтэрнэт-рэсурсаў.

**Другі раздзел** рэцэнзаванага выдання, які называецца «Сацыяльна-эканамічная дактрына – беларуская спецыфіка», змяшчае разгляд эканамічнага развіцця Беларусі пасля атрымання незалежнасці. Структура зместу гэтага раздзелу нагадвае па-

